**Змаганьне за Курапаты
і за абарону Курапатаў –
гэта, найперш, барацьба з КГБ,
з агентурай КГБ і „лубянскай” Расеяй,
са спадкаемцамі тых,
што тварылі генацыд.
Толькі ведаючы і разумеючы гэта,
можна зразумець сэнс
і зьмест падзеяў,
што разгортваюцца
вакол Курапатаў.**



(Фота Яўгена Шатохіна)

*1. Абаронцы Курапатаў – сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, устанаўліваюць чарговы крыж. 2001 год. Зьлева направа: Валеры Буйвал, Алесь Чахольскі, Мікалай Крыварот, Сяргей Папкоў.*

# ПРАДМОВА

Гэтая кніга – не гісторыя Народнага Мэмарыялу Курапаты, і нават ня нарыс. Тут збор матэр'ялаў, часткова ўжо надрукаваных, а часткова напісаных аўтарамі адмыслова, з нагоды нядаўніх падзей, каб засьведчыць факты і праўду, і барацьбу за захаваньне памяці і магіл расстраляных людзей. Зьнішчыць магілы хочуць пасьлядоўнікі і нашчадкі тых, хто забіваў, ды людзі бяз памяці. Абараняюць – нашчадкі забітых, тыя, хто памятаюць і разумеюць. Такі вось двухсотгадовы расклад змаганьня з Усходам. Яно пэрманэнтнае і адбываецца ўсюды, дзе жыў і жыве беларус. І нават пасьля яго сьмерці яно адбываецца гэтае змаганьне (ужо – за магілы). Ідзе барацьба за жывых і за мёртвых, і за „мёртвых", хоць і жывых. Гэта ёсьць барацьба за нацыянальнае існаваньне.

Кніга складаецца з дзьвух частак. У першай – адмысловыя фатаграфіі, артыкулы і матэр'ялы аўтараў. У другой (дадатак) зьмешчаны факсімільныя адбіткі з археалагічнай справаздачы, з кніг і артыкулаў Зянона Пазьняка, інтэрв'ю Сяргея Навумчыка, Аляксандра Лукашука. Тут (у дадатку) нібы своеасаблівае перавыданьне таго, што было надрукавана раней.

*16 сьнежня 2011 г.*

***Зянон Пазьняк***

# НАД МАГІЛАМІ ПРОДКАЎ

*(Выступ)*

...***Курапаты*** – месца, якое зьяўляецца ***знакавым сымвалам Беларусі***. Тут самая страшная частка нашага мартыралогу і жудасная частка нашай гісторыі. Тут, у гэтым лесе, ляжаць ахвяры генацыду, сотні тысячаў нявінна забітых людзей. А ўсяго бальшавіцка-расейскія ворагі Беларусі забілі, закатавалі, замардавалі, вывезьлі і расстралялі больш за два мільёны беларусаў.



***2. Зянон Пазьняк. 1995 г.***

Гэта зрабілі тыя, што некалі забівалі беларусаў-вуніятаў, разбуралі беларускія манастыры, палілі беларускія кнігі і творы мастацтва. Гэта зрабіла тая чарнасоценная арда, якая ў 1918 годзе напала на Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта зрабілі тыя варвары, якія замарылі голадам шэсьць мільёнаў украінцаў на Ўкраіне і мільёны людзей у Казахстане, вывезьлі тысячы латышоў, летувісаў і эстонцаў у Сібір. Гэта зрабілі тыя, хто сем гадоў таму забівалі малдаван у Малдове, хто пасек сапёрнымі рыдлёўкамі грузінскіх жанчын у Тбілісі. Гэта зрабілі тыя, хто цяпер забівае чачэнскі народ.

Я яшчэ раз нагадваю пра повязь падзей. Як толькі рускія дзяржаўныя тэрарысты пачынаюць забіваць у Ічкерыі на Каўказе, тут жа ўзмацняецца маскоўская агрэсія на Беларусь. Вось жа і цяпер мы бачым гэты наступ.

А ці задумваліся мы, што можа стацца зь беларускім народам, калі расейцы захопяць Беларусь?

Ці гатовыя мы да вайны, ці гатовыя мы змагацца? Бо выбару ня будзе: альбо нацыянальная сьмерць пад маскалём, альбо барацьба за свабоду і незалежнасьць.

Шмат гадоў таму, дасьледуючы гэты Курапацкі дол, над прастрэленымі касьцямі забітых продкаў я даў сабе клятву: покі буду жыць, дзе б я ні быў, буду змагацца з расейскім варварствам і з расейскай агрэсіяй, з расейскай імпэрыяй зла. У ёй – прычыны ўсіх нашых няшчасьцяў. Хопіць беларусам быць нявінна забітымі. Хопіць паміраць ахвярным народам. Хопіць Курапатаў.

Для ўсіх нас, беларусаў, настае вызначальны час. Сёньня – ***Дзяды***. Тысячы душ нашых продкаў прыляцелі зь нябёсаў сюды, на разбураныя магілы.

Разбураныя магілы ў Курапатах сьведчаць пра стан нацыі. Але ўсё можна паправіць, бо народ жыве, і жыцьцё не спыняецца.

Ці гатовыя мы прысягнуць над магіламі Дзядоў, каб усе нашы справы, каб усе нашы сілы, усе нашы думкі накіраваць на барацьбу за Волю, Свабоду і Незалежнасьць Беларусі?

Калі гатовыя разам, – то прысягнем разам. Калі не – то хай кожны сабе прысягне тут, пад Крыжам, на сьвятой і пакутнай зямлі. Бо памятаем: прысяга за Бацькаўшчыну над магіламі продкаў у Дзень Дзядоў дае сілу духа, моц цела і Боскую апеку.

Слава героям Беларусі!

Вечная памяць тым, хто загінуў за Радзіму!

*31кастрычніка 1999 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ВЕРМА Ў СЬВЕТЛЫЯ ДНІ

*(Выступ)*

...Дваццаць гадоў таму, 29 кастрычніка 1989 г. быў усталяваны Курапацкі Крыж Пакуты ў памяць аб расстраляных продках.

Гэты сямімэтровы крыж прынесьлі на руках тысячы людзей праз увесь доўгі шматкілёмэтровы шлях. Яго паставілі тут усе разам пад гукі рэквіема. Сьвятары чатырох хрысьціянскіх канфэсіяў асьвяцілі яго і багаславілі памяць пра нявінна забітых.

З 1937 па 23 чэрвеня 1941 года энкавэдзісцкія каты – сталінскія камуністы – з дня ў дзень, з ночы ў ноч стралялі тут людзям у патыліцу і ськідвалі ў глыбокія ямы. У гэтых ямах закапаны цьвет беларускай інтэлігенцыі, пісьменьнікі і паэты, артысты, вучоныя і дасьледчыкі, інжэнеры і рабочыя, сяляне і беларускія настаўнікі. Кожную ноч па навакольлі і па ўсёй Беларусі езьдзіў чорны хапун і хапаў людзей. Масква спускала ў Беларусь сваім уладам і катам плян па арыштах і расстрэлах. Вынішчэньне людзей у Беларусі яны рабілі па графіку, штомесячна і штоквартальна. Масква прымала штодзённыя справаздачы аб забітых ахвярах. Толькі ў Курапатах савецкія акупанты забілі каля чвэрці мільёна людзей. Такіх Курапатаў шмат па ўсёй Беларусі.

За часы савецкай акупацыі Беларусі з 1919 па 1953 год (год сьмерці Сталіна) сталіністы-русіфікатары забілі больш 2-х мільёнаў беларусаў (і гэта ня ўлічваючы вайну). Ворагі чалавецтва зьнішчылі заможнае працавітае сялянства, вынішчылі фізічна амаль дазваньня беларускую шляхту, расстралялі адукаваных людзей.



***3. Дзяды ў Курапатах.***

***Гэта нельга забыць ніколі, пакуль будзе стаяць белы сьвет і будзе жыць Беларусь. Савецкая акупацыя Беларусі пэрыяду Леніна-Сталіна павінна быць прызнаная як рэжым генацыду і пацыфікацыі Беларускага Народу.***

Сёньня Дзяды – сьветлае сьвята памяці і яднаньня з душамі продкаў. Сёньня Дзень усіх хрысьціянскіх Сьвятых, а заўтра Дзень Задушны, які патрабуе малітвы за ўсіх забітых і памерлых, за тыхсьветныя душы.

Запалім жа сьвечкі ў памяць. Паставім іх пад крыжы і на крыжы, на магілы, пакладзем туды белыя кветкі, установім крыжы, што прынесьлі з сабой.

Сёньня нельга сьмяяцца, галёкаць, крычаць. Але ня трэба і жаліцца, плакаць. Сёньня дзень вечнасьці, перад якой мы роўныя ўсе – і тут, і там. Дзяды дапамогуць нам гэта адчуць.

***Шануйма ж нашых дзядоў, нашую слаўную мінуласьць, нашу культуру і веліч і кожнага простага чалавека.***

***Верма ў сьветлыя дні, у нашу прышласьць, у вольную будучыню Беларусі.***

*1 лістапада 2009 г.*

***Зянон Пазьняк***

# НАРОДНЫ МЭМАРЫЯЛ КУРАПАТЫ

*(Выступ)*

…Мінула 20 гадоў з таго часу, як Беларусь даведалася пра Курапаты. Памятаем, што гэтая падзея ўскалыхнула народны дух, узрушыла і мабілізавала людзей дамагацца волі, праўды і справядлівасьці. Усё гэта засьведчыла, што, нягледзячы на 70 гадоў савецка-расейскай няволі і вынішчэньня, наш народ ёсьць духоўна жывы і здольны змагаца за агульную справу. Рэчаіснасьць паказала, што менавіта з Курапатаў адбыўся штуршок, які прывёў да ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту. Менавіта адсюль, ад гэтых расстрэльных магілаў, пачалося зь мёртвых устаньне Беларускай нацыі, якую ўжо зьбіраліся пахаваць ворагі Беларушчыны.

Курапаты займаюць асаблівае становішча ў Беларускай гісторыі і культуры. Тут сакральнае месца нашага мартыралогу і нашага новага Адраджэньня. Кожнае пакаленьне беларусаў павіна памятаць, шанаваць і берагчы гэтае знакавае і пакутнае месца.

Крок за крокам, дзень за днём, нягледзячы на цяжкасьці і разбурэньні, сакралізуюцца Курапаты, вырастаюць крыжы побач з соснамі, разьлягаецца хвойная ціша... Там, дзе пра памяць забітых сьведчыць мноства людзей, – там зьяўляецца і жыве шчыры народны дух. Гэта якраз адбываецца ў Курапатах.

Народны Мэмарыял быў запачаткаваны 29 кастрычніка 1989 года ўсталяваньнем агульнага Крыжа Пакуты ў памяць усіх расстраляных беларусаў. Потым доўгі час цягнулася барацьба з цемрашаламі, адбіваньне нападаў яўных і схаваных энкавэдзістаў. Беларускую грамадзкасьць у гэтай барацьбе ўзначальваў Беларускі Народны Фронт.

У 2000 годзе ідэя Народнага Мэмарыялу была сістэмна распрацаваная ў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. З гэтага ж году пачалося яе пасьлядоўнае ўвасабленьне. „Народны Мэмарыял” быў задуманы як вынік натуральнага народнага шэсьця і крыжаўсталяваньня. Побач з прыродным лесам, унутры яго і разам зь ім, мусіў паступова зьявіцца „Лес Крыжоў” як сымвал нявінна забітых душаў, што прарасьлі крыжамі і дрэвамі з палітай крывёю зямлі. Кожны беларус можа прынесьці ў Курапаты (ці замовіць прынесьці) свой Крыж у памяць расстраляных людзей. Такім чынам мэмарыял „Лес Крыжоў” – гэта неперапынны, вечны працэс народнай памяці. Стаўленьнем крыжоў у Курапатах народ заўсёды будзе сьведчыць аб сваёй памяці пра генацыд, а сам мэмарыял робіцца паказьнікам, „баромэтрам” гэтае памяці.

Мінула сем гадоў – і Народны Мэмарыял ёсьць. Ён існуе і рухаецца, кіруецца ў вечнасьць. Высілкі нашага руху, працы, сэрца і розуму – не змарнаваліся, не былі надарэмна.

Аднак, наперадзе працяг ня толькі працы, але і ідэі.

На пачатку тысячагоддзя рэжым вырашыў пракласьці шырокую аўтастраду праз Курапаты. Прытым паспрабавалі справу зьнішчэньня і справу абароны Курапатаў узяць у адны рукі. Але спробы праваліліся, дзякуючы, перш за ўсё, дакладнаму разуменьню сытуацыі і дакладным дзеяньням Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Тым ня менш, ускрай Курапатаў перарэзала шырокая шаша, па якой імчацца аўтамабілі.

Зыходзячы з канцэпцыі Народнага Мэмарыялу як вечнага разьвіцьця і абнаўленьня (вечнага агню Памяці), разбуральная дарога стала таксама часткай гэтай памяці і зьместу змаганьня за яе сэнс. Гэты „антыпомнік”, пракладзены на касьцях забітых, таксама мусіць быць мэмарыяльным, як дысананс і сьведчаньне падтрымкі генацыду нашчадкамі забойцаў.

Я ўяўляю гэтую дарогу, вымашчаную з абодвух бакоў (пазначаную наўзбоч ад асфальту) контурамі пахавальных пліт, безыменных, толькі даты: 1937-1941. Паўз іх, як поўз шэрагі душ, едуць аўтамабілі па дарозе, якую зрабіў разбуральнік. Паабапал дарогі, таксама, – крыжы і помнікі-скульптуры, у два чалавечыя росты, расстраляных людзей; глядзяць скамянелымі позіркамі на дарогу сучасных.

Ад Курапатаў дарога – у два канцы. І з абодвух канцоў Курапатаў стаяць дарожныя знакі абмежаваньня хуткасьці – 20 км. Гэтага дастаткова, каб расстраляныя каменныя Дзяды паабапал дарогі пазналі б і разглядзелі жывых. Сымволіка гэтай часткі Народнага Мэмарыялу: **MOMENTO MORI** – усё мінае, не мінае толькі сьмерць.

Зьменіцца час, і сама дарога тут стане мёртвай. Па ёй ужо ня будуць езьдзіць машыны і зарастацьме травой... Яна стане экспанатам злачынства. І скамянелыя людзі-помнікі паабапал будуць яе дакорам.

Раз у год на Дзяды, разам з крыжамі, сюды прыносяць „Звон Свабоды". Ён гучыць на Курапацкай Галгофе ў цэнтры Народнага Мэмарыялу. Не для мёртвых. Ён гучыць для жывых, каб над магіламі народа ўзмацнілі дух.

*8 лістапада 2007 г. – 3 чэрвеня 2008 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці", – 2008, №1 (63)*



(Фота Алеся Чахольскага).

***4. Народны Мэмарыял Курапаты. „Дарога на Галгофу" (да месца расстрэлу людзей).***



*5. Дзяды 29 кастрычніка 1989 г. Шэсьце ў Курапаты. Нясеньне Крыжа (кінакадр).*

# „Я РАЗУМЕЎ, ШТО ТВОРЫЦЦА МІСТЭРЫЯ”

*29 кастрычніка 1989 году тысячы людзей прайшлі ад Усходніх могілак да Курапатаў, дзе правялі мітынг-рэквіем і ўсталявалі першы крыж. Пра падзеі таго дня ўзгадвае першаадкрывальнік Курапатаў Зянон Пазьняк.*

„У жыцьці людзей часам бываюць дзівосныя аб’яўленьні лёсу. Адны бачаць у снах ці ў іншых знаках сваю будучыню, іншыя перажываюць ажыцьцяўленьне мары. За Саветамі, асабліва ў часы брэжнеўшчыны, ужо мала хто думаў пра незалежную Беларусь пад «Пагоняй» і беларускім Сьцягам. Для тых жа, хто думаў, яна была як сьветлая мара, як фантазія, якая нейкім чынам сталася б, – але жыла толькі ва ўяўленьні...

І што ж? Прыйшоў час – і сьветлая мара ажыцьцявілася. Фантазія стала рэальнасьцю. Але не сама па сабе, а нашымі рукамі, справай і воляй.

Гэта быў час незабыўнага шчасьця, а за плячыма – крылы.

З Курапатамі іншая гісторыя і іншая мара. Але ў істоце – вельмі падобная.



У 70-х гадах, калі я ўжо ведаў пра Курапаты і калі страшная таямніца гэтага месца мучыла розум, прыгнятала душу, – тады часта думалася, што вось, настане дзень, да якога я дажыву і буду сьведкам, калі здохне Савецкі Саюз і тысячы, моц людзей прыйдзе ў Курапаты і прынясе на сваіх плячах вялікі Крыж, і паставяць яго ў Курапатах на гары ў памяць забітых. І ўзвысіцца ён над усім лесам – Крыж Пакуты, які злучыць жывых.

У 1989 годзе я зразумеў, што хоць Савецкі Саюз яшчэ не сканаў, але вялікі дзень настае. Камуністы пасьля сваёй ганьбы і паразы на Дзяды ў Менску 30 кастрычніка 1988 году цяпер ужо не рашыліся забараніць мэмарыяльнае шэсьце ў Курапаты.

Я выклаў свой плян Крыжовага шэсьця і ідэю ўстанаўленьня Крыжа сябрам з кіраўніцтва Фронту. Плян быў прыняты, пачалася праца. Праект і зрабленьне Крыжа былі даручаныя групе мастакоў, якой кіраваў сябра Сойму БНФ Аляксей Марачкін. У групе працавалі Алесь Шатэрнік, Хведар Ладуцька, Мікола Купава, Яўген Кулік, Віктар Маркавец і Сяргей Кляшчук. Мастакі выканалі ўсё добра і дакладна.

На раніцы 29 кастрычніка вялізны сямімэтровы Крыж быў дастаўлены да Ўсходніх могілак. Адтуль, па асацыяцыі зь мінулагоднімі падзеямі, павінна было пачацца шэсьце.

Я разумеў, што творыцца містэрыя, і шэсьце мусіць быць адпаведным, гэта значыць, адпавядаць сымболіцы падзеі. Яно павінна было мець во-

браз іназірацца ў прасторы. Трэба было знайсьці трасу, дарогу для гэтага вобразу. І мы знайшлі гэтую дарогу. Памятаю, што я, рыхтуючы шэсьце, нават прамераў яе з сэкундамерам у руках.

Мы павялі людзей не вакольна, па вуліцах Каліноўскага ды Сядых, а па пустым касагоры, наўпрост, ад Усходніх могілак, уніз, у пойму рэчкі Сьлепні і потым праз дамбу, зноў на вуліцу гораду. Гэта была амаль на кілёмэтар адкрытая мясцовасьць, на якой было шмат пешаходных дарожак. Мы выбралі сярод іх такую трасу, якая зьвівалася хвалямі, як зьмяя, як стужка на ветры. Па дарожцы можна было ісьці разам чатыром-пяці чалавекам, і калі дзесяць тысячаў народу выцягнуліся ў даўжэзны ланцуг і пайшлі па касагоры гэтакім бясконцым сэрпантынам, з Крыжам, сьцягамі, харугвамі і кветкамі, пайшлі на Курапаты – відовішча ўзьнікла незабыўнае.

Галава шэсьця была ўжо на Лагойскім тракце, а хвост яго яшчэ спускаўся па сэрпантыне ад Усходніх могілках. Так было створанае ня проста шэсьце, а Крыжовы Шлях. Шлях з Крыжам, які на руках нёс народ у Курапаты.

Дарэчы, у вядомым, забароненым фільме Міхаіла Жданоўскага «Дарога на Курапаты» ёсьць кадры гэтага гістарычнага шэсьця.

Зазначу, што, каб восем кілёмэтраў несьці цяжкі Крыж, была створаная каманда чалавек шэсьцьдзесят, якія мелі знакі на адзеньні – белы шасьціканцовы крыж на чырвоным фоне. Але па ходу шэсьця мноства людзей падыходзілі і па пераменцы несьлі Крыж. Кожны хацеў яго несьці і далучыцца да містэрыі. Такім чынам, і тут створаны сымбаль – Курапацкі Крыж прынёс на руках сам народ.

У Курапатах гучэў Рэквіем. Пад гукі Рэквіему паднялі і паставілі Крыж. Дзясяткі людзей кінуліся дапамагаць, кожны хацеў дакрануцца да яго рукой. Потым сьвятары ўсіх чатырох хрысьціянскіх канфэсіяў па чарзе асьвяцілі Крыж. Ад каталікоў – ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, ад пратэстантаў – пастар Эрнэст Сабіла.... Вуніяцкія дзяўчаты зь белымі кветкамі пад камандай ксяндза Яна Матусевіча сьпявалі беларускія псальмы. А з праваслаўнага сабору ў Менску прыехала цэлая каманда зь пяці ці шасьці духоўных асобаў і адслужылі цэлую службу з кадзілам і песьнясьпевамі.

Потым ізноў гучаў Рэквіем, і быў жалобны мітынг. Мне вельмі цяжка было яго весьці – душа напоўнілася трымценьнем... Вось яно, думаю, сталася, адбылося, ажыло запаветнае... А яшчэ ж быў Савецкі Саюз, камунізм, КПСС. І, напэўна, ніхто, акрамя нас, фронтаўцаў, ня верыў у хуткі яго канец.

З прамоваў на мітынгу найбольш мне запомніліся словы беларусаў зь вёскі Цна, сьведкаў расстрэлаў у Курапатах. А таксама выступ Янкі Брыля, які расказаў, ізноў жа, амаль містычную гісторыю. Як у Быкаўні, пад Кіевам, у час эксгумацыі знайшлі ў расстрэльнай яме падпісаны цыгарэтны муштук ягонага схопленага НКВДзістамі брата. Пісьменьнік дастаў з кішэні і ўсім паказаў гэты муштук.

Курапацкі Крыж Пакуты павінен быў стаяць на гары, у цэнтры Курапатаў, на месцы, якое цяпер у Курапацкім Народным Мэмарыяле называецца Галгофа. Аднак у 1989 годзе, пасьля прызнаньня ўрадавай камісіяй факту НКВДзісцкіх расстрэлаў людзей у Курапатах, Саўмін хуценька паклаў там вялізарны валун з надпісам, што зьбіраецца тут нешта ўвекавечваць. Хітруны не зьбіраліся нічога рабіць у Курапатах, іхняя задача была – не пусьціць сюды Народны Фронт, абмежаваць ініцыятыву народу. Ужо і таго Саўміну даўно няма, а камень гэты ўсё ляжыць.

Мы паставілі Крыж перад уваходам, на самым пачатку курапацкага лесу, разумеючы, што ён будзе не прадметам, а сакральнай зьявай, сымбалем у памяць пра генацыд. Прыйдзе час, і мы ўсталюем гэты крыж са сталі, на трыццаць мэтраў, на курапацкай Галгофе, каб відаць быў над лесам здалёк. Каб кожны бачыў і разумеў, як трэба берагчы свабоду, жыцьцё, Беларусь і народ.

***Зянон Пазьняк***

*(Запісаў Сяргей Навумчык, 28.10.2009, радыё Свабода)*

# КУРАПАТЫ. ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ПАСЬЛЯ

*(Да 10-годдзя БНФ)*

Калі я цяпер азіраюся на дзесяць гадоў устыч, то не магу збавіцца ад вострага адчуваньня спрэсаванага часу. Якраз у гэтае дзесяцігоддзе адбыліся ў нас падзеі, якія фармуюць будучыню, выклікаюць перамены асноў. Адной з такіх падзеяў, я лічу, было адкрыцьцё праўды пра Курапаты.



***6. Зянон Пазьняк 29 кастрычніка 1989 г. Рэквіем у Курапатах.***

У гісторыі кожнай нацыі ёсьць свой лёс, свая ўдача, сваё наканаваньне, якія абумоўленыя і вынікаюць з характару людзей. Тут ня трэба нічога шукаць звыш. Звыш дадзена толькі жыцьцё. І тым ня менш у гэтым фізічным, сацыяльным, духоўным жыцьці ёсьць падзеі, зьявы, і нават прадметы, якія набываюць знакавае, вызначальнае, сымвалічнае значэньне для цэлых эпох. Такім вызначальным сымвалам і знакам зьяўляюцца для беларусаў Курапаты.

Знакавая зьява характарызуе грамадства і вызначае яго. Каб даведацца, што ёсьць за грамадства ў Беларусі і ў якім стане яно знаходзіцца, варта зьезьдзіць у Курапаты і паглядзець. Можна не задаваць ніякіх пытаньняў. Разумны ўсё зразумее.

Дэдуктыўная лёгіка падказвае цалкам лягічны працэс, што, каб перамяніць грамадства, дастаткова зьмяніць яго знак. І я пагаджаюся з гэтым.

Дык ідземце ж у Курапаты і прывядзем у парадак усе магілы, пасадзім кветкі, паставім крыжы, пасыпем дарожкі чысьцюткім пяском і пабудуем там Беларускі Храм, дзе будзе гучэць вечны рэквіем ***Зь мёртвых устаньня*** тым, якіх забілі, тым, што маўчалі і вечна маўчаць.

Калі мы гэта зробім і калі гэта станецца, то мы заўважым ужо перамены, іншае грамадства, іншыя дачыненьні і іншы народ. Калі ня зробім, то ўбачым, што бяз зьмены ў грамадстве нічога не пераменіш ў запушчаных, згаджаных і зьняважаных Курапатах – духоўным люстэрку беларускай нацыі.

* * *

Пра знакавае значэньне Курапатаў падсьвядома я здагадваўся даўно, яшчэ ў 70-х гадах. Мне было абсалютна зразумела, што трэ' было берагчы таямніцу. Інакш камуністы зьнішчылі б гэтае месца. Такі вопыт я ўжо меў пазьней у гісторыі з Лошыцай пад Менскам – месцам, такім жа, як Курапаты. Сьляды Лошыцкіх расстрэлаў энкавэдзісты зьнішчылі ў 1988 годзе, прасачыўшы, як я думаю, накірунак маіх дасьледваньняў.

Калі мець на ўвазе нармальнае разьвіцьцё грамадства, то абсалютна недапушчальным ёсьць забыцьцё нацыянальнай гісторыі, і асабліва – страты памяці пра генацыд, пра трагічныя зьявы нацыянальнай мінуласьці, якія перажылі людзі. Забыцьцё гісторыі прыводзіць да зьнікненьня культуры. Забыцьцё нацыянальнага мартыралогу – да бездухоўнасьці і паўтарэньня забойстваў.

На шчасьце, былі беларусы, якія рупіліся пра памяць. Першай працай, якая расказала сьвету пра ленінска-сталінскі гулаг, стала выдатная кніжка ўспамінаў салавецкага вязьня бальшавікоў Францішка Аляхновіча „У кіпцюрах ГПУ", выдадзеная ў сярэдзіне 30-х гадоў і адразу перакладзеная на шмат якія мовы Эўропы.

Я прачытаў яе ў бібліятэчным спэцфондзе ў Вільні дзесьці ў пачатку 70-х гадоў, тады, калі ўжо ведаў пра Курапаты. Кніга ўразіла мяне мастацкім узроўнем і інтэлегентнасьцю мовы, уменьнем пра страшную турэмную бальшавіцка-расейскую рэчаіснасьць, палоньнікам якой быў Аляхновіч, расказаць спакойна, з вышыні культурнага чалавека.

Мне прыходзілася назіраць ня раз, як, знаходзячыся ў грубых умовах савецкай рэчаіснасьці, нармальныя людзі – беларусы – ламаліся, апускаліся і станавіліся падобнымі на тых, хто акупаваў нашу краіну. Але былі і такія асобы, як Францішак Аляхновіч, Ларыса Геніюш, Адам Станкевіч і іншыя вязьні ГУЛАГу і пакутнікі-беларусы, якія духоўна ўзвышаліся над бальшавіцка-расейскім лягерным брудам і ніштo не запляміла іхняй душы. Гэта ўсё былі людзі, якія даўно ахвяраваліся служыць Беларусі. У іхных сэрцах заўсёды была Беларусь. Ім давала моцы беларуская ідэя незалежнасьці і вольнай Бацькаўшчыны.

Кніга Аляхновіча, размовы зь незабыўнай Ларысай Геніюш і іншымі вязьнямі ГУЛАГу мяне найбольш умацавалі ў думцы, што трэба абавязкова давесьці сьвету праўду пра Курапаты. Але як? Як гэта зрабіць пад савецкай акупацыяй, дзе бязьмежна пануюць КПСС і КГБ? Нават самы добры мой плян мог бы нечакана і незалежна ад мяне перавярнуцца ў тых умовах якім-небудзь спорткомплексам з басэйнам на месцы Курапатаў ці падземнымі гаражамі для партыйнай намэнклятуры і ветэранаў НКВД.

* * *

З усёй гісторыі пасьлясталінскай саветчыны 70-я гады мне падаюцца найбольш задушлівымі. Гэтая духата, здавалася, вісела ў паветры, гайдалася і гусьцела пад п’яныя песьні здэнацыяналізаваных людзей. Залаты час намэнклятуры. Ён асацыюецца ў мяне чамусьці зь вернападданьніцкай фізіяноміяй першага сакратара ЦК КПБ Машэрава, зь яго тандэтным акторствам і пустапарожнімі выступамі пра „камуністычную цывілізацыю”, з апэрацыяй „галінкі”, калі па яго загаду на корм каровам зьсякалі хмызьняк (тлумачу для гарадзкіх: каровы хмызьняк не ядуць), зь яго кар’ерным імкненьнем скочыць у Крэмль. Гэты манкурт і „друг пісацелей” імкнуўся першым прывесьці Беларусь да камунізму: пазачыняў амаль усе беларускія школы, паўсюдна ўвёў расейскі „язык” і вывеў беларускую мову з афіцыйнага ўжытку; ён асабіста ініцыяваў зьнішчэньне гістарычных цэнтраў беларускіх гарадоў і старажытнай вуліцы Няміга ў Менску, і пры гэтым заігрываў з членамі Саюзу пісьменьнікаў, якія атрымлівалі падачкі і цешыліся асабістым знаёмствам.

Рэдка хто з кіруючых царкоў выклікаў большую нянавісьць і агіду ў нармальных беларусаў, чым Машэраў. Цяпер – хіба што толькі Лукашэнка. Невыпадкова, што непрыяцелі Беларусі стараліся зрабіць культ з гэтага прыхільніка Масквы і невылечнага русыфікатара.

Недзе ў 80-м, едучы з недазволенай хуткасьцю ў партыйным картэжы, машына Машэрава ўрэзалася ў прычэп з бульбай, і ён забіўся. Зьявіўся іншы царок, потым – іншы, потым яшчэ іншы. Усе яны аднолькава любілі ўладу. Усе яны аднолькава не любілі Беларусь.



*7. Францішак Аляхновіч.*

* * *

У пачатку 70-х гадоў я жыў у мікрараёне Менска ля Лагойскай шашы па вуліцы Кальцова. Хто быў гэты Кальцоў – ніхто ня ведаў. Сярод вядомых беларусаў такога прозьвішча не чуваць. Быў такі Кальцоў у Расеі (там гэта даволі вядомы паэт). Аднак у домакіраўніцтве мне сказалі, што „Кольцов – это революционный деятель пар-

тии”. Ну ды Бог зь ім. Вуліца Кальцова была на ўскраіне горада. Адсюль адкрываўся від на палі і далёкі лес. Побач, справа ад жытнёвага поля, – вёска Зялёны луг. Пазьней, ужо ў канцы 80-х, я занатаваў сабе ў сшытак і пра гэтую вёску, і пра гэты лес:

Дзе вёска некалі стаяла – цяпер
мікрараён.
На Курапаты – від.
З вакон дзявятага паверху
Так вока суцяшае лясісты краявід.

Там чвэрць мільёна душ нявінных,
Людзей – цьвет нацыі –
Пад шыльнікам ляжыць,
Замучаных, забітых, скатаваных.
І вымірае памяць навакол
У вёсках здратаваных.

Пяць год перад вайной бальшавікі
Штодня, штоноч машынамі вазілі,
Вязалі, ламалі рукі, білі,
Сьмярдзючым коркам затыкалі рот,
Каб слоў ня чуць на мове людзкай,
І па-майстэрску ў галаву
Стралялі куляй з матам рускім.

Здаецца, няма лепшага стану душы, калі цёплым летнім вечарам ісьці ўздоўж маладога жыта, якое красуе ў абрамленьні сасновага лесу і хораша пахне зялёным соладам. Унізе на доле – зялёны луг. Пэўна, ад яго і пайшла назва вёскі. Усё проста. Проста, як вечнасьць. Неяк, гаворачы пра гэтую вечнасьць і хваёвае хараство з зялёналужскімі дзядамі, я і наштурхнуўся на тое, што хавалася ў тым недалёкім лесе – месца расстрэлаў НКВД. Потым пра тое ж мне расказваў мой добры знаёмы інжэнер Яўген Шмыгалёў, які даўно ўжо чуў апавяданьні вяскоўцаў. Калі мы першы раз прыйшлі ў гэты лес восеньню, пад нагамі шапацела апалае лісьце, зьдзімалася ветрам у западзіны магільных ям. Іх было безьліч. І гэта мяне ўразіла, як маланка. Няўжо такую страшную справу ня ўдасца падняць на сьвет Божы, няўжо ізноў усё вымра ў нябыт. Бясьсільле нэрвавала:

Калі ж апошні сьведка дзён
У дол пясчаны сыйдзе,
Тады ізноў крывёй бакал
Нальле сатрап і злыдзень
І баль пачне сярод чумы чырвонай,
Каб выпілі да дна
І вымерлі пад корань.

Памятаю, як доўга тады ў Курапатах хадзілі мы па гары, спаласаванай магіламі расстраляных. Пік камунізму.

Зрэшты, кожны „генсек” рабіў свой пік камунізму. І кожнаму неяк удавалася. Не пашанцавала толькі Гарбачову. Гэты, наслухаўшыся пра эўракамунізм, пачаў сумяшчаць несумяшчальнае: камунізм і дэмакратыю, рынак і сацыялізм, галоснасьць і партыйнасьць, суверэнітэт і імпэрыю. Жылі ад зьезду да зьезду. Здалося мала. Рашылі сабраць яшчэ XIX-ю партыйную канфэрэнцыю КПСС, каб вырашыць усе пытаньні. Сістэму пачало трэсьці. Ужо былі аб’яўлены галоснасьць, перабудова і паскарэньне. Высьвятлялі: хто перабудаваўся, а хто яшчэ не; савецкія паэты пісалі вершы пра перабудову, „чысьцілі сябе пад Леніным” і г.д. Ніхто толкам ня ведаў, што трэба, але кожны па-свойму імкнуўся патрапіць у тон. Стваралася вялікая прапагандная помпа.

Стала зразумела, што расказаць людзям пра Курапаты можна паспрабаваць якраз цяпер, перад гэтай іхняй XIX-й партканфэрэнцыяй, калі сэрвільная партбілетная публіка была псыхалягічна паралізаваная з-за няпэўнасьці арыентыраў, а верхнія бонзы хацелі засьведчыць прыстойную міну, гэтакі камунізм „з чэлавечэскім ліцом”.

* * *

Зімой 1987 года я заплянаваў археалагічныя раскопкі на пачатак мая 1988 года і адразу пачаў мэтанакіраванае апытаньне сьведкаў у Менску і ў вёсках вакол Курапатаў. У гэты ж час паабапал лясной дарогі пачалі высякаць просеку ў Курапацкім лесе. Зьбіраліся пракладваць трубу газапровода. Ня выключана, што пры пракладцы трубы маглі б закрануць і магілы (так яно потым і здарылася). Усё прысьпешвала выступіць менавіта ў гэты час.

За паўгода я ўсё грунтоўна і дакумэнтальна падрыхтаваў. Апісаньне вынікаў археалагічных раскопак, акрамя навуковай справаздачы, я аформіў яшчэ пратаколам з прыцягненьнем сьведкаў і афіцыйна заверыў у мясцовым воргане ўлады. Гэтага рабіць не патрабуецца, але я зрабіў, а кіраўнікоў мясцовай ўлады запрасіў на месца раскопак, каб сваімі вачыма ўбачылі, што падпісваюць.

Артыкул „Курапаты – дарога сьмерці” быў мной напісаны і ўдакладнены зь Яўгенам Шмыгалёвым за два дні, і тут жа аднесены ў рэдакцыю „Літаратура і мастацтва”. Рэдактар Анатоль Вярцінскі адсутнічаў, бо знаходзіўся ў доўгай замежнай камандыроўцы. Намесьнік рэдактара Мікола Гіль адразу вырашыў артыкул друкаваць і зьвярнуўся да Васіля Быкава з прапановай напісаць прадмову. Ён шукаў падтрымкі перад ЦК КПБ, бо газэта цэнзуравалася ў ЦК. Там праглядалі зьмест кожнага нумару „ЛІМа” і маглі запатрабаваць для чытаньня і спыніць любы матэрыял.

Адразу пачаўся шалёны ціск на Міколу Гіля. Патрабавалі зьняць артыкул. „Страна была, – як пісалі тады савецкія газэты, – в преддверии” XIX-й партыйнай канфэрэнцыі. Але рэдакцыя, якая стала на мой бок, супраціўлялася. Справа даходзіла да таго, што, па распараджэньні ЦК, спынялі нават паліграфічныя машыны, калі павінен быў выйсьці нумар з артыкулам. Час цягнуўся не на маю карысьць.

І тады, відаць, упершыню за ўсю гісторыю газэты, узбунтавалася рэдакцыя „ЛІМа”. На агульным сходзе абмеркавалі сытуацыю, выказалі абурэньне і падтрымалі рашэньне друкаваць артыкул. Здарылася неверагоднае. У ЦК прамаргалі. Трэцяга чэрвеня артыкул быў надрукаваны.

* * *

Рэакцыя на артыкул была такой, якой я і спадзяваўся. Крытычны настрой супраць КПСС быў тады на ўздыме – і балота завагалася, завухкала і заёхкала. Дзе-нідзе газэту зачытвалі да дзірак. Інфармацыя ўразіла шмат каго. Але найбольшае ўражаньне і пераацэнкі яна выклікала сярод інтэлігенцыі, моладзі, рабочых і тых, хто пацярпеў ад камуністаў.

Кіруючыя камуністы былі крыху разгубленыя і рэагавалі даволі вяла. Большасьць зь іх прыйшлі ў кіраўніцтва партыі ў 60-х–80-х гадах і ня мелі непасрэднага дачыненьня да забойстваў.

Затое азьвярэлі розныя маразматыкі пад агульнай назвай „ветэраны”, гэта значыць – рускія пэнсіянеры НКВД, СМЕРШу, былыя камісары, адказныя партызанскія кіраўнікі партыі і ўраду і іншыя акупанты, што аселі ў Беларусі на пэрсанальных пэнсіях дажываць сваё подлае жыцьцё. Гэтыя то якраз і былі па горла ў крыві, а некаторыя, можа, й стралялі ў патыліцу.

Я памятаю іх яшчэ ў сіле пры Сталіне, і ў час калектывізацыі, сьведкам якой я быў. Я памятаю тады іхнюю пісталетную савецкую „уласьць”, іхныя крыкі, вытарачаныя вочы і ідэалёгію „мацць-перамацць”.

Да часу адкрыцьця Курапатаў яны аслаблі, пайшлі на заслужаны адпачынак, сноўдаліся бездапаможна цэлымі днямі па асеньніх бульварах ля бронзавых бюстаў, выклікаючы жаласьць да старэчай нямогласьці. Крымінальныя бандыты звычайна не дажываюць да глыбокай старасьці. Такое ў іх жыцьцё. Насупраць, бандыты дзяржаўныя, палітычныя жывуць доўга. Зь іх робяць герояў.

Памятаю, у Горадні ў час спатканьня з выбарцамі, я атрымаў з залі ананімную пісульку, напісаную дрыжачым склератычным почыркам: „Слушай ты, фашист недобитый, плюю в твою белорусскую рожу! Как жаль, что ты мне не попался в 49-м, когда мы в Западной Белоруссии таких националистов, как ты, отправляли в расход. С каким бы удавольствием всадил бы я тебе в спину нож. Ты, жалкий трус, не зачитаешь мою записку, а жаль: пусьть бы все знали, какая ты сволочь.”

Я зачытаў запіску і сказаў: ”Камуніст, які напісаў гэтую запіску, устаньце.” Мёртвая цішыня – і ніхто ня ўстаў.

Усе гэтыя азлобленыя спарахнелыя здані, увешаныя мэдалямі за забойствы нашых землякоў, нагадваюць мне таго Джэк-Лёнданскага састарэлага зьнямоглага ваўка, што стараўся кусаць чалавека, ня маючы сілы ўжо нават сьціснуць сківіцы.

Я ніколі ня меў ніякіх ілюзіяў адносна гэтай воўчай пароды людзей, у якім бы веку яны ні

былі. Я ніколі ня меў сумненьня адносна іхняй адказнасьці і іхняга пакараньня. Нават за хвіліну да сьмерці яны павінны б былі быць асуджаныя і пакараныя.

Я добра ведаў, зь кім маю справу, і добра ўсьведамляў: праўда пра Курапаты павінна перамагчы. І праўда перамагла.

Перамагла таму, што дапамог Бог. Перамагла таму, што дапамагло нашае грамадзтва і таму, што падтрымала міжнародная супольнасьць.

* * *

Я бачыў, што камуністы мяне недаацэньваюць. За часы бязьмежнай улады яны набраліся столькі плебейскага снабізму, што не маглі спусьціцца ўніз, да нейкага там гісторыка. Я не перажываў, бо ім жа й горай. Мяне зьдзіўляла іншае: чаму камуністы і ветэраны НКВД робяць усё так, як мне трэба, а не па-свойму, не па-зладзейску? Яны, як і трэба было, стварылі Дзяржаўную камісію, перадалі справу ў пракуратуру. Пракуратура пачала сьледства і вырашыла рабіць эксгумацыю з прыцягненьнем сілаў Рэспубліканскай пракуратуры, Міністэрства Унутраных Справаў, Акадэміі Навук, Міністэрства абароны, грамадзкіх назіральнікаў, прадстаўнікоў мясцовай улады і сьведкаў.

У Акадэмічны інстытут Гісторыі прыслалі афіцыйны ліст з просьбай: „для ўдзелу ў выбарачнай эксгумацыі вылучыць супрацоўніка Інстытута – спэцыяліста ў вобласьці археалогіі". Дырэктар Інстытута наклаў рэзалюцыю: „Прыняць удзел З.С.Пазьняку".

Складвалася ўражаньне, што мае непрыяцелі, гэтак жа, як і я, хацелі правесьці грунтоўнае дасьледваньне з прыцягненьнем усіх сілаў. А гэта якраз тое, што мне было трэба. Закулісныя дырыжоры, відаць, спадзяваліся выкарыстаць раскопкі супраць мяне.

Перад пачаткам працы сабралася нямала людзей: кіраўніцтва Пракуратуры БССР, адказныя чыноўнікі Міністэрства унутраных справаў, журналісты, члены Дзяржаўнай камісіі. Прыехалі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч. І вось мы пачалі. Што будзе ў зямлі – я ўжо ведаў. Амаль да двух мэтраў ішоў чысты пусты пясок, у якім часам трапляліся фалянгі чалавечых пальцаў. Для археолага – гэта ўжо званочак, што грунт быў пераварушаны праз некалькі гадоў пазьней, пасьля засыпкі магілы. Але сярод афіцыйных асобаў, якія не адыходзілі, запанавала ўзбуджэньне. Яны сталі гаварыць голасна між сабой, ужо ня гледзячы на мяне, сьмяяцца, адпускаць жарцікі, класьці рукі ў кішэні, хіхікаць, маўляў: „нічэво нет". Пракурор БССР Тарнаўскі пакруціўся, бадзёрым крокам пашыбаваў да машыны і паехаў у сваю пракуратуру дакладваць. Але ён пасьпяшаўся (гэткі нецярплівец).

Паказаліся ніжнія пласты забітых: прастрэляныя чарапы з дзіркамі ў патыліцы, рэвальверныя гільзы, кулі, гумовыя галёшы, пазначаныя 1937 годам з маркай фабрык „Красный богатырь" і „Резинтрест". Запанавала цішыня. Твары чыноўнікаў сталі сур'ёзнымі, як на пахаваньні. Раптам яны зразумелі, што тут не да жартаў.

* * *

Далей на працягу паўмесяца была толькі праца. Вынікі яе вядомыя. Я расказаў потым пра іх у артыкуле „Шумяць над магілай сосны" (надрукаваным ў ЛІМе) і ў справаздачы аб археалагічных раскопках. Аналіз вынікаў паказаў, што магілы ў Курапатах пазьней, дзесьці ў канцы 40-х гадоў, былі раскапаныя, а косьці зь іх – выбраныя. Археалагічна гэта пераканаўча даказваецца і пацьвярджаецца іншымі зьвесткамі. Хто б мог такое зрабіць? Пэўна, той, хто зацікаўлены схаваць злачынства.

Пасьля выпадку з Катыньню (вёскай у смаленскай Беларусі – смаленскія Курапаты, – дзе, пачынаючы з 1935 года, расстрэльвалі беларусаў і пра якую сьвет даведаўся толькі пасьля расстрэлу там польскіх афіцэраў), Берыя і Цанава, а магчыма, і Джугашвілі, маглі зрабіць высновы і даць загад аб выбарцы трупаў у менскіх Курапатах. Людзям, якія за адну ноч эшалонамі вывозілі цэлыя нацыі, прыдумалі „душагубку" і „мясарубку", стварылі сыстэму ГУЛАГа, зрабіць гэта было нескладана.

Самаўпэўненыя, і нават агрэсіўныя паводзіны камуністаў перад археалагічнымі дасьледваньнямі Курапатаў тлумачацца, на мой погляд, тым, што яны мелі інфармацыю з пэўных крыніцаў, быццам бы ў Курапатах нічога няма.

Камуністы фатальна прайгралі, як прайграюць забойцы. Схаваць забойства цяжка, а масавае – немагчыма. Хоць камуністы ўвесь час рупіліся пра схаваньне сваіх крывавых таямніцаў. Рупіліся рознымі спосабамі.

У 60-х гадах, напрыклад, калі кіраўніцтва савецкіх партызанаў (энкавэдэшнікаў, якія апанавалі ўладу ў Беларусі) узмоцнена пампавала тут партызанскі культ, узьнікла ідэя стварэньня паказушнага помніка спаленай немцамі беларускай вёскі. Выбралі вёску пад назовам Хатынь, бо назва яе пераклікалася зь вядомай ужо беларускай смаленскай Хатыньню, а ў ангельскай мове абедзьве пішуцца (Катынь) і вымаўляюцца падобна. Назва другой вёскі павінна была зацьміць сваім зьместам назву першай. На гэта былі кінутыя велізарныя сродкі і падключана магутная прапагандысцка-турыстычная машына. Эфэкт быў дасягнуты. Міф створаны.

Але нічога не ўратавала бальшавікоў. Знайшліся дакуманты пра смаленскую Хатынь (Катынь) (хоць і ня ўсе дакуманты). Стала вядомая праўда і пра менскую Хатынь.

Хатынь была спаленая ў выніку сьвядомай, тыповай і прадуманай правакацыі савецкіх партызанаў. Такіх правакацыяў яны стварылі на Беларусі тысячы. Каля ахвярнай вёскі спэцыяльна забівалі немца ці абстрэльвалі нямецкую машыну (як каля Хатыні), а сьляды рабілі – у вёску. Па сьлядах ішлі нямецкія карнікі і палілі паселішча, часта разам зь людзьмі. Такім чынам партызанскія энкавэдзісты і іх штаб у Маскве ўзбуджалі ў беларусаў нянавісьць да немцаў і заганялі людзей у партызаны.

У час Другой Сусьветнай вайны энкавэдзісты працягвалі вынішчаць беларусаў ня толькі непасрэдна, але і рукамі немцаў. За вайну, калі верыць савецкай статыстыцы, ў Беларусі было спалена больш 9-ці тысячаў вёсак і іншых паселішчаў. Вось такі вынік расейска-нямецкай камуністычна-фашыстоўскай супольнай працы па вынішчэньні беларусаў. Нагадаю, разам яны забілі амаль траціну беларускай нацыі.

* * *

Мне ўспомнілася гэтая лічба замардаваных беларускіх вёсах, калі ў 70-х гадах, за часы панаваньня галоўнага русіфікатара Машэрава пад яго непасрэдным ідэалягічным наглядам быў распрацаваны і зацьверджаны для Беларусі адмысловы плян аб „пэрспэктыўных” і „непэрспэктыўных” вёсках і аб узбуйненьні паселішчаў. Згодна гэтага пляну, які пачалі ажыцьцяўляць, з 34-х тысячаў беларускіх вёсак пакідалася крыху больш 9-ці тысячаў. Астатнія плянавалі паступова зьнесьці, а насельніцтва перасяліць у іншыя, „пэрспэктыўныя” паселішчы. Плян пачалі ажыцьцяўляць з таго, што ў „непэрспэктыўных” вёсках спынілі сацыяльнае, матэрыяльнае, эканамічнае і іншае разьвіцьцё. „Непэрспэктыўныя” вёскі пакідалі на выміраньне і заняпад.

Калі б гэты антычалавечы плян машэраўскія камуністы на Беларусі пасьпелі б ажыцьцявіць, то па сваіх разбуральных выніках для нацыі ён быў бы фатальным, пераўзышоў бы і калектывізацыю, і Чарнобыль разам узятыя. Беларусы як народ ужо маглі б не падняцца.

Беспакаранасьць, адсутнасьць супраціўленьня, пакорнасьць людзей і магчымасьць рабіць з насельніцтвам усё, што заўгодна, ап’яняла нягоднікаў-кіраўнікоў і нягоднікаў-выканаўцаў.

* * *

– А харашо стрэляць врагов народа, – выхваляўся мясцовы энкавэдзіст Грышка Бацян, глушачы самагонку з цнянскімі камуністамі, – как врэжэш із нагана, так шчэпкі лецят.

Гэтыя словы падонка пераказалі мне старыя цнянцы. Грышку добра памятае Галіна Сьцяпанаўна Жукоўская (1924 года нараджэньня, па мужу – Сідзякіна). Гэты Грышка – жыхар вёскі Цна. (Дарэчы, рэдкая зьява, што ён быў мясцовы, бо ў НКВД на Беларусі былі амаль выключна расейцы.) Дык вось гэты Грышка забіў у Курапатах бацьку і маці Галіны Сьцяпанаўны і выхваляўся потым перад цнянцамі:

– Жуковскіх я сам стрэлял.

Грышка гаварыў, як умеў, толькі па-руску. Беларускую мову „прэзірал”, „іба на ней разгаварывалі врагі народа”.

А аднойчы Грышка пакрыўдзіўся на начальства і з маркоты напіўся ў бэлю.

– Я работаю чэсна, па-бальшавіцкі, а ані..., – і Грышка трос пальцам у бок „іх”.

Справа была ў тым, што Грышку выдалі новы шынэль. Пасьля першага ж расстрэлу ў новым шынялю ён абпырскаў яго крывёй і гэтак і хадзіў, за што атрымаў вусную вымову ад начальства, маўляў, праца павінна быць „чыстай". Але Грышка пакрыўдзіўся, бо „работал чэсна", і ходзячы абпырсканы крывёй, відаць, спадзяваўся сваімі пячорнымі мазгамі на пахвалу. А тут – асечка. Было з чаго напіцца.

У Курапацкіх магілах выяўлена шмат чарапоў з велізарнымі рванымі адтулінамі ў ілбе (5-7 *см* у дыяметры). Гэта выхады куль, калі наган шчыльна прыстаўлялі да патыліцы. Парахавыя газы разам з куляй ішлі ў чэрап і вырывалі на выхадзе вялікія дзіркі ў ілбе. У выніку – кусты і дрэвы вакол месца расстрэлу, як сьведчылі відавочцы і самыя забойцы, былі абпырсканы крывёй і чалавечымі мазгамі. Такая „мокрая" была работа ў катаў.

Станіўся Красны Іваноў.
Наган ад стрэлаў раскаліўся.
Шынэльку выцер ад крыві
І папяроскай задыміўся.

Памёр забойца Григорий Ботян у 1954 годзе сваёй сьмерцю.

* * *

Восеньню 1989 года, туманным днём, праз 50 гадоў пасьля падзеяў я ішоў з кінарэжысёрам Міхаілам Жданоўскім і апэратарам па вуліцы Цны. Здымалі фільм пра Курапаты. За плотам, у адным з двароў на страсе пуні я ўбачыў жоўты чалавечы чэрап. Мы зайшлі ў брудны засьмечаны двор, дзе рохкалі каравыя сьвіньні. Уядаў сабака. З хаты выскачыў рыжы няголены маладзён гадоў пад трыццаць у чорным брудным картовым камбенізоне.

– Адкуль чэрап? – спытаў я.

– Знайшоў на звалцы, ішчу корм сьвіньям, – азваўся рыжы.

– Навошта паклаў на страху?

– А пусьць палежыт, чэлавек он, знаеце, па прыродзе сваей – звер, вечная барба, сегодня ты, а завтра – я.

Рыжы гаварыў выключна па-расейску, што тут, у гэтай запушчанай асеньняй вёсцы выглядала нейкім дзікунствам.

– Вы філёсаф? – спытаў я.

– Нет, я філасофіі не чужд, но большэ са сьвіньямі. Чэлавек, відзіце лі, сушчэство прадажнае, а сьвіньня – ана есьць сьвіньня: жывотнае палезнае. Не так лі?



***8. Курапаты. Парэшткі расстралянага чалавека.***



(Фота З. Пазьняка).

*9. Парэшткі расстраляных у Курапатах.*

Я прыгледзеўся да рыжага. Ён сьмярдзеў, як парсюк. Бялесыя вейкі і чырвоныя прыпухлыя дужкі павек, зялёна-жоўтыя пустыя вочы, прыадчынены рот (алькагольны тып вырадка). Я толькі цяпер зразумеў, што перада мной ненармальны. Я павярнуўся і моўчкі пайшоў да брамы.

– А я знаю, каво вы ішчэце: Грышку Бацяна, – пачулася ўсьлед. – А нет Грышкі, – прадаўжаў ненармальны, – нет, удрал Грышка на кладбішча, а вы ішчэце. Я відзел, вы к сестрэ ево захадзілі в дом. А нет сестры, умерла. А я вот жыву.

– Адкуль ты ведаеш пра Грышку? – спытаў я.

– Как не знаць, слыхал. Я то – племяньнік ево, вот і знаю.

Мяне раптам уразіла сымволіка становішча. А можа, тут ужо не сымволіка, а генэтыка? Генэтыка сталінізму.

Ненармальны нешта яшчэ гаварыў, але я ўжо ня слухаў.

* * *

Сюжэт з ненармальным нельга было паказваць у кіно па маральных прычынах, і рэжысёр Жданоўскі выключыў яго з свайго фільма „Дарога на Курапаты”. Гэта выдатны фільм. Але як толькі ён быў гатовы (а гэта яшчэ пры Шушкевічы-Кебічы), стужку тут жа, пасьля першага прагляду, арыштавалі і паклалі на



***10. Зянон Пазьняк у час археалагічных раскопак магіл расстраляных у Курапатах. 1988 г. (Кінакадр).***

паліцу. Там яна і цяпер ляжыць. Калі толькі ня зьнішчылі, ці ня ўкралі.

Шкада, што фільм ня ўбачылі людзі. У некаторыя кадры нават цяжка паверыць, што яны дакумэнтальныя. Тым ня менш, гэта так. Напрыклад, сядзіць за сталом забойца: тлусты круглы твар. Ён есьць, чаўкае, п’е гарэлку і расказвае пра сваю працу. Размова гучаць прыблізна так:

– Я не стрэлял. Я вазіл. Да. Была дзела. Я шафёрам служыл. В НКВД.

А стрэляць – не стрэлял. Нет.

Энкавэдзіст проста перад камэрай куляе стопку гарэлкі ў нутро і каўтае, аж булькнула ў страўніку, потым чапляе нешта відэльцам з талеркі і чаўкае.

– А калі б вам загадалі страляць людзей, вы стралялі б? – гучыць пытаньне за кадрам.

Не перастаючы чаўкаць, энкавэдзіст задумаўся.

– Есьлі бы прыказ, тагда бы, канешна, стрэлял.

Праблемы выпіць і закусіць у забойцаў не было. У падвале НКВД мясьцілася сталоўка, якая была адчынена ўвесь час. За сеанс расстрэлу дабраахвотнікам адразу выдавалі дзесяць рублёў. (Хапала на некалькі бутэлек гарэлкі.) Прыехаўшы з Курапатаў, каты „атаварваліся” ў сталоўцы. Сядзелі тут і выпівалі.

У Лошыцы дабраахвотнікам пастраляць у патыліцу давалі толькі 50 капеек, але гэта ня кадравым энкавэдзістам, а энтузіястам: грамадзкім стукачам, камсамольцам, членам ДСААФ і іншым падонкам, якія круціліся каля энкавэдзістаў і расстрэлаў у Лошыцкім яры.

* * *

Калі я ўжо пачаў расказваць пра катаў, то прадоўжу і далей.

Іншы падонак, маёр Бачкоў – расеец, – жыў у Дроздаве і быў жанаты на мясцовай дроздаўскай дзеўцы. Мелі дваіх дзетак. Бачкоў расстрэльваў у Курапатах і кожны дзень (ці ноч, як трапіць па графіку) хадзіў на працу. Дадому з працы прыходзіў п’яны. Бывала, прыдзе ноч-

чу, паесьць – і да жонкі. Прырода кліча. А яна яго адпіхвае:

– Адыйдзі, ты п’яны, памыйся, ад цябе крывёй пахне.

Як кажуць расейцы, „такая любов”. Простая савецкая сям’я ўзору 37-га году. Ня ведаю, як было, калі бацька прыходзіў з работы днём, і яго сустракалі дзеці. Можа пыталіся, колькі ён сёньня забіў: восемдзесят ці дзевяноста.

Пра ўсё гэта мне расказалі дроздаўскія людзі, у тым ліку – і сваякі Бачкова. Сам забойца з пачаткам вайны кінуў дзяцей і ўцёк у Расею. Там і памёр у 1978 годзе. Жонку яго, якая зьвязалася з партызанамі, застрэлілі немцы ў пачатку ліпеня 1944 года перад самай савецкай акупацыяй Менска.

Бывала, што энкавэдзісты з каманды, якая расстрэльвала ў Курапатах, пасьля зьмены, узбуджаныя алькаголем і сьвежа пахнучыя крывёй, прыходзілі на танцы ў Дроздава ці Зеляноўку. Некаторыя дзеўкі вельмі хацелі выйсьці замуж менавіта за энкавэдзістаў. Да забойцаў адносіліся са страхам і павагай.

На адну такую з Зеляноўкі, якая вышла за бандыта, я хадзіў паглядзець у 1988 годзе. Дародная бабуля – паўрота залатых зубоў. „Муж работал в НКВД,” – сказаў мне гэты рот. На сьцяне фота забойцы.

Потым я знайшоў яго магілу і помнік на ёй з чорнага паліраванага лабрадору з сантымэнтальным надпісам ад жонкі і дзяцей. На пліце – фотагравіроўка – клясычная фізіяномія энкавэдзіста, абагулены тып. Фатаграфія з гэтага помніка зьмешчана ў Менскім выданьні маёй кніжкі „Купапаты”. Там я адрэзаў прозьвішча бандыта і эпітафію, бо не крытычна прымаў памылковую ілжывую сэнтэнцыю, што дзеці, быццам бы, не адказваюць за злачынствы бацькоў. Гэта, аднак не пацьвярджаецца жыцьцём. Дзеці маральна адказваюць за забойствы бацькоў. Прозьвішча ката – Друзь. Расеец з Украіны. Колькі ён асабіста забіў людзей – невядома. Усяго ж у Курапатах было замардавана каля чвэрці мільёна чалавек.

* * *

Дзеці забойцаў павінны, я кажу, таксама несьці адказнасьць. Дзеці бандытаў, што рабілі злачынствы супраць чалавецтва і ўдзельнічалі ў масавых рэпрэсіях, не павінны мець права працаваць у судах, выбірацца ў органы ўлады, працаваць у органах улады і г. д. І гэта справядліва. І так павінна быць.

Дзеці звышбандытаў Яжова і Берыі, напрыклад, у 1998 годзе падалі ў суд на рэабілітацыю сваіх забойцаў-бацькоў. Думаю, што камэнтаваць гэтую зьяву ня трэба. Для іх загубленая кроў мільёнаў ахвяр не існуе. Пусьціце такіх у суды ці ў органы ўлады. Гэтак жыцьцё пастаянна даказвае маральную (і ня толькі маральную) адказнасьць дзяцей за злачынствы бацькоў. Праўда жыцьцёвая і праўда біблейская.

Антылюстрацыйная палітыка „грубай крэскі”, якую спрабавалі ўвесьці ў Польшчы (гэта значыць: забудзем, што было, пачнём разам новае жыцьцё) тут не падыходзіць. Ніхто нічога не забывае, бо забыць немагчыма. Павінны быць вызначаныя адносіны, рашэньні і санкцыі. Яны паўсюдна прынятыя адносна фашысцкіх злачынцаў. Нельга, напрыклад, публічна зьневажаць факты і казаць адваротнае пра вядомыя рэальнасьці і падзеі фашысцкага генацыду. За гэта па нямецкіх законах суд можа прысудзіць да двух гадоў турмы. Менавіта гэты закон парушыў нядаўна французкі радыкальны палітык Лі Пэн, сказаўшы, што канцлягеры і крэматорыі – гэта нязначныя падзеі Другой Сусьветнай вайны. Лі Пэн трапіў пад суд.

Вядома, тут шмат значыць тое, што камунізм яшчэ ня меў свайго Нюрнбэргскага суду. Але кожная краіна мае свае правы і магчымасьці. Я заўсёды казаў і кажу: першым законам, які павінна прыняць краіна, што вызвалілася з-пад камунізму, – гэта закон пра люстрацыі. Кіруючая камуністычная намэнклятура павінна быць адлучаная ад улады мінімум на дзесяць гадоў, а цемнякі КГБ, што супрацоўнічалі з карнай акупацыйнай установай, дзеці бандытаў, што тварылі генацыд, – на ўсё жыцьцё.

Тыя дзяржавы, якія зрабілі гэта (Вугоршчына, Чэхія, на падыходзе – Польшча), палепшылі сваё становішча, адчынілі пэрспэктывы грамадзтву. Тыя, што не зрабілі (краіны былога СССР, былой Югаславіі) і пакінулі ля ўлады гэбістаў ды камуністычную намэнклятуру, тыя апынуліся ў

яшчэ горшым стане, а абрабаваны народ загналі ў пастку, у тупік, зь якога выхаду амаль не відаць, акрамя як праз вялікую кроў.

* * *

На дне магільных ям у Курапатах, дасьледуючы рэшткі забітых, у цішыні (бо ўсе маўчалі) я шмат што перадумаў пра жыцьцё і людзей. Бязбожныя камуністы ў сваёй філясофіі, мастацтве, ідэалогіі і асабліва ў выхаваўчай сістэме ўнікалі развагаў і нават тэматыкі сьмерці. Канцэнтрацыя ўвагі на сьмерці лічылася ўпадніцтвам, пэсымізмам, ледзь ні антысавецкімі поглядамі. І гэта нягледзячы на тое, што сьмерць існуе, і што кожны памрэ.

Развагі аб сьмерці прыводзяць да развагаў пра вечнасьць. Думаньне пра вечнасьць прыводзіць да Бога. Таму бальшавікі, што любілі забіваць, не любілі разважаньняў пра сьмерць. Асэнсаваньне сьмерці разбурае матэрыялістычную сьвядомасьць. Менавіта слова „сьмерць” асацыявалася ў мяне з камунізмам. Камунізм – роўна сьмерць.

Што мяне ўразіла найбольш у час працы над дасьледваньнем Курапатаў? Сьпяваньне птушак. З сырога дна магілы відаць верхавіны соснаў і бяроз, асьветленых сонцам. Пласкоча лісьце. Шуміць хвоя, нібы мора, і пошум ветру зьліваецца з птушынымі галасамі. Голас сусьвету.

– А вось і тады гэтак птушкі сьпявалі, – пачуў я наверсе голас сьледчага пракуратуры. Я вылез з магільнай ямы. Сьледчы крымінальнага вышуку (які па роду службы чаго толькі ня бачыў: і трупы з адрэзанымі галовамі, і згвалтаваньні) стаяў зь вільготнымі вачыма, задраўшы галаву ля магілы і слухаў, як сьпявае сінічка.

Узьдзеяньне Курапатаў на людзей было незвычайнае. Гэта я ведаў. Але тады падумалася: „Кепскія твае справы, хлапец. Ня бачыць табе кар’еры ў бальшавіцкай пракуратуры, як сваіх вушэй.” Так яно потым і сталася. Занадта шмат чалавечага ды разумнага*.

Сінічка скакала з галінкі на галінку, круцілася, ціўкала, была занятая толькі сабой. Яна не зьвяртала на нас аніякай увагі. Шумела лісьце, і сьпеў птушыны сьлізгацеў па бярозавым ствале. А ўнізе мы з сваёй маркотай. Хто мы? Што мы тут робім? Па чым плачам? Пяцьдзесят гадоў таму, як і цяпер, шумела хвоя і абыякава ськідала голкі на астыглыя бледныя твары. Калісьці ляцела сарока ў Грунвальдзцкі лес. На кару сеў чырвоны матыль, як тысячу гадоў.., як дваццаць тысячаў гадоў таму, калі толькі зыйшоў, адступіў ледавік. І тады мне ўспомнілася сваё:

Раз у тысячу год  
Прылятае сінічка да сіняга мора  
І пробуе дзюбкай марскую ваду.  
Калі сінічка вып’е ўсё мора,  
Пройдзе адно імгненьне вечнасьці.

Мяне ўразіла таксама маўклівая пакорнасьць і поўнае неразуменьне таго, што адбываецца, у тых, каго забівалі камуністы. Быццам гэта былі ня людзі, а блохі ці мурашкі, быццам гэта быў не народ. „За што?” – было традыцыйнае пытаньне перад расстрэлам. І ніхто (амаль ніхто) не імкнуўся ўцячы.

На што чалавек спадзяваўся, калі пытаў „за што?”, бачачы, што прывезьлі яго забіваць? На справядлівасьць? На цуд? На літасьць катаў? Бандытаў жа толькі раззадорваюць такія пытаньні.

Людзі не ўсьведамлялі сутнасьць генацыду і сэнсу расстрэлаў, бо гэта было вышэй іхняга разуменьня. Яны рэагавалі на забойства як маральныя хрысьціянскія асобы, выхаваныя ў такіх паняцьцях, як „справядлівасьць”, „віна”, „грэх”, „пакараньне”. Яны ўспрымалі бальшавікоў як начальства, як уладу і не разумелі, як можна караць невінаватых.

Ноччу ня спалі. Прыслухоўваліся, ці не загудзе машына. Бо забіралі ноччу. Але, калі машына гула, то не хаваліся і не ўцякалі. Муж зьбіраўся, дрыжачымі пальцамі зашпільваў гузікі і глухім голасам казаў жонцы: „Гэта памылка, дарагая, разьбяруцца – і я вярнуся.” Пасьля такіх дзяжурных і фальшывых словаў чалавек зьнікаў назаўсёды.

Страшны вопыт Курапатаў павінен навучыць кожнага. Народ ня можа быць безабаронным. Людзі павінны разьбірацца ў падзеях і адрозьніваць свайго ад чужога. Калі сьляпыя

* Гэтым сьледчым быў Язэп Бролішс. – *(З.П.)*.

і глухія, то могуць перабіць усіх, а тыя – яшчэ і падзякуюць за забойства: „спасіба парціі”. Але галоўнае – супраціўляцца, не маўчаць, ня жаліцца ворагам, нічога ў іх не прасіць. Народ, які змагаецца – перамагае акупацыю ня сілай, дык духам, ня зброяй, дык розумам.

Беларусы пад бальшавікамі былі (у большасьці) пазбаўленыя нацыянальнай ідэі. Таму яны ня ў стане былі змагацца. Грамадзтва пісала даносы на сваіх, займалася самаедзтвам. Задавала пытаньне „за што?”.

За што? А за тое, што былі беларусамі. Аднак гэта беларусам цяжка было зразумець.

У шасьцідзесятых гадах, памятаю, студэнтам я езьдзіў на прымусовыя работы ў калгас на Случчыну капаць бульбу. Гаспадыня хаты, дзе я жыў, старая кабета расказала мне, як да вайны ў іхняй вёсцы па вуліцы хадзіў бальшавік з наганам і страляў людзей. Усіх падрад. Убачыць каго на вуліцы: хлоп – і застрэліў. Убачыць праз плот кабету ў агародзе: хлоп – і забіў. Убачыць пад грушай дзіцятка на гушкалцы гушкаецца – прыцэліўся: хлоп, хлоп, хлоп – трапіў.

Гаспадыня, ратуючыся, забегла ў сенцы і крыкнула: „Дзеці, хавайся!” Толькі дзеці залезьлі пад ложак, як бальшавік у хату ўскочыў і адразу ў яе стрэліў. Потым пад ложак пастраляў. Хлопчыка забіў, а дзяўчынка і сама яна – маці – выжылі.

– Чаму вас забівалі? – спытаў я ў кабеты.

– А гэта таму, пэўна, што мы каталікі, – быў адказ.

* * *

Скончыліся археалагічныя дасьледваньні Курапатаў, а праз нейкі час і сьледзтва. Камуністы загналі сябе ў глыбокі кут. Дзяржаўная камісія, якую яны стварылі, нічога не хацела прызнаваць і не прымала рашэньняў.

У гэты час інфармацыя пра Курапаты пайшла за мяжу. Пачаўся наплыў журналістаў і здымачных групаў з усяго сьвету. Я нікому ні ў чым не адмовіў. Амаль год працаваў разам зь імі, вазіў па мясьцінах расстрэлаў, паказваў доказы, прадметы, знаёміў зь відавочцамі. Бывала, быў заняты цэлымі днямі і тыднямі. Я разумеў, што чым больш людзей будзе ведаць праўду, тым менш месца застанецца для хлусьні.

У гэты час, спачатку эстонцы, а потым латышы стварылі народныя франты і пачалі змаганьне за незалежнасьць. Гэта быў такі радасны час, што здавалася – вырастаюць крыльлі. Адчувалася, што надыходзіць канец камунізму, канец праклятай імпэрыі зла.

У канцы жніўня 1988 года група людзей, куды акрамя мяне ўваходзілі Міхась Дубянецкі, Алег Белавусаў, Алесь Лукашук, Мікола Купава і яшчэ некалькі чалавек, пачала рэгулярна зьбірацца і працаваць над статутам новай грамадзкай арганізацыі, пасьвечанай змаганьню за гістарычную праўду па выяўленьні сталінскіх злачынстваў супраць народа. Рабочая назва арганізацыі была „Камітэт – 58”. Меўся на ўвазе 58-мы артыкул Крымінальнага кодэксу СССР, па якім арыштоўвалі і каралі ворагаў народа.

Устаноўчая канфэрэнцыя адбылася 19 кастрычніка 1988 года ў Менску ў Чырвоным касьцёле Сымона і Алены, у якім тады разьмяшчаўся Дом кіно. Дэлегаты прыехалі з усёй Беларусі. Усё рыхтавалася па магчымасьці таемна і вельмі хутка, бо правесьці такі сход тады ў БССР было, практычна, немагчыма. Добра, што Саюз кінематаграфістаў пайшоў насустрач і даў памяшканьне, нягледзячы на партыйны ціск і супроцьдзеяньне.

Я папрасіў, каб абслуга канфэрэнцыі прыйшла ў Дом кіно за дзьве гадзіны да пачатку, каб кантраляваць сытуацыю і запабегчы магчымаму захопу будынка кагэбістамі. Як у ваду глядзеў. Нашы людзі прыйшлі першымі. Але тут жа пачалі зьяўляцца тыпы ў аднастайных шэрых касьцюмах зь нейкімі сабачымі вачыма. Неўзабаве іх набралася ўжо 70 чалавек. Моўчкі шнырылі па закутках і зыркалі на нас. Але мы кантралявалі ўсе іх перамяшчэньні. Яны аказваецца проста хацелі пранікнуць у залю без запросінаў і заняць месцы.

Пачалі прыбываць дэлегаты канфэрэнцыі. Па тым, што яны прыходзілі заранёў, мы зразумелі, што людзей будзе шмат, і вырашылі пусьціць у залю сабакавокіх. Увесь іхні інтэлект быў напісаны на іхных тварах, а галасоў нам хопіць, думалі мы. Аднак потым валам павалiла рэспубліканская пракуратура амаль у поўным складзе на чале з намесьнікам пракурора, прыйшлі інструктары ЦК, гарвыканкамаўскія

чыноўнікі, райкамаўскія дамы ў строгіх касьцюмах і „не терпящие возражений”.

З прыблізна 350 – 370 прысутных больш ста асобаў было камуністычнае начальства і сабакавокія. Яны тут жа далі нам бой, але прайгравалі пазыцыю за пазыцыяй. Калі справа дайшла да галасаваньня, начальнікі і агентура запатрабавалі „дэмакратыі,” каб галасаваць усім прысутным, і ім таксама. Мы згадзіліся. Нас гэта не палохала, бо дыскусія, якую мы выйгралі, паказала, што 2/3 прысутных у залі – за нас.

Кіраўніцтва новай арганізацыі было выбрана, Статут прынялі, таварыства стварылі. Назвалі яго – „Мартыралёг Беларусі”.

Але самае цікавае здарылася ў канцы, дзеля чаго і зьбіралася гэтая канфэрэнцыя па стварэньні „Мартыралогу”. Было прапанавана стварыць тут Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту. Начальнікі трапілі, што называецца, як мухі ў патаку. І, зразумеўшы, куды ўскочылі, „палезьлі на сьцяну”. Але гэта выклікала толькі сьмех. Заля раўла ад захапленьня і пачуцьця сваёй перавагі. Я прапанаваў сьпіс кандыдатураў ў Аргкамітэт. У тых умовах дзейнічаць трэба было менавіта так.

Нейкі начальнік з ЦК КПБ па прозьвішчу Бузук (як аказалася, інструктар з аддзелу ідэалёгіі) кінуўся на трыбуну, вырваў мікрафон і, як сапраўдны бальшавік, паспрабаваў павесьці сход за сабой. Заля ашалела ад такога нахабства. Ох, як, аказваецца, не любілі „парцію”. Але Бузук заікаючыся бубнеў сваё. Яго спыніў Васіль Быкаў, якога мне рэдка прыходзілася бачыць у гневе.

– А дземакрація! – адчайна залемантаваў нехта з „падначальства”, – гдзе дземакрація?

– Дэмакратыя на месцы, – адказаў я, – вашыя прапановы? Каго вы прапануеце ў Аргкамітэт БНФ? – Падначальнік асекся. Ён быў непадрыхтаваны. Не пракурора ж выстаўляць, не начальства з райкама.

– Прапануйце сябе, – падказаў я яму, – а мы прагаласуем.

– Нет, я нет, – адмовіўся „таварышч”.

Прапановы з залі былі, і да майго сьпісу дабралі яшчэ 12 чалавек. Але гэта былі людзі, якіх ведалі, і тыя, хто трэба.

Перамога была поўная. Я пайшоў віншаваць начальства.

– Віншую вас, таварыш Бузук, з актыўным удзелам у гістарычнай падзеі: стварэньні Беларускага Народнага Фронту. Жыве Беларусь!

– Вы ешчо атвеціце, – прашыпеў той і патульчыў на выхад.

– Віншую вас, Уладзімер Кандратавіч, з пасільным удзелам у стварэньні Беларускага Народнага Фронту.

Намесьнік пракурора БССР з разуменьнем усьміхнуўся і гэтак даверліва: – Я вам вот что скажу, в каждам таком деле нужна демократия. І прежде всего – демократия.

– Дык была ж дэмакратыя, Уладзімер Кандратавіч, была, разам з вамі сядзела.

– А вот дземакраціі-то как раз і не была, таварышч Пазьняк, не была, – перайшоў на афіцыйны тон мой субяседнік і дзелавіта пайшоў да дзьвярэй.

* * *

Назаўтра газэты разьнесьлі нас ўшчэнт. Аказваецца, мы няправільна разумелі „перастройку”. Але генэральны разнос быў наперадзе. Стала відавочным, што камуністы, атрымаўшы па носе, ад нечаканасьці зусім страцілі арыентацыю. Падступны вораг ім ўжо здаваўся за кожным кустом.

Справа ў тым, што яшчэ летам, калі толькі стварыліся прыбалтыйскія народныя франты, першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў урачыста запэўніў Маскву, што ў Беларусі „нікакова фронта не будзет”. Але пасьля адкрыцьця Курапатаў „запахла” Фронтам і ў Беларусі. Тады 8 жніўня цэкоўскія мудрацы сабраліся на Бюро ЦК і па прыкладу некалі дрэннай памяці расейскага жандармскага генэрала Зубатава рашылі самы стварыць Народны Фронт (гэта значыць, падсадную качку), каб павесьці народ да перабудовы.

Таемнае рашэньне Бюро ЦК аб стварэньні Беларускага Народнага Фронту было прынятае, а справа арганізацыі яго даручана Пятру Краўчанку, тадышняму сакратару па ідэалёгіі Менскага гаркама КПБ і цяперашняму лукашэнкаўскаму паслу ў Японіі. Усё спачатку ішло для камуністаў быццам бы „харашо”. І раптам нечакана Народны Фронт ствараецца не



(Фота А. Кляшчука).

*11. Зянон Пазьняк у час мітынгу-рэквіему 29 кастрычніка 1989 г. у Курапатах. Справа ля мікрафона Вольга Бароўская, жыхарка Цны, навочны сьведка расстрэлаў людзей у Курапатах.*

камуністамі. Прытым – сапраўдны Фронт. Было ад чаго замітусіцца. На цэкісцкіх мудрацоў хапіла прастаты.

Пра стварэньне Фронта тады ў Беларусі паўсюдна гаварылі і крычалі розныя маргіналы, перабудовачныя „казнадзеі" і проста агентурныя правакатары. Стварыць звычайным спосабам прадстаўнічы і варты даверу Аргкамітэт Фронту ў такіх умовах было немагчыма. Таму і рашылі выкарыстаць „Камітэт-58" і арганізацыю „Мартыралогу".

Былі, што называецца, вытрыманыя ўсе правілы. І галоўнае зь іх: калі хочаш датрымаць сакрэт, то пра яго павінен ведаць толькі адзін чалавек, гэта значыць той, хто яго ведае. Не было ніякіх намёкаў пра Фронт. Калі ўзьнікалі размовы, то я тут жа нешта казаў супраць арганізацыі Фронта. Усё гэта, безумоўна, лавіла чуйнае вуха агентуры.

Калі ўжо ўсё было падрыхтавана па арганізацыі Устаноўчай канфэрэнцыі „Мартыралогу" і складзены сьпіс Аргкамітэту БНФ, тады з плянам стварэньня Фронту былі пазнаёмленыя два чалавекі, на словы якіх можна было абаперціся, як на рыцарскае кап'ё – гэта Міхась Дубянецкі і Васіль Быкаў. Яны ведалі ўсё, і з гэтага часу мы дзейнічалі разам.

Заля Дома кіно была ўжо перапоўненая. Пара пачынаць. Я адвёў у бок уласьніка залі Старшыню Саюза кінематаграфістаў Вячаслава Нікіфарава і сказаў:

– Мой абавязак вас папярэдзіць: на канфэрэнцыі будзе створаны Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту.

– Тут Бузук сядзіць у мяне ў кабінэце, – упалым голасам сказаў Нікіфараў.

– Дык вось і скажыце яму, а мы пачнем канфэрэнцыю.

Я ўвайшоў у залю і папярэдзіў некалькі чалавек пра тое, што мае быць. У гэты час падышоў Васіль Уладзіміравіч Быкаў і кажа, што там Бузук з ЦК кліча мяне ў кабінэт.

– Толькі спакойна, – парадзіў Быкаў.

Спакойна не атрымалася. Бузук з цэкісцкім апломбам пачаў гаворку ў стылі „Кто дал права?" і „Кто вы такой?". За плячыма нецярпліва шумела



***12. 30 кастрычніка 1988 г. Дзяды. На фота фрагмэнт мітынгу ў полі, акружанага міліцыяй. У пэрспэктыве відаць, як у атаку на мірных людзей бягуць салдаты ўнутраных войскаў.***

заля, гублялася хвіліна за хвілінай. І мне нічога не заставалася, як рэзка спыніць апломб начальніка. (Ад чаго, як мне падалося, у яго стаўся поўны параліч мазгоў. Цэкісцкія чыноўнікі былі непрывыклыя да такіх паваротаў.)

* * *

Калектыўны параліч мазгоўназіраўся ў камуністаў і пасьля канфэрэнцыі. З гэтай прычыны атрымаўся пацешны кур'ёз.

Быў тады ў Менску дыскусійны клюб „Современник", які ўзначальваў Леў Крывіцкі. Дыскутавалі пра перабудову і ўсялякія разумныя рэчы. Праз тры дні пасьля канфэрэнцыі „Мартыралогу" якраз было паседжаньне клюбу ў вялікай залі Дома палітасьветы. Кіраўнікі ЦК КПБ, якія ахвотна жылі чуткамі, чамусьці вырашылі, што гэта зноў іх зьбіраюцца абдурыць. Паседжаньне клюбу, маўляў, для адводу вачэй, а на самай справе Аргкамітэт БНФ будзе там утвараць Фронт. Камуністы хутка правялі мабілізацыю сярод ветэранаў, стукачоў і вернага партыі рабочага кляса.

Паседжаньне клюбу ўжо пачалося, калі чарадой пайшлі ветэраны. У гэты час пад'ехала з дзясятак велізарных аўтобусаў з Трактарнага завода, і ўзбуджаны натоўп у дзевяцьсот чалавек з ровам уваліўся ў залю.

У вялікай залі якраз сядзела чалавек з трыццаць і дыскутавалі на тэму кшталту „мэтраманіяльныя элемэнты сэнсарнага разьвіцьця электаральных паводзінаў у прагназуемых сістэмах мажарытарнай дэмакратыі".

– Прашу слова, слова прашу! – пачуліся галасы. На сцэну ўзьдзямберыўся сьлесар-фрэзероўшчык, дастаў паперку, разгарнуў і ўдарыў па „нефармалах"...

– Народу, каторый выстаял і пабедзіл, не нада франтов, – скончыў фрэзероўшчык.

Выступоўцы палезьлі на сцэну, як туркі на штурм Канстантынопаля. Леў Крывіцкі, які так і ня скончыў крытыкаваць Гаека з пазыцыяў Фрыдмана, толькі галавою круціў. Ён нічога не разумеў. Грамілі Фронт. У канцы зачыталі і прынялі рэзалюцыю супраць стварэньня Фронту.

Назаўтра камуністы заадно зачынілі клюб „Современник" і пазбавілі дыскутантаў памяшканьня. Памятаю, як разгублены Крывіцкі бегаў па Менску бяз шапкі і лемантаваў.



*13. Мітынг у полі на Дзяды 30 кастрычніка 1988 г. У далечыні відаць выступовец.*

* * *

Праз тыдзень разгарнуліся падзеі больш сур'ёзныя. За сваю някемлівасьць, правалы і паражэньні, камуністы рашылі адпомсьціць. Ім хацелася, як сказаў тады Яфрэм Сакалоў, „даць, каб ня ўсталі".

Штаб апэрацыі ўзначаліў тадышні сакратар ЦК КПБ па ідэалёгіі Валеры Пячэньнікаў. Плян быў просты: 30 кастрычніка, у час першага масавага адзначэньня „Дзядоў", якое зьбіраліся правесьці прыхільнікі Народнага Фронту, сілы камуністычнага парадку намерваліся справакаваць бойку. Потым павінны былі ўмяшацца ўнутраныя войскі і „пусьціць кроў" – пабіць людзей. Адказнасьць за правакацыю і за ахвяры звалілі б на беларускіх „нацыянал-фашыстаў", якія арганізавалі Народны Фронт. Пасьля гэтага камуністы меркавалі разграміць усё, што можна, і галоўнае – спадзяваліся атрымаць пахвалу з Масквы, а магчыма, таксама пасады і ўзнагароды.

Гэта было зразумела адразу. Але прыблізна праз год пасьля правалу „апэрацыі" адзін афіцэр міліцыі перадаў мне копію пляна дзеяньняў, які быў „даведзены" аднаму зь Менскіх раённых аддзелаў унутраных справаў. З гэтага пляну шмат што высьветлілася. Людзей павінны былі выцесьніць ад Усходніх могілак у стары няплодны сад (што раськінуўся побач гактараў на сто) і пабіць.

Мабілізаваная была міліцыя з усёй Беларусі, акрамя таго – аддзелы АМАПу, унутраныя войскі, ДАІ і ваенныя пажарныя часткі, курсанты міліцэйскіх вучэльняў, КГБ, работнікі райкамаў партыі і камсамола. Працавалі суды і пракуратура (хоць быў выходны дзень), паліклінікі і медыцынскія пункты, дзяжурылі напагатове машыны хуткай дапамогі, у райкамах і судах сядзелі людзі з аўтаматамі. Усе дарогі вакол Менска былі перакрытыя міліцыяй і ДАІ. Курапаты акружылі ўнутраныя войскі, а падыходы заблякавала міліцыя. Нікога не прапускалі. Нікому не далі паставіць сьвечку, а самых актыўных – хапалі альбо зьбівалі.

Каля Усходніх могілак сабралася прыблізна дзесяць тысячаў чалавек. Але міліцыі і спэцвойскаў, відаць, было ня менш. Міліцыя і пераапранутыя агенты напалі першымі. Пачалі адціскаць і таптаць людзей, хапаць актывістаў Фронту, Мартыралогу і тых, на каго паказвалі агенты ў натоўпе.

Упершыню менчукі ўбачылі ваенныя пажарныя машыны з вадзянымі гарматамі, мноства



*14. Фрагмэнт мітынгу ў полі.*

велізарных фургонаў з закратаванымі вокнамі, салдат у плястыкавых шлёмах са шчытамі і міліцыю з газавымі балёнчыкамі. Дэманстрацыя сілы была ўнушальная, але стала зразумела, асабліва пасьля таго, як пачалі нападаць на людзей, што гэта ня толькі дэманстрацыя сілы. Рыхтавалася нешта вельмі змрочнае. Людзей хапалі, круцілі і зьбівалі ўжо на падыходах да могілак. Да маладых мужчын падскоквалі тыпы ў цывільным і ні з таго ні з сяго пырскалі з газавых балёнчыкаў у вочы Чаромхай і адскоквалі.

Нейкая віжаватая „дамачка” з райкаму камсамола, як можна было здагадацца, з лёгкім кагэбісцкім стажам, падляцела да маладога мужчыны, ударыла яго рукой па твары і чакала рэакцыі ў адказ. Рэакцыі, вядома, не было ніякай. Але ўсім неяк стала адразу зразумела, што робіцца вялікая правакацыя.

* * *

Нам удалося дамовіцца, што ніхто не павінен адказваць сілай на сілу, ніхто не павінен паддавацца на зачэпы. Я гавараў (на ўсё горла) ня больш хвіліны. Выступаць мне даўжэй не дазволілі сілай (рынулася міліцыя). Але я пасьпеў папярэдзіць пра правакацыю і каб не ўступалі ў бойку, што тут патрэбная вытрымка, каб рыхталіся йсьці на Курапаты. Натоўп міліцыянераў клінам урэзаўся ў людзкую масу. Людзі расступіліся і зноў зышліся. Клін прайшоў праз тлум, як нож праз масла, і усё засталося па-ранейшаму. Відаць было, што выканаўцы правакацыі крыху разгубіліся.

У гэты час частка людзей, тысячы са тры, аддзялілася і пайшла на Курапаты. Я йшоў наперадзе ў глыбіні ў шчыльным акружэньні дабраахвотных ахоўнікаў. Зараўлі машыны з АМАПам і, пераганяючы дэманстрантаў, паімчаліся пад Курапацкі лес. Відаць, паехалі займаць на подступах баявыя пазыцыі. Не даходзячы да Курапатаў, шэсьце зьвярнула ў поле, дзе на схіле пагорка за горадам адбыўся мітынг. Каб бачыць прамоўцаў, усе апусьціліся на калені альбо прыселі. Тут упершыню амаль што праз паўстагоддзя пад-

савецкага існаваньня быў разгорнуты і ўзьняты беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг.

Пайшоў першы сьнег. Шумеў вецер, падымаў і ўзносіў палымяныя словы прамоўцаў. Неўзабаве нас акружылі батальён унутраных войскаў і безьліч міліцыі. Напасьці павінны былі з узгорка, дзе паставілі курсантаў і пануквалі іх таптаць сядзячых людзей. Курсанты не маглі скрануцца. Відаць, яшчэ зь непрывычкі. Тады іх перавялі на бакавы фронт, а з узгорка паставілі афіцэраў. Тыя па камандзе лавінай кінуліся на сядзячых маніфэстантаў. Мы ўсе тут жа падхапіліся і, як і дамовіліся, шчыльна шчапіліся рукамі. Маса людзей стала нібы адзіны сплецены кошык, клубок. Расчляніць яго і распарушыць людзей па полі міліцэйскаму войску так і не ўдалося. Бо мы разгадалі іхныя намеры. Арганізаванасьць і кіруемасьць вялікай масы людзей тады мяне вельмі зьдзівіла. Я сам бачыў, як хлопцы гадоў па 16–17 хапалі камяні, каб кідаць у салдат, а іншыя, такія ж, як яны, падбягалі да іх і казалі: „Выкідайце, загадана не кідаць, правакацыя!"

* * *

Правакацыя правалілася, прытым – з трэскам. Камуністы вывелі магутную ўзброеную сілу і нябачаную раней тэхніку супраць мірных жыхароў, якія ў большасьці сем'ямі, разам з жонкамі і дзецьмі, трымаючы ў руках белыя кветкі, ішлі на могілкі, каб ушанаваць памяць памерлых. Тупая дэманстрацыя сілы, варожасьці і агрэсіўнасьці выклікала ў гэтых людзей найперш недаўменьне і зьдзіўленьне, а потым – абурэньне. Не дапамагла потым камуністам ніякая прапаганда.

Памятаю разгублены твар Янкі Брыля, зьдзіўленьне мастака Аляксея Марачкіна, рэжысёра Купалаўскага тэатра Валеры Раеўскага, чалавека даволі нэўтральнага. Да яго нечакана падскочылі прадстаўнікі „парадку", пырснулі ў вочы сьлезацечнага газу і далі кухталёў. А ўсё, пэўна, таму, што быў ён інтэлігентнага выгляду і ў белай манішцы. Адразу відаць – „фашысцкая морда".

Дарэчы, цікавая дэталь. У сьвядомасьці камуністаў (дакладней, у падсьвядомасьці) спрацоўваюць нейкія відавыя стэрэатыпы ці міфалагемы: усё, што супраць камунізму, адзначаецца імі як фашызм, а таксама ўсё, што зьвязана з нацыянальна-вызвольным рухам. Чалавек, які ў СССР размаўляў, скажам, па-эстонску ці па-беларуску – гэта быў для іх „фашыст", вораг камунізму і Расеі. Усіх праціўнікаў і крытыкаў камуністычнай імпэрыі і яе ідэялёгіі зводзілі да аднаго паняцьця і аднаго тэрміну – „фашыст" альбо „фашызм". Над гэтым спэцыяльна працавала партыйная ідэялягічная прапаганда. Габрэйскі сыянізм, беларускае адраджэньне і нават беларускі песенны фальклёр у сьпевах дзяцей – усё гэта для камуністаў быў „фашызм".

Памятаю, як 20 красавіка 1986 года ў Траецкім прадмесьці ў Менску беларуская грамадзкасьць ладзіла маладзёвае "Гуканьне Вясны". КГБ, Менскі гаркам камсамола, пры падтрымцы гаркама партыі, арганізавалі прыблізна 60 дэмабілізаваных салдат, якія толькі што вярнуліся з савецка-афганскай вайны, і нацкавалі іх на беларускіх дзяцей, удзельнікаў сьвята. „Всё эта фашисты, – павучалі кагэбісцкія інструктары дэмабілізаваных вайскоўцаў. – Для віда ані пают беларускіе песьні, но все разгаварывают на беларускам языке." Банда на вачах гледачоў напала на дзяцей, што вадзілі харавод і гукалі вясну.

Дарэчы, гэтакія акупацыйныя, энкавэдзісцкія ўяўленьні пра палітыку, сьвет і жыцьцё выразна ўвасобленыя цяпер у антыбеларускім аўтарытарным рэжыме на Беларусі.

* * *

Зімой 1989 года Дзяржаўная Камісія па Курапатах вымушана была прызнаць факт сталінскіх расстрэлаў мірных жыхароў у Курапацкім лесе. Але гэта не азначала, што камуністы і НКВД складуць зброю. Вельмі пацешна было назіраць, як камуністы і розныя з камуністаў „дэмакраты" на ўсе лады апісвалі свае ацэнкі Курапатаў, падзеяў, зьвязаных зь іхным дасьледваньнем і адкрыцьцём і ўсяляк пазьбягалі называць маё імя. А адзін афіцыйны журналіст, не зьяўляючыся ні дасьледчыкам, ні гісторыкам, ня маючы ніякага доступу да матэрыялаў, пагартаўшы надрукаванае, напісаў нават цэлы дылетанцкі твор пад назвай „Польскі сьлед у Курапатах", дзе ўмудрыўся ні разу ня ўспомніць пра маё існаваньне, я ўжо не кажу пра

працу, спасылкі і г.д. (Тут трэба праясьніць, што гэбэ гэты трук зрабіла спэцыяльна для Польшчы, дзе я жыў у эміграцыі і дзе мая сям'я атрымала палітычны прытулак. Гэта была нікчэмная спроба зьменшыць маю асобу перад палякамі.)

КГБ ніколі не забываўся пра Курапаты і пра крывавыя справы сваіх папярэднікаў. Яскравы прыклад – Лошыца пад Менскам. На правым беразе ракі Лоша – глыбокі зарослы яр. Тут расстрэльвалі ўвесь час напрацягу 1937 года. У 1988 годзе я некалькі разоў размаўляў са сьведкам Лошыцкіх расстрэлаў спадарыняй Верай Шумскай, якой тады ўжо ішоў дзявяты дзясятак. Вязьняў на расстрэл вазілі крытымі грузавікамі ў шэсьць гадзінаў раніцы і тут жа расстрэльвалі. Закопвалі ў вялікіх ямах. У 1988 годзе, у час археалагічных дасьледваньняў Курапатаў, я вырашыў адначасна дасьледваць Лошыцу. Калі я прыехаў сюды з камандай археолагаў, то не паверыў сваім вачам... Яру не было. Не было вялікіх марэнных узгоркаў, на якіх раней рос яблыневы сад. Не было і саду. Яр, плошчай каля трох *га*, быў засыпаны мокрым галечным жвірам і ўтрамбаваны валкам. Узгоркі ссунутыя бульдозерам у яр, сад высечаны, яблыневыя дрэвы сьцягнутыя ў кучы.

За паўкілёмэтра – кантора прыгараднага калгаса. Старшыня быў вельмі зьдзіўлены, калі даведаўся, што яр засыпаны. Яшчэ два тыдні таму ён быў. Нехта прарабіў тытанічную працу. Потым я даведаўся, што некалькі месяцаў таму гэтую тэрыторыю забралі з калгаса і перадалі ў валоданьне гораду Менску. Горад хуценька пачаў тут рабіць стаянку для машын (на магілах, на касьцях). Цяпер гэта ўсё пакрыта асфальтам, стаяць аўтамабілі, пабудаваная прахадная, у якой сядзіць вечны адстаўнік – былы палкоўнік савецкай арміі, і правярае дакуманты.

Я ўвачавідкі пераканаўся, што калі КГБ трэба, дык і горы скапаюць, і рэкі засыплюць. На гэты раз яны пасьпелі. Дасьледваць Лошыцкія магілы, практычна, ужо немагчыма (пакуль што немагчыма). Засталіся толькі галасы сьведкаў на магнітнай стужцы і Боскі суд для забойцаў.

У 1995 годзе на Дзень задушны і Дзяды актывісты Беларускага Народнага Фронту паставілі тут вялікі драўляны крыж і сьвятары асьвяцілі яго малітвай. Такіх месцаў, як Курапаты, як Лошыца, надзвычай шмат на Беларусі. Мы пра іх ведаем і памятаем пра генацыд.

* * *

У 1992 годзе, праз паўгода пасьля вяртаньня незалежнасьці, у Беларусі пачалі рыхтаваць новую, „цяперашнюю сытуацыю". Уладу стаў захопліваць КГБ, які непасрэдна ўключаўся ў палітыку. У Савеце Міністраў утварылі штучныя неканстытуцыйныя структуры і пасады, якія занялі генэралы і функцыянэры КГБ. Былы прэм'ер Кебіч* і Старшыня Вярхоўнага Савета Шушкевіч паслухмяна ішлі на павадку гэтай рэваншысцкай антыбеларускай палітыкі.

Першы магутны і, я б сказаў, рашаючы ўдар рэваншысцкія сілы нанесьлі беларускаму адраджэньню восеньню 1992 года: нахабна парушылі Канстытуцыю і незаконна забаранілі правядзеньне рэфэрэндуму аб новых выбарах у парлямант. Гэта тады, калі Народны Фронт і ўсе беларускія адраджэнцкія сілы сабралі амаль паўмільёна подпісаў грамадзянаў за рэфэрэндум. Для бруднай працы (фальшывага абгрунтаваньня забароны) быў выбраны дэпутат Д. Булахаў. Але найбольш паспрыяў забароне рэфэрэндуму сьпікер С. Шушкевіч. Тады мы, у дэпутацкай Апазыцыі БНФ, яшчэ ня ведалі пра асабістыя сувязі С. Шушкевіча з КГБ і тлумачылі яго паводзіны асаблівасьцямі яго розуму, у якіх мы да таго часу ўжо добра разабраліся. Цяпер, асабліва пасьля выхаду кнігі Нормана Мэйлера пра Лі Харві Освальда і пасьля зьяўленьня іншых матэрыялаў, артыкулаў, інтэрв'ю, дзе высьвятляецца роля С. Шушкевіча і яго дачыненьняў з КГБ, сытуацыя з забаронай рэфэрэндуму выглядае проста злавеснай.

Забарона рэфэрэндуму ў 1992 годзе зачыніла адраджэнскую пэрспэктыву для Беларусі. З гэтага часу разгортваўся рэванш самых цёмных савецкіх антыбеларускіх сілаў. Знакавымі слупамі гэтага працэсу сталі потым прэзыдэнцкія выбары 1994 года і антыканстытуцыйны пераварот у лістападзе 96-га.

---

* Тады мы ня ведалі, што Кебіч супрацоўнічаў у КГБ і меў афіцэрскае званьне. – *(З.П.)*.

* * *

Камуністам, ветэранам і энкавэдзістам Курапаты былі, як бяльмо ў воку. З пачаткам палітыкі энкавэдзісцкага рэваншу трэба было чакаць захадаў па зьнішчэньні Курапатаў. Так яно і атрымалася. Першымі залемантавалі камуністы-сталінцы, цьвёрдыя бальшавікі. Яны пачалі адмаўляць сталінскія расстрэлы, сьцьвярджаць, што такога не было і што ў Курапатах немцы, маўляў, расстралялі габрэяў. Тое, што гэта звычайная камуністычная выдумка і глупства, ведалії і ў пракуратуры, і ў сьледстве, і ў Акадэміі Навук, і ў вёсцы Цна. Тым ня менш С. Шушкевіч падпісаў рашэньне аб праверцы вынікаў дасьледваньняў. Зноў усчалі сьледства.



*15. Студзень 1994 г. Візіт прэзыдэнта ЗША Уільяма Клінтана ў Курапаты. Зьлева У. Клінтан, справа З. Пазьняк.*

Мяне ўвогуле ўвесь гэты тлум ужо амаль не цікавіў, бо я ведаў, што хто б ні стараўся сфальшаваць падзеі ў Курапатах, у яго нічога не атрымаецца. Зрабіць чорнае белым было немагчыма. Калі злачынцы ці іх нашчадкі пачынаюць шумець, каб апраўдаць ці абяліць мінулае, яны тым самым толькі топяць сябе, хочучы ці ня хочучы, прылучаюцца да злачынства. Але ім здаецца, што яны ўсіх ашукаюць. У народнай творчасьці аднак бытуе шмат прыпавесьцяў, кшталту пра дурнога вераб’я, які, дзе ня трэба, чырыкаў. Фінал вядомы.

Бальшавікі сабралі мноства дылетантаў, падстаўных сьведак і проста ненармальных людзей, пасьля чаго, вобразна кажучы, пасадзілі сябе ў лужыну. Новае сьледзства пацьвердзіла вывады пра Курапаты.

Але цьвёрдыя бальшавікі зноў пайшлі ў атаку. Вынік зноў быў такі ж самы. З усталяваньнем дыктатуры яны рушылі ў наступ яшчэ раз пры падтрымцы рэжыму. Цяпер, калі энкавэдзісты захапілі ўладу ў Беларусі, ім адчыніліся, як яны думаюць, шансы ўсё забараніць і ўсё вярнуць.

Яны яшчэ больш, чым раней, сталі дэманстраваць адкрыта зьняважлівыя адносіны да Курапатаў. Вывернулі і пахілілі Крыж Пакуты, пазьбівалі надпісы і ўказальнікі, панакідалі сьмецьця, сталі выводзіць на месца расстрэлаў выгульваць сабак, а ў магільных ямах зноў разьмясьціліся аматары пікнікоў, выпіць і закусіць, пасмажыць шашлыкі.

Памятаю, зімой 1994 года, у час спатканьня ў Курапатах, прэзыдэнт ЗША Клінтан спытаў у мяне:

– А чаму мясьціна, якая павінна быць сьвятой, у недагледжаным выглядзе?



*16. 2009 год. „Рэжымны люмпен” на магілах у Курапатах смажыць мяса на вогнішчы. Характэрныя тыпажы.*

– Таму што ў Беларусі кіруюць спадкаемцы тых, што тут забівалі, – адказаў я.

Летам 1995 года мы ішлі па Курапацкім лесе з Уладзімерам Коласам. Падыйшлі да „шашлычнай групы”. Вогнішча расклалі проста на магіле. Аб’едкі, сьмецьце. Муж і жонка, двое дзяцей. У вочы не глядзяць. Пазналі. Грае магнітафон.

– Ці ведаеце, дзе вы знаходзіцеся? – Маўчаць. Я паўтарыў пытаньне.

– А что?

– Гэта Курапаты.

– Ну і что?

– Грэх паліць вогнішча і весяліцца на магіле расстраляных. – Зноў маўчаць.

– Чаму вы гэта робіце?

– А куда нам девацца, куда? – злосна залемантавала раптам пасьля доўгага маўчаньня маладзіца. – Вот мы пріехалі із Калініна, а что мы імеем? Муж афіцэр, а сколька он палучает! Так нам ужэ і выйті нікуда нельзя, да? Верховнаму Савету толька Курапаты і нада, а что вы нам далі?

Маладзіца схапіла меншае дзіця, што якраз вылезла з магільнае западзіны і падкруцілася пад рукі, і стала яго дэманстратыўна цалаваць, абдымаць, ахінаючы рукамі, нібы абараняючы ад некага.

– Вы там в Верховнам Савете толька а власті гаварыте, а народу кушаць нечева, – прадаўжала афіцэрская жонка, соваючы дзіцяці „сьнікерс”, – і ваабшче, здесь пахаронены евреі, а вы хатіте всех рускіх выселіть в Расію, – скончыла яна.

Вось ён, думаю, тыповы род людзей, тыповыя паняцьці і тыповыя паводзіны. На іх ідэальна кладзецца камуністычная прапаганда. Расейскі тып абываценя – нікога не паважаць і ўсюды гадзіць.

Я ўвогуле ўсур’ёз неяк ніколі не задумваўся над зьместам расейска-бальшавіцкай прапаганды аб тым, што Пазьняк будзе „высяляць”, „ве-



*17. Валеры Буйвал фатаграфуе суб'екта ля вогнішча ў Курапатах, які засланяецца ад аб'ектыва бутэлькай піва.*

шаць", „страляць", „саджаць", „забіваць" усіх рускіх, усіх ветэранаў і ўсіх камуністаў. Элемэнтарны аналіз паказвае, аднак, што гэтакая прапаганда ёсьць агрэсія страху забойцаў і вінавайцаў, усіх, хто непасрэдна ці ўскосна меў дачыненьні да злачынстваў камунізму. Таемнае стала адкрытым, і спраўцы перапалохаліся. Спалохаліся адказнасьці. Ім здалося, што за зробленае іх будуць караць, і яны, шукаючы абароны, тут жа залемантавалі, што хоча тое зрабіць асабіста іхны, як яны лічаць, самы страшны вораг, які выявіў і засьведчыў злачынствы бальшавікоў.

Пра маштабы гэтае прапаганды казаць няма сэнсу, бо яна вось ужо скора дзесясь гадоў вісіць у паветры, як смог. Аднак назіраньне за яе мэтадамі і зьместам умацоўвае пераканаshowньне, што ўсяго таго, чаго так баяцца злачынцы і іхнія абаронцы, ім трэба адмераць спаўна: ад суду над спраўцамі злачынстваў да грамадзкай пагарды людзей.

Іх вельмі шмат на Беларусі. Гэтых скручаных ад нянавісьці да нашай краіны асаднікаў, прысланых некалі з Расеі, каб расстрэльваць, бэсьціць, душыць, паскудзіць і забіваць. Памятаю, я быў уражаны, калі даведаўся, якую астранамічную суму з бюджэту выплочвае наша дзяржава пэнсіянерам МУС і НКВД. Яны атрымліваюць у 2-3 разы большыя пэнсіі, чым беларусы, і ненавідзяць усё беларускае з азьвярэласьцю шалёных сабак. (Што я назіраў, між іншым, сотні разоў.)

Гэтыя службісты, пасьля выслугі гадоў дзе-небудзь у Магадане ці якім-небудзь Краснаярску, мелі права, згодна савецкіх законаў, пасяліцца на пэнсію ў вызначаных месцах, менавіта: у Эстоніі, Малдове, Заходняй Украіне і ў Беларусі. Выбіралі, як правіла, Беларусь. „Народ де хорошый, прыветлівый. І нацыяналізма нет."

Бальшавіцкая імпэрыя аблягчала свой бюджэт, высылаючы на пракорм у Беларусь самую шалё-

ную катэгорыю русіфікатараў, зьмяняла тым самым і дэмаграфічны склад насельніцтва. (Што, дарэчы, згодна міжнародных законаў, зьяўляецца злачынствам супраць людзей.) Адстаўнік-русіфікатар з Магадану, што выбіраў месцам жыхарства Беларусь, мог пасяліцца з усёй сям'ёй у любым месцы і ў любым горадзе нашай краіны. Яму абавязаны былі тут жа выдзеліць кватэру, працаўладкаваць (звычайна, у аддзел кадраў) і даць усе ільготы.

Скончыўшы дасьледваньні Курапатаў, як і ў любой сур'ёзнай справе, я не сказаў усё, што ведаю. Пакінуў запас дзеля нягоднікаў. Ужо ў першай жа (шушкевічаўскай) рэвізіі Курапатаў шмат хто аскандаліўся на хлусьні. У наступнай, ужо лукашэнкаўскай рэвізіі, камуністы ганебна пагарэлі з канцэптуальнасьцю сваей ілжы, якую яны збудавалі на ўяўных габрэйскіх расстрэлах.

Даказаць недаказваемае немагчыма. Таму камуністам-сталінцам важна было хоць бы пасеяць сумненьні ці выклікаць спрэчкі, і тым самым зьнізіць значэньне мясьціны сталінскага генацыду. Легенда пра расстраляных габрэеў ніяк не стыкавалася з інфармацыяй, матэрыяламі і фактамі дасьледваньняў. Гэта, аднак, не бянтэжыла бальшавікоў. Сэнс быў якраз ў лямантце, і яны лямантавалі.

Неяк спаткаў я доктара гістарычных навук спадара Ліцьвіна, які вывучаў пэрыяд вайны. Ён мне і кажа, што камуністы шумяць пра расстрэлы габрэяў, пішуць паперкі.

– А вы парайце ім зьезьдзіць у Трасьцянец, дзе немцы расстралялі тысячы габрэяў разам зь беларусамі, – кажу я.

– І што?

– А тое, што ўжо пяцьдзесят гадоў марадзёры-далакопы раскопваюць і паскудзяць гэтыя агульныя магілы, а побач – камуністы зрабілі гарадзкую звалку. І нічога – ім ня пахне і не баліць – жывыя. Можаце пачытаць таксама іхнія сантымэнтальныя буклецікі пра Трасьцянец, куды яны ніколі не зазіраюць.

– Это другое дело, – кажа доктар Ліцьвін.

– А хочаце, я вам пакажу трэцяе, – кажу я. – Месца зьнішчэньня габрэяў непадалёк ад Курапатаў.

Мы селі ў машыну і паехалі. Я ведаў, што на адлегласьці шасьці-сямі кілёмэтраў ад Курапатаў, у бок Калодзішчаў, існаваў у час вайны лягер, куды немцы звозілі габрэяў і тут жа іх зьнішчалі. Мне казалі, што там было іх забіта вельмі шмат. У 1988 годзе, калі я пачаў абсьледваньне гэтай мясьціны, я нечакана натрапіў сярод поля, ў кустах, непадалёк ад дарогі, на мэмарыял – пляцоўку, вымашчаную сенажнай пліткай. Пасярэдзіне пляцоўкі стаяў нізкі бэтонны помнік з памятным надпісам пра зьнішчэньне людзей. Гэтага мэмарыялу я не знайшоў у сьпісах помнікаў і памятных мясьцінаў вайны. З выгляду – помнік пастаўлены не раней 60-х гадоў.

Цікава было назіраць за доктарам Ліцьвінам, калі я яго прывёз у тую мясьціну. Ён быў зьбянтэжаны, бо нічога ня ведаў пра існаваньне гэтага помніка; у літаратуры зьвестак пра яго ён таксама не сустракаў. Адным словам, забыты мэмарыял.

* * *

Што здарыцца зь беларусамі, калі забудуцца пра Курапаты? (Я казаў у пачатку пра знакавае значэньне гэтага месца ў жыцьці Беларусі.) Ці будзем мы ўвогуле тады нацыяй? На што больш страшнае і больш сымвалічнае можна яшчэ нам забыцца, каб духоўна памерці навек? І што ёсьць у нашай памятнай гісторыі больш пакутніцкае і больш жахлівае, чым ленінска-сталінскі генацыд?

Калі я некуды прыяжджаю, ці ў вёску, ці ў горад, я імкнуся паглядзець могілкі. Гэта ня толькі памятная кніга паселішча, гэта гісторыя і аблічча яго людзей. У падсавецкай і пасьлясавецкай Беларусі гэтае „аблічча" ёсьць шмат дзе зарослае кустамі, крапівой, з пазьбіванымі крыжамі і разбуранымі абэліскамі, закіданае смецьцем; прыстанішча п'яніц і зьдзічэлых катоў.

Вось ужо дзесяць гадоў па начах, а то і днём, нейкія людзі раскопваюць магілы ў Курапатах. Яны сквапна перабіраюць пакутныя косьці, дзіравыя боты на стаптаных абцасах, галёшы, самаробныя бахілы – рэшткі бедных людзей. Іх перад расстрэлам не абрабавалі нават энкавэдзісты, бо ведалі, як пісаў іхны бальшавіцкі паэт: „Нищие, что с вас сжулить?"




***18. 19-га чэрвеня 1988 года. Масаве шэсьце на першы мітынг у Курапаты, арганізаваны „Талакой”. (Фота з калекцыі С. Абламейкі).***

Аж не, знайшліся нашчадкі, што абкрадуць нават труп жабрака, выцягнуць ягоны шкілет з пакутнае брацкай магілы.

Тут я не зьбіраюся абагульняць. Раскопваюць магілы псіхічна хворыя на нэкрасындром і падонкі. Але ж робіцца гэта ўсё, як і смажаньне шашлыкоў, на віду ў людзей вось ужо дзесяць гадоў падрад. Усе мае захады, пачынаючы з 1988 года, да міліцыі, пракуратуры, у міністэрствы, да мясцовых органаў улады з патрабаваньнем выявіць злачынцаў і спыніць раскопваньне магілаў, ні да чаго не прывялі. Тыя, да каго я зьвяртаўся, нічога не хацелі і ня хочуць рабіць.* Але гэта б было паўбяды, калі б грамадзтва паводзіла сябе інакш, чым паводзіць улада. На жаль, паводзіны аднолькавыя. І гэта трэба выпраўляць.

Мне здаецца, што не было ў нас больш няшчасных людзей, чым людзі з пакаленьня 20-х – 30-х гадоў, якое трапіла пад генацыд. Іхняе жыцьцё – гэта пекла на зямлі, несправядлівасьць і сатанінская жорсткасьць, якая перасьледуе іх нават пасьля сьмерці. Гэта рок, пракляцьце маўклівых. Яно ня скончыцца, пакуль ня будуць пакараныя забойцы, пакуль не разбурыцца іхняе царства, не зруйнуюцца вавілёнскія вежы.

Тут, на Беларусі, яны захаваліся: і Берасьцейская крэпасьць, і вуліцы з імёнамі бандытаў, і савецкія танкі на пастамэнтах.

Міхась Дубянецкі расказваў мне, як яго бацька Хведар сядзеў у Берасьцейскай крэпасьці, дзе была страшная турма НКВД. Расказваў, як дапытвалі, як вазілі на расстрэл. 22 чэрвеня 1941 года, калі немцы ўдарылі па Берасьці, узьнікла паніка. Вязьні пачалі разьбягацца, і азьвярэлыя энкавэдзісты расстрэльвалі іх з наганаў. Хведар Дубянецкі, уцякаючы ў натоўпе, выбег якраз на энкавэдзіста. Той наставіў у яго рэвальвер.

– На хлеб, на! – закрычаў з папрыску Дубянецкі, і сунуў у рукі забойцу кавалак турэмнага хлеба. Хвіліна замяшаньня – і Дубянецкі праскочыў на выхад. Энкавэдзісты перастралялі вязьнеў, колькі здолелі, але самы апынуліся ў пастцы, бо немцы занялі горад.

---

* У 2008 годзе дзяжурныя па Курапатах сябры КХП-БНФ злавілі ноччу двух вандалаў, якія ламалі крыжы, і выклікалі міліцыю. Пракуратура распачала сьледчыя дзеяньні. Вандаламі аказаліся дзеці гэбістаў. Пракуратуры загадалі спыніць справу. – *(З.П.)*.

Ім удалося потым выбрацца з казематаў, пасьля чаго і быў створаны прапагандысцкі міф пра „гераічную” абарону Берасьцейскай крэпасьці савецкім гарнізонам. Турму НКВД назвалі „Брестская крепость-герой”.

* * *

Як ня дзіўна, але самыя цяжкія душэўныя пакуты ў сувязі з Курапатамі я перажыў у 70-х гадах. Камуністычная ноч тады здавалася бясконцай. Ішлі гады, і горад спакваля будаваўся, падступаў да расстрэльнага лесу. Трывога, што страшная памяць пра мардаваньне нацыі намарна згіне, перапаўняла і прыгнятала мяне. Я не знаходзіў тады ні месца, ні спакою. Паматаю, неяк гаварылі са Шмыгалёвым, каб неўпрыкмет паставіць там крыж.

У бяссонныя ночы мне часта марылася, што скончыцца камуна і ўсе даведаюцца пра магілы. Мне ўяўлялася, як тысячы людзей у жалобе нясуць на руках праз увесь горад вялікі пакутніцкі крыж. Прыносяць і ставяць яго ў тым лесе над магіламі расстраляных. Усе даведаліся, і ўвесь народ здрыгануўся. Гэтая карціна, нібы сон, доўгія гады жыла ва ўяўленьні.

Рэдка такое бывае ў жыцьці, але гэтае ўяўленьне ажыцьцявілася. У 1989 годзе восеньню на Дзяды дзясяткі тысячаў людзей, моц народу, з харугвамі і беларускімі Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі пранесьлі праз увесь горад ад Усходніх могілак і да Курапатаў сямімэтровы Крыж Пакуты. Яго ўкапалі і паставілі пад гукі жалобнага рэквіема, і словы малітвы зьліваліся з шумам дрэў.

Якімі я ўяўляю мэмарыяльныя Курапаты? Маё ўяўленьне простае, разьлічанае на духоўны рост беларускай нацыі. Ня будзе росту – ня будзе і мэмарыяльных Курапатаў. Я ўяўляю, што кожны беларус, кожны чалавек, які ў нейкім пакаленьні роду пацярпеў ад расейскага камуністычнага генацыду, ці проста кожны той, хто мае сэрца і веру, жаласьць і любоў да свайго народу, той хай прыносіць у Курапаты свой крыж і ставіць яго, дзе захоча. Я ўяўляю мэмарыяльныя народныя Курапаты, дзе над магіламі сасновы лес дрэў і лес рукатворных крыжоў. Калі ідзеш ад шашы па дарозе ўгару да магілаў – паабапал калюмны крыжоў. Іх тысячы, іх дзясяткі, сотні тысячаў, прынесеных беларусамі і ўкапанымі ў пакутнаю, палітую нявіннай крывёю зямлю. Яны стаяць паабапал Дарогі Сьмерці: крыжы-людзі, крыжы-беларусы зь імёнамі расстраляных, забітых, замучаных продкаў, што сабраліся тут перад Страшным Судом.

Кожны нясе сюды свой крыж. Колькі яго прыдзецца несьці кожнаму? Год? Два? Ці, можа, пятнаццаць? Ці цэлую вечнасьць?

Колькі яго прыдзецца несьці ўсім?.. Невядома.

Пакуль што ў Курапатах чатыры крыжы. Чатыры крыжы...*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Сьнежань 1998 г.*
*Надрукавана: (Беларускія Ведамасьці, – (№3 (13)/1998), (№4 (14)/1998), (№5(15)/1998), (№6(16)/1998), (№7(17)/1998), №1(18)/1999).*

* Пачынаючы з 2000-га года, па ініцыятыве і пры непасрэднай працы, апякунстве і куратарстве Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ у Курапатах створаны Народны Мэмарыял, пра які напісана ў гэтым артыкуле. Ужо стаіць каля тысячы крыжоў – *(З. П.)*.



***19. Курапацкі крыж.***




(Фота Ул. Кармілкіна).

*20. Дзяды 1991 г. Мэмарыяльная дошка, усталяваная Народным Фронтам на мурах будынку КГБ у Менску ў час мітынгу БНФ перад пачаткам шэсьця ў Курапаты. Шыльда вісела некалькі дзён, і людзі ўвесь час сьцераглі яе.*



*21. Верасень-кастрычнік 2001 года. Бульдозерны наступ на Курапаты.*

# ЭПІЗОДЫ ЗМАГАНЬНЯ

За апошнія 20 гадоў (час Незалежнасьці Беларусі) сродкі масавай інфармацыі, якія кіруюцца лібэральнымі стэрэатыпамі ў падачы інфармацыі, стварылі, як мінімум, дзьве вялікія містыфікацыі гістарычных падзеяў (і безьліч розных малых), якіх не было ў сапраўднасьці альбо якія былі іншымі. Гэта найперш – велізарная, неверагодная, фантасмагарычная ілжа пра так званыя „альтэрнатыўныя выбары прэзыдэнта" ў 1999 годзе, дакладней, пра быццам бы ўсеагульнае масавае галасаваньне на гэтых „выбарах", якога ў рэальнасьці не было. Галоўны выдумшчык – нейкі Карманаў з радыё Свабода (які браў ілжывую інфармацыю ў В. Ганчара) – быў, праўда, звольнены за гэта з працы, але факт ёсьць фактам, годным рэкорду Гінэса.

Другі выпадак – гэта містыфікацыя і стварэньне бачнасьці рамантычнай абароны Курапатаў групай маладзёнаў у канцы 2001 – пачатку 2002 гадоў, названых „валанцёрамі", калі рэжым будаваў аўтастраду праз Народны Мэмарыял. Тут зьява больш складаная, бо факт быў і прысутнасьць маладзёнаў таксама. Толькі ўдзельная вага іх у вялікай працы, роля, функцыя і выніковасьць былі зусім іншымі, чым падавалася ў так званых „незалежных" СМІ, бо інфармацыя ствыралася імі па законах журналісцкага жанру і прыдуманага вобразу, далёкага ад сапраўднасьці і ад рэальнай сутнасьці падзеяў.

Увогуле трэба разумець, што любыя СМІ (ці таталітарныя ці дэмакратычныя) ствараюць свой інфармацыйна-ацэначны інтэрпрэтацыйны сьвет, які розьніцца ад сьвету рэальнага часам настолькі моцна, што рэчаіснасьць робіцца непазнавальнай.

Пры дасьледчыцкім (навуковым) падыходзе СМІ ня ёсьць крыніцай даверу, аднак выступаюць пабочным матэрыялам, які ўплывае на ацэнкі і масавыя ўяўленьні (часта памылковыя). Але рана ці позна, да рэальнасьці трэба вяртацца ня толькі дзеля мінуласьці, колькі дзеля таго, каб, выйшаўшы з сьляпога завулка, бачыць сапраўдны шлях.




***22. Панарама змаганьня за Мэмарыял.***

Змаганьне за Курапаты і за абарону Курапатаў – гэта, найперш, барацьба з КГБ, з агентурай КГБ і „лубянскай" Расеяй, са спадкаемцамі тых, што тварылі генацыд.

Толькі ведаючы і разумеючы гэта, можна зразумець сэнс і зьмест падзеяў, што разгортваюцца вакол Курапатаў.

Барацьба за існаваньне Курапатаў пачалася з першага дня адкрыцьця гэтага трагічнага месца ў 1988 годзе і працягваецца па сёньняшні дзень. У новым стагоддзі былі два крытычныя выпадкі, якія агулам пагражалі Народнаму Мэмарыялу. Гэта праект і пачатак будаўніцтва побач з Курапатамі так званага „горада сонца" – элітнага жылога раёна з усімі выгодамі (у рэкляме пісалі, што побач „лесной массив" і „экологически чистая зона").

Дрэньства гэтага пляну вельмі вымоўнае. За такімі праектамі, як правіла, нехта стаіць. Заплечныя стратэгі меркавалі напусьціць на могілкі багаты люмпен зь іх „адвязанымі" „отпрысками" і пародзістымі сабакамі. Тут ужо справа аднымі вогнішчамі і шашлыкамі не абыйшлася б. Камуна-гэбісцкая мэтодаператварэньня сьвятых месцаў у сьметнік, у звалку і „адхожае месца" добра вядомая, імі напрацаваны вялікі вопыт.

Надзвычайнымі высілкамі, жорстка трымаючыся закону, фронтаўцам КХП-БНФ, спэцыялістам і неабыякавай грамадзкасьці ўдалося спыніць правакацыйнае будаўніцтва, ліквідаваць будаўнічую пляцоўку і выдаліць авантурыстаў з ахоўнай зоны Курапатаў.

Другі выпадак (які па храналёгіі быў першым) – гэта пракладка аўтастрады праз Курапаты („лукабана", як ахрысьцілі тады гэтую афёру). Фактычна, пракладку дарогі праз Курапаты зрабілі яшчэ камуністы ў пачатку 60-х гадоў (тады выкінулі з магіл шмат чалавечых касьцей; саветы замаўчалі гэты факт). Потым, калі ўжо былі адкрыты Курапаты, у 1988 годзе, саветы вырашылі пашырыць дарогу ў гэтым месцы. Але наступныя палітычныя падзеі пачаліся такія, што нічога з таго ня выйшла. Калі ж усталяваўся антыбеларускі рэжым Лукашэнкі і ўмацаваўся КГБ, тады ўжо нашчадкі саветаў зноў вярнуліся да пашырэньня дарогі праз Курапаты. Пад гэтую марку яны хацелі вынішчыць добры кавалак Мэмарыялу. Але задумкі разбуральнікаў былі



*23, 24. Стыль рэжымнага наступу ў Курапатах: наперадзе „амон", за „амонам" – бульдозеры.*

прадказальнымі. Зразумела, што трэба было іх спыніць (ці хаця б абмежаваць).

Падрыхтоўка будаўніцтва аўтастрады пачалася вясной-летам 2001 г. Мы, фронтаўцы, успрынялі гэта як агрэсіўную рэакцыю рэжыму на стварэньне Народнага Мэмарыялу Курапаты, якое пачалося ў 2000-м годзе сіламі КХП-БНФ і ўсёй зацікаўленай беларускай грамадзкасьці.

Фронтаўцы тады адразу ўключыліся ў змаганьне за Мэмарыял, якое вялося на адміністрацыйна-законаісным узроўні. Было напісана шэраг лістоў ва ўстановы і органы ўлады, а таксама звароты да грамадзкасьці.

Улады рэжыму стараліся ігнараваць усе нашыя лісты, аргумэнты і патрабаваньні, і неўзабаве прыступілі да агрэсіўных дзеяньняў у Курапатах.

Бульдозерны наступ на Мэмарыял пачаўся 20 верасьня 2001 года, неўзабаве пасьля так званай „элегантнай перамогі" на прэзыдэнцкіх выбарах (грубай фальсіфікацыі і беззаконьня) А. Лукашэнкі.

У гэты ж дзень сябры КХП-БНФ і стваральнікі Мэмарыялу „Лес крыжоў" былі ў Курапатах перад бульдозерамі і самазваламі. Адразу дарожныя працы ўдалося затармазіць, пагаварыўшы з рабочымі і патлумачыўшы, у якую справу іх уцягнулі. У наступныя дні арганізатары вандалізму зьмянілі менскіх рабочых і кіроўцаў. На іх месца прыслалі брыгады з Магілёва. Тыя ня ведалі нічога.

Мне таксама тады прыходзілася шмат пісаць лістоў у міжнародныя арганізацыі з просьбай выказаць салідарнасьць і дапамагчы абараніць ад зьнішчэньня магільнік савецкага генацыду. Дапамога ад гэтых „арганізацыяў" была больш інфармацыйная. Але і гэта добра. Рэальна беларусы бараніліся самы. З Генэральным дырэктарам ЮНЭСКА спадаром Коіціра Мацуура, якому я напісаў прасторны ліст, увогуле адбыўся анекдатычны выпадак. Чыноўнік адказаў мне, што ён узрушаны і прыкладзе ўсе намаганьні, каб абараніць Курапаты ад зьнішчэньня, і нават дзеля гэтага ўжо заплянаваў паездку ў Менск.

Спадар Коіціра Мацуура сапраўды прыехаў у Менск, меў спатканьні ў розных міністэрствах, з Лукашэнкам і ў Адміністрацыі Лукашэнкі, дзе



яму ўсё патлумачылі, і ён, задаволены, нават не заязджаючы ў Курапаты, вярнуўся дахаты ў Парыж ў штаб-кватэру ЮНЭСКА. (Гэта, дарэчы, даволі тыповыя паводзіны заходняй бюракратыі; такая ў іх мэнтальнасьць, і пра тое трэба ведаць.)

Сутычкі з вандаламі рабіліся ўсё больш жорсткімі. Фронтаўцы не давалі пад'язджаць самазвалам і рухацца бульдозерам, вырывалі меткі пад дарожнае палатно і на іх месца ставілі вялікія крыжы, як азнакаваньне магілаў і тэрыторыі Мэмарыялу. Вандалы выклікалі міліцыю і „амон". Пачаліся хапаньні і фізічныя штурханьні.

Абставіны накаляліся. Фронтаўцы зьвярнуліся да грамадзкасьці па дапамогу.

Дзесьці на чацьверты-пяты дзень зьявілася дапамога – група маладых людзей і журналістаў. І вось тут узьнікла вялікая складанасьць, якая пры няправільных дзеяньнях і адсутнасьці вытрымкі магла б сапсаваць усю справу, спрафанаваць абарону Мэмарыяла і проста ўсё праваліць.

Маладзёны аказаліся людзьмі, мякка кажучы, малакіруемымі. У іх была нейкая свая праграма. Для іх гэта ўсё, відаць, выглядала прыгодай, рамантыкай: сядзеньне ў намёце, паленьне вогнішча, бясконцыя інтэрв'ю журналістам. Імгненна ўтварыўся журналісцкі твор-легенда пра маладых валанцёраў-абаронцаў, пасыпаліся лісты падтрымкі і пахвальбы ад розных мясцовых і замежных вядомых людзей і г. д. – усё па канонах лібэральных СМІ і стварэньня інфармацыйных падзей. Словам, пачаўся мэдыйны вэрхал, які меў, трэба сказаць, свой істотны станоўчы бок у тым, што прыцягнуў увагу грамадзкасьці да праблемы ў Курапатах, але адначасна прафанаваў саму інфармацыю і падзеі (якія былі тым часам вельмі сур'ёзныя).

Адначасна з стаўленьнем крыжоў і арганізацыяй абароны, вялікая праца вялася фронтаўцамі па ўдакладненьні і зацьвярджэньні ахоўнай зоны Мэмарыяла. Тут шмат стараньня і прафэсіяналізму ўклала Мая Тодарўна Кляшторная.

Фронтаўцы разумелі, што нельга было прынізіць працу патрыётаў па абароне Мэмарыялу, дапусьціць неканструктыўнасьць і несур'ёзнасьць, даваць волю правакатарам і паказушным ініцыятывам.

Заахвоціць „маладзёнаў-валанцёраў”, якіх стваралі СМІ, рабіць нешта патрэбнае, цяжкае і неабходнае, было клапатліва і няпроста. Нават прымусіць прытрымліваўца гігіены месца і чысьціні тэрыторыі не заўсёды ўдавалася. Фронтаўцам прыходзілася прыбіраць за імі сьмецьце, паперы пад Крыжам (і нават нечыстоты) ды пастаянна непакоіцца, каб яны чаго кепскага не натварылі.

Мушу зазначыць, што там сабраліся розныя асобы, з рознымі задаткамі. Трэба ўлічваць, што ўсе яны былі маладымі і пэдагогіка з фронтаўскага боку тут была таксама ня лішняй (зь імі размаўляў нават сьвятар). Але ў цэлым усё гэтае „валанцёрства” выглядала непрадказальным і чужародным. Сьвятое месца і прыклад старэйшых фронтаўцаў, якія працавалі ў Курапатах, вымагалі іншых адносінаў і іншых паводзінаў зь іхняга боку.

Насьцярожыла таксама тое, што ў Курапаты зачасьціла (добра вядомая ў палітыцы, дарэчы) „знаёмая” канторская агентура. Зьявіліся нават некаторыя асобы, раней выключаныя з Фронту за неадпаведныя паводзіны (якія да гэтага і ў Курапатах наўрад ці былі).

Сцэнар, які яны разыгрывалі перад фронтаўцамі і перад СМІ (а дакладней, разам са СМІ) быў ужо знаёмы і зразумелы. Як толькі ў 1999 годзе пры дапамозе Ганса Віка і КГБ была ўтварана кантралюемая псэўдаапазыцыя, мы пастаянна сталі бачыць такія „пастаноўкі” і рэжысуру. Ставілася задача з’імітаваць бурную дзейнасьць, разам з журналістамі стварыць інфармацыйную падзею ў СМІ і „перахапіць” справу абароны Курапатаў у свае рукі, стварыць фантом дзейнасьці, спрафанаваць задачу, асьмяшыць сытуацыю, наладзіўшы тэатралізаваны балаган, і ў канцовым выніку разбурыць Народны Мэмарыял „Лес крыжоў”, адвярнуць людзей ад справы Курапатаў, абнізіць сьвятасьць гэтага месца, пагадзіцца з рацыяй дарогі праз магілы народа. Дзеля гэтага былі скарыстаныя маладзёны (іх, аказваецца, часам нехта нават падплочваў) і „незалежныя журналісты”.

На нейкім этапе цярпеньне фронтаўцаў скончылася, і яны неабдумана самы ледзь ні сапсавалі сваю вялікую і ахвярную працу, калі спантанна на паседжаньні Ўправы КХП-БНФ прынялі рашэньне скончыць гэты балаган і выдаліць імітатараў. Прынялі заяву Ўправы, дзе аб’ектыўна, справядліва, але ў жорсткім стылі была апісана сытуацыя і прынята рашэньне пра наступныя дзеяньні Фронту, якія з гэтага вынікалі. Тэкст зьявіўся ў Сеціве. Доўга ён, праўда, не правісеў. Я разумеў, што гэта памылка, таму тут жа па тэлефоне мы абмеркавалі сытуацыю з кіраўніцтвам Управы і прышлі да агульнага разуменьня аб пасьпешнасьці і непрадуманасьці такой заявы ў тых умовах. Заяву адклікалі.

А ўмовы былі такія, што прывабны мэдыйны фантом „валанцёраў”, „маладых абаронцаў”, якія начуюць у намёце і „сьцерагуць” Курапаты, быў ужо створаны, распаўсюджаны па сьвеце і станоўча ўспрыняты. Перабіць гэты фантом на той час ужо было немагчыма. (Тут адной праўды мала, мусіла быць яшчэ сіла і падтрымка грамадзкасьці). Ды й па сутнасьці не было ў гэтым абавязковай патрэбы, таму што на справе гэтая прыдуманая, прыгожа апрацаваная легенда пра „валанцёраў” у пэўнай ступені спрыяла фармаваньню грамадзкай думкі ў падтрымку захаваньня Курапатаў.

Агентура і журналісты ўзьнялі шум вакол „маладых герояў” у „намёце” і вакол розных арганізацыйных імітацыяў ды крыкуноў, але працоўны кантроль над Курапатамі і рэальная праца была ў руках фронтаўцаў КХП-БНФ. Таму рэальным працаўнікам ў Курапатах ня трэба было ствараць сытуацыю, каб мэдыйныя бурбалкі пасыпаліся на КХП-БНФ за тое, што, маўляў, пакрыўдзілі „герояў”. Час быў страчаны. У тым становішчы трэба было цярпліва ўспрымаць іхныя паводзіны, кантраляваць дзеяньні, заахвочваць да пазытыўных справаў і калі б такія справы былі – адзначыць. Усё ж такі гэта яшчэ не зусім дарослыя людзі. Тут не павінна было быць просталінейных падыходаў. Для нас (у той сытуацыі) галоўнае – захаваць Курапаты і Народны Мэмарыял. Пена зьнікне, а Мэмарыял застанецца.

Фронтаўцы так і зрабілі. У той час я напісаў ліст, дзе ў агульных словах выказаў падтрымку маладзёнам за іхную пазыцыю і ўдзел на баку абароны Курапатаў.



(Фота Юры Беленькага).

*25. Уладзімера Юхо з крыжам прывезьлі ў „хапуне” і вядуць у рэжымны суд.*



*26. Сяргей Папкоў у Курапатах. Робіцца чарговы крыж. Кастрычнік 2001 г.*




*27. Таццяна Цяцёркіна зьбірае сродкі на курапацкія крыжы.*

Скончылася гэтае тэатралізаванае чуваньне „валанцёраў” дрэнна. Дзесьці ў траўні 2002 года намёт згарэў і „валанцёры” зьніклі. Журналісты ж адлюстравалі сваё бачаньне падзеяў у асобнай кніжцы, дзе зьмясьцілі шмат чаго цікавага, асабліва з катэгорыі розных выступаў і казаньняў. Толькі тое яно і засталося. І што характэрна – больш тых імітатараў і казнадзеяў ні ў Курапатах, ні каля Курапатаў ніколі ня бачылі.

2001, 2002 і 2003 гады сталіся для фронтаўцаў найбольш выніковымі і адказнымі ў справе арганізацыі і разбудовы Народнага Мэмарыялу Курапаты. Сябры КХП – БНФ працавалі, практычна, кожную суботу, зьбіралі грошы на крыжы, рабілі сталярку, укопвалі крыжы, касілі траву, высякалі хмызьняк, падмяталі тэрыторыю.

Разбуральнікі („будаўнікі дарогі”) тым часам living рознымі мэтадамі рабілі атаку за атакай на Курапаты. Фронтаўцы пастаянна іх адбівалі, трымаючы вуха чуйна, а вока востра.

22 ліпеня (2002 г.), напрыклад, калі дзяжурная група КХП-БНФ на чале з Сяргеем Папкавым прышла ў Курапаты, то ўсе ўбачылі, што ад дарогі (ад вадасьцёкавай трубы) да Курапацкага Крыжа выкапаны шырокі і глыбокі роў мэтраў на 30-40 у даўжыню. Акурат якраз там яшчэ капаўся экскаватар, побач ляжалі трубы вялікага дыямэтру.

Подласьць вандалаў ашарашыла фронтаўскіх людзей. Разбуральнікі выкапалі траншэю, каб ськіраваць сьцёкавыя воды на сьвятое месца пад Курапацкі Крыж і зрабіць там балота і твань.

Першым чынам фронтаўцы прагналі экскаватаршчыка з агрэгатам (прысароміўшы яго). Потым узялі рыдлёўкі і пачалі засыпаць траншэю ўручную. 15 фронтаўцаў працавалі без перапынку цэлы дзень да позьняе ночы і закапалі роў.

На працягу дня на тэрыторыю Мэмарыялу некалькі разоў прыязджалі супрацоўнікі КГБ і міліцыі („інжэнеры” гэтай правакацыі) ды адказныя за „правядзеньне работ”. Спрабавалі пагражаць, але спаткалі добры адпор. Фронтаўцы выказалі пратэст супраць іхных незаконных „праектаў” і заявілі, што калі тыя ня спыняцца, то мабілізуюць шмат людзей і падымуць беларускае грамадзтва на абарону Курапатаў. Вадастокі не павінны спускацца пад Крыж і праходзіць па тэрыторыі Мэмарыялу.

Вандалы паскрыгаталі зубамі і адышлі, а сябры КХП-БНФ арганізавалі больш шчыльныя дзяжурствы ў Курапатах.

Тады Гэбэ-кантора зьмяніла тактыку і пачала сапраўдную дыверсійную вайну супраць працы ў Народным Мэмарыяле (яна працягваецца па сёньняшні дзень). Ноччу сталі сістэматычна нішчыць і ламаць крыжы, выкарыстоўвалі нават бензапілы. Рэжымная ж міліцыя, як звычайна, не хацела нікога лавіць. Бывала, што вандалы зьнішчалі адразу па 30-40 крыжоў. Быў змарнаваны кошт і плён вялікай ахвярнай працы дзясяткаў, сотняў людзей. Ніхто, аднак, не ўпадаў у роспач. Закасвалі рукавы, зьбіралі грошы, арганізоўвалі энтузіястаў і ўсё аднаўлялі, крок за крокам, крыж за крыжам. (Фронтаўцы – гэта дзівосныя людзі, соль Беларусі.)

Арганізацыю абароны Курапатаў ахвярна ўзяў тады на сябе намсьнік старшыні КХП – БНФ Сяргей Папкоў. У Курапатах у той час дзейнічаў увесь кіраўнічы актыў партыі Фронта. Браліся і рабілі любую працу. Кожны дзень там былі Сяргей Папкоў, Алесь Чахольскі (галоўны арганізатар працы па разбудове Мэмарыяла), Уладзімер Юхо, Валеры Буйвал, Рыгор Кійка, Уладзімер Плотнікаў (Кійку, Плотнікаву і Юхо амоны разьбілі твары, паламалі рукі і рэбры, топчучы нагамі і пракладваючы дарогу самазвалам), Уладзімер Раманцоў, Тацьцяна Цяцёркіна, Аліна Дуброўская, Ангеліна Масюта, Пётра Шашкель і дзясяткі іншых адданых Беларусі сяброў партыі Фронту, свабоды і Адраджэньня.

Тут мушу сказаць больш падрабязна пра гераізм найбольш пацярпелых абаронцаў Мэмарыялу. Найперш – пра Ўладзімера Плотнікава, Рыгора Кійку і Ўладзімера Юхо. Гэтых змагароў, ужо сталых людзей, „амоны” катавалі проста ў Курапатах. Рыгор Кійка трапіў надоўга ў шпіталь. Уладзімеру Плотнікаву ў час катаваньняў „амоны” мэтанакіравана адбілі ныркі. Ён трапіў у рэанімацыю. Плотнікаву зрабілі складаную апэрацыю і выдалілі адну нырку. Чалавек апынуўся ў настолькі цяжкім стане, што фронтаўцы, насуперак сваім правілам не прасіць дапамогі ў тых, хто існуе за чужыя грошы, зьвярнуліся ў праваабарончую „Вясну” (да раскольнікаў Фронту) з просьбай падтрымаць Плотнікава, выдаткаваць



(Фота Яўгена Шагохіна).

*32. Кастрычнік 2001 г. у Курапатах. Пасьля працы. Зьлева направа: Уладзімер Юхо, Алесь Чахольскі, Сяргей Папкоў.*

яму сродкі на лякарствы і лячэньне. Зварот аказаўся, аднак, няўдалым. У кіраўніцтва „Вясны” грошай не было. Яны, як сказалі, ня мелі іх нават на аплату тэлефонаў.

Моцна зьбівалі (і ня раз) Уладзімера Юхо. Але на гэты раз у „амонаў” здарыўся кур’ёз. Яны ніяк не маглі вырваць крыж з рук змагара. Падонкі зламалі яму палец, да крыві разарвалі руку, валілі, тузалі, білі, але Ўладзімер нібы зросься з Крыжам. Для яго гэта быў сымвал, за які ён мог памерці, але не аддаць у рукі дрэні. Урэшце яго, былога афіцэра (дарэчы, мяккага і далікатнага чалавека), заштурхалі ў „хапун” разам з крыжам і павезьлі адразу ў рэжымны суд. „Амоны” так і не змаглі адабраць у яго крыж. І ў судовай залі дурны лукашысцкі суд судзіў фронтаўца разам з крыжам, які ён трымаў у руках.



*35. Рыгор Кійка*



*36. Уладзімер Плотнікаў*

Юры Беленькі, які паехаў усьлед за „хапуном”, пасьпеў нават сфатаграфаваць, як міліцыянеры выводзяць Юхо з крыжам з „хапуна” і вядуць у суд.

У той небясьпечны час зьвесткі пра пагрозу Курапатам, нягледзячы на афіцыйную блакіроўку інфармацыі, пранікалі ў грамадзтва, і абаронцы Мэмарыялу адчувалі (і рэальна мелі) падтрымку людзей. Часам у працу падключалася моладзь з Маладога Фронту (дзяжурствы, і г. д.). Падтрымлівалі таксама людзі з бліжэйшых гарадзкіх кварталаў ля Курапатаў, яны сталі больш уважліва адносіцца да гэтага месца. Увогуле, дзеяньні рэжымных уладаў (акрамя самых рэжымных уладаў) не ўхваляў ніхто.

Усё, што зроблена ў Курапатах, – крыжы, талокі, догляд і праца – усё гэта коштам сродкаў, часу і сілаў нашых людзей, фронтаўцаў, энтузіястаў і змагароў. Тут няма ніводнага гроша ад якой-небудзь арганізацыі, і тым больш замежнай. Ахвяруюцца толькі свае. Гэта сапраўды Народны Мэмарыял, варты сьветлай памяці загубленага тут народу.

Кожны год на Дзяды КХП – БНФ арганізоўвае вялікую дэманстрацыю памяці продкаў. Праз увесь горад з крыжамі на плячах, сьцягамі ды харугвамі ідзе вялікае Крыжовае шэсьце ў Курапаты. У калёне крочаць людзі, у якіх чулае сэрца на праўду і справядлівасьць, якія разумеюць духоўны сэнс гэтай падзеі і сьвята Дзядоў. Ідуць 9 кілёмэтраў пешшу. Але гэта ня простае Шэсьце. Тут – сымволіка. Сымволіка вечнай памяці пра загіблых і ахвяра цярпеньня за свой народ. Сымволіка Адраджэньня. Кожны год рухаецца некалькі тысячаў асоб. Кожны год мы бачым новых людзей. Праўда, ня кожны прыходзіць у Курапаты, нават калі ведае. Але той, хто прачнуўся ад нацыянальнай летаргіі, – той ідзе. Хоць раз у жыцьці, але йдзе, часам не ўсьведамляючы, што йдзе да Беларусі.

*13 сьнежня 2011 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***




*37. Лёзунг абаронцаў*



*38. Зімой у Курапатах*

# КУРАПАТЫ ІМКНУЦЦА ЗЬНІШЧЫЦЬ

*Курапаты* пэрыядычна зьнішчалі ўвесь час, як толькі скончылася 2-я Сусьветная вайна. Але толькі пасьля 1988 года (часу публічнага адкрыцьця злачынства) зьнішчэньне набыло пастаянны крымінальны характар і працягваецца па сёньняшні дзень. Галоўная прычына гэтага — антыбеларускі акупацыйна-каляніяльны характар улады на Беларусі. Кіруюць ідэйныя нашчадкі тых, хто акупаваў нашу краіну і расстрэльваў людзей у *Курапатах*.

Рэжымы Кебіча і Лукашэнкі спрабавалі сфальсіфікаваць доказы і факты пра *Курапаты*. Але, пасьля 4-й спробы „рэвізіі", яны зразумелі, што гэта ня толькі немагчыма, але і небясьпечна для „рэвізораў" гісторыі, бо гісторыя нягоднікам помсьціць.

Вырашылі падыйсьці зь іншага боку — узмацніць крымінальшчыну і распачаць будаўніцтва ў зоне пахаваньняў. Нядаўна рэанімавалі праект пашырэньня дарогі і забудовы ў раёне *Курапатаў;* да магілаў пачалі звозіць сьмецьце, інспіраваць вандалізм і г.д.

22 ліпеня была разьбітая гранітная лавачка-помнік — падарунак прэзыдэнта ЗША ад народу Амэрыкі ў памяць пакутаў, якія перажылі беларусы. Над помнікам зьдзекваліся.

15 жніўня, у дзень вялікага хрысьціянскага сьвята *Ўнебаўзяцьця Дзевы Марыі,* рэстаўраваны помнік быў зноў па-сьвятакрадзку зьнішчаны. Разбураны таксама некаторыя іншыя памятныя знакі.

Зразумела, што існуючыя ўлады будуць толькі спрыяць крымінальным інспірацыям і ня стануць прытрымліваццца законаў, каб ацаліць *Курапаты* ад псаваньня і зьнішчэньня. Апошняя інстанцыя і адзіная сіла, якая ў такіх варунках можа абараніць памяць пра мартыралёг нацыі, — гэта грамадзкасьць, сумленныя людзі, грамадзкія арганізацыі.

Свой голас у абарону сьвятога месца ўзвысіў *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і *Партыя БНФ*, якія заклікалі падняцца ўсіх за народны гонар і беларускі боль.

24 ліпеня кіраўніцтва *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ* абнародвала заяву пра акт вандалізму ў *Курапатах*. *„Сьвятое для ўсіх беларусаў месца пакутніцтва нявінных ахвяраў камуністычна-расейскай тыраніі — урочышча Курапаты — ушанавалі помнікамі іншыя народы, — пішуць у заяве культурныя людзі. — Каб жыла памяць і не паўтараліся злачынствы. У студзені 1994 году Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі Біл Клінтан асабіста адкрыў у Курапатах невялікі манумэнт, на якім па-ангельску і па-беларуску напісана: „Ад народа Злучаных Штатаў Амэрыкі беларускаму народу дзеля памяці". Дар амэрыканскага народу стаўся адным з сымвалаў хрысьціянскага адзінства, высокім выразам спачуваньня трагедыі.*

*У ноч на 22 ліпеня сёлета ў Курапатах быў зьдзейсьнены чарговы акт вандалізму. Вандалы разбурылі манумэнт, падораны амэрыканскім народам. Гранітная пліта, паколатая і патаптаная нагамі, сарваная і адкінутая на некалькі мэтраў убок. Па надпісу, высечанаму на пліце, чырвонай фарбай напісана па-расейску „Анархия". Помнік патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі.*

*Неаднаразовыя звароты нашай партыі да ўладаў з патрабаваньнямі прыняць меры і спыніць акты вандалізму ў Курапатах, пакараць вінаватых не далі ніякага выніку. Дагэтуль сьвятому месцу ўладамі не нададзены статус мэмарыялу, які ахоўваецца дзяржавай. Улада, якая па сутнасьці ёсьць каляніяльным прамаскоўскім рэжымам, з моманту адкрыцьця праўды пра трагедыю ў Курапатах робіць усё, каб сказіць гістарычную праўду, перакласьці адказнасьць за злачынствы з расейскага бальшавізму на іншых злачынцаў, схаваць ад грамадзтва ісьціну. Рэжым стварае „камісіі" з псэўдаспэцыялістаў і ілжэсьведкаў, спрабуе ўвесьці ў зман беларускую і сусьветную супольнасьць, каб справакаваць агрэсію супраць людзей, якія адкрылі праўду, ды ачарніць памяць ахвяраў. Улады, фактычна, падбухторваюць да вандалізму ў Курапатах. Апошні акт вандалізму выклікае асаблівую трывогу ў сувязі з распачатай у апошні час „рэканструкцыяй кальцавой дарогі г.Менска", якая праходзіць праз урочышча Курапаты. Улады маюць разбуральны плян, паводле якога пашыраная дарога павінна прайсьці па касьцях ахвяраў. Фактычна, пад прыкрыцьцём рэканструкцыі плянуецца зьнішчэньне месца, якое служыць напамінам пра трагедыю народу.*

*Мы зьвяртаемся да народу і кіраўніцтва Злучаных Штатаў Амэрыкі ды іншых дэмакратычных краінаў з заклікам прыйсьці на дапамогу беларускаму народу і не дапусьціць чарговага злачынства на нашай зямлі, якое плянуюць зьдзейсьніць каляніяльны рэжым і ягоныя маскоўскія гаспадары." (24 ліпеня 2001 г.)*

Рэанімацыя неактуальнага праекту аб пашырэньні кальцавой дарогі праз *Курапаты* і дарогі Заслаўе-Калодзішчы невыпадкова ўсплыла цяпер. Справа не ў дарогах. Справа *ў Курапатах*. Усё робіцца па-савецку. Цяпер адбываецца этап дэмагогіі і ашуканства кшталту „Курапаты обойдут стороной" і дарога будзе пракладзена „с учетом максимального сохранения существующих захоронений" і г.д.

Гэта савецка-расейскі слэнг каляніяльнай бюракратыі, варвараў і разбуральнікаў. Ён ужываецца з адной мэтай: атрымаўшы санкцыі на пабудову, ашукаць і засаніць грамадзтва.

Трэба ўлічыць, што дарогай справа ня скончыцца. Чакаецца будаўніцтва жылога масіва паміж дарогамі, дзе разьмешчаныя *Курапаты*, з падводкай усіх інжэнерных камунікацыяў, пабудовай кацельнай, уязных дарог, дарожных мастоў і г.д.

Даўно б зрабілі, ды грошай няма. У 90-х гг. кебічаўская намэнклятура, абабраўшы народ, будавала сабе бесталковыя „царскія вёскі". Была вельмі занятая сабой, сваім матэрыяльным клопатам — хапнуць паболей. А якраз тады і ўзьнік гэты праект.

Вось вытрымкі з аднаго дакуманта сямігадовай даўніны.

*„Протокол рабочего совещания по вопросу планировочной организации территории, примыкающей к Минской кольцевой автодороге в районе урочища Курапаты 21 декабря 1993 г. г.Минск, ГПИ „Минскпроект"*

*Присутствовали: от Комитета по архитектуре и строительству:*

*1.* **Владимиров Ю.И**. *— главный инженер*

*2.* **Козловский С.А**. *— зам. начальника отдела планировки и застройки;*

*от Советского райисполкома:*

*3.* **Калякин С.И.** *— председатель РИКа*

*4.* **Ласкателев Б.Е**. *— главный архитектор Советского района;*

*от ГПИ „Минскпроект":* (пералічваецца яшчэ сем асобаў). *В обсуждении выступили: Пурецкий Ю.П., Козловский С.А., Калякин С.И.*

*Решили: 1. Одобрить предложения по планировачной организации территории"* і г.д.

Яшчэ пяць пунктаў і подпісы ўсіх прысутных.

Управа Сойму *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ* зьвярнулася 6-га жніўня з адкрытым лістом да Кабінэту Міністраў Рэспублікі Беларусь.

*"Стала вядома,* — сказана ў лісьце, — *што заплянавана рэканструкцыя Менскай кальцавой дарогі і вядуцца праектныя работы па варыянту пашырэньня існуючай дарогі, пракладзенай праз урочышча Курапаты.*

***Усяму сьвету вядома, што ва ўрочышчы Курапаты расстраляныя і пахаваныя некалькі сотняў тысячаў нявінных людзей. Было б непапраўнай памылкай працягнуць практыку былога камуністычнага*** *рэжыму абгрунтоўваць мэтазгоднасьць таго ці іншага праекту эканамічнымі выкладкамі, пры гэтым пераступаць праз жыцьці, душы і памяць людзей.*

*Савецка-камуністычны рэжым хаваў сае злачынствы, так было і з урочышчам Курапаты. Дарога праз Курапаты ёсьць злачынства, зьдзейсьненае савецкімі ўладамі. Сёньня пашыраць дарогу праз урочышча Курапаты — гэта значыць пашыраць злачынства.*

*У сувязі з тым, што ідзе рэканструкцыя кальцавой дарогі, неабходна выправіць мінулыя хібы яе будаўніцтва.* ***Новая дарога павінна прайсьці ў абыход урочышча Курапаты****.*

*Са свайго боку, мы зробім усё магчымае, каб данесьці да грамадзтва новае плянуемае злачынства супраць беларускага народу і супроцьстаяць ягонаму зьдзяйсьненьню.”*

Адказу на гэты ліст не зьявілася. Праектаваньне дарогі праз Курапаты прадаўжаецца.

Дзьвесьце год — адно і тое: вынішчэньне. Цяпер топчуцца па магілах, ідуць па нашых сьмерцях. Але толькі жывыя могуць паўстаць.

***Т.РЭЙТАН***

*8. Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №7(37), с. 13-14. (Артыкул Зянона Пазьняка пад псэўданімам Т. Рэйтан).*



*39. Пад Крыжам*

# ІДЗЕ ЗМАГАНЬНЕ

Працягваецца змаганьне супраць зьнішчэньня ***Курапатаў***. Падобна на тое, што пачынаецца час, калі трэба будзе ратаваць кожны сантымэтр Беларусі, кожны мілімэтр Беларускага. Як высьвятляецца, пашыраць дарогу праз *Курапаты* ўзяліся без патрэбных узгадненьняў праекту (што зьяўляецца крыміналам) і без адпаведных разьлікаў магчымых затрат. Рэжым, відаць, вельмі сьпяшаецца. Тым часам вядома, што існуюць праекты правядзеньня дарогі ў абход *Курапатаў*. Гэтыя праекты лепшыя, бо не закранаюць мартыралягічны помнік, і прытым таньнейшыя па затратах. Аднак, відаць, загадана было брацца менавіта за „варварскі" праект.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і ***Кансэрватыўна-****Хрысьціянская Партыя — БНФ* патрабуюць спыніць будаўніцтва дарогі праз *Курапаты* і весьці яе ў абход. 6-га жніўня пра гэта быў адасланы ліст у Савет Міністраў. 25 верасьня (паколькі адказу Партыя не атрымала) пасланы паўторны ліст у Саўмін з тым жа патрабаваньнем спыніць злачынныя пляны „будаўнікоў" і будаўніцтва дарогі праз *Курапаты*.

Сакратар *Управы Сойму Фронта* ***Алесь Чахольскі*** зьвярнуўся праз друк да грамадзянаў Беларусі з наступным заклікам:

*"Шаноўныя людзі! 29-га кастрычніка 2000 года Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ і Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" на Дзяды ўсталявалі дзясяткі крыжоў на магілах закатаваных ахвяраў бальшавізму. Але гэтага недастаткова, бо, як вядома, там жа сотні пахаваньняў. Як ніколі, актуальны сёньня заклік Зянона Пазьняка, які ў свой час адкрыў праўду пра Курапаты: „У Курапатах, дзе над магіламі расстраляных беларусаў вырас лес дрэў, хай вырасьце лес рукатворных крыжоў, якія прынясуць сюды жывыя беларусы, каб усе памяталі пра генацыд і каб жыла Беларусь".*

*Мы з вамі павінны гэтыя крыжы ўсталяваць. Гэта наш сьвяты абавязак — стварыць народны мэмарыял у памяць ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсіяў. Як Хатынь стала сімвалам фашысцкага генацыду, так*

*Курапаты павінны стаць сімвалам камуністычнага генацыду супраць народу. З розных вёсачак, мястэчак, гарадоў Беларусі чорныя „варанкі” вывозілі людзей у Курапаты і ГУЛАГі, і мы маем маральнае права на крыжах усталяваць шыльды з назвамі гэтых паселішчаў. Іх шмат, вельмі шмат...*

*Кожны можа вырабіць крыж, прывезьці яго ў Курапаты і ўсталяваць тут.*

*Прашу Вас, дарагія грамадзяне, зьвяртацца ва Ўправу Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ па адрасу: Менск, праспэкт Ф. Скарыны, 133, кв.147 і па тэлефоне 8(029) 602-16-18.*

*Можна прыносіць на выраб крыжоў ахвяраваньні.*

*Запрашаю беларускі бізнэс і прадпрымальнікаў прыняць чынны ўдзел у сьвятой справе.*

Акрамя *Фронту* і *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ,* на заклік *спадара Чахольскага* з усіх арганізацыяў адклікнуліся пакуль толькі хлопцы з *Маладога Фронту* і асобныя грамадзяне. Маладафорнтаўцы наладзілі дзяжурствы ноччу на месцы будаўніцтва і ўключыліся ў справу ўсталяваньня памятных крыжоў.

23, *28* і *29 верасьня Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ, маладафронтаўцы і грамадзяне Менска* наладзілі талаку *ў Курапатах* і ўстанавілі ў гэтыя дні некалькі дзясяткаў крыжоў, запалілі сьвечкі і зьнічы паабапал дарогі.

Фронтаўцы спадзяюцца, што ініцыятыва змаганьня за захаваньне *Курапатаў* будзе пашырацца. Зафіксаваныя ўжо пэўныя зрухі сярод дэмакратаў (нават аб’явілі аб стварэньні камітэту ў абарону *Курапатаў*). Удзельнічаюць ў абароне таксама сябры *Мартыралёгу Беларусі*, археолягі, цікавяцца журналісты.

*Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ* і *Фронт* пачалі адначасна рыхтавацца да *Дзядоў у Курапатах.* Бо ўсе разумеюць, што каб уратаваць *Курапаты* ад лукашысцкага рэжыму, патрэбнае грамадзкае рушэньне, і нават падтрымка міжнароднай супольнасьці.

***Мар’ян ВАНЬКЕВІЧ***

***9. Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №9(39), с. 6-7. (Артыкул Зянона Пазьняка пад псэўданімам Мар’ян Ванькевіч)***

# У КУРАПАТАХ ЗЬНІШЧАЮЦЬ КРЫЖЫ І КАТУЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ

*8 лістапада* ўвечары антынародны рэжым Лукашэнкі распачаў сілавы наступ на Курапаты з мэтай зьнішчэньня мэмарыяльнай сьвятыні беларускага народу. Бульдозеры, трактары, групы спэцыяльнай міліцыі і КГБ, нібы на вайне, рушылі на крыжы і Курапацкі лес. Беларусы, якія прыйшлі *ў Курапаты*, каб пакланіцца магілам бязьвінных ахвяраў, закатаваных расейскім НКВД, і каб абараніць магілы ад разбурэньня, убачылі, як бульдозеры зьнішчаюць пахаваньні і крыжы на магілах, асьвечаныя каталіцкімі і праваслаўнымі сьвятарамі. Імкнучыся спыніць вандалізм, людзі сталі перад крыжамі. Тады на іх накінулася зграя лукашэнкаўскіх гарылаў у форме, на якой па-расейску напісана „ОМОН" (Отряд милиции особого назначения). Шмат каго зьбілі і арыштавалі. Сяброў *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ* ***Уладзімера Юхо*** і ***Рыгора Кійко*** амонаўцы павалілі на зямлю і катавалі. Спадару *Юхо* выкручвалі рукі (18 траўня сёлета спэцслужбы ўжо зламалі яму руку і рэбры падчас мірнай акцыі пратэсту). Схапіўшы спадара *Кійко*, каты зь нянавісьцю тапілі яго галавой у лужыну, поўнай гразі. Спадар *Кійко* ня мог дыхаць і захлынаўся. Напоўпрытомнага, яго кінулі на зямлю і білі дубінкамі ў грудзі. Ужывалі дзікі мэтад катаваньня, моцна ціснучы дубінкай у вобласьці сэрца. Спадар *Кійко* цяпер знаходзіцца ў цяжкім стане.

Агульнавядома, што такія катаваньні выкарыстоўвала расейскае НКВД падчас тэрору супраць народаў у Савецкім Саюзе. Такім чынам, на тэрыторыі *Курапатаў*, дзе ў 1937-1941 гадах бальшавіцкія злачынцы катавалі і забівалі беларусаў, у 2001 годзе іхныя спадчыньнікі па загаду ўзурпатара Лукашэнкі твораць новыя злачынствы. Разбурэньні магілаў і крыжоў, арышты і катаваньні працягваюцца.

Але ёсьць у Беларусі людзі, здольныя з голымі рукамі і з адкрытымі грудзьмі абараняць сьвятую памяць расстраляных і магілы продкаў. Ніхто не пераможа такіх людзей. Генацыд *Курапатаў* не паўторыцца. Ніхто ня выкрэсьліць з памяці *Курапаты*. І ніколі не даруецца варварам.

***(Паводле заявы Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ)***

*10 лістапада 2001 г.*

***10. Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці", – 2001, №10(40), с. 1, 2.***

# ЧЫМ ВЫКЛІКАНЫ ВАРВАРСКІ НАСТУП НА КУРАПАТЫ

Ідэалёгія і палітыка разбурэньня *Курапатаў* зразумелыя. Уладу ў Беларусі захапілі выхадцы з НКВД-КГБ, якія хацелі б зьнішчыць сьведчаньні генацыду, што ажыцьцяўляла Масква праз ворганы НКВД. Усе спробы сфальшаваць вынікі навуковых дасьледваньняў, зробленых у 1988 годзе, і абвергнуць вынікі сьледзтва па *Курапатах* праваліліся. Пасьля гэтага запанавала ўяўная цішыня, у час якой паволі руйнавалася і занечышчалася ўсё, што зьвязана было з памяцьцю пра *Курапаты*, засьмечвалася тэрыторыя магілаў, месца рабілася прахадным, кінутым на таптаньне наезных жыхароў з бліжэйшых кварталаў горада.

Тактыка рэжыму была зразумелай. Яе неабходна было спыніць. У 2000 годзе *на Дзяды Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* і ягоная *Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ* распачалі актыўнае стварэньне *ў Курапатах* ***Народнага Мэмарыялу Беларускай***



(*Фота Ул. Карміліна*)

***Хрысьціяне-фронтаўцы ў абароне Курапатаў***

***мартыралёгіі***. Было наладжана масавае Крыжовае шэсьце *ў Курапаты* і ўстаноўлена над магіламі мноства крыжоў (больш 30-ці).

Стаўленьне крыжоў працягвалася ўвесь час. На 2001 г. іх ужо паставілі больш за сотню. Была растлумачана (часткова ў друку) канцэпцыя *Народнага Мэмарыялу ў Курапатах*, які (па задуме) ствараў бы сам народ. Дзеля гэтага кожны мог зрабіць і прынесьці ў Курапаты свой крыж, паставіць яго за душы расстраляных беларусаў, сваіх родных і блізкіх. Над магіламі расстраляных на Курапацкіх горах, побач з соснамі, на палянах і ўздоўж дарог вырастаў бы лес рукатворных крыжоў. Усё гэта рэальна абазначыла б памяць па расстраляных і сымвалізавала б уваскрасеньне душ. (Такі беларускі крыжовы помнік ёсьць на сьвятой гары *Грабарка* на Беласточчыне і ў іншых месцах. Кожны год беларусы нясуць у Грабарку крыжы.)

Справа зрушылася. Гэтакія дзеяньні выклікалі ціхую паніку ў кіраўнічым асяроддзі рэжыму. Безумоўна, што маскоўскія аналітыкі з ГБ прааналізавалі задуму *Народнага Мэмарыялу* і зразумелі, што прыходзіць канец іхным спробам схаваць памяць пра *Курапаты* і пступова зьнішчыць іх.

Рэакцыя была пасьпешнай і грубай. Ужо летам 2001 года пачалася падрыхтоўка да будаўніцтва шырокай аўтастрады праз *Курапаты.* Прытым так сьпяшаліся, што пачалі бяз пляну і без узгадненьня праекту. Мэтадам такога будаўніцтва (гледзячы па абставінах) можна было разбурыць і зьнішчыць літаральна ўсё: і лес, і крыжы, і магілы. Напрацаваны вялікі савецкі вопыт зьнішчэньня культуры. Гісторыя расейскай акупацыі на Беларусі паказала, што не існуе ніякіх маральных перашкодаў у варвараў: ні ў тых, хто загадвае, ні ў тых, хто выконвае. Тыя, хто разбураюць крыжы і магілы, ня маюць ніякіх духоўных каштоўнасьцяў, акрамя паняцьцяў нявольніка і раба.

Разбурэньне *Курапатаў* заплянавана з асаблівым цынізмам. Варта зьвярнуць увагу на даты. Ігнаруючы ўсіх і ўсё, шырокім фронтам прыступілі да будаўніча-разбуральных працаў у зоне *Курапатаў* 20 верасьня, якраз ў дзень так званай „самаінаўгурацыі" Лукашэнкі пасьля сфальшаваных выбараў. 8-га лістапада, на другі дзень галоўнага

бальшавіцкага сьвята, па загаду зьверху пачалі ламаць Крыжы, зьбіваць і катаваць людзей — абаронцаў магіл, кінулі на іх тэхніку, бульдозеры, КГБ і спэцыяльныя атрады міліцыі.

Такое супадзеньне датаў добра адлюстроўвае ідэалёгію вандалізму, паказвае, у якой сфэры паняцьцяў існуюць разбуральнікі *Курапатаў.*

*Курапаты* — унікальны помнік і сымвал генацыду. Ад асэнсаваньня яго беларусамі шмат у чым залежыць лепшая будучыня Беларусі. Бяда якраз у тым, што непрыяцелі беларушчыны гэта разумеюць лепш, чым некаторыя беларусы. Лёс *Курапатаў* будзе залежыць ад двух зьяваў: ад сілы супраціўленьня варварству і галоўнае — ад уздыму і моцы стваральнай працы, ад рабленьня ***Народнага Мэмарыялу крыжоў***. Рэч зразумелая: напачатку гэтую працу павінна ўзяць на свае плечы арганізаваная эліта грамадзтва, актыўныя і сьведамыя людзі, пакуль ня зрушыцца ўвесь народ.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***11. Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці”, – 2001, №10(40), с. 2.***



***40. Зграя „амонаў” бяжыць біць людзей.***

# АБАРОНА КУРАПАТАЎ

Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ штодзённа дзяжураць у Курапатах і не даюць будаўнікам праводзіць работы ў ахоўнай зоне Мэмарыялу.

На выхадзе з падземнага перахода (што на шляху да Курапатаў) завал зь бярвеньняў, дошак і іншага будаўнічага сьмецьця. Гэтую імправізаваную барыкаду два тыдні таму збудавалі жанчыны Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ, якія стала дзяжураць у Курапатах.

„Тут хацелі бульдозерам заехаць на пляцоўку да Крыжа Пакутнікам Беларусі. Жанчыны, што дзяжурылі, — не далі. Яны каля тунэля стварылі барыкаду, крыж паставілі — і бульдозеры адступілі", — растлумачыў ***Уладзімер Юхо***.

Два тыдні таму кіраўніцтва Дэпартаманту па ахове культурнай спадчыны забараніла будаўнікам весьці работы ў ахоўнай зоне Курапацкага Мэмарыялу. Гэтак званыя „будаўнікі" спрабавалі пракласьці праз галоўную пляцоўку Курапатаў трубу вадасьцёкаў і зрабіць дадатковую дарогу да месца будаўніцтва праваслаўнай капліцы.

Паводле Дэпартаманту, будаўнікі павінны зрабіць для сьцёчных водаў сажалку з адваротнага ад Курапатаў боку магістралі (а не пад Крыжам). А дарога да афіцыйнай капліцы ня мусіць праходзіць побач з Мэмарыялам.

Будаўнічыя працы пакуль прыпыненыя. Гэта вельмі не падабаецца настаяцелю мясцовага праваслаўнага прыходу **Уладзімеру Стукачу** (добра вядомы тыпаж). Гэта на ягоную просьбу будаўнікі рабілі дарогу да капліцы.

Побач з Курапатамі У. Стукач арганізаваў „лягер для вернікаў". Ад размовы з карэспандэнтам адмовіўся.

Зразумела, што дарога да капліцы будавалася незаконна, яе няма ў праекце.

17-га жніўня ў Курапаты прышло нямала людзей на талаку. Франтавец ***Алесь Тарала*** прыходзіць сюды кожную суботу. „Я хаджу сюды ня толькі на талаку. Я стары чалавек, ужо пажыўшы, і скажу так: гэта справа ачышчае чалавека ад рознага бруду, накіпу, ад гэтай во хлусьні. Я сябе ачышчаю тут".

*Жнівень 2002 г.* ***(Паводле радыё „Свабода". А. Невяроўскі)***

*12. Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці", – 2002, №6(46), с. 10.*

# ЗНОЎ ЗЬНІШЧАНЫ КРЫЖЫ Ў КУРАПАТАХ

У каляднуюноч на 25 сьнежня 2002 г. адбыўся чарговы акт вандалізму ў Курапатах. Як бачна па шматлікіх сьлядах на сьнезе, на тэрыторыю ***Народнага Мэмарыялу*** заехала машына, зь якой выгрузіліся некалькі асобаў з сабакамі. Варвары зьнішчылі і пашкодзілі больш за 20 крыжоў на ***Крыжовай алеі*** і непасрэдна на магілах пакутнікаў. Былі паламаныя таксама крыжы на ***Кальварыйскім пагорку*** мэмарыяла, усталяваныя ў кастрычніку 2001 г. беларусамі Віленшчыны. Шэраг крыжоў паламаныя, вырваныя з зямлі, кінутыя далёка ад месца, дзе яны былі ўсталяваныя людзьмі.

Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ прышлі ў Курапаты. Яны сабралі часткі паламаных крыжоў, паставілі некалькі крыжоў, што былі паваленыя на зямлю. У бліжэйшы час яны будуць рэстаўраваць пашкоджаныя помнікі.

Дзікае варварскае разбурэньне адбываецца на тэрыторыі нацыянальнай сьвятыні ўжо ў каторы раз. Але даўно ўжо злачынства не было такім маштабным. Безумоўна, галоўную віну за вандалізм нясе антыбеларускі рэжым, які пабудаваў сваю дарогу на касьцях ахвяраў расейскага тэрору, і ўсімі сродкамі імкнецца зьнішчыць Народны Мэмарыял.

28 сьнежня сакратар Управы Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ спадар ***Алесь Чахольскі*** зьвярнуўся ў РУУС Менскага раёну з заявай на ўзбуджэньне крымінальнай справы па факце акту вандалізма на тэрыторыі Народнага Мэмарыялу ў Курапатах. На тэрыторыю Мэмарыялу выязджала апэратыўна-сьледчая група, якая склала пратакол агляду месца злачынства.

***В. БУЙВАЛ***

*13. Надрукавана: „Беларускія Ведамасьці", – 2002-2003, №1(47), с. 3.*




*41. Валеры Буйвал прамаўляе каля Лошыцкага крыжа.*

# НЕ ЗАБУДЗЕМ, НЕ ДАРУЕМ

## МАГІЛЫ НА ПАГОРКУ

З пагорка бачны невялікі горад, некалькі гатычных шпіляў касьцёлаў, дахі дамоў, вуліцы з кветнікамі. Горад невялікі, але адзін з самых знакамітых у ірляндскай гісторыі і культуры. Кэлс... Менавіта тут у адным з кляштароў быў створаны шэдэўр кельцкага і агульначалавечага мастацтва – „Book of Kells", ілюмініраванае Эвангельле IX стагоддзя (яно лічыцца копіяй яшчэ больш старажытнай Кнігі). У музэйнай зоне вакол гарадзкога сабора ўзвышаюцца велічныя каменныя крыжы з геамэтрычным арнамэнтам і стылізаванымі фігурнымі выявамі. Ім больш за тысячу гадоў. Але на пагорак, што на гарадзкой ускраіне, нас прывяла не старажытная, а больш блізкая сучаснасьці падзея – найвялікшая драма ў гісторыі ірляндскага народу. На пагорку знаходзяцца магілы тысячаў ахвяраў Вялікага Голаду 1846 года. У выніку гэтай драмы насельніцтва Ірляндыі зьменшылася ў чатыры разы.

Драма мае сваю перадгісторыю. 700-гадовая акупацыя Ірляндыі ангельскімі захопнікамі не зламала змагарны дух нацыі. У сярэдзіне XIX стагоддзя на хвалі культурна-нацыянальнага адраджэньня паняволеных імпэрыямі народаў Эўропы набіраў моц ірляндскі нацыянальны рух. Ён меў мірны характар. Людзі зьбіраліся разам, сьпявалі нацыянальныя песьні, гаварылі пра сваю гісторыю і сваіх герояў, маліліся ў палях паводле забароненага акупантамі каталіцкага абраду, абмяркоўвалі цяпершчыну і будучыню.

Кульмінацыяй нацыянальнага ўздыму стаў мітынг у полі каля мястэчка Клантарф у кастрычніку 1843 года. Нягледзячы на забарону акупацыйных уладаў мітынг сабраў каля

мільёна ірляндцаў (!). Людзей натхняла родная гісторыя і сымвал перамогі. На Клантарфскім полі ў 1014 годзе ірляндскае паспалітае рушэньне ўшчэнт разьбіла армію скандынаўскіх нарманаў, вызваліўшы радзіму ад 200-гадовай нарманскай няволі.

Імпэрскі Лёндан не на жарт напалохаўся магутнай праявы народнай салідарнасьці. Каланізатары пачалі ліхаманкава шукаць магчымасьць разьбіць народны рух. Магчымасьць надарылася ўжо праз некалькі гадоў. У 1845 годзе Ірляндыю (раптам) ахапіла катастрафічная хвароба бульбы – галоўнага прадукта, якім жывіліся ірляндцы. Пачаўся галадамор. Але акупанты працягвалі вывозіць з выспы цэлымі караблямі збожжа і прадукты харчаваньня ў рамках каланіяльных падаткаў.

У выніку злачыннай палітыкі Лёндана загінулі каля двух мільёнаў людзей, чатыры мільёны вымушаны былі пакінуць радзіму і ратавацца ў Паўночнай Амэрыцы і Аўстраліі. Нават цяпер у Ірляндыі жыве толькі чатыры з чвэрткай мільёны чалавек (да Вялікага Голаду на выспе жыло больш васьмі мільёнаў ірляндцаў). Акупантыкаланізатары пацiралі рукі, упэўненыя, што „ірляндскае пытаньне канчаткова вырашана". Але нацыянальная трагедыя не здушыла волю народа да супраціву і нацыянальнага адраджэньня. Наадварот, сышлі ў нябыт вера ў дыялог з брытанцамі, спадзяваньне на саступкі з боку акупантаў. Пачалася ўзброеная барацьба за вызваленьне айчыны. У акупанцкіх чыноўнікаў, афіцэраў, мясцовых здраднікаў паляцелі бомбы, запалалі іхныя маёнткі, казармы і будынкі акупанцкай адміністрацыі. Ад заакеанскай ірляндскай дыяспары змагары атрымлівалі зброю, дабраахвотнікаў, інфармацыйную і палітычную падтрымку. Рэпрэсіі супраць патрыётаў не давалі пажаданага выніку. Лёндан нарваўся на народную вайну. Праз дзесяцігоддзі вызвольнай барацьбы ірляндцы адваявалі сваю дзяржаву ў 1921 годзе.

У 90-х гадах я расказваў пра гэта над магіламі ахвяраў генацыду ірляндскага народа беларускім дзецям з нашага Гомеля, якіх запрасілі да сябе на адпачынак жыхары Кэлса. Старэйшыя людзі ў сем'ях гамельчукоў добра памятаюць трагедыю другога Галадамора – злачынства расейскіх акупантаў у суседней Украіне ў 1930-я гады (да 10 мільёнаў ахвяраў). З-за блізкай мяжы на Гомельшчыну няспынннай плыньню ішлі тысячы згаладнелых людзей, людзей-ценяў, якія цудам праравліся праз кардоны НКВД і шукалі паратунку ў Беларусі. Палі былі засыпаны трупамі няшчасных, якім не хапіла сілы ісьці далей. Беларусы дзяліліся з украінцамі апошнім, выратавалі шмат жыццяў. Імя агульнаму няшчасьцю было адно – расейска-бальшавіцкая акупацыя.

У групе гомельскіх дзяцей быў і мой малы пляменьнік Сашык Грамыка, якога запрасіла ірляндская сям'я, бо ў яго загінуў бацька. Нашы агульныя продкі зьведалі ўсе жахі раскулачваньня і Галадамора ва Украіне. Але і тут ёсьць свая перадгісторыя. Пасьля паразы нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863-64 гг. Буйвалы вымушаны былі пакінуць родную Любчу, што на Наваградчыне, і ратавацца ад шыбеніцы і Сібіры ва ўкраінскіх стэпах. За дзесяцігоддзі напружанай працы дзяды пабудавалі вялікія дамы, узаралі зямлю, пасадзілі сады. Жылі ўсе разам, на сваім хутары ў Апосталаве (на цяперашняй Днепрапятроўшчыне). Усе вярнуліся жывымі і цэлымі з германскай вайны, адклалі шаблі і вінтоўкі, каб зноў заняцца мірнай працай. Здавалася, над родам зазьзяла шчасьлівая зорка. Пасьля ваеннага ліха хацелася верыць у сьветлую будучыню. Падчас сямейнага сьвята на прыканцы кастрычніка 1917 года нехта згадаў, што ў Петраградзе днямі бальшавікі захапілі ўладу. Старэйшына роду махнуў рукой і сказаў: „Бальшавікі? Цьфу, ды гэта ўсё да Калядаў скончыцца!" Усе засьмяяліся...

Дзяды памыляліся ў сваім аптымізме. У хуткім часе ілюзіі былі брутальна разьвеяны, а за палітычную пасіўнасьць дарослых і разумных людзей настала жорсткае пакараньне старым і малым ад ворагаў чалавецтва. Чырвоныя разам зь белымі разьвязалі жудасную грамадзянскую вайну на абшарах усяе імпэрыі. Нягледзячы на кантрастную нібыта афарбоўку, і тыя і другія забівалі людзей у імя „единой і неделімой России".

Даведаўшыся пра бальшавіцкі пераварот у Петраградзе, пэўныя народы не жартавалі і не сьмяяліся. Фіны, палякі, эстонцы, латышы, каўказцы зразумелі, што настаў час вы-

зваленьня ад імпэрыі і пачалі дзейнічаць. Сяляне сустракалі бальшавіцкіх агітатараў з віламі і сякерамі, у гарадах і мястэчках апэратыўна ствараліся аддзелы нацыянальных арміяў, якія адразу ўступалі ў бой з расейскімі інтэрвэнтамі і мясцовай агентурай Петраграда-Масквы. Менавіта таму Польшча, Фінляндыя, балтыйскія рэспублікі здолелі вырвацца з абдымкаў імпэрыі і пайсьці па шляху цывілізаванага разьвіцьця. Ваенныя страты гэтых народаў аказаліся на некалькі парадкаў меншымі ў параўнаньні з колькасьцю ахвяраў расейска-бальшавіцкіх рэпрэсіяў 1917 – 1950-х гадоў. Калі б украінцы перамаглі расейскую навалу, то не было б жахаў Галадамору. Калі б беларусы абаранілі ад захопнікаў БНР, не было б Курапатаў.



*42. Алена Буйвал і Дзіяна Семяніхіна. Іхныя сем'і выратаваліся ад Галадамору на Ўкраіне, прарваўшыся праз кардоны ў Беларусь. Фота 1948 г. Гомель.*

Ва Украіне разгарнулася змаганьне народнай арміі Сэмэна Пятлюры, у Беларусі быў подзьвіг случакоў і ваяроў генэрала Станіслава Булак-Балаховіча. Але трэба прызнаць, што большасьць насельніцтва заняла пасіўную пазыцыю, імкнучыся не рызыкаваць, „не высоўвацца", нияк прыстасавацца. Многія паверылі ў абяцанкі пьяных расейскіх камісараў пра „царствіе небесное на землі", „мір народам", „усё падзяліць" і г.д. Людзі хацелі проста спакойна жыць, працаваць. Яны былі ўпэўнены, што калі яны ня робяць нікому крыўды, то і ад іх адчэпяцца.

Маскоўскія сатаністы пачалі новы этап існаваньня расейскай імпэрыі. У 20-я гады яны нават арганізавалі маштабнае шоў пад назовамі „беларусізацыя", „украінізацыя" і г.д. Нацыянальныя эліты паверылі ў неабарачальнасьць гэтых працэсаў і актыўна ўключыліся ў ства-



*43. Яўген Буйвал з сынам. 1957 г. Гомель. У 1956 г. тысячы беларусаў вярталіся з расейскай ссылкі і расейскіх турмаў. Першым чынам адбудоўвалі дамы. Было бясконцае шчасьце вяртаньня на Радзіму.*

ральную працу. Многія вярталіся з эміграцыі, каб прынесьці карысьць свайму народу. Тым часам ВЧК-НКВД складала свае расстрэльныя сьпісы, крамлёўская хунта распрацоўвала праекты ГУЛАГа. З 1929 г. пачаліся маштабныя рэпрэсіі, якія дасягнулі свайго піку ў 1932-33 гг. Саветы зьнішчалі нацыянальную інтэлігенцыю і сялянства. Вядома, што Сталін меў праект гвалтоўнага перасяленьня ўсіх украінцаў (як у 1944 г. ён перасяліў з радзімы ў халодныя стэпы шэраг меншых народаў). Але лічба ў 50 мільёнаў чалавек падалася крамлёўскай бандзе надта высокай. Вырашылі падарваць сілы народа непасрэдна на яго тэрыторыі.

Баба Марыя ўспамінала, як пачаўся пагром калектывізацыі ва Украіне. Людзей выганялі з дамоў, забіралі маёмасьць, жывёлу. Скрозь плач і стогны гучалі бадзёрыя сьпевы камсамольцаў (у 1937-39 большасьць з гэтых „сьпевакоў"-пагромшчыкаў будзе таксама расстраляна). У 1932 годзе НКВД і войскі паставілі кардоны ў сельскай мясцовасьці і пачалі вывозіць збожжа (у той год быў вельмі высокі ўраджай). Тысячы галодных людзей натоўпамі зьбіраліся вакол элеватараў, іх адганялі стрэламі.

Падчас Галадамору ў маёй сям'і загінула 12 чалавек. Бабе Уліце было за восемдзесят гадоў, малодшаму з дзяцей было тры гады. Пэўны час яны неяк трымаліся, пад'ядаючы схаваны харч. Але камсамольцы прыходзілі і забіралі ежу ў галодных людзей. Ацалелі толькі тыя, хто здолеў уцячы з гэтага пекла. Дзед Апанас і дзед Сьцяпан з жонкамі і дзецьмі на працягу некалькіх гадоў спрабавалі ўладкавацца ў паўночнай Украіне, але канчаткова аселі ў Гомелі. Уцекачы ўвесь час баяліся быць выкрытымі, але беларусы ня выдалі іх зьвяругам-гэбэшнікам. Потым пачалася вайна, і крамлёўскія забойцы гукнулі пра „великую отечественную" ды абвесьцілі сябе „выратавальнікамі чалавецтва". Дзед Сьцяпан патрапіў у палон пасьля разгрому немцамі гомельскага апалчэньня ў жніўні 1941 г. і загінуў у Барысаўскім канцлягеры. Дзед Апанас загінуў падчас нямецкага танкавага контрудару на Беласточчыне ў ліпені 1944 г. Савецкія армейскія начальнікі ўбачылі танкі, ускочылі ў „вілісы" і паляцелі ў тылы, пакінуўшы тысячы жаўнераў у безнадзейнай сытуацыі...

Мой бацька Яўген Буйвал пазнаёміўся з чалавеканенавісьніцкай практыкай нямецкіх фашыстаў у канцлягеры Штутгоф, што знаходзіўся ў паўночнай Польшчы. Найбольш яго ўразіла злачынства ў красавіку 1945 г.: немцы спалілі габрэйскія баракі разам з людзьмі. Шмат людзей загінула ў выніку начных бамбардовак савецкімі жаночымі эскадрыльямі. Аднойчы бацьку засыпала зямлёй ад выбуху. З зямлі тырчэлі толькі некалькі пальцаў. Хлопцы заўважылі гэта і выратавалі юнака.

У траўні 1945 г. падчас бамбардоўкі бацька і яшчэ некалькі вязьняў уцяклі праз парваную выбухамі агароджу. Яны колькі дзён хаваліся ў лесе, нават ня ведалі пра нямецкую капітуляцыю. Недзе 11 траўня яны ўбачылі жаўнераў у савецкіх уніформах і пабеглі да іх цалавацца. А тыя здалі іх у СМЕРШ. „Вызваліцелі" пагналі ўсіх савецкіх „вызваленых" на Усход, у ГУЛАГ. Паўз калоны савецкіх рабоў праязджалі на грузавіках вызваленыя з канцлагераў французы, бэльгійцы, грэкі, італьянцы, датчане – з вясёлымі песьнямі, пад нацыянальнымі сьцягамі...

Бацька яшчэ тры гады пакутваў у ГорЛАГу, напоўніцу пазнаёміўся з антычалавечай практыкай расейскіх камуна-фашыстаў. Здолеў вярнуцца ў Гомель з сям'ёй ужо толькі ў 1956 годзе, у сувязі з хрушчоўскай „адлігай". Хаця са згаданай практыкай ён пазнаёміўся яшчэ да вайны. Разам з іншымі падлеткамі ён бачыў, як канвой НКВД вёў на расстрэл вялікую групу „трацкістаў" (простых людзей, бацьку запомніліся іхнія мізэрныя вопратка і абутак). Расейскія акупанты зусім распаразаліся, яны ўжо не хавалі свае злачынствы пад покрывам ночы. Колькі гадоў таму ў лесе на ўскраіне Гомеля, непадалёк ад загараднага рэстарана „Чабарок", былі адкрыты гэтыя страшныя пахаваньні.

Калі яшчэ ў маленстве я слухаў расповяды сямейнікаў пра народную трагедыю і злачынствы акупантаў, мяне зьдзіўляў адзін аспэкт. Камэнтуючы нямецкія зьверствы, дарослыя часьцей за ўсё выразна ідэнтыфікавалі злачынцаў: „прышло гестапа", „немцы захапілі людзей у аблаве" і г.д. Калі гаворка ішла пра расейскіх фашыстаў, успаміны набывалі нейкую дзіўную імпэрсанальную інтанацыю: „людзей завозілі



*44. „Зэкі” ў савецкім турэмным лягеры ў Расеі.*



*45. Мёртвыя дзеці – ахвяры савецкага Галадамору*

за Цагельню і жыўцом кідалі ў дрыгву", „уначы пабралі мужчын, а раніцай каля базара ў Гомелі, дзе іх трымалі, сабраліся натоўпам іхныя жонкі і плакалі..." і г.д. Хто „завозіў, кідаў, браў уначы", ніколі не ідэнтыфікавалася.

Мяркую, што людзі пазьбягалі называць імя ката ня толькі з-за страху (бо ў краіне працягвалася панаваньне маскоўскага рэжыму НКВД-КГБ). Тут прычына больш складаная, больш глыбокія карані гэтага безназоўнага вобразу падзеяў. Гітлершчына прыехала на танках, размаўляла на чужой мове, адназначна заяўляла пра „недачалавекаў" і чужы людзям „нямецкі парадак". Сталіншчыну многія людзі лічылі нейкай „сваёй зьявай". Акупанты і забойцы насілі ўніформы, у якіх служылі ў савецкай арміі беларускія хлопцы („на нём защитна гимнастёрка и алый орден на груди…"). Яны размаўлялі на мове, на якой беларускіх дзяцей вучылі ў акупанцкіх рускамоўных школах. Яны так ярка гаварылі з трыбунаў пра „сьветлую будучыню" і „бацьку народаў, які сядзіць у Крамлі і думае пра кожнага". Да таго ж, калі настала кульмінацыя генацыду, мільёны беларусаў успрынялі бяду як стыхійнае бедства, як нейкі ўраган, што сьлепа, без разбору ламаў жыцьці.

На працягу наступных дзесяцігоддзяў жах сталіншчыны менавіта так існаваў у памяці людзей. Гэта вельмі чуйна ўспрынялі самы каты. У 1956 годзе яны вынайшлі і распаўсюдзілі пасатанінску геніяльную фармулёўку-тлумачэньне наладжанага іхнымі рукамі генацыду – „время было такое, товарищи". Маўляў, „быў такі сэзон, такая пара году", потым „настало другое время, и врагов народа уже не надо ликвидировать". На дзіва, акупанцкую фармулёўку дагэтуль паўтараюць многія людзі, што ацалелі ў сталінскім кашмары. З дзіўнай гатоўнасьцю паўтараюць гэтую лубянскую лухту і іхныя нашчадкі.

Стыхійнасьць расейскага тэрору ў Беларусі, падабенства гэтай зьявы на сьляпое дзеяньне разьюшанай прыроднай сілы (землятрусу або цунамі) было і застаецца жыцьцёвым уражаньнем многіх, хто перажыў гэты жудасны пэрыяд. Праз расповяды гэтых людзей, а таксама не ў апошнюю чаргу, праз пасьлясталінскую прапаганду і падцэнзурнае савецкае мастацтва гэтае калектыўнае ўражаньне замацавалася ў сьвядомасьці мільёнаў беларусаў новых пакаленьняў. Але глыбокае асэнсаваньне фактаў тэрору, падсумаваньне падзеяў паводле законаў гістарычнай навукі і проста здаровага сэнсу прывяло шэраг людзей да высновы, што „стыхія" была не сьляпой, а вельмі відушчай, масавы акупанцкі тэрор у Беларусі быў арганізаваны з рацыянальнай грунтоўнасьцю, з вызначанымі тактычнымі і стратэгічнымі задачамі. Нездарма Гітлер і гітлерцы так захапляліся стылям Сталіна і сталінцаў. Тысячы забойцаў з СС і гестапа прайшлі прафэсійную вывучку ў структурах НКВД і ГУЛАГу. Ім было чаму павучыцца ў маскоўскіх таварышаў.

Тактыка расейскіх акупантаў мела рысы тыповага каланіяльнага падпарадкаваньня паняволенай нацыі. Акупанты арыштоўвалі, высылалі ў канцлягеры і забівалі ў сотнях Курапатаў па ўсёй Беларусі і па-за яе межамі перш за ўсё беларускія нацыянальныя эліты. Па беларускай шляхце быў нанесены сакрушальны ўдар. Акупанты баяліся нашай арыстакратыі (яе нашчадкаў), носьбітаў (чужой для маскоўцаў) эўрапейскай культуры, генафонду старажытнай Літвы.

Маскоўскі НКВД арыштоўваў і зьнішчаў лепшых людзей усіх сацыяльных пластоў краіны: беларускіх настаўнікаў, навукоўцаў, творцаў, інжынераў, сумленных прафэсіяналаў-адміністратараў, лепшых працавітых беларускіх рабочых і сялян. Калі некаторых зь іх не зьнішчалі фізічна, то імкнуліся сьцерці душу „в лагерную пыль" (улюбёны выраз Лаўрэнція Берыі). Напрыклад, нашых выбітных мастакоў XX стагоддзя Міхаіла Філіповіча і Ібрагіма Гэмбіцкага цягалі на бясконцыя допыты, зьбівалі, прыніжалі, запалохвалі. Нявечылі стваральнікаў прыгажосьці. Прычым, на працягу гадоў тэрор арганізоўвалі паводле структураванага пляну. Пляны на арышт і расстрэлы „ворагаў народу" даводзіліся непасрэдна з Масквы на ўсе адміністрацыйныя ўзроўні акупаванай Беларусі: ад маштабу БССР і раёнаў да сельсавета. Штодня ў Маскву паведамляліся лічбы па выніках жудаснага „сацыялістычнага спаборніцтва". Тых забойцаў, якія перавышалі „стаханаўскія нормы" забойстваў, заахвочвалі і ўзнагароджвалі.



*46. Характэрны тыпаж расейскага забойцы-энкавэдзіста*



(Фота: Музэй КГБ у Празе).

*47. Энкавэдзісцкі нелюдзь цэліцца з нагана.*



*48. Сьледчы НКВД вядзе допыт. (Муляж. Музэй Карлага).*

Але існавала грунтоўная асаблівасьць расейскага тэрору на Беларусі. Гісторыя каланіялізму новага часу часьцей за ўсё дае ўзоры захопу і эксплуатацыі тэрыторыяў і народаў менш разьвітых эканамічна і цывілізацыйна (у сэнсе сучаснай тэхналагічнай цывілізацыі) больш разьвітымі каланізатарамі. Напрыклад, падчас панаваньня італьянскіх фашыстаў у Эфіопіі (1935-41 гг.) каланіялісты бязьлітасна вынішчалі нацыянальныя, дзяржаўныя, рэлігійныя эліты краіны старажытнай культуры.

Аднак, у іх задача была даволі простай. У краіне былі тры асобы з унівэрсітэцкай адукацыяй (усіх траіх расстралялі). Забілі мітрапаліта Эфіопскай хрысьціянскай Царквы, генэралаў і міністраў імпэратарскага двара, шэраг племянных лідэраў. Сялян і жаўнераў паспалітага рушэньня забівалі хімічнай зброяй і палілі трупы. Але Мусаліні ня ставіў задачу поўнага зьнішчэньня эфіопскага народа. Фашыстам хацелася пакрасавацца ў ролі „цывілізатараў”, пакарыстацца чорнымі рабамі, іхняй бясплатнай працай.

200-гадовая акупацыя Беларусі расейцамі наадварот была ўварваньнем дзікай азіятчыны (няхай сябе і ў эўрапэйскіх парыках, і ў эўрапейскім адзеньні) у нашу эўрапейскую цывілізацыю. Ад самага пачатку па сёньняшні дзень маскоўскі хам ставіў і ставіць адзіную стратэгічную задачу: поўнае зьнішчэньне беларускай нацыі, нашай культуры і мовы. У выніку фізічнага зьнішчэньня і русіфікацыі на нашай зямлі павінны застацца толькі яны – акупанты з Усходу. У розныя пэрыяды расейскай навалы (у тым ліку і цяпер, у час прамаскоўскага антыбеларускага рэжыму) акупацыйная палітыка не мянялася, зьмяняліся толькі прыёмы і мэтады. Такая стратэгія кваліфікуецца як палітыка генацыду. Генацыд беларускай нацыі працягваецца й цяпер. З 1994 года насельніцтва Беларусі зьменшылася на 660 тысячаў чалавек. Гэта ёсьць статыстыка вайны і масавага зьнішчэньня людзей.

Няма ў сьвеце народу, які ўкленчыў бы перад акупантам і дазволіў беспакарана зьнішчаць сябе. Тыя ж эфіопы разгарнулі партызанскую вайну супраць рымскіх „культуртрэгераў”. Моладзь уцякала з акупаванай краіны і рыхтавалася да вызваленьня айчыны. Калі напрадвесьні 1941 года Брытанія пачала наступ на Эфіопію з суседніх Кеніі і Самалі, у авангардзе выправы маршыравалі нацыянальныя эфіопскія часткі, узброеныя і навучаныя брытанцамі. Яны рваліся ў бой, прагныя помсты за паняверку і зьдзек, за здратаваную радзіму. Калі яны сутыкнуліся з італьянцамі, то не бралі палонных, забівалі ўсіх акупантаў. У хуткім часе да брытанцаў сталі прыбягаць парлямантары, якія крычалі: „Ратуйце! Спыніце гэтых эфіопаў! Мы здаемся!” Пачаўся працэс капітуляцыі італьянскай арміі. Нездарма на працягу стагоддзяў каланіяльнага паняволеньня Афрыкі Эфіопія заставалася адзінай сувэрэннай краінай...

Многія зьдзіўляюцца цяпер, як плаўна адбыўся пераход ад сталінскіх рэпрэсіяў да хрушчоўскай „рэабілітацыі” (забойцы „великодушно простили” свае ахвяры). Мільёны людзей вярнуліся з ГУЛАГу, сустрэлі стукачоў, якія здалі іх, сустрэлі гэбэшнікаў, якія катавалі іх. Учорашнія вязьні ўбачылі, у якім камфортным стане знаходзіцца гэтая публіка, зрабіўшы кар’ёру на чалавечай крыві. І нічога... Акрамя некалькіх інцыдэнтаў, апісаных у літаратуры, у цэлым зло і ягоныя носьбіты не былі пакараны народам.

Пэўны час яны яшчэ хавалі сваю дзікую мінуўшчыну, пазьней, у брэжняўскі час хавацца перасталі. Памятаю, як на пачатку 70-х гадоў мы ішлі з маці непадалёк ад драматычнага тэатру ў Гомелі. На ходніку сядзела цётка і прадавала гародніну. „Глядзі, – прашаптала мне маці, – гэты быў катам у гарадзкой турме...” Побач з цёткай і яе кошамі сядзела лысая фізіяномія, проста ўзятая з карціны Гераніма Босха з выявай пакутніцтва Хрыста ў атачэньні катаў. „Заслуженный пенсионер славных органов” не баяўся, што яго пазнаюць. На двары была ягоная, гэбоўская ўлада, Беларусь заставалася пад ботам маскоўскіх акупантаў. Калі б у траўні 1945 года ня быў разгромлены нямецкі фашызм, не адбылася б грунтоўная дэнацыфікацыя нямецкага грамадзтва, Нюрнбэргскі працэс і г.д., то менавіта так паводзілі б сябе адстаўныя эсэсаўцы і гестапаўцы.

Большасьць людзей так і не выбавіліся ад наступстваў шоку сталінскіх часоў. У многіх адбыліся незваротныя зьмены ў душы і псіхіцы, што передалося наступным пакаленьням савецкіх

людзей. „Тэрапія”, наладжаная лукашысцкім рэжымам, ягонай антыбеларускай практыкай і прапагандай, дае свой змрочны плён у нашым цяперашнім постсавецкім грамадзтве.

Але з Божае ласкі заўсёды былі і ёсьць людзі, якія абвяргаюць марксістоўскую тэарэму наконт таго, што „бытие определяет сознание”. Гэтыя людзі заўсёды з намі, яны ёсьць у кожным кутку нашай краіны. На іх грунтуецца будучыня Беларусі.

З малога я памятаю, зь якой павагай згадвалі ў сям’і дзядзьку Васіля. Ён прайшоў праз усе жахі ГУЛАГа, але вярнуўся нязломны, моцны духам. Ён удзельнічаў у паўстаньні вязьняў у адным з лягераў у Архангельскай вобласьці. Менавіта самаахвярны подзьвіг паўстанцаў у розных зонах савецкай канцлягернай сістэмы пераканаў Хрушчова зь ягонай постсталінскай хунтай, што ліміт на злачынствы ўжо вычарпаны і трэба неяк рэфармаваць сістэму. Дзядзька Васіль заўсёды казаў праўду пра маскалёў-акупантаў, адкрыта ненавідзеў іх, высьмейваў пакорлівасьць местачковых канфармістаў, казаў аглохлым ад страху людзям пра непазьбежны канец антычалавечай імпэрыі. Мне не давялося ўбачыць гэтага чалавека, але ўсё жыццё вобраз няскоранага змагара сьвеціцца ў душы, дапамагае шукаць правільны шлях і далучацца да сапраўдных людзей.

## КУРАПАТЫ. АБАРОНЦЫ І ІМІТАТАРЫ

У жніўні 1990 года я ўпершыню патрапіў у мясьціны, дзе жылі мае продкі і дзе многія зь іх загінулі. Украінскі Народны Рух запрасіў прадстаўнікоў БНФ „Адраджэньне” прыняць удзел у Паходзе па казацкіх мясьцінах. Ад Кіева да Запарожжа тады праехала вялікая калона аўтобусаў з патрыётамі пад нацыянальнымі сьцягамі. Паўсюль нас сустракалі вялікія масы людзей, гучалі ўкраінскія ваярскія гімны. Я ўпершыню ўбачыў вэтэранаў Украінскай Паўстанцкай Арміі, якія крочылі побач з маладымі. Мы не маглі ведаць, што да краху Імпэрыі застаецца роўна год. Але было зразумела: нацыянальныя грамадзтвы робяць такія пераўтварэньні, што жыць па-старому ўжо ніяк не атрымаецца.

Я знайшоў дом, дзе жылі украінскія сваякі, працавітыя людзі, аматары чытаньня. Пасярод размовы яны сказалі: „Ведаеш, а зусім нядаўна „закаталі” могілкі, дзе пахаваны бабуля, дзед Лэўко і іншыя з нашых. Цяпер на тым месцы фабрыка...” Я спытаў, чаму ж не абаранілі могілкі, не зрабілі перазахаваньне прынамсі? Гаспадары нават не зразумелі, пра што гэта я: „А як? А што?..” Дарэчы, тое ж самае ўлады гэтага правінцыйнага горада зрабілі і з пахаваньнямі ахвяраў нямецкай акупацыі. Савецкі малох да канца вытаптваў самае сьвятое. Людзі, на жаль, не здагадваліся, што калі не абараніць магілы ахвяраў народу, то люты вораг зноў прыйдзе зьнішчаць жывых.




*49. Помнік рэпрэсаваным беларусам. (Музэй Карлага)*

Магіл дарагіх людзей няма. Што рабіць? Гэтае пытаньне задавалі сябе многія людзі ў 1988–90-я гады, калі мацнела народнае рушаньне, зьнікаў страх, калі сэрца шукала аднадумцаў. Курапаты сталі для беларусаў такім месцам, дзе кожны мог памянуць ахвяры сваёй сям’і, паставіць свой Крыж у памяць блізкіх людзей, магілы якіх невядома дзе на прасторах ГУЛАГа. І ў той жа час кожны далучаўся да ўсенароднай драмы і ўсенароднай памяці. У Курапатах паўстаў Народны мэмарыял.

Сьвятыню вярнуў нацыі Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне”. Фронт на працягу гадоў абараняе Народны Мэмарыял ад зьнішчальнікаў і рэжымнай дрэні. Фронт зьдзяйсьняе працу па стварэньню Мэмарыяла. Адкрыў Курапаты Зянон Пазьняк. Ён упершыню на ўвесь сьвет сказаў праўду аб генацыдзе беларускага народа. Гэтыя неабвержныя факты ўвесь час спрабуюць абвергнуць рознага кшталту балбатуны



***50. Курапаты.***

і фальсіфікатары. Барацьба ў абарону сьвятых магілаў і Крыжоў працягваецца штодня і завершыцца толькі тады, калі Беларусь вызваліцца ад акупацыйнага гэбоўскага рэжыму.

Людзям недасьведчаным здаецца дзіўным, чаму саветы раней і лукашысты цяпер так упарта імкнуліся і імкнуцца зьнішчыць курапацкія магілы? Чаму яны так баяцца мёртвых? Чаму намагаюцца заблытаць грамадзтва гуканьнем падстаўных гукальшчыкаў: „А вообще-то неизвестно ещё, кого расстреляли в Куропатах. Говорят, там сплошь литовские офицеры. А может быть поляки…” Для іх важна пусьціць чуткі, што пахаваныя ў Курапатах ахвяры – „сплошь” не былі беларусамі (у іншых варыяцыях канторскай хлусьні даказваецца, што ўсе, хто расстрэльваў у Курапатах, „сплошь” былі беларусамі).

Згаданыя магілы ахвяраў генацыду ірляндскага народу ў Кэлсе і па ўсёй Ірляндыі не былі зьнішчаны брытанскімі акупантамі. І не толькі таму, што брытанцы ў цывілізацыйным сэнсе – не расейцы. Акупанты ведалі, што ірляндцы не дапусьцяць, каб яны зьдзейсьнілі гэта злачынства. Змагарны народ адназначна ўстаў на абарону сваіх палеглых. Наогул, цяжка ўспомніць у новай гісторыі Эўропы прыклады зьнішчэньня дзяржаўнымі ўладамі магіл ахвяраў вайны або рэпрэсіяў. Акрамя, зразумела, людажэрскай практыкі нямецкага фашызма, які з расейскім фашызмам-бальшавізмам – „близнецы-братья”. Больш нічога падобнага ў вялікіх маштабах не тварылася.

Да моманту падзеньня камуністычнай дыктатуры ва Угоршчыне невядомыя (зразумела, што пад патранажам спэцслужбаў) рэгулярна апаганьвалі на могілках у Будапэшце магілы Імрэ Надзя і іншых лідэраў народнай рэвалюцыі 1956 года, расстраляных па загаду з Масквы. Улады „народнай” Польшчы зараўнялі на могілках некалькі магіл рабочых, якія загінулі падчас антыкамуністычных выступаў у 1970 годзе. Але тут йдзецца пра сатэлітныя рэжымы. Як толькі народы пагналі прэч халуёў Масквы, усё зьмянілася. Людзі ўшанавалі памяць герояў і пакутнікаў помнікамі.

Рушэньне Беларускага Народнага Фронту, наша народная рэвалюцыя пачыналіся ў 1988 годзе з Курапатаў, з першых мэмарыяльных


(Фота Зьміцера Крываноса).

мітынгаў, дзе людзі ўпершыню пачулі праўду аб народнай драме і заявілі аб тым, што ня хочуць далей жыць пад камандай спадкаемцаў забойцаў. Гэта ёсьць класічны шлях адраджэньня хрысьціянскага народа. Мы не былі першымі на гэтым шляху.

Калі скончылася вайна, французкі народ імкнуўся да аднаўленьня паўнавартаснага нацыянальна-дзяржаўнага жыцьця пасьля прыніжэньняў акупацыі і калабарацыі з акупантамі. На дзяржаўнае сьвята ў Дзень Перамір'я 11 лістапада 1945 года па вуліцах Парыжа прайшлі сотні тысячаў людзей начале з генэралам Шарлем Дэголем. Яны несьлі 15 трунаў з целамі патрыётаў, забітых немцамі. Экзгумаваныя з гестапаўскіх ям целы герояў былі пахаваны на дзяржаўных могілках. Народ выкляў здраднікаў і калабарантаў, назаўжды вызначыў для сябе, хто падчас вайны быў сапраўднай Францыяй. У чэрвені 1988 года сотні тысячаў людзей прайшлі па Будапэшту за трунамі з целамі лідэраў рэвалюцыі 1956 года, каб перазахаваць іх у дастойным месцы.

Як замітусілася тады прамаскоўская хунта, як закрычала: „Гэта незаконна, на гэта не было рашэньня ЦК!" Калабаранты адчулі, што іхнай уладзе засталося трываць нядоўга. Яны не памыляліся, праз лічаныя месяцы маскоўскі камунізм з грукатам паваліўся ва Угоршчыне.

Вось яшчэ прыклад. 17 лістапада 1989 года пражскія студэнты вырашылі адзначыць мэмарыяльнымі мерапрыемствамі ўгодкі антыфашыстоўскага студэнцкага мітынгу 1939-га году, жорстка падаўленага нямецкімі акупантамі. Вялікія масы моладзі з кветкамі і сьвечкамі пасьля мітынгу пайшлі на могілкі да магілы Яна Палаха. Пражскі студэнт публічна спаліў быў сябе ў 1969, пратэстуючы перад усім сьветам супраць маскоўскай акупацыі радзімы і здушэньня Пражскай Вясны. Рэжым кінуў супраць моладзі паліцэйшчыну. Але на наступны дзень па ўсёй краіне мільёны людзей пачалі агульнанацыянальны палітычны страйк пратэсту, у выніку якога прамаскоўская дыктатура абвалілася.

Ня так даўно гэбоўская агентура пачала атручваць беларускае грамадзтва чарговай гнюснасьцю на тэму Курапатаў і абаронцаў сьвятыні. Маўляў, „гэтая КХП-БНФ толькі тым і займаецца, што падмятае на курапацкіх могілках... заняліся б

лепш сапраўднай палітыкай” і г.д. Але „криводушничают” таварышы. Цудоўна ведаюць яны ў сваёй лубянскай канторы, якое ачышчальнае сьвятло можа ўзьняцца ад сьціплых курапацкіх сьвечак і азорыць мільёны беларускіх душаў. Баіцца бязбожны акупант курапацкіх Крыжоў.

Аўтарам ідэі і канцэпцыі Народнага Мэмарыялу „Лес Крыжоў” зьяўляецца Зянон Пазьняк. На працягу гадоў над увасабленьнем гэтага праекта працавалі многія людзі. Нават той, хто хаця б адзін раз удзельнічаў у талацэ, дапамагаў у добраўпарадкаваньні могілак, стаўленьні Крыжоў, можа з гонарам казаць – „У Народным Мэмарыяле ёсьць частка і маёй працы”. Усе ведаюць фронтаўцаў Алеся Чахольскага і Уладзімера Юхо, якія ўклалі ў справу мэмарыяла найбольшы індывідуальны ўнёсак. Яны працуюць на кожнай талацэ, вырашаюць практычныя праблемы, натхняюць людзей, паказваюць прыклад. Падчас абароны Курапатаў у 2001 годзе Уладзімер Юхо быў арыштаваны і зьбіты амонамі. Іншым разам, калі яго арыштавалі і павезьлі на рэжымны суд, Юхо моцна трымаў у руках вялікі Крыж, які не даваў апаганіць акупантам (так яго і завезьлі з крыжам проста ў лукашысцкі суд і судзілі з крыжам).

Сапраўдныя работнікі і абаронцы Народнага Мэмарыялу – гэта фронтаўцы

Алесь Чахольскі, Уладзімер Юхо, Аліна Дуброўская, Пятро Шашкель, Ангеліна Масюта, Тацьцяна Цяцёркіна, Рыгор Кійко і многія, многія іншыя. Да фронтаўцаў далучаюцца людзі з Менску і ўсяе Беларусі. У кампазыцыі Народнага Мэмарыялу ёсьць ужо шэраг Крыжоў, прывезеных беларусамі з Летувы і розных рэгіёнаў нашай краіны.

Сваё жыцьцё прысьвяціла справе Народнага Мэмарыялу Мая Тодараўна Кляшторная. Пасьля расстрэлу яе бацькі,– таленавітага паэта Тодара Кляшторнага (1903-1937), – яна апынулася з сям’ёй у ГУЛАГу, у спэцлягеры для сем’яў „ворагаў народу”. Ёй было тады два гады... З першых дзён змаганьня Народнага Фронту за Беларусь Мая Тодараўна разам з намі. На нашых вачах вырасла яе ўнучка Хрысьцінка. Яна заўсёды ўдзельнічае ў мэмарыяльных мерапрыемствах у Курапатах.

Тут дарэчы будзе ўспомніць пра „удзел” у справе мэмарыялізацыі Курапатаў „нашей православной організаціі” (як называе РПЦ А. Лукашэнка). „Організація” шэраг гадоў не заўважала Курапаты. Потым на ўскрайку Курапацкага лесу людзі ўбачылі нейкую дзейнасьць групы асобаў, якія нешта будавалі з квадраў. Недабудаваную канструкцыю РПЦ назвала „подворьем”. Час ад часу туды прыходзіў бацюшка з будынка РПЦ, што непадалёк ад Курапатаў. Ён разьвёў побач з „подворьем” (якое так і не было дабудавана) невялікі гарод. Да гэтага гарода ў прызначаны час хадзілі нейкія жанчыны і атрымлівалі там гуманітарныя пакункі.

Хто яго ведае, можа паводле статуту РПЦ, так і трэба. Але немагчыма сабе ўявіць, каб палякі ў Асьвенцыме, немцы ў Дахаў або французы ў Арадуры закладалі гароды, вырошчвалі капусту і буракі... Патрыёты з горада Узды вырабілі вялікі Крыж у форме паводле праваслаўнай традыцыі і павезьлі яго ў Курапаты. Раней яны ніколі не былі там. Убачыўшы „подворье”, яны падумалі, што гэта і ёсьць сапраўдны цэнтар кампазыцыі мэмарыялу. Паставілі каля бацюшкінага гарода Крыж і паехалі дадому.

На наступны дзень Крыжа ўжо не было. Спачатку мы меркавалі, што „організація” зьнішчыла яго. А потым убачылі, што Крыж стаіць побач з недабудаваным будынкам РПЦ на вул. Мірашнічэнкі непадалёк ад Курапатаў. Бацюшка і ягоная „організація” хватка пакарысталіся нагодай і сэканомілі на „утварі” (як называюцца ў іх прадметы хрысьціянскага рытуалу).

Мяркуем, што ў такім выпадку ім трэба было б прынамсі спытаць у людзей (якія ад імя ўсіх сваіх землякоў вырабілі і прывезьлі ў сьвятыню Крыж) дазволу на выдаленьне яго з тэрыторы мэмарыялу. Аднак, гародніцтвам і дэзарыентацыяй людзей у Курапатах РПЦ займалася нядоўга. Мабыць у Маскве зразумелі, што не ўдалося падпарадкаваць Курапаты ідэалагеме „святой Руси”, і адтуль пайшоў загад трымацца падалей ад беларускай сьвятыні. Аднойчы прыехалі рабочыя ў камбінэзонах і вывезьлі прэч квадры недабудаванага „подворья”. Дзе-нідзе засталіся ляжаць толькі камяні з алейнымі выявамі і цытатамі па-расейску (паводле РПЦ, цытаваць Біблію можна толькі на гэтай мове).



*51. Крыжовае шэсьце ў Курапаты. У цэнтры: Юры Беленькі, Пётра Шашкель, Майя Кляшторная.*

У 2001 годзе рэжым заявіў пра „неабходнасьць пашырэньня абвадной дарогі” вакол Менска. Расейскае тэлебачаньне арганізавала цэлую тэлепраграму, прысьвечаную гэтай „неабходнасьці”. Тэлевядучую вазіў на аўтамабілі сам Лукашэнка. Седзячы за рулём, ён гукаў: „Мы начнём страіцельства ат Курапат і дальше, дальше...” Беларусы зразумелі, што над сьвятыняй навісла пагроза поўнага зьнішчэньня. Беларускі Народны Фронт і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ актывізавалі талокі, людзі дзяжурылі, ставілі на магілах ахвяраў новыя Крыжы.

Сінхронна з заявай начальніка дыктатуры пачала дзейнічаць агентура рэжыму. На паверхні гэтым разам паказаліся дзьве фігуры: І. Жыхар, супрацоўніца Свабоднага прафсаюза, і В. Арэшка (ён дагэтуль падпісваецца як „культуролаг”) з „Сойма” былога-БНФ (В. Вячоркі). Яны і яшчэ некалькі пэрсанажаў публічна тэарэтызавалі наконт недапушчальнасьці „несанкцыянаванага стаўленьня крыжоў у Курапатах”, пра „неабходнасьць супрацоўніцтва з уладамі ў справе мэмарыялу” і г.д.

Паводзілі яны сябе вельмі актыўна. Адчувалася, што ня могучы зьнішчыць Курапаты, кантора спрабуе перахапіць у патрыётаў ініцыятыву і выпусьціць наперад сваіх людзей пад нейкім цёмным сьцягам. Канторскія абвясьцілі пра стварэньне нейкага „камітэта па мэмарыялу ў Курапатах”, запрасілі на паседжаньне некалькі былых вязьняў ГУЛАГу і прадстаўнікоў інтэлігенцыі (нават Янку Брыля). Там яны зьбіраліся далучыць усіх да „мэмарыялізацыі” пад патранажам Фонду Міра і яшчэ некалькіх даўніх гэбоўскіх арганізацыяў.

Фронт паслаў на гэты сход нашага Уладзімера Юхо. Ён доўга там не сядзеў, а раздаў усім прысутным нашу заяву. Там гаварылася аб тым, што нельга давяраць падстаўным і фальшывым, нельга ствараць мэмарыял разам з гэбоўскімі прадстаўнікамі і ўладай, якая зьнішчае Курапаты. Адзіным вынікам такога супрацоўніцтва са спадкаемцамі расстрэльшчыкаў будзе апаганьваньне Курапатаў якой небудзь жалеза-бэтоннай „родіной-матерью” з чырвонай зоркай. Людзі прачыталі наш зварот. Першым падняўся зь месца і пайшоў на выхад Янка Брыль, за ім пайшлі



*52. Алесь Чахольскі*

іншыя інтэлектуалы. Спроба жулікаў пакарыстацца нацыянальнай элітай з грукатам правалілася. Але яны не супакойваліся.

На фронтаўцаў напусьцілі журналісцкую цемру, якая паводзіла сябе агрэсіўна, патрабуючы „спыніць нехарошае дзела". Мне запомніўся адзін такі „журналісцкі запыт". У пятніцу зазваніў тэлефон. У слухаўцы малады жаночы голас пранізьліва крычаў: „Я из АПН. Как вы смеете ставить кресты в Куропатах?! А что делать евреям и мусульманам?! Что вы делаете?! Почему вы не поддерживаете комитет Жихарь-Орешко?! Прекратите немедленно!.."

Назаўтра была субота, фронтаўцы сабраліся на талаку ў Курапатах. Людзі пачалі працу. І раптам бачым, начале групы нейкіх грамадзянаў шпарка перасоўваецца І. Жыхар. Паслухалі, што яна кажа на сваёй „экскурсіі". Спадарынька бадзёра апавядала, як яна з таварышамі ставіць у Курапатах крыжы, рыхтуе мэмарыял і г.д. Пазьней з купкай замежнікаў прыбег В. Арэшка і пад перакладчыка апавядаў тое ж самае.

Мы ня ведалі, што рабіць: сьмяяцца або плакаць. Аказалася, што ўчорашні „журналісцкі запыт" быў апошнім. У ноч з пятніцы на суботу кантора прыняла рашэньне спыніць супраціў „крестовоздвижению" і загадала сваім узначаліць ініцыятыву ў Курапатах. „Свае" адразу ж пачалі збор грошай „на агароджу Курапатаў", шмат шумелі, але так і не паставілі аніводнага Крыжа. Шкодзілі яны нядоўга. Пэрсанажы такой пароды не трымаюцца там, дзе няма сталага прытоку грошай. А людзі грошай ім не давалі (у тым ліку і зазвычай наіўныя замежнікі). Праз пэўны час Жыхар была выдалена з прафсаюза, Арэшка перакінуўся на больш хлебнае месца на грантаўскай ніве.

У верасьні-лістападзе 2001 года рэжым арганізаваў адкрыты зьнішчальны наступ на Курапацкую сьвятыню. Дзень чарговай фальшывай інаўгурацыі Лукашэнкі 20 верасьня 2001 года рэжым адзначыў пачаткам атакі на Курапаты. Пра бульдозэры на магілах усім нам патэлефанаваў Уладзімер Юхо. Фронтаўцы пачалі зьбірацца ў Курапатах і гнаць зьнішчальнікаў (якія называліся „будаўнікамі") прэч. Людзі несьлі ў Курапаты Крыжы і ставілі іх на шляху трактараў і бульдозэраў.

Супраціў у першыя тры дні абароны арганізоўваў Сяргей Папкоў, намесьнік старшыні БНФ „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Немалады чалавек невысокага росту, ён першым ставаў перад бульдозэрам, да яго далучаліся іншыя фронтаўцы. Стала вядома, што „будаўнікі" былі прывезены рэжымам з правінцыі. Яны ня ведалі, што іх прыслалі зьнішчаць магілы. Найменшы супраціў спыняў гэтых людзей. Пазьней мы даведаліся, што рэжым вымушаны быў цалкам мяняць склад брыгады кожныя два тыдні, часам яшчэ часьцей. Людзі адмаўляліся выконваць злачынныя загады начальства пасьля нашых тлумачэньняў.

Найбольш актыўная атака на сьвятыню пачалася на наступны дзень пасьля бальшавіцкага „праздніка октябрьской революціі". 8 лістапада 2001 года рэжым кінуў на Курапаты жалезную хвалю тэхнікі і цемру ОМОНа, міліцыі і КГБ. Я прыехаў у Курапаты прыкладна а 18.30. Усе, хто знаходзіўся там у той дзень былі схоплены і вывезены паліцэйшчынай. Стала вядома, што вельмі пацярпеў фронтавец Рыгор Кійко, якога жорстка каталі азьвярэлыя амоны. Пад вострым сьвятлом пражэктараў бульдэзэры валілі Крыжы... Мабыць, рэжым быў упэўнены, што дасягнуў перамогі.

Але раніцай 9 лістапада Сяргей Папкоў пачаў арганізоўваць ланцуг абаронцаў. Іх атакавалі амоны. Арыштаваных людзей вывезьлі на суд (калі можна так назваць рэжымнае судзілішча, якое ў тыя дні раздавала абаронцам прысуды на штрафы і адміністрацыйныя арышты). Недзе каля 14.00 з



*53. Уладзімер Юхо*

фронтаўцаў у Курапатах засталіся нясхопленымі толькі я і Уладзімер Раманцоў. Было шмат журналістаў. Раптам усе яны і частка амонаў сарваліся зь месца і гуртам пабеглі па дарозе ў бок горада.

Пазьней мы даведаліся, што за паўкілёмэтра ад Курапатаў была наладжана шумная акцыя „апазыцыі", зрэжысіраваная „прафэсіяналамі справы". Група асобаў начале з вядомымі Лебедзько і Бандарэнкам нібыта маршыравала „вызваляць Курапаты". Іх сустрэў амонаўскі ланцуг і куча журналістаў, гатовых асьвятляць „сэнсацыю". На наступны дзень у СМІ зьявіліся карцінныя кампазыцыі: Лебедзько і Бандарэнка махаюць рукамі перад амонаўскімі здаравякамі, твары „рашучыя"... Цікава, што ўжо праз год журналісты-"дэмакраты" схавалі гэтыя здымкі пад спод і ўрэшце апублікавалі здымак з сапраўднымі абаронцамі Курапатаў начале з Сяргеем Папковым. Нават журналістам стала няёмка працягваць гэтую імітацыйную хлусьню.

Нас з Уладзімерам Раманцовым тады скруцілі і адвезьлі ў РАУС Менскай вобласьці. На наступны дзень лукашэнкаўская Фэміда прысудзіла нам штраф. Тады пацярпела шмат людзей. Але зьвесткі пра жорсткія рэпрэсіі сёньняшняга рэжыму над мірнымі абаронцамі магілаў на месцы камуністычных рэпрэсіяў распаўсюджваліся па ўсім сьвеце. Кіраўніцтва БНФ таксама не губляла часу. Зянон Пазьняк сустракаўся з журналістамі і палітыкамі з розных краінаў, накіроўваў звароты (у ЮНЭСКА і інш.), заклікаў выратаваць беларускую сьвятыню. Фронт зьвярнуўся з адозвай да Папы Рымскага Яна-Паўла II, да грамадзтваў, парлямантаў, палітычных і рэлігійных дзеячаў цывілізаваных краінаў. Афіцыйны Менск пачаў атрымліваць пратэсты і запыты з-за мяжы. Міжнародная супольнасьць адназначна трактавала спробу разбурэньня Курапатаў як злачынства.

Убачыўшы правал брутальнай атакі сваіх сатрапаў і баючыся міжнароднага скандалу, Масква аддала загад у сатрапію спыніць акцыю. Было зьнішчана больш за 100 крыжоў, пашкоджаны магілы, пацярпелі абаронцы, але фронтаўцам удалося адбіцца. Гэтым было даказана, што нават абмежаваная колькасьць абаронцаў можа спыніць усю магутнасьць антычалавечага рэжыму. Трэба толькі дзейнічаць салідарна і разумна.

Тут неабходна ўсё ж закрануць справу гэтак званых „абаронцаў", а больш дакладна імітатараў абароны Курапатаў. Як было ўжо сказана, на працягу трох дзён фронтаўцы баранілі сьвятыню, ня думаючы пра небясьпеку. На чацьверты дзень (23 верасьня 2001 г.) на невялікай пляцоўцы каля Крыжа Пакутаў зьявілася некалькі маладзёнаў. Яны актыўна раздавалі інтэрв'ю, пачалі раскладаць вогнішча. У наступныя дні яны так і сядзелі каля гэтага вогнішча, грэліся, смажылі кілбаскі. Потым паставілі вялікі намёт, у якім пачалі начаваць. Час ад часу ў Курапатах зьяўляўся Павел Севярынец і з уласьцівым яму бадзёрым інфантылізмам „кіраваў працэсам". Гэты працэс быў апэратыўна прадстаўлены журналістамі ўсяму грамадзтву як „дзейнасьць абаронцаў Курапатаў".

Мы мелі магчымасьць даволі доўга назіраць за іхняй „дзейнасьцю" і за імі. Калі фронтаўцы ставілі Крыжы на магілах, яны смажылі кілбаскі і нават не глядзелі ў наш бок. Калі людзі зьбіраліся на малітву перад Крыжом Пакутаў, „абаронцы" грэліся каля вогнішча і нават не ўставалі, адвярнуўшыся плячыма. Даведаўшыся з журналісцкай рэкламы пра „маладых абаронцаў", беларускія жанчыны пайшлі ў Курапаты і панесьлі ім ежу. Іх з іхнымі гасьцінцамі сустракалі няветліва, намякаючы, што трэба лепш здаваць грошы „на абаронцаў".

Твары і манеры некаторых з „абаронцаў" мелі незмывальную пячатку вулічнай шпаны. Людзі са зьдзіўленьнем прыглядаліся да гэтай стракатай публікі. Некалькі разоў сярод іх



*54. Абарона Курапатаў. Зона недатыканьня.*

зьяўляліся маладзёны нападпітку, паводзілі сябе агрэсіўна ў адносінах да фронтаўцаў. І яшчэ адна красамоўная дэталь. Калі журналісты або грамадзяне-аматары фатаграфавалі купку „абаронцаў”, то частка зь іх адварочвалася і хавала твары. (?). Калі пахаладала, каля вогнішча „абаронцаў” прыязна грэліся амоны, якія ахоўвалі будаўніцтва кальцавой дарогі па курапацкіх магілах.

Узьнікла падазрэньне, што ўсё гэта некім кіруецца з мэтай дэзарыентацыі грамадзтва. Імітатары, што прыляпіліся да тэмы, павінны былі запоўніць сабой інфармацыйную прастору і засьціць барацьбу за сьвятыню, якую вялі фронтаўцы. Трэба прызнаць, што ў значнай меры ім гэта ўдалося дзякуючы намаганьням журналістаў (якія таксама мелі сваё „рэдакцыйнае заданьне”). Праз колькі месяцаў гэтай камэдыі намёт камэдыянтаў запаліўся ўначы і каардынатары спэктаклю пачалі трубіць адбой. Яны сышлі з Курапатаў. І вось жа цікава, нікога з гэтых „маладых абаронцаў” мы ў Курапатах больш нікалі ня бачылі.

Імітатарства на гэтым ня скончылася. На працягу апошніх трох гадоў актывізаваліся асобы, якіх раней ня бачылі ў Курапатах: „гісторык” Кузняцоў, „грамадзкі дзеяч” (такая вось фармулёўка) Сіўчык і некалькі іншых. Яны робяць заявы на тэму, зьбіраюць вакол сябе невялікія купкі людзей, прадстаўляюцца „абаронцамі” у замежных амбасадах. Іхнае камэрнае гаварэньне рэклямуецца ў мясцовай „незалежнай” прэсе. Як быццам нічога дрэннага тут няма. Праўда ніводнага крыжа яны не паставілі, затое пару гадоў таму з помпай адсланялі ў Курапатах „мэмарыяльную шыльду”. На наступны дзень фронтаўцы ўбачылі, што „шыльда” зроблена з плястыліну і пафарбавана срэбнай фарбай...

У апошнія гады мы назіраем таксама новую сюжэтную лінію імітатарства, гэтым разам ўжо выразна шкодную. Час ад часу у Курапатах адбываюцца „экскурсіі”. Перад публікай выступаюць маладзёны 25-28 гадоў. Яны ня могуць сказаць, дзе знаходзіцца іхнае „экскурсбюро”, хто яны такія і хто іх рыхтаваў. На талоках або на Дзядах мы гэтых „экскурсаводаў” нікалі ня бачылі.

Іхнае апавяданьне льецца даволі нудна, шматслоўна. Але заўважаны дэталі, якія становяцца стрыжнявай лініяй у іхным расповядзе пра Курапаты.

Прывяду прыклады. Кожны зь іх адкрыта кажа: „У Курапатах беларускі народ забіваў сам сябе”. Далей: „Зянон Пазьняк хадзіў па навакольных вёсках, зьбіраючы зьвесткі пра Курапаты. Да яго з двароў выходзілі адстаўныя энкавэдзісты і казалі: „Так, я ганаруся тым, што страляў ворагаў у Курапатах”. І г.д. Галоўная задача „экскурсаводаў” заключаецца ў тым, каб пераканаць беларусаў і замежнікаў: Курапаты – гэта не злачынства расейскай акупацыі, тут „беларусы забівалі беларусаў”. Такая, вось дэталька ўжо з лубянскай прывязкай.

Яны, вядома, ні слова ня кажуць пра тое, што ў змаганьні за Курапаты паўстаў Беларускі Народны Фронт. Прычым, іхняя няпраўда ўнітавана ў шэраг праўдзівых фактаў (мэтода не змяншае меру подласьці такіх „прамоўцаў”). Людзі старэйшага ўзросту ведаюць, што пасьля 1953 года ніхто адкрыта не выхваляўся тым, што расстрэліваў пры Сталіне людзей. І ніводзін з катаў ня жыў і не жыве ў навакольлі Курапатаў. Вядома, што зьбірае экскурсантаў на такія „экскурсіі” група пад абрэвіятурай БХД.



*55. Сяргей Папкоў*

Фальсіфікатарам ня ўдасца абвергнуць даказаныя чалавечымі ўспамінамі, дакумэнтальнымі і матэрыяльнымі сьведчаньнямі факты. Археалагічныя раскопкі, праведзеныя пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка, прадэманстравалі маштабы і характар злачынства. Курапацкая машына сьмерці напружана працавала штодня і

штоначы на працягу амаль пяці гадоў. Расейскія акупанты расстрэльвалі тут беларускіх людзей і закапвалі ў ямах іхныя трупы з 1937 года па 23 чэрвеня 1941 года. Толькі ў Курапатах было забіта каля 250 тысячаў чалавек. Ужо на прыканцы 1940-х гадоў бальшавікі зрабілі спробу зьнішчыць сьляды свайго злачынства. Тады яны ў першы раз выкапвалі з зямлі парэшткі людзей і вывозілі іх у невядомым накірунку. Пасьля таго варварскія (заплянаваныя і стыхійныя) „эксгумацыі" праводзіліся шэраг разоў. Акупанты будавалі на магілах дарогу і газаправод, водазаборнік, запраектавалі нават пабудову побач з Курапатамі элітнага паселішча „для обеспеченных граждан" пад назовам „Солнечный город" з рэклямай у газэтах: „Рядом находится экологически чистая лесная зона"... (З вялікімі цяжкасьцямі нам з дапамогай грамадзкасьці тое будаўніцтва ўдалося спыніць.)

Апошнім прыкметным эпізодам шкоднай імітацыі стаў публічны выступ на тэму Курапатаў вядомага рэжымнага і адыёзнага рэдактара П. Якубовіча. Ён заявіў сярод іншага, што ў Курапатах усе павінны прымірыцца і што даглядаць магілы павінны актывісты БРСМ. На гэта сумленныя беларусы адказваюць, што немагчыма прымірыцца з тым, хто не пакаяўся, дзе няма жалю, ні скрухі, ні ўтрапеньня. І лукашэнкавым бэрэсэмам няма чаго рабіць у сьвятыні.

Барацьба за Курапаты працягваецца як частка барацьбы за Беларусь. Даўно вызначыўся падзел сілаў у гэтым змаганьні. З аднаго боку гэта Беларускі народ, хрысьціянская духоўнасьць, эўрапейская традыцыя. З другога боку – акупанцкая цемра, істоты, апантаныя сатаной, тыя, хто ненавідзяць Беларусь і ня маюць нічога сьвятога. Наперадзе перамога Беларусі і справядлівы суд над цемрай – ня толькі Божы, але й чалавечы.

*Лістапад 2009 г.*

***Валеры Буйвал***



(Фота Максіма Каплана).

***56. Мэмарыял Курапаты зімой.***

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ „АДНОЙ ГІСТОРЫІ”

З чым бы параўнаць дакумэнтальнае выданьне пад эгідай Радыё „Свабоды”, што зьявілася ў сьвет вельмі апэратыўна ў 2002 годзе („Дарога праз Курапаты”. Рэдактар С. Дубавец)? З цяжкасьцю шукаеш параўнаньні і ўрэшце ўспамінаеш студэнцкую маладосьць. Як аднойчы на мае словы скепсісу і іроніі наконт якасьці і карысьці лекцый, напрыклад, па марксізму-ленінізму калежанка лагічна адрэагавала: „А ведаеш, у прынцыпе нешта карыснае можна ўзяць з любой лекцыі, ад любога выкладчыка, нават ленініста. Ну, прынамсі павучыцца таму, як ня трэба выкладаць матэр’ял...”



*57. Валеры Буйвал*

Згаданае выданьне „Свабоды” нельга назваць паўнавартаснай кнігай. Гэта хутчэй брашура пашыранага аб’ёму. Для выдаўцоў яна была вельмі важным момантам іхнай прафэсійнай біяграфіі. Яны зрабілі яе „у рэкордныя тэрміны”, „па сьвежых сьлядах”, як „сваечасовае журналісцкае рэагаваньне”. Але, тым ня менш, яркім момантам у духоўным жыцьці Беларусі або шэдэўрам беларускай журналістыкі выданьне так і ня стала. І ўсё ж хочацца найперш зьвярнуць увагу на тыя старонкі брашуры, якія сапраўды зьяўляюцца каштоўным дакумэнтальным матэр’ялам.

У бясконцым шэрагу рэпартажоў, інтэрв’ю, камэнтароў і сюжэтных карцінак усё ж удаецца знайсьці аб’ектыўнае адлюстраваньне падзеяў і тэндэнцыяў 2001-2002 гадоў. Трэба прызнаць, што некаторыя адлюстраваныя на гэтых старонках асобы шмат аддалі б за тое, каб брашура не існавала і не існавалі б іхныя выказваньні ды апісаньні іхных дзеяньняў падчас абароны Курапатаў ад атакаў антыбеларускага рэжыму. Але з песьні слова ня выкінеш...

На пачатку трэба зазначыць, як цьмяна і невыразна ў брашуры пазначаны падзеі самага пачатку курапацкай абароны. Галоўнае апавяданьне разгортваецца з 24 верасьня 2001 года, калі там зьявіліся так званыя „маладыя абаронцы”. Чытачу цяжка ўявіць, што адбывалася ў Курапатах вясной-летам і асабліва з 20 верасьня (калі на магілы пакутнікаў заехалі першыя бульдозэры) па 23 верасьня. Трэба нагадаць, што ў тыя дні і месяцы Курапаты абаранялі сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ (яны баранілі Курапаты і ў наступныя дні, бароняць сьвятыню й цяпер). Кіраваў імі намесьнік старшыні Партыі і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне” Сяргей Папкоў. Аўтары рэпартажоў і брашуры неяк „не заўважылі” гэтых фактаў. Ну што ж, бывае..., няведалі. У тагачасных рэпартажах і ў брашуры імя Зянона Пазьняка ўпершыню згадваецца ажно 5 кастрычніка 2001 года (на трэці тыдзень актуальных падзеяў); згадка прысьвечана даўнім падзеям адкрыцьця Курапатаў. З першых дзён атакаў рэжыму на сьвятыню журналістаў неяк не цікавіла думка адкрывальніка Курапатаў наконт таго, што там адбываецца. Можа яны ня ведалі, што менавіта Зянон Пазьняк мабілізаваў беларускіх патрыётаў на абарону сьвятыні, што яшчэ зь лета і потым з першых гадзінаў асеньняй драмы ён інфармаваў міжнародную супольнасьць аб падзеях, патрабаваў, прасіў падтрымкі і рэагаваньня ад урадаў, палітычных, рэлігійных і грамадзкіх дзеячаў па ўсім сьвеце. На „Свабодзе” пра гэта мабыць „ня ведалі”. Што ж, бывае...

Але мы абяцалі прадставіць цікавыя факты дзеяньняў пэўных асобаў. Першы такі факт адлюстраваны ў брашуры ў рэпартажы ад 8



***58. 3-га чэрвеня 2008 года – дваццаціґоддзе адкрыцьця Курапатаў. Франтаўцы КХП-БНФ акружылі лідэра партыі Ю. Беленькага (выконваючага абавязкі Старшыні БНФ) і не даюць міліцыі яго схапіць.***

кастрычніка 2001 г. Распавядае П. Севярынец: *„Ноч прайшла спакойна, а вось раніцай адбыўся інцыдэнт. Некалькі актывістаў КХП БНФ выкапалі пастаўленую ўчора будаўнікамі жалезную агароджу, зьнялі стужку ў раёне каля крыжоў. Гэтай стужкай была вызначана мяжа плянаванай дарогі. Неўзабаве ў Курапаты прыехаў кіраўнік арганізацыі „Магістральаўтадор”, якая каардынуе работы пашырэньня дарогі, А. Ліцын. Ён абвінаваціў актывістаў КХП БНФ у самаўпраўстве,* ***парушэньні дамоўленасьцяў паміж уладамі і грамадзкімі арганізацыямі****. Паводле Ліцына, усталяваньне агароджы прадугледжана дамовай. Сябры КХП БНФ заявілі, што не дапусьцяць пашырэньня дарогі, таму вызначэньне дарогі ня мае сэнсу”.*

Якія ж „нехарошыя” гэтыя актывісты КХП! Павел Севярынец уладкаваў свой атрад на начлег у Курапатах, ёсьць дамоўленасьці аб пабудове дарогі праз Курапаты „паміж уладамі і грамадзкімі арганізацыямі”. А тут ўсё гэта спыняе С. Папкоў „са сваімі баевікамі” (як казалі б ў жніўні 1991 г. напалоханыя камуністы ў Вярхоўным Савеце) і арганізоўвае прыкры інцыдэнт, ламае слупкі для пашырэньня дарогі на магілах і разам зь імі ламае згаданыя дамоўленасьці. У тым жа рэпартажы П. Севярынец распавядае пра раскопкі, якія вядзе ён (?) з моладдзю і археолагамі на месцы, вызначаным для пашырэньня дарогі. І касьцей людзей на гэтым месцы яны не знаходзяць. Вось як, аказваецца. Прышлі „маладыя абаронцы”, ёсьць дамова з уладамі на пашырэньне дарогі, касьцей няма, таварыш Ліцын незадаволены, бо гэты Папкоў з актывістамі ўсё паламалі...

Узьнікае пытаньне: а што за „грамадзкія арганізацыі” і ад чыйго імя заключалі дамоўленасьці з уладамі на пашырэньне дарогі ў Курапатах? (І што гэта за навіна за нашымі плячыма?) Ужо 9 кастрычніка „Свабода” бярэ



***59. Франтаўцы КХП-БНФ талакой выводзяць Юры Беленькага з Курапатаў і не даюць яго арыштаваць.***

інтэрв'ю ў „сакратаркі грамадзкай ініцыятывы „За ўратаваньне Курапатаў" Ірыны Жыхар". Тая распавядае, што на паседжаньні Асамблеі няўрадавых арганізацыяў быў прыняты зварот у вайсковую пракуратуру з патрабаваньнем рассакрэціць усе матэр'ялы пра рэпрэсаваных (урэшце рэшт свой „зварот" яны нікуды так і не накіравалі). Пра І. Жыхар, яе „грамадзкую ініцыятыву", гісторыка Ігара Кузняцова ў гэты дзень мы пачулі ўпершыню. Раней ні такія прозьвішчы, ні ініцыятывы не былі заўважаны ў справе мэмарыялізацыі Курапатаў, і ўвогуле ў нейкіх апазыцыйных або беларускіх культурніцкіх справах. Яны, як бачым, нечакана ўзьніклі на трэці тыдзень драмы ў Курапатах, калі рэжым зразумеў, што атака на сьвятыню з наскоку правальваецца і трэба пачынаць аблогу. Нагадаем, што І. Жыхар зь яе „камітэтам" пашумелі пэўны час і растварыліся ў паветры. А вось „гісторык Кузняцоў" дагэтуль фігурыруе як галоўны эксперт па народных мэмарыялах.

На працягу ўсяго тэксту зрэдку робяцца адэкватныя адлюстраваньні фактаў. Напрыклад, у рэпартажы Ганны Соусь ад 11 кастрычніка: „... большасьць – сябры КХП БНФ". Але можна заўважыць, што нават сумленныя журналісты вымушаны прытрымлівацца фармулёўкі „рэдакцыйнага заданьня". Паступова матэрыялізуецца фантом „маладых абаронцаў", набывае пэўныя структурныя і партрэтныя рысы. На працягу шэрагу рэпартажоў галоўным партрэтам групавога фантома зьяўляецца такі Алесь Гетман з Партыі Свабоды. Цікава пачытаць, што ён сказаў 26 кастрычніка: *„Моладзь і партыя КХП БНФ вырашылі стварыць свой аргкамітэт, які ўвесь час знаходзіцца ў Курапатах, а не засядае недзе за круглымі сталамі"*.

Калі прадстаўнікі нашай Партыі заявілі, што ні аб чым не дамаўляліся з Гетманам і нават не размаўлялі зь ім, Гетман безапэляцыйна ўдакладніў (3-га лістапада): *„КХП БНФ будзе ў нас у якасьці кансультанта"*. Пра дзеяньні гэта-

га „маладзёвага камітэту” мы яшчэ скажам пару словаў, але ў выступе галоўнага партрэта вызначылася цэнтральная сюжэтная лінія шэрагу рэпартажоў з Курапатаў: Вось мы тут усё робім, шумім, ну а час ад часу да нас далучаюцца гэтыя з КХП, „кансультанты”, дзеячы і іншыя ў канцы сьпіса.

Але вось настае 8 лістапада 2001 г., калі рэжым кінуў на Курапаты сваю армаду зьнішчэньня, вырашыўшы скончыць усё і назаўсёды. Недзе пасярод радкоў мільгаюць прозьвішчы сяброў КХП-БНФ. Але галоўныя абаронцы ў брашуры аказваецца зусім іншыя. Распавядаецца пра ланцуг, які яны выстаўлялі перад Курапатамі 8 і 9 лістапада: *„У ланцугу былі В. Сіўчык, З. Бандарэнка, І. Жыхар, П. Севярынец, сябры БПС, Маладога Фронту і „Зубра”.* Рэпарцёры забыліся ўдакладніць, што свой „ланцуг” згаданая публіка выстаўляла чамусьці за паўкілёмэтра ад Курапатаў. У Курапаты яны ў той дзень не прыходзілі. Але шуму было шмат.

Ужо ў рэпартажы за 12 лістапада мы чытаем: *„Камітэт „За ўратаваньне Курапатаў” і валанцёры сустрэліся з будаўнікамі. У выніку перамоваў былі вызначаны шэсьць наглядальнікаў, якія штодзень будуць сачыць, як ідуць будаўнічыя работы”.* Сярод „наглядальнікаў” зьвяртаюць на сябе ўвагу прозьвішчы Жыхар (якая становіцца ўнівэрсальнай удзельніцай усяго магчымага), а таксама былах членаў БНФ С. Міхнова і Ул. Кішкурны (засьведчаныя кадры). Упершыню тых, хто начуе ў Курапатах, назвалі „валанцёрамі” (рамантычны тэрмін).

Трэба зазначыць, што фронтаўцы КХП – БНФ – сапраўдныя абаронцы Курапатаў – заўсёды кваліфікавалі арганізатараў і выканаўцаў будаўніцтва аўтастрады праз Курапаты як ***разбуральнікаў і вандалаў.*** У „камітэта” і „валанцёраў” на гэты конт было сваё меркаваньне...

Згодніцтва з вандальскім рэжымам і ўласнае імітатарства трэба было ўсё ж нечым прыкрыць.



***60. Курапацкія крыжы***



*61. „Магутны Божа” ў Курапатах. Сьпяваюць фронтаўцы КХП-БНФ у 20-годдзе адкрыцьця Курапатаў.*

І вось за 17 лістапада мы чытаем: *„Днямі маладзёвы курапацкі камітэт абвесьціў конкурс на стварэньне ва ўрочышчы помніка ахвярам бальшавіцкіх рэпрэсіяў. Да канца году валанцёры зьбіраюцца ўсталяваць у Курапатах праваслаўную і каталіцкую каплічкі, а таксама знак у гонар закатаваных габрэяў”.* З рэтраспэктывы часу вядома, што імітатары нічога ў Курапатах не ўсталявалі (ды-й не зьбіраліся, ды-й ня ў іхных тое магчымасьцях). Але з гэтага паведамленьня пачалося кур'ёзнае шумавіньне наконт неабходнасьці стварэньня „помніка”. Сотні крыжоў, якія беларусы ўсталявалі на магілах ахвяраў, для гэтай публікі не былі помнікам. (Тут рабленьне выгляду, што помніка няма, што Народны Мэмарыял не існуе.)

З рэпартажу за 19 лістапада: *„Сёньня ўвечары прайшла сустрэча актывістаў грамадзкай ініцыятывы „За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты”* (цяпер так пераназвалі „камітэт”) *з прадстаўнікамі дзяржаўных установаў. Абмяркоўваўся праект стварэньня мэмарыялу. Дырэктар дзяржаўнага інстытуту „Менскград” А. Калантай нават прапанаваў грамадзкасьці выпрацаваць свой праект мэмарыялу ў Курапатах і даць яго на разгляд нечарговай навуковай рады ягонай установы... Грамадзкая ініцыятыва падтрымала гэтую прапанову...”* Станоўча пракамэнтаваў усё гэта В. Вячорка.

Пакуль патрыёты-фронтаўцы з КХП – БНФ абаранялі сьвятыню, „валанцёры-актывісты” вялі перамовы з арганізатарамі зьнішчэньня сьвятыні. Яны, відаць, думалі, што яны „дамаўляюцца”. Тав. Калантай празрыста намякнуў: маўляў, мы разбураем крыжы і магілы, у хуткім часе іх разбурым, а вы нам прадстаўце свой праекцік. На гэтым і пагадзіліся.

Але што робяць, чым займаюцца ў гэты час „прызначаныя грамадзкасьцю наглядальнікі”? З рэпартажу ад 28 лістапада: *„Кішкурна і Міхноў з*

*ініцыятывы „За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" дамовіліся на выдаленьне крыжоў паабапал дарогі".* Вось чым яны займаліся (Зрабіць ім тое фронтаўцы не дазволілі.) На наступны дзень рэпарцёры паведамілі: *„Паводле папярэдняга праекту сьцёкавыя воды будуць накіраваныя ў бок урочышча* (за гэтым эўфэмізмам рэпарцёры не ўдакладнілі, што „урочышча" – гэта Курапацкі крыж і магілы пакутнікаў, – *В.Б.*). *Аднак падобна, што з тым пагадзіліся і назіральнікі з грамадзкай ініцыятывы „За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты", і „валанцёры".* Мяркуем, што камэнтары тут не патрэбныя.

Увогуле, гэтая публіка блыталася пад нагамі і перашкаджала працаваць пастаянна. Час ад часу свае заявы і дзеяньні імітатары спрабуюць прыкрыць імёнамі патрыётаў і патрыятычных арганізацыяў. У рэпартажы за 10 сьнежня 2001 г. згаданы А. Гетман распавядае: *„У Курапатах працягваюцца земляныя работы. Валанцёры падаравалі будаўнікам кнігу Зянона Пазьняка..."* А 13 красавіка 2002 г. у рэпартажы прагучала: *„Думку спадара Высоцкага* (Партыя Свабоды) *падтрымліваюць і многія актывісты КХП БНФ".* У паліталогіі і палітычнай практыцы такі прыём называецца „прыліпаньнем". Гэта калі паводле закону абсурда нейкія дзеячы спрабуюць узначаліць дзеяньні, якія праводзяцца зусім іншымі асобамі і арганізацыямі. І яшчэ горш, спрабуюць дэскрыдытаваць іншых асобаў і арганізацыі, прыпадабняючы іх да сабе самых.

У рэпартажы за 28 сакавіка 2002 г. чытаем: *„Сябры КХП БНФ прывезьлі ў Курапаты крыжы".* За 30 сакавіка: *„У Курапатах паўстала алея крыжоў..."* У гэты самы час актывізуецца дзейнасьць імітатараў. 27 сакавіка зьбіраецца нейкае „абмеркаваньне мэмарыялу". Тэарэтызуюць Я. Басін (ён у адкрытую супраць усталяваньня крыжоў), Ю. Хадыка, В. Трыгубовіч, „культуролаг" В. Арэшка. Усім даў фору „гісторык" І. Кузняцоў. Ён заявіў: маўляў, як жа ставіць крыжы, калі ў Курапатах могуць быць пахаваны і атэісты-камуністы?! (Цікавае становішча: пачалося рушэньне. На народным магільніку людзі ставяць крыжы, пазначаюць народную памяць, а недзе збоку зьбіраецца купка назіральнікаў і раважае як перашкрдзіць).

У рэпартажы за 1 красавіка паведамлялася пра вынікі тых абмеркаваньняў: *„Прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў падпісалі зварот да ўраду Беларусі, у якім прапануюць стварыць адмысловую камісію ў справе мэмарыялізацыі Курапат".* На першых ролях выступаюць І. Жыхар, В. Арэшка і Фонд міру (гэбоўская арганізацыя з багатай мінуўшчынай). Рэпартаж, праўда, завяршаецца заявай Сяргея Папкова, намесьніка старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, зробленай ім у Курапатах: *„Мы лічым, што помнік ужо ёсьць. Гэта крыжовы помнік народнай памяці".*

Пакуль падстаўныя дамаўляюцца з рэжымам (які ненавідзіць і зьнішчае Курапацкую сьвятыню) аб мэмарыялізацыі, патрыёты і шчырыя людзі ставяць крыжы на магілах пакутнікаў. У рэпартажы за 29 красавіка В. Трыгубовіч заявіла (дарэчы, таксама былы член БНФ, але выйшла з Фронту па ўласным жаданьні; у мінулым супрацоўніца „Голасу Радзімы"): *„Я не лічу, што тое, што робіцца цяпер у Курапатах, ёсьць найлепшым выйсьцем. Устаноўка крыжоў уздоўж прасекі, так бы мовіць, явачным парадкам, гэта таксама праява таталітарызму".* Ну, як вам сэнтэнцыя? Савецкае студэнцтва называла такую зьяву (калі хто гэтак „распісваўся") вельмі вымоўна – „штатнае распісаньне".

Вось тыповае з таго цікавага і кур'ёзнага, што ёсьць у брашуры. Іншыя старонкі запоўнены ў асноўным апісаньнем, як „валанцёры" лупілі бульбу, палілі агонь у „буржуйцы", секлі дровы. У цэлым распрацаваная акцыя „прафанацыі" мела часовы тактычны посьпех. Пакуль патрыёты і людзі з чыстым сэрцам ставілі крыжы і стваралі Народны Мэмарыял, імітатары давалі інтэрв'ю, прымалі камплімэнты ад заходніх дыпляматаў. Час ад часу, праўда, успыхвалі скандалы. Яны з крыкам не маглі падзяліць між сабой грантаўскую грашовую прэмію (іх яшчэ і аплочвалі). А потым загарэўся, успыхнуў агнём іхны намёт. У траўні 2002 г. яны заявілі, што іхная місія скончылася. Маўляў, Курапаты ўжо больш бараніць ня трэба. І сышлі прэч. Больш мы іх ніколі ня бачылі, дзе яны, хто яны... У гісторыі засталася толькі брашура ад „Свабоды".

І ўсё ж брашура ёсьць матэрыялам для развагаў над стратэгічным значэньнем імітатарскай акцыі.

У тэксьце фігуруюць так званыя маладзёвыя дзеячы З. Касьяровіч, А. Ляўковіч, М. Сасім, Я. Афнагель, А. Шэін, С. Высоцкі. За гады, што прамінулі з тае пары, гэтыя асобы актыўна засьвяціліся ў справе кіруемага разгрому маладзёвага руху на Беларусі. Зьніклі недзе, як па камандзе, „гераічныя Зубры”, але паўстала процьма іншага пустацьвету і груповак, якія кланують і мітусяцца, блытаючы моладзь. Згаданы ў тэксьце В. Сіўчык быў выдалены за ногі-рукі з паседжаньня псэўда-БНФ па прапанове сябра В. Вячоркі. А нядаўна маладыя вывучаныя кадры выдалілі і В. Вячорку з камандзёрства ў гэтай фірме, цяпер і фірму прыдушылі і выкінулі з памяшканьня (чаго і трэба была чакаць). Такая вось багатая і яркая біяграфія ў гэтых „валанцёраў”. І самае галоўнае, згаданых паймена і менш вядомых імітацыйных абаронцаў людзі больш ніколі ня бачылі ў Курапатах.

Для таго, каб стала вядомай праўда пра нейкія падзеі, у наш век не патрэбныя адлегласьці ў дзясяткі і сотні гадоў. Паводле законаў жанру, справе высьвятленьня праўды служыць нават і брашура, выдадзеная журналістамі дзеля папулярызацыі сумніўных паводзінаў і падзей, магчыма нават з думкай, што ніхто ўжо ў тым не разьбярэцца за процьмай часу. Але надыходзіць час і разьбіраюцца.

*Лістапад 2009, 2011 гг.*

***Валеры Буйвал***




***62. Шыльда пад Курапацкім Крыжом***

# СПРАВАЗДАЧА
# АРТЫКУЛЫ
# ІНТЭРВ’Ю

Устань і ідзі –
Мне голас прагучэў
у сьне глыбокім.
І ноч вакол за вокнамі.

*24.04.1988. Зянон.*

Зянон ПАЗЬНЯК, Яўген ШМЫГАЛЁЎ

# КУРАПАТЫ – ДАРОГА СЬМЕРЦІ

**Як сьведчаць некаторыя нашы дасьледчыкі, толькі ў Беларусі ў 30-ыя гады яжоўска-бэрыеўскім рэпрэсіям былі падвергнуты сотні тысяч чалавек. Значная частка іх была выслана на ўсход і поўнач краіны (Салавецкія астравы, Варкута, Калыма), а астатнія ліквідаваны на месцы – непадалёк ад іх месца жыхарства. Апошняе было таньней, не загружала і без таго заўжды перагружаны чыгуначны транспарт. Але дзе канкрэтна ліквідаваны гэтыя многія сотні тысяч, у якой зямлі тлеюць іх белыя костачкі?**

**Ня трэба думаць, дарагі чытач, што гэта нейкая асаблівая, праклятая людзьмі і Богам зямля, – па сутнасьці, гэта тыя-ж самыя мясьціны, па якіх штодня ходзім мы, дзе адпачываем на лагоднай прыродзе ў выхадныя і сьвяточныя дні, дзе весяла гуляюць, нічога ня ведаючы аб мінулым, нашы бесклапотныя дзеці. Так, яны ня шмат што ведаюць з тых жахлівых часоў, ды і мы, дарослыя, інфармацыю такога роду пачалі атрымліваць толькі ў апошні час. Шмат год у краіне дзейнічалі сілы (яны дзейнічаюць і цяпер, хіба што іншымі мэтадамі), вельмі зацікаўленыя схаваць даўнія справы пад покрыва «сакрэтнасьці», утаіць ад народу свае крывавыя сьляды. Толькі, як даўно вядома, злачынствы кепска ўжываюцца з самай найсакрэтнай сакрэтнасьцю, рана ці позна яны выходзяць на сьвет Божы, каб лішні раз закляйміць зло і засьведчыць неабходнасьць пільнасьці.**

**У нас ёсьць нямала велічных помнікаў ахвярам нямецкага фашызму, сьведчаньне гэраізму беларускага народу ў барацьбе з гэтым заклятым ворагам чалавецтва. Але нішто яшчэ ў нас не напамінае пакаленьням аб ахвярах сталіншчыны. Тое няправільна і недаравальна! Мы павінны памятаць аб іх – ня гэроях, а бязьвінных ахвярах тырана – спрацаваных рабочых, галодных калгасьніках, першых народных інтэлігентах, мужчынах і жанчынах, – якія з куляю ў патыліцы клаліся ў самімі-ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае, марнае і трагічнае слова «Завошта?»**

**Яны ўжо ніколі не пачуюць адказ на тое сваё пытаньне, затое адказ на яго павінны зразумець мы.**

**Менавіта гэтай мэце і служыць зьмешчаная ніжэй публікацыя двух аўтараў, зьдзейсьніўшых свой людзкі абавязак перад народам і перад гісторыяй.**

**Васіль БЫКАЎ**
Народны пісьменьнік Беларусі

Тое, пра што мы хочам расказаць чытачам, вядома шмат каму. Але, відаць, як і мы, тыя, хто пра ўсё ведаў, падпарадкоўваўся абставінам і цярпеў. Для нас гэтае цярпеньне было нявыносным. Нявыносным ад усьведамленьня, што хутка бяжыць жыцьцё, паміраюць людзі і зьнікне памяць пра страшэнныя злачынствы супраць народу, учыненыя ў 30-х гадах. Невыносным ад усьведамленьня таго, што калі страціцца, зглуміцца гэтая памяць – паўторыцца ўсё спачатку.

Чалавек, што зрабіў злачынства і існуе зь ім, — злачынец. Ён здольны чыніць зло. Ён падлягае кары. Хто пакаяўся і праз пакуты сумленьня, сорам і боль вярнуўся ў пачатак, каб тварыць дабро, той ачысьціўся, стаў чалавекам. Вось дзе духоўная сутнасьць жыцьця і сьмерці, вечнасьці і бясьсьмерця. Патрабаваньне ўсёй праўды аб злачынствах 1930 — 1950-х гадоў — гэта голас народнага сумленьня.

Ачышчэньне сумленьня неабходнае грамадзтву, якое дапусьціла і спарадзіла генацыд — найвялікшае злачынства супраць чалавецтва. Вядома ж, ня стануць раскайвацца ні нябожчыкі-забойцы, ні нават "ціхія пэнсіянэры". Раскайвацца павінны наступныя пакаленьні, якія і ня бачылі той бяды, раскайвацца за грахі продкаў. Маральныя пакуты павінны браць на сябе нашчадкі народу, аплакаць ахвяры, даць ацэнку злачынствам. Такая духоўная дыялектыка грамадзтва. Павінен быць рахунак сумленьня, каб вярнулася сьмерць. Народ, як і чалавек, мае сваю індывідуальнасьць. Толькі чалавек адзінокі, а народ шматлікі. Толькі чалавек абмежаваны ў часе сваім векам, а народ вечны сваёй гісторыяй.

**З.Пазьняк**: У маладосьці ўсяго мяне да болю сардэчнага скаланулі апавяданьні людзей, што вярнуліся са сталінскіх турмаў і лягероў, амаль зь небыцьця. Я тады нічога не запісаў, не занатаваў і з жахам зразумеў сваю памылку ў духаце 70-х, калі ўбачыў, як спакваля ўсё вяртаецца, як фальклярызуецца, міталягізуецца народная памяць аб тых часох і проста зьнікае. Пачварныя вобразы з тых апавяданьняў стаяць у сьвядомасьці...

Вось гоняць людзей па этапах. У дваццаціградусны мароз вязуць цягніком. Спыніліся на станцыі. "Усім разьдзецца, — загадвае канвой, — пойдзем у лазьню". Голых людзей на лютым марозе абліваюць з брандспойтаў вадой. "Зь лёгкай парай, — рагочуць канваіры, — а цяпер спаць". І зачынілі дзьверы. Назаўтра з усяго цягніка жывымі засталіся нямногія. Абледзянелыя трупы грузілі на вазы так, каб зьвісалі галовы, а нехта з

катаў разьбіваў іх калуном. Відаць, загадана для гарантыі. Мінаюць гады, і не зьнікае з уяўленьня забойца мерцьвякоў.

Вось прывозяць на Калыму, заганяюць у дзіравы дашчаны барак, сьвішча сіберны вецер. Праз ноч палавіна ня ўстала. Тады астатнія паставілі акалелыя, зьмерзлыя трупы ўздоўж сьцен, каб затуліць шчыліны, каб сагрэцца. І выразна паўстаюць перада мной тыя атланты і карыятыды, тая архітэктура эпохі, той вобраз — барак...

Расказаў Іван Трафімавіч Смаль, член партыі з 1917 году, член Гомельскага рэўкому. У 1937 ён працаваў на Магілёўскім аўтарамонтным заводзе намесьнікам дырэктара. Яго забралі па бязглуздым даносе аднаго камсамольца-стаханаўца — завод своечасова не адрамантаваў дзьве машыны. Уткнулі ў камэру, дзе стаяла шчыльна стуленая маса людзей, нельга нават варухнуцца. Людзі задыхаліся, вар'яцелі, паміралі стоячы, і трупы стаялі разам з жывымі. І калі ўжо нельга было ўціснуць нават паўчалавека, новых вязьняў ахоўнікі закідвалі наверх, на галовы жывых.

А каб выбіць паказаньні, была асобная камэра, цёмная, зь нізкай, ніжэй за паўтара мэтра стольлю, напоўненая ледзяной вадой. На адзіным сухім месцы ў цэнтры стаяла чорная труна. І толькі там чалавек мог знайсьці ад халоднай вады паратунак. Шмат хто звар'яцеў у той труне.

Іван Трафімавіч стрываў усе катаваньні і ня здаўся, не падпісаў абвінавачаньні. Пасьля краху Яжова яго выпусьцілі — хворага й сівога... А ў пачатку 50-х гадоў ён зайшоў па справах са сваім сынам у Міністэрства сацыяльнага забесьпячэньня БССР. У вэстыбюлі яны спаткаліся з упэўненай, шыкоўна апранутай жанчынай з горда ўзьнятаю галавой і сіваватай прычоскай. “Здравствуйте, Иван Трофимович”, — не сказала, прасьпявала яна грудным голасам і пайшла. Іван Трафімавіч самлеў на руках у сына. “Бацька, хто гэта?” — “Гэта Байкова. Перад вайной яна была сьледчай у Магілёўскай НКУС”. Яна катавала Івана Трафімавіча. Перад Байковай дрыжэлі ўсе магілёўскія вязьні. Садыстка, яна вяла допыты толькі мужчын, і асабліва любіла катаваць былых рэвалюцыянэраў. Вязьню загадвала распрануцца дагала і танцаваць пад мэлёдыю вальса “На сопках Маньчжурыі”, патрабавала

сьпяваць. Потым брала спэцыяльна зроблены для гэтай мэты бізун з драцянымі махрамі і сьцябала чалавека па органах і самых балючых месцах, даводзячы сябе да экстазу, а вязьня да немарасьці ад болю.

Да 1937 году сын Івана Трафімавіча вучыўся ў адной школе разам з сынам Байковых (муж Байковай таксама працаваў у НКУС), бываў у іх дома, ня ведаючы ні аб чым. Ветлівая гаспадыня ў фартушку частавала цукеркамі й гарбатай...

**Я.Шмыгалёў**: "У сярэдзіне 1950-х гадоў, будучы капітанам савецкай арміі, я служыў у Валагодзкай вобласьці. Там я пазнаёміўся са старшым лейтэнантам Пятром Уваравым, які ў 1940-х гадох прымаў удзел у высяленьні татараў з Крыму. Ён расказваў мне, што ўсе кварталы, дзе жылі крымскія татары, былі ў адначасьсе абкружаныя войскамі НКУС. На зборы далі тэрмін каля гадзіны. Зьбіраліся пад руламі аўтаматаў. Пры спробе ўцёкаў — сьмерць. Татараў загналі ў вагоны і павезьлі ў Сібір і Казахстан. У эшалёнах іх кармілі толькі салёнай камсой і селядцамі. Пры гэтым не давалі вады, і яны паміралі: спачатку хворыя і старыя, а затым іншыя. На кожнай станцыі выкідвалі мёртвых. Людзі прасілі аб літасьці, але літасьці не было. Каштоўныя рэчы й грошы канваіры адбіралі сабе. Пра зьдзекі з татараў Увараў расказваў з задавальненьнем, са смакам, лічыў свае паводзіны правільнымі, а сталінскі акт у дачыненьні да татараў ухваляў."

**З.Пазьняк**: Павінна быць кніга народнай памяці. Уражваюць вобразы, што паўстаюць з чалавечых апавяданьняў. "Памятаю, у 1938-м зімой іду па вуліцы каля будынку НКУС, — успамінае мянчанін Сяргей Фёдаравіч Ладуцька. — Мароз, аж дух займае. А з адкрытых вокнаў падвалаў НКУС, як з-пад зямлі, пара валіць праз краты, нібы з паравоза — гэтулькі там насадзілі людзей". Вобраз працінае, як маланка. На верхніх паверхах шморгаюцца строгія чалавечкі ў кіцелях і галіфэ, рапартуюць, раскрываюць і закрываюць папкі, дзелавіта ходзяць з паперамі, а пад імі ў бітма набітых падвалах дыхае парай, крывёй і потам прыдушаны народ. Куды ж ляціць гэты паравоз? Дзе яго прыпынак?

Мы знайшлі гэты прыпынак. Не давала спакою думка: куды падзелі людзей, якіх расстралялі? Дзе яны, іх жа ня два, ня тры

чалавекі, а тысячы? У пачатку 1970-х гадоў на паўночнай ускраіне Менска, зьлева ад Лагойскай шашы, не даязджаючы да кальцавой дарогі, існавала яшчэ вёска Зялёны Луг. Старажылы яе расказалі нам, што за два кілямэтры на поўнач ад вёскі, паміж кальцавой і Заслаўскай дарогамі, у лесе ад 1937 па 1941 году кожны дзень і кожную ноч расстрэльвалі людзей, якіх прывозілі сюды на машынах. Там на ўзгорках стаяў стары бор, вакол лясы і глухмень. Кавалак бору гектараў з 10—15 быў абгароджаны высокім, вышэй за тры мэтры, шчыльным дашчаным плотам унакладку — дошка на дошку, абцягнутым зьверху калючым дротам. За плотам была ахова і сабакі. Людзей вазілі сюды па гравійнай дарозе, што вяла ад Лагойскага тракту на Заслаўе. Шлях той называлі тады “дарогай сьмерці”.

Апытаньне зялёналужжцаў і жыхароў навакольных вёсак Цна-Ёдкава і Драздова — сьведак і відавочцаў тых страшных падзеяў — дапамагло ня толькі ўстанавіць факты, але і ўзнавіць карціну масавых забойстваў. Аднак у 70-х гадох абнародаваць, усім расказаць пра іх не было магчымасьці.




*Вёска Драздова.*



*Вёска Цна-Ёдкава.*

У 1987—1988 гадох мы расшукалі некаторых жыхароў зьнесенай ужо да гэтага часу вёскі Зялёны Луг, зноў зрабілі апытаньне старажылаў і сьведак падзеяў у навакольных вёсках, высьветлілі акалічнасьці, дэталі, занатавалі адказы...

Расстрэлы пачаліся тут у 1937 годзе. Спачатку тройчы ў дзень — на раніцы, у 14 гадзін і вечарам, калі сьцямнее, — у лес прывозілі па некалькі машын людзей і расстрэльвалі. Трупы скідалі ў загадзя выкапаныя глыбокія ямы, штабель на штабель. Нastраляўшы даверху, ямы прысыпалі пластом пяску ня больш за 20—25 сантымэтраў. Часам зьверху саджалі сасонку.

У другой палове 1937 году месца абгарадзілі. Сьмяротнікаў пачалі прывозіць па іншым графіку: пасьля абеду, пад вечар і цэлую ноч. Вазілі безупынна штодня. Апытаныя ня памятаюць нават, ці былі перапынкі ў нядзелю. “Кожны дзень стралялі, — расказвае жыхарка Цны Кацярына Мікалаеўна Багайчук (1919 году нараджэньня), — і машыны гулі. Бывала, як толькі вечар,



*К.М.Багайчук.*
*Вёска Цна-Ёдкава.*

мужчыны зьбяруцца, выйдуць на двор, паслухаюць, як страляюць, пагаворацць гэтак ціха, пабядуюць і разыходзяцца."

"Іншы раз адразу па некалькі машын заяжджала ў загарадку, вазілі бесьперастанку, — расказвае **Дар'я Ігнатаўна Тоўсьцік** з Цны (з 1911 г.). — А дарога ў лесе выкатана, як асфальт. Як пачнуць страляць, дык чуваць было енкі, плач, пракляны".

"Уся вёска была ў страху. Пяць гадоў па начах не маглі спаць ад стрэлаў", — кажа старажыл Цны **Бацян Раман Мікалаевіч** (з 1913 г.). Тое пацьвярджае **Няхайчык Мікалай Пятровіч** (з 1929 г.) ды іншыя цнянцы. "Старэйшыя хлопцы, якія сьмялейшы, дык нават лазілі за плот, — кажа Мікалай Пятровіч, — рабілі дзіркі ў агароджы і шмат што бачылі". Мы пытаемся, ці жыве яшчэ хто зь іх. "Ёсьць: Карповіч Мікола".

**Мікалай Васілевіч Карповіч** нарадзіўся ў 1919 годзе, самавіты, яшчэ досыць дужы чалавек. У 1939 годзе пайшоў у войска. Лёс пакідаў яго па сьвеце і па франтох. У 1937—1938 гадох ня раз бачыў, як забівалі людзей у лесе. Магілы, відаць, капалі ў першай палове дня, бо пад вечар (часта пасьля абеду), калі пачыналі пад'яжджаць машыны, ямы былі ўжо выкапаныя. М.Карповіч распавядаў, што людзей забівалі партыямі. Ставілі ў рад, затыкалі кожнаму рот



*Д.І.Тоўсьцік.*
*Вёска Цна-Ёдкава.*

коркам і завязвалі анучай (каб ня выплюнуў кляп). Забойцы былі ў форме НКУС. Яны стралялі зь вінтовак збоку ў галаву крайняга, каб прашыць куляй двух чалавек. “Як стрэліць, — кажа Мікалай Васільевіч, — дык адразу двое ў яму і падаюць. Патронаў шкадавалі”. Настралялі адну партыю, крыху прысыпалі штабель, папраўвілі, каб роўна было, і падвозілі наступную партыю. Настраляўшы даверху, яму прысыпалі пяском і зараўноўвалі.



*М.В.Карповіч (зьлева) і Р.М.Бацян. Вёска Цна-Ёдкава.*

“Адзін раз, — апавядае М.Карповіч, — спатыкае мяне вартаўнік з Малінаўкі (вёска за 4 кілямэтры адсюль. — Аўт.), разнэрваваны, узрушаны. Ужо набілі, кажа, ідзі паглядзі, нават не засыпалі... Падышлі мы да плота, што ля дарогі. Аж блізка ў лагчыне вялікая шырокая яма, даверху трупамі напоўненая. Ляжаць, брат, у рад, як парасяты”. *Пытаньне:* “Ці было, каб выратаваўся хто адтуль?” — “Куды там выратуешся — гэтакі плот, — адказвае Мікалай Васільевіч. — Праўда, раз пад вечар, ужо шарэла, ішоў я празь лес зь Зялёнага Лугу ў Цну з адным нашым. Вусьцішна было. Якраз стралялць перасталі. Аж бачым, сядзіць чалавек пад дрэвам у акрываўленай бялізьне, ледзь жывы. Мы падышлі — што рабіць? Якраз машына завурчэла. Адскочылі мы, ідзём. Насустрач два энкавэдзісты: “Кто такие?” — “Цнянскія”. — “Никого не видели?” — “Не-а... сядзеў там нейкі”, — задрыжэў дзядзька. Потым мы азірнуліся, а яны таго за ногі валакуць. Укінулі ў машыну, як палена, і паехалі. І як ён тады адтуль вылез — я і цяпер не магу зразумець...”

І ўсё ж у 1938 годзе адзін чалавек уцёк з-пад расстрэлу. “Праз



*М.Р.Пацяршук. Вёска Цна-Ёдкава.*

плот — і не знайшлі”, — сьведчыць **Марыя Рыгораўна Пацяршук** (з 1911 г.) з Цны. Адзін чалавек... Можа, ён яшчэ дзе жывы? Можа прачытае гэтыя радкі і адзавецца?

Марыя Рыгораўна пацьвердзіла, што перш чым людзей пастраляць, ім затыкалі рот коркам. Пра гэта кажуць таксама жыхар вёскі Драздова **Скварчэўскі Васіль Якаўлевіч** (з 1930 г.) і іншыя. Аднак шмат хто чуў крыкі, плач, маленьні аб літасьці. Можа, не хапала коркаў? Але, пэўна, справа ў іншым. Чалавек, які доўгі час забівае людзей, паступова робіцца садыстам. У яго ўзьнікае патрэба памучыць сваю ахвяру, перш чым яе забіць. Вось і мучылі людзей перад сьмерцю.

Відаць, не патроны эканомілі забойцы, калі імкнуліся прашыць адной куляй дваіх чалавек адразу. Гэта была свайго роду бравада, спорт для катаў, дэманстрацыя прафэсіяналізму. М.Карповіч, пэўна, якраз і ўбачыў гэты нетыповы спосаб расстрэлу зь вінтовак. Мы падрабязна апытвалі ўсіх, хто чуў, як гучалі стрэлы, і тых, хто бачыў, як забівалі, ці дачуўся ад тых, хто бачыў, — і прыйшлі да высновы, што стралялі ў асноўным з наганаў ці пісталетаў (што і пацьвердзілася потым раскопкамі).

“А моцна гучалі стрэлы?” — пытаемся у **Валянціны Міхайлаўны Шаханавай** (з 1929 г.) з Цны. “Не, гэтак суха — “хлоп-хлоп-хлоп”, але ўвесь час. Пастраляюць, потым памаўчаць, і зноў — “хлоп-хлоп-хлоп”. Валянціна Міхайлаўна таксама была ўнутры “душагубкі”. Падкапаліся з суседнім

хлапчуком пад плот і залезьлі, каб назьбіраць ягад (а было ім гадкоў па 10—12). Там яны ўбачылі ўскапаную зямлю і мноства засыпаных ямаў. Вылезьлі зь ягадамі, а насустрач вайсковец. “Стой! Ану, высыпай!” — загадаў хлопчыку. Забраў ягады і як гыркне: “Марш атседава!”



*В.М.Шаханава. Вёска Цна-Ёдкава.*

Расстрэлы адбываліся да самага пачатку вайны. У час вайны жыхары з навакольных вёсак разабралі плот на гаспадарчыя патрэбы, а стары бор неўзабаве сьпілавалі й расьцягнулі. Цяпер тут расьце пасьляваенны лес з 40—45-гадовымі дрэвамі.

“Немцы там не расстрэльвалі?” — пытаемся ў Валянціны Міхайлаўны. “Не, немцаў там не было, не расстрэльвалі”. Гэтае пытаньне мы задавалі кожнаму апытанаму. Адказвалі ўсе аднолькава: — немцы гэтай мясьцінай не цікавіліся.

“Як выглядала тая мясьціна, калі разабралі агароджу?” — пытаемся ў В.Шаханавай. “Усё ўскапанае: пясок і высокая трава. І надта шмат чырвоных грыбоў, гэткіх пунсовых, на тоненькіх ножках. Нібы крывёй налітых. От, казалі, кроў людзкая прарасла”. Пра чырвоныя грыбы на магільных ямах успаміналі многія людзі, лічылі, што гэта яны ад пралітай крыві зьявіліся. Зноў фальклёрны вобраз пакутаў, падумалі мы. Але потым высьветлілі: праўду казалі людзі. Такія грыбы называюцца часночнікі, растуць на глыбока ўскапаным пяску і пахнуць часнаком.

Цяжка размаўляць са старымі жанчынамі пра той час. “А мае дзеткі, колькі добрых людзей пастралялі! — выгукае Кацярына Мікалаеўна Багайчук. — Хоць бы ім помнік які паставіць!” Плача... “Асабліва жудасна было ноччу, — кажа Надзея Яфімаўна Хоміч (з 1922 г.) зь Зялёнага Лугу. Да вайны



*С.А.Козіч.*



*М.І.Пацяршук.*
*Вёска Цна-Ёдкава.*

яна жыла ў Бабруйску, але часта прыяжджала ў Зялёны Луг да сястры, хата якой стаяла каля лесу. — Заўсёды стрэлы, брэх сабак, крыкі, галашэньне". Таксама плача...

"Сабакі былі злыя, відаць, галодныя, — дадае **Соня Андрэеўна Козіч** (з 1925 г.) зь Зялёнага Лугу. — А стралялі амаль бесьперапынку, асабліва ўначы".

"Шмат было кругом распырскана крыві, — расказвае **Марыя Іванаўна Пацяршук** (з 1925 г.) з Цны. — Стогны, стагналі нават закапаныя..."

**Вера Фёдараўна Тоўсьцік** (з 1933 г.) з Драздова памятае: калі было ёй гадкоў сем, са старэйшымі дзецьмі бегала глядзець на забойствы. Успаміны яе фрагмэнтарныя, што захавала дзіцячая памяць: - засыпаныя сьвежым жоўтым пяском ямы і кроў на траве. "І пясок над ямамі яшчэ варушыўся, нібы дыхаў".

*Пытаньне:* "Ці забралі каго з Драздова?" — "Не памятаю, малая была. Але старэйшыя расказвалі, што па вёсках забіралі. Езьдзіла машына. Ноччу заходзілі й казалі: - зьбірайся. Куды — не тлумачылі. От чалавек і зьбіраўся, клаў у торбачку хлеба,



*В.Ф.Тоўсьцік.*
*Вёска Драздова.*



*М.М.Мантасава.*

сала. А іх потым прывезьлі вунь туды і пастралялі ў ямах. Няўжо ж ніхто ім і помніка не паставіць? Колькі людзей забіта! Колькі народу зьвялі!"

Матруна Мікалаеўна Мантасава (з 1914 г.) зь Зялёнага Лугу расказвае, што ў 1937 годзе забралі двух мужчын Стрыгавых з Падбалоцьця. "Хто яны былі?" — пытаемся. — "А простыя людзі, рабочыя". — "За што ўзялі?" — "Ніхто ня ведае. Тады не казалі й не пыталіся. Ноччу па вёсках машына, буда такая хадзіла — "чорны воран" называлася. Людзей забіралі і адвозілі. І да сёньняшняга дня ніхто ня ведае, дзе яны. Можа, там і ляжаць... Схапілі яшчэ мужа Тані Матусевіч і настаўніка, што побач жыў. Прозьвішчы астатніх не прыпамінаю. Усе казалі, што па вёсках забіраюць. Колькі добрых людзей пазабівалі! Цяпер хоць бы ім помнік які паставілі. Гэта ж такі глум быў з народу!"

В.Шаханава паведаміла, што памятае, як забралі трох

чалавек з суседняй вёскі Якубавічы. “За што?” — “От, кажуць, адзін на аднаго па злосьці нагаварылі — усе і загінулі. І ў нас у Цне схапілі настаўніка Арсеня Паўлавіча Грушу. Добры быў чалавек”. Валянціна Міхайлаўна сказала, што чула ў той час апавяданьні старэйшых, як чапляліся з дамаганьнямі да аднаго цнянскага актывіста-брыгадзіра, каб “паставіў” неабходную колькасьць “ворагаў народу”.

Пра арышты ў акрузе пытаемся ў Марыі Рыгораўны Пацяршук. “З Хмарыншчыны (гэтай вёскі ўжо не існуе. — Аўт.) забралі трох чалавек: Філіповіча Андрэя, Цярлюка Сьцяпана, а трэцяга забылася, нейкага новага”. — “Ці чулі пра запыты ці патрабаваньні выдаць “ворагаў народу?” — “З 1937 году старшынёй сельсавету (мы тады былі Папярнянскага сельсавету) быў Бацян Цімафей Васілевіч, дык у яго дапытваліся — ці няма ў цябе якіх? А ён адказваў: не, у мяне няма”.

*Пытаньне:* “Яшчэ дзе-небудзь у акрузе расстрэльвалі людзей?” — “Так, расстрэльвалі. У Ждановічах, ля Баравой, ля Драздова справа ад вузкакалейкі (цяпер вузкакалейкі няма. — Аўт.) і ў Менску за паркам Чалюскінцаў, там, дзе завод Вавілава”.

Пытаньне да М.Р.Пацяршук, Д.І.Тоўсцік і М.І.Пацяршук (дэпутат сельсавету, член КПСС): “Што цяпер трэба зрабіць з гэтай мясьцінай? Горад жа ўжо пад бокам, дарога кальцавая закранула?” — “Паставіць помнік”, — адказваюць усе.

Спаткаліся нам, аднак, людзі, што расказвалі пра ўсё амаль шэптам. Прасілі нідзе не называць іхнае прозьвішча. Некаторыя адмоўчваліся. А, напрыклад, Мікалай Васільевіч Ігнашоў (з 1914 г.) зь Зялёнага Лугу, які прайшоў праз усю вайну да Бэрліна, сказаў нам толькі, што баяўся нават набліжацца да таго плоту, бо хто за яго заходзіў — назад не вяртаўся.

Аднак былі і сарвігаловы, якія пацяшаліся тым, што выкопвалі трупы (асабліва спачатку, калі не было плоту) і саджалі іх пад дрэва, каб “насаліць” энкавэдзістам. “Аднаго разу нехта адкапаў і выцягнуў зь ямы дваіх, — расказвае В.Скварчэўскі. — Пасадзіў пад дрэва, даў у рукі газэту — хай чытаюць. Шум быў. Хацелі дазнацца, хто гэта зрабіў”. Такі быў тут побыт... Абставіны, якія спараджалі ледзянячы жах і ледзянячае кашчунства.

Аналіз сталінскай сыстэмы генацыду, новыя факты, што выяўлены цяпер, робяць зразумелым, чаму зьнішчалася ў першую чаргу інтэлігенцыя, кіруючыя партыйныя і ваенныя кадры, працавітыя сяляне. Але не заўсёды зразумела, чаму забівалі цёмных, нават непісьменных сялян і рабочых. Цяжка ўявіць лёгіку сталінскую і тых, хто быў зь ім, бо яна, па сутнасьці, не чалавечая, яна зь нейкім іншым знакам. Тлумачэньне можа часткова даць так званая “плянавая эканоміка” рэпрэсіяў. У 1930-х гадох Молатаў паведаміў Сталіну, што не хапае турмаў, а самае галоўнае, скардзіўся Молатаў, што “арыштаваных трэба карміць”. У краіне якраз быў голад. Тады шырока пачалі выкарыстоўваць лягерную сыстэму забойства людзей на этапах у дарозе, марэньне маразам і голадам. У зьнішчэньні народаў быў ужыты плянавы “прагрэсіўны” мэтад. На кожны горад, раён і г.д. выдавалася “разнарадка”. Рэпрэсіі адбываліся па графіку. Узьнік “рух” за выкананьне й перавыкананьне пляну рэпрэсіяў (выяўленьня “ворагаў народу”). Колькасьць індывідуальна выяўленых “ворагаў” паведамлялася ў справаздачах, выступленьнях, газэтах. Калі ж плян не выконваўся, а быў канец плянавага пэрыяду, бралі любога. Тады й гойсалі “чорныя вораны” па вёсках.

Мясьціна ля заслаўскай дарогі звалася Брод. Тут непадалёк было некалі балота. А ці мела раней назву тое месца, што было потым абгароджана, той бор на ўзгорках, спыталіся мы ў жыхароў Драздова. Так, адказалі яны, мясьціна называлася Курапаты. “А чаму?” — “Бо вясной там скрозь расьлі белыя кветкі — “курапаты”. — “Кsměрасьлепкі хіба?” — “Ага, курасьлепкі — курапаты (дыялектная назва белых пралесак. — Аўт.)”.

Невыказна цяжкае ўражаньне пакідаюць Курапаты. З паўднёвага боку мясьціну падрэзала кальцавая дарога, якую праклалі тут у 1957 годзе. Тады выграбалі чарапы і косьці. Падымаемся па адхоне, ступаем у лес, і адразу пачынаюцца магілы — безьліч праваленых зарослых ямін. Людзі згнілі — і зямля асела. Яміны розныя: 2x3; 3x3; 4x4; 6x8 мэтраў і большыя. Западзіны бываюць на 70—80 см. У цэнтры — вялікі ўзгорак-града. На схілах яго і ў лагчынах скрозь праваленыя ямы, ямы. Толькі па самай вяршыні грады больш-менш гладка — нібы

дарога была некалі. Можа, па ёй пад'ягджалі машыны, каб пасьвяціць фарамі ўначы. З паўднёвага боку мы знайшлі месца, дзе стаяў плот. Добра захаваўся роў, што быў перад ім, як і распавядалі нам вяскоўцы. Па ледзь прыкметных выемках пазнаём, дзе стаялі слупы — на адлегласьці чатырох мэтраў адзін ад аднаго.

Ямы розныя памерамі. Магчыма, былі неаднолькава заглыбленыя. Таму колькасьць забітых падлічыць па магілах больш-менш дакладна не ўдаецца...

У 70-х гадох на Курапатах было адносна ціха. Цяпер сюды наблізіўся мікрараён Зялёны Луг-6. Калі прыйдзеш на магілы, ахоплівае нейкая роспач. Цяпер тут зона адпачынку мянчан. Гуляюць дзеці...

**З.Пазьняк**: 1 траўня сёлета тут было весела й тлумна, як на праспэкце. Адпачываюць сем'ямі і кампаніямі. У магілах паляць вогнішчы, тут жа ядуць, п'юць, смажаць шашлыкі, іграюць на гітарах, у карты, ламаюць гольле, высякаюць дрэвы, хрыпяць транзістары. Адзін счэсвае бярэзіну, што вырасла з магільнай западзіны, хоча дастаць соку... Дзіўлюся, чаму не цячэ зь яе кроў. Вядома, людзі нічога ня ведаюць; ня ведаюць, што пад імі ляжыць пакаленьне. Але зноў успыхвае ў сьвядомасьці вобраз, як той паравоз, толькі з шашлычным дымам.

**Я.Шмыгалёў**: Калі паміраюць "ціхія пэнсіянэры", што стварылі гэтае бяспамяцтва, іх кладуць у труну, на хаўтурах кажуць пра іх добрыя словы, грае аркестар. А для тых, што ляжаць тут, аркестрам быў брэх і наганныя стрэлы. А як пакутвалі дзеці, сем'і рэпрэсаваных! О не, трэба памятаць усё. І пасьля сьмерці хай кожнаму аддасца ягонае.

Агляд некаторых магілаў спарадзіў у нас трывожныя падазрэньні. Занадта глыбокія западзіны, а па бакох часам бугаркі, нібы раскопваў хто некалі. Некаторыя ямы нядаўна раскапаныя ў глыбіню больш чым на мэтар. Нідзе ніводнай косткі. У адной магіле школьнікі паглыбляюць зямлянку. Глыбіня звыш мэтра. Чысты рыхлы незьляжалы павярушаны пясок. Трывога ўзмацнілася, калі мы ўспомнілі апавяданьне аднаго вяскоўца, які захацеў застацца інкогніта, — пра тое, што адразу пасьля вайны тут доўга капаліся салдаты.

5 траўня 1988 году сіламі археалягічнай групы Інстытуту

гісторыі АН БССР мы правялі раскопкі адной з магілаў. Шурф 0,5x1 м у цэнтры западзіны быў выкапаны на глыбіню 1,5 мэтра. Ніякіх вынікаў. Чысты пясок.

Гэтае адкрыцьцё ўсю нашу групу ў складзе пяці чалавек уразіла ня менш, чым сам факт масавых рэпрэсіяў. Як жа мы недааццанілі іх подласьць! Вось хто капаўся тут пасьля вайны! Замяталі сьляды. Значыць, ведалі яшчэ тады, што тварылі! Дзе ж ваша "чэсная" упэўненасьць у справядлівасьці сваіх справаў, у справядлівасьці загадаў?! Аказваецца, вы баяліся яшчэ тады. Зрабіць такуя ягіпецкую работу! Выкапаць столькі трупаў! Куды ж вы іх падзелі? Вывезьлі і закапалі? Спалілі? Ня дробная сошка дала загад на эксгумацыю. Берыя? Малянкоў? Хто?

У той жа дзень выявілася, што не ўдалося забойцам замесьці сьляды. Да нас падышлі хлапчукі, што 1-га траўня капалі зямлянку ў магільнай западзіне, і павялі на другі канец тэрыторыі. Яны раскідалі яловыя лапкі, што прыкрывалі загарадку з жэрдак, і мы ўбачылі кучу прастрэленых чалавечых чарапоў, касьцей, скуранога й гумовага абутку. Заглыбіўшы сваю зямлянку амаль на два мэтры, хлопцы наткнуліся на завал чалавечых касьцей. Яны адкапалі ніжні штабель магілы.

Успомнім, як энкэвэдзісты, настраляўшы адну партыю людзей, прысыпалі трупы і раўнялі дно. Пры эксгумацыі салдаты выбралі косьці да глыбіні двух мэтраў і вырашылі, пэўна, што яме канец. Ці проста "схалтурылі", калі начальства побач не было. Сапраўдная глыбіня магільнай ямы 2,8 м, памер прыблізна 3x3 м. Хлопчыкі акуратна, як археолягі, выбралі палову штабеля (23 чалавекі). Сярод трупаў знайшлі фарфоравыя і эмаляваныя кубкі, скураны кашалёк з савецкімі капейкамі 1930-х гадоў (апошняя дата на манэтах — 1936 г.), зубную шчотку ў футарале вырабу віцебскай фабрыкі, шмат пустых страляных гільзаў ад нагана дыямэтрам 7,5 мм* і круглыя паламаныя акуляры ў тонкай мэталёвай апраўе. На ўсіх гумовых галёшах клеймы айчынных фабрык і дата выпуску — 1937 год. Знойдзены скураныя мужчынскія боты, таксама і жаночы абутак. Кулявыя адтуліны ў чарапох, як правіла, на патыліцы, дзе часта відаць побач па дзьве дзіркі. Ёсьць некалькі чарапоў

* *(Прамерана лінейкай. Дакладны калібр нагана 7,62 мм — З.П.)*

зь дзіркамі ў скроні, на лбе і зьверху галавы (дастрэльвалі ў яміне). Усе ўваходныя адтуліны дыямэтрам 7,5 мм.

Пра што гавораць гэтыя знаходкі? Магіла была "настраляна" ў 1937—1938 гадох. Забівалі з наганаў. Людзей, відаць, расстралялі без суда, без аб'яўленьня выроку сьмерці. Вось тут яны і ляжаць са сваімі клуначкамі, сабранымі, калі загадалі "зьбірацца", кубачкамі, зубнымі шчоткамі і нават медзякамі. На расстрэл, пэўна, не рыхтаваліся.

Хочам назваць прозьвішчы хлопцаў, якія дапамаглі нам у нялёгкім дасьледаваньні. Гэта **Ігар Бага** (ён ужо скончыў школу і працуе мулярам) і вучні 171-й школы Менска **Віктар Пятровіч** і **Аляксандар Макрушын**.

Другая яміна-магіла была закранутая ў час пракладкі газавай траншэі па вяршыні ўзгорка-грады праз Курапаты. Магіла невялікая, разьмешчана была ўбаку ад былога праезду. У час эксгумацыі яе, пэўна, "прапусьцілі", забыліся раскапаць. Рабочыя БМУ "Белспэцмантаж" Дзяржкамгазу БССР і потым дзеці выявілі тут косьці і 15 прастрэленых чарапоў, 20 параў скуранога абутку й галёшаў. Сярод абутку — рэшткі жаночых туфляў. На галёшах клеймы айчынных фабрык і дата — 1939 год. На адным галёшы кляймо рыскай фабрыкі і надпісаны палатыску. Дата — 1939 год. Зразумела, што гэта магіла 1940 году, дзе сярод іншых быў расстраляны латыш (з Латвіяй, здаецца, тады галёшамі не гандлявалі).

Пра раскопкі быў складзены адпаведны акт і паведамлена ў Бараўлянскі сельсавет. Старшыня сельсавету Сяргей Іванавіч Чачанец паставіўся з разуменьнем да зьвестак пра магілы расстраляных. Была нават створана камісія для высьвятленьня акалічнасьцяў і перазахаваньня чалавечых рэштак, а косьці сабраныя ў спэцыяльна зробленую труну.

Цяпер перш за ўсё трэба зьмясьціць адпаведныя надпісы ля Курапатаў зь інфармацыяй пра гэтую мясьціну, каб людзі ведалі, што яна не для пікнікоў і адпачынку. Ня думаем, што эксгумацыя ўсіх магіл, мяркуючы па тым, што выяўлена, была праведзена ў 1940-х гадох акуратна, да канца. Напэўна, там яшчэ ляжаць на дне глыбачэзных ямін тысячы забітых.

Неабходна таксама зрабіць публічнае перазахаваньне адкапаных рэштак і падумаць пра помнік ахвярам сталінскіх

рэпрэсіяў на гэтым месцы.

Асобная тэма — пра дараваньне і пакараньне. Няхай чытач пра гэта падумае сам. Мы мяркуем, што няма дараваньня за генацыд. На тых, што рабілі такое, не павінен распаўсюджвацца тэрмін даўнасьці. Калі трапляеш у глыбокую і халодную трохмэтровую яму, усланую трупамі, бярэш у рукі сьлізкую падэшву ад маленькага, ня больш за 34 памер, жаночага туфля, — разумееш гэта адназначна.

... А яны яшчэ спрабуюць казаць пра нейкія “прынцыпы”.

***Упершыню надрукавана ў газ. “Літаратура і мастацтва”. 1988. 3 чэрвеня.***

*1-Д Адбітак артыкула „Курапаты – дарога сьмерці” з кнігі: З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Мн.: НВК „Тэхналёгія”, 1994. – 180 с.: іл. ISBN 5-85700-149-8*



*2-Д. Раскоп (пахаваньне) №8. Выяўленыя сьцегневыя косьці ад 52 чалавечых асобін і 50 чарапоў.*

*Зянон Пазьняк*

# ШУМЯЦЬ НАД МАГІЛАЙ СОСНЫ...

Дазволю сабе падзяліцца з чытачамі "ЛіМа" некаторымі вынікамі археалягічных раскопак.

Павінен адразу сказаць, што праведзеныя дасьледаваньні не далі нічога прынцыпова новага ў параўнаньні з вынікамі першых раскопак, зробленых у пачатку траўня гэтага году, пра якія напісана ў артыкуле "Курапаты — дарога сьмерці". Гэта абумоўлена добра вядомай археолягам заканамернасьцю, што для асьвятленьня сутнасных характарыстык аднатыпнага помніка (у дадзеным выпадку магільніка) дастаткова дасьледаваць яго частку (пажадана ў розных месцах). Гістарычны факт масавых расстрэлаў насельніцтва ў Курапатах, учыненых сталіністамі ў 1937—1941 гадох, быў высьветлены адразу. Наступная выбарачная эксгумацыя археалягічным мэтадам толькі пацьвердзіла яго на больш высокім навуковым узроўні. Раскопкі і эксгумацыю неабходна было зрабіць таксама, каб правесьці крыміналістычную экспэртызу, атрымаць безумоўныя юрыдычныя аргумэнты й доказы ў крымінальнай справе, якая павінна прадугледжваць высьвятленьне характару злачынства, асобаў вінаватых, пацярпелых, прад'яўленьне абінавачаньня і перадачы яго ў суд.

Археалягічныя дасьледаваньні праводзіліся шурфамі, раскопамі й траншэямі ў трох канцох тэрыторыі пахаваньняў. Усяго зроблена 7 раскопаў і 1 шурф (нумарацыя агульная). Ва ўсходнім канцы на паўночным схіле ўзгорку (грады), парослага рэдкім яловым лесам, былі распрацаваныя раскопы №№ 1—3. Раскопы №№ 5 і 6 раскапаныя на паўднёвым баку Курапатаў (Броду) прыблізна на адлегласьці 200 мэтраў на паўднёвы захад ад раскопаў №№ 1—3, бліжэй да кальцавой дарогі. Раскоп № 8 закладзены на адлегласьці прыблізна 75 і 160 м на паўночны захад ад раскопаў №№ 1—3 на паўночным краі ўзвышанага месца.

Раскопкі праведзены рыдлёўкамі па пластох з ручной пераборкай грунту і дасьледаваньнем яго мэталашукальнікам, з фіксаваньнем глыбіняў, характару й колеру запаўненьня магіл,

назіраньнем за стратыграфіяй. З гэтай мэтай пахаваньні спачатку дасьледаваліся скрыжаванымі траншэямі. Па лініях траншэяў былі зробленыя чарцяжы падоўжных і папярочных профіляў (разрэзаў) пахаваньняў у маштабе 1:20.

Выбарка і пераборка грунту запаўненьня магіл працягвалася да зьяўленьня пласта пахаваных па ўсёй плошчы раскопаў. Потым адбывалася зачыстка гэтага пласта ад пяску, што рабілася шуфлікамі, нажамі і шчоткамі і давала магчымасьць выявіць сытуацыю верхняга ўзроўню пахаваньня. Пасьля гэтага рабілася фіксацыя глыбіняў, індывідуальных знаходак, чарапоў, касьцей, абутку і адзеньня, здымаўся плян (схема разьмяшчэньня асноўных знаходак і рэштак нябожчыкаў) у маштабе 1:20, раскоп фатаграфаваўся на фотастужку (а крыміналістамі яшчэ і на відэастужку).

Калі была закончана гэтая праца, тады разам з мэдыкамі-экспэртамі пачыналі разборку пласта пахаваных. Пры гэтым фіксаваліся ўсе індывідуальныя знаходкі, чарапы, абутак і рэшткі адзеньня, адзначаліся месцы і глыбіні іх знаходжаньня. Усе знаходкі з пласта і неабходныя рэшткі пахаваных пасьля апісаньня іх і фіксаваньня на пляне археолагамі забралі для экспэртызы мэдыцынскія экспэрты й крыміналісты.

Ва ўсіх раскапаных пахаваньнях выяўлена аднолькавая карціна. Магілы запоўненыя пяском да глыбіні 1,80—2,00 м. З гэтай адзнакі залягае суцэльны пласт касьцей, чарапоў, струхлелай вопраткі, абутку. Таўшчыня гэтага пласта ў цэнтры магіл ад 0,20 да 0,70 м. Адпаведна і глыбіня магільных ямаў ад 2,00 да 2,75 м. Прытым характэрна, што па краёх пахавальных ямаў чарапы й косьці ляжаць ужо на ўзроўні 0,70 м ад цяперашняй дзённай паверхні, а ў цэнтры, як ужо адзначана, — на 1,80—2,00 м. Розьніца ва ўзроўнях пахавальнага пласта паміж краямі й цэнтрам складае ў асобных пахаваньнях больш за 1,00 м, і ўвесь пласт касьцей уяўляе сабой глыбокую лейку. Па краёх гэтай "лейкі" разьмешчаны, як правіла, чарапы. У цэнтры, унізе "лейкі", усё перамяшана: косьці, абутак, сатлелае адзеньне; палажэньні шкілетаў парушаны, тут не хапае, як правіла, чарапоў і асобных касьцей, хрыбетнікі рассыпаны на асобныя пазванкі, да таго ж іх мала, шмат якія галёшы, чаравікі, боты не зьвязаныя з касьцямі і валяюцца асобна. Некаторыя экзэмпляры абутку

знойдзеныя вышэй, у пяшчаным грунце запаўненьня магілы, тут жа выяўлена шмат выстраленых гільзаў ад нагана.

Пра што гэта кажа і чаму ўтварылася такая сытуацыя? Утварылася яна ў выніку даўнейшай эксгумацыі, раскопак магіл і выбаркі касьцей, калі нехта, як мы ўжо пісалі, "замятаў сьляды".

Ранейшая эксгумацыя была праведзена неахайна, абы-як. Косьці не выбраныя да канца, пакінутыя на дне і па баках. Гэта здарылася таму, што контуры магільнай ямы і ямы раскопкі не супадалі. Раскопвалі прыблізна, пераважна ў цэнтры. Яма раскопкі была, як правіла, меншая за памеры магілы. Акрамя таго, капаючы, зыходзілі "на конус". Таму пакінулі косьці па краёх магіл. Зразумела, што капалі без аніякай разумнай мэтодыкі, без зачысткі пласта пахаваных. У такім выпадку раскопка вядзецца ўсьляпую, пясок пры рабоце пастаянна абсыпаецца і намнажаецца на дне, што перашкаджае знаходзіць і вымаць косьці, стварае ілюзію канца пахаваньня, асабліва на заглыбленьні каля двух мэтраў, калі робіцца цяжка кідаць наверх рыдлёўкай і спрацоўвае стэрэатыпнае ўяўленьне аб стандартнай глыбіні магіл (2 м). А яны, як бачым, былі глыбейшыя.

Аналіз стану рэштак пахавальных пластоў, адкрытых у нашых раскопках, прыводзіць да высновы, што людзі, якія непасрэдна капалі і рабілі раней эксгумацыю магіл у Курапатах, не былі зацікаўленыя ў сваёй працы, рабілі яе абы-як і нават "халтурна", нядобрасумленна. Так працуюць звычайна пад прымусам. Усё гэта вымушае паставіцца з увагай да зьвестак, што ў 40-х гадох пасьля вайны тут "капаліся" салдаты. Можна б было знайсьці і сьведкаў тых раскопак. Тэарэтычна гэта магчыма, вядома, пры ўмове, што сталіністы іх пакінулі жыць.

Адназначна ўстанавіць факт эксгумацыі і ранейшых раскопак пахаваньня можна толькі археалягічным мэтадам, астатнія мэтады (мэдыцынскі аналіз і да т. п.) маюць дапаможнае значэньне. Таму археалягічная праца была праведзеная надзвычай пільна. Прыкметы ранейшай эксгумацыі вельмі наглядна былі відаць пры дасьледаваньні пахаваньня № 5, якое залічана намі ў разрад сярэдніх паводле памеру (4,00х3,10 м). На папярочным разрэзе добра выяўлена стратыграфія пластоў і контуры дзьвюх ямаў. Вонкавы контур адпавядае межам пачатковай магільнай ямы, унутраны — межам ямы даўнейшай

эксгумацыі. Яны нібы "ўстаўлены" адна ў адну. Несупадзеньне шырыні складае 0,55 м. Вось у гэтым зазоры ля сьценкі магілы і выяўлены верхні ўзровень пласта пахаваных, пакінуты пры даўнейшай выбарцы. Косьці залягаюць тут на глыбіні 0,70 м ад цяперашняй дзённай паверхні. Аднак дзённая паверхня перадваеннага часу, калі ўзьнікла пахаваньне, была на 0,20 м ніжэйшая, што добра відаць на профілі (сьценцы) раскопу. Падвышэньне на 20 см атрымалася за кошт выкінутага з магілы пяску тады, калі капалі яму. Значыць, скажаце вы, пахаваныя знаходзіліся на глыбіні 0,50 м? Так, у той час, калі рабілася эксгумацыя 40-х гадоў, яны былі на гэтай глыбіні. Але сама магіла была настраляна амаль да верху. Трэба ўлічыць, што пасьля таго як спарахнела адзежа і згнілі целы, пласт пахаваных апусьціўся ніжэй, як мінімум на 20—30 сантымэтраў. Вось тут і ўспомнім паведамленьні людзей, відавочцаў, што магілы з расстралянымі прысыпалі зьверху пластом пяску таўшчынёй ня больш як 20—25 см. Супадзеньне зьвестак з вынікам дасьледаваньня відавочнае.

Усе археалягічна дасьледаваныя намі пахаваньні, у якіх выяўлены сьляды папярэдняй эксгумацыі, мелі западзіны глыбінёй ад 0,18 да 0,65 м ад лініі краёў магілы. Тымчасам усе існуючыя на сёньняшні дзень пахаваньні ў Курапатах характарызуюцца аналягічнымі западзінамі. Адсюль вынікае, што западзіны на магілах утварыліся пасьля папярэдняй эксгумацыі і недастатковай іх засыпкі малой колькасьцю грунту (паколькі зь іх быў выбраны значны аб'ём пахавальнага пласта нябожчыкаў). Такім чынам, можна зрабіць заключэньне, што ўсе выяўленыя на сёньня пахаваньні ў Курапатах паддаваліся раней раскопцы й эксгумацыі.

Амаль ва ўсіх адкапаных чарапох (312 шт.) выяўлены кулявыя прастрэлы, як правіла, на патыліцы, часта па дзьве і нават тры адтуліны. Ёсьць таксама бакавыя прастрэлы і прастрэлы ззаду "пад чэрап". Магчыма, некаторыя ахвяры вырываліся, тады стралялі як прыйдзецца, а мажліва, тут відаць розныя "почыркі" забойцаў.

Знойдзена каля дзьвюх сотняў гільзаў ад рэвальвэра сыстэмы "Наган" і адна ад пісталета "ТТ". Выяўленыя дзясяткі куляў, некаторыя ў чарапох. Дыямэтры наганных гільзаў, куляў, кулявых адтулінаў у чарапох супадаюць.

У большасьці чарапоў у лобнай частцы, збоку ці наверсе відаць вялікія, дыямэтрам да 5—6 см і нават больш, ірваныя адтуліны. Гэта выхады куляў. Сьведчаньне таго, што ствол нагана прыстаўлялі шчыльна да патыліцы. Пры стрэле парахавыя газы пад ціскам ішлі ўсьлед за куляй у чэрап і праз выхадны кулявы пралом распырсквалі вакол кроў і мазгі. Успомнім сьведчаньні Марыі Іванаўны Пацяршук і іншых людзей, якія казалі, што шмат было навокал крыві на лісьці і траве.

У магіле № 2 пры разборцы пахавальнага пласта выяўлены ў ім паміж касьцямі дзьве праслойкі сьветлага пяску, якія чаргаваліся праз 0,30—0,40 м. Гэта паслойная засыпка забітых. І зноў жа ўспомнім сьведчаньні відавочцаў аб тым, што людзей расстрэльвалі партыямі, а потым прысыпалі пяском, пакуль не настраляюць даверху.

Уся вопратка ў магілах ужо сатлела. Захаваліся толькі рэдкія фрагмэнты сынтэтычных тканін і часткова скуранoе адзеньне. У пахаваньні № 3 знойдзена акуратна складзенае скуранoе паліто, а ў ім загорнутыя туфлі. Складзенае скуранoе адзеньне, загорнуты абутак знаходзілі і ў іншых пахаваньнях, у тым ліку жаночыя боцікі і скураныя пальчаткі. Выяўлены нават прадмет, які па форме і кансыстэнцыі нагадвае бутэрброд (экспэрты лічаць, што гэта цалкам верагодна). У магіле № 3 знойдзеныя таксама курыныя косьці (грудзінка). Гэта рэшткі харчовых прыпасаў, якія чалавек узяў з сабой... у дарогу.

Найлепш захаваўся абутак. Выяўлены боты, жаночыя боцікі, чаравікі, туфлі, галёшы, жаночыя гумовікі, тапачкі, бахілы, чуні, пасталы. На савецкіх галёшах, як правіла, пазначана дата выпуску і фабрыка (“Красный богатырь”, “Красный треугольник”, “Резинтрест” і да т.п.). У пахаваньнях №№ 1—3 абутак толькі савецкай вытворчасці і саматужнага вырабу; большасьць галёшаў маркіраваная 1937 годам. Сустракаюцца клееныя самаробныя бахілы, у тым ліку зробленыя з аўтамабільных камэраў і пакрышак, — абутак бяднейшых сялян. На большасьці туфляў і ботах абцасы стаптаныя, падэшвы ня раз падбіваныя.

У магілах №№ 5—6 і 8 галёшы айчыннай вытворчасьці сустракаюцца рэдка. Маркіроўка тут зроблена ў асноўным лацінскімі літарамі з пазначэньнем фірмаў “Gentlman”, “Record”,



*Галёш савецкай фабрыкі "Красный треугольник"*



*Галёш савецкай фабрыкі "Красный богатырь".*

"Rygawar" і інш. Тут жа на гэтым абутку клеймы — "Made in Poland". Адначасова знойдзеныя галёшы з маркіроўкай вядомай фабрыкі "Красный треугольник" і датай — 1939, а побач скураныя лапці, так званыя "пасталы", альбо, як іх называлі ў Заходняй Беларусі, — "хадакі". "Хадакі" насілі бяднейшыя сяляне, і да 1939 году яны былі яшчэ ва ўжытку. Абутак, знойдзены ў гэтых пахаваньнях, магло насіць тады насельніцтва з Заходняй Беларусі.

Варта адзначыць таксама, што паміж гэтымі групамі пахаваньняў у красавіку сёлета ў час пракопкі траншэі пад газатрасу выяўленая магіла, у якой знойдзена некалькі дзясяткаў параў абутку пераважна савецкай вытворчасьці; галёшы, датаваныя 1939 годам. А сярод іх знойдзены адзін з надпісам "Riga", "1939" і адзін туфель з маркіроўкай "Kvadrats", "Riga", "41".

Сярод рэчаў асабістага карыстаньня найбольш траляліся мужчынскія і жаночыя грабеньчыкі, кашалькі й партманэты (часам з грашыма й манэтамі), зубныя шчоткі, футаралы ад зубных шчотак, акуляры, футаралы ад акуляраў, мыльніцы, кубачкі эмаляваныя й фарфоравыя, запалкі ў карабку, манэты, датаваныя 30-і гадамі, муштукі, гузікі, устаўныя сківіцы, каталіцкія нацельныя мэдалікі (мэдальёны), знойдзена місачка, шкляная ампула зь лякарствам (таблеткі), футарал ад гра-

беньчыка, плястмасавы слоічак з-пад зубнога парашку, вянчальны пярсьцёнак з выгравіраванай датай “1935”, манокаль, пэнснэ, лязо брытвы ды інш. Большасьць з гэтых прадметаў мае фабрычную маркіроўку. Надпісы на кубках — “Ростов-на-Дону”, “Warszawa” ды інш., на грабеньчыках — “Моспластмас ф-ка 4”, “НКЛП — БССР”, “KING HALI FAX GARANTIE”, “DURABIT-GARANTIE” ды інш., на зубных шчотках — “Арт. “ЩЕТКАГРЕБ”, “ВИТЩЕ КОМБИНАТ”, “MARQUE PEPOSEE BO-BO”, “NON-PLUS-ULTRA” ды інш.

Археалягічны аналіз суадносін і разьмяшчэньня знаходак у пахаваньнях дае істотную інфармацыю аб забітых людзях. Папершае, удалося прасачыць геаграфію й храналёгію пахаваньняў у Курапатах. Расстрэлы пачаліся ва ўсходняй палове тэрыторыі. Гэтая плошча густа пакрыта пахавальнымі западзінамі. Магілы датуюцца 1937—1938 гадамі. У раскопе 5 траўня 1988 году, а таксама ў раскопах №№ 1—3, распрацаваных у гэтым месцы, выяўлены рэчы й прадметы выключна савецкай вытворчасьці, у тым ліку БССР, шмат самаробнага і саматужнай вытворчасьці абутку. Мала прадметаў туалету. Усё гаворыць пра тое, што тут пахаваны мясцовыя людзі, якія належалі да працоўнага цывільнага насельніцтва. Сацыяльны ўзровень большасьці пахаваных быў невысокі (рабочыя, сяляне, вясковая інтэлігенцыя, магчыма, некаторыя службоўцы). Магіла № 1 была “настраляная”, напэўна, зімой. Тут шмат спарахнелага зімовага скуранога адзеньня (кажухі), рэшткі валёнак, зімовыя бахілы і да т. п.

Далей на захад і паўднёвы захад разьмешчаны пахаваньні 1939 году і пасьля 1939 году. У магіле на газатрасе і ў раскопах №№ 5—6, распрацаваных тут, выяўлены, побач з савецкімі самаробнымі рэчамі, знаходкі польскай вытворчасьці і, відаць, прадметы замежнага імпарту ў даваенную Польшчу. Не выклікае сумневу, што тут ляжаць расстраляныя пасьля верасьня 1939 году сяляне і інтэлігенты з Заходняй Беларусі, сярод якіх, магчыма, былі і выхадцы з прыбалтыйскіх краін.

Найбольш нізкі сацыяльны ўзровень пахаваных з гэтай групы магіл зафіксаваны ў раскопе № 8. Тут адсутнічаюць прадметы туалету (зубныя шчоткі, мыльніцы і да т. п.) і ўвогуле мала рэчаў індывідуальнага карыстаньня. Абутак даволі звычайны, нізкай якасьці й вырабу, мала скуранога адзеньня,

адсутнічаюць акуляры і г. д. Відаць, у гэтай магіле былі пераважна пахаваныя заходнебеларускія сяляне.

У раскопе № 5 выяўлена найбольш рэчаў "інтэлігентнага" карыстаньня (шмат прадметаў туалету, акуляраў, манокаль, пэнснэ, лякарства і г. д.). Абутак тут высокай якасьці, фабрычны, стылёвы, пашыты па назе, жаночыя боцікі на высокім абцасе, знойдзены пальчаткі і да т. п. Няцяжка здагадацца, якая сацыяльная група насельніцтва тут ляжыць.

**Таццяна Вікенцеўна Матусевіч** (1906 году нараджэньня) зь Зялёнага Лугу, хата якой стаяла пры дарозе на Курапаты, успамінае, што перад вайной на расстрэл вазілі цэлымі днямі безь перапынку, машына за машынай. **Кацярына Іванаўна Аўдзеенка**, жыхарка вёскі Драздова, што побач з Курапатамі, памятае, як у 1939 годзе народ вазілі ў лес за вёскай на "Сяргееву гару" машынамі і расстрэльвалі ў ямах. (Відаць, на Бродзе не спраўляліся — так было завозна).

Па намэнклятуры прадметаў і па тым, што частка рэчаў (адзеньне, абутак) знойдзены ў складзеным выглядзе, па наяўнасьці харчовых прыпасаў, кашалькоў і г. д. можна зрабіць выснову, што людзі былі сабраўшыся ў далёкую дарогу, што родны дом яны пакінулі незадоўга да сьмерці, што не адбывалі турэмнага зьняволеньня. Гэта наводзіць на думку, што яны былі расстраляны без суда, кажучы мовай сталіністаў — "ликвидированы".



*Т.В.Матусевіч.*

Т. В. Матусевіч згадвае такі выпадак, як аднойчы, калі яшчэ не было плоту на Бродзе, а ўжо стралялі, лясьнік Кароль Кананович выявіў у лесе засыпаныя ямы, утыканыя сасонкамі, а побач у разьвілцы забытую сялянскую торбачку з прыпасамі (кілбаса, хлеб і да т. п.). Нават

яшчэ і прагаладацца не пасьпеў чалавек, як трапіў пад расстрэл.

У рэштках пахавальных пластоў, якія засталіся на дне магіл пасьля эксгумацыі 40-х гадоў, выяўлена розная колькасьць пахаваных. Найменш у магіле № 3 (31 нябожчык, калі лічыць па чарапох) і найбольш у пахаваньні № 5 — 87 чарапоў, але 107 нябожчыкаў, падлічаных па парах сьцегнавых касьцей. (Несупадзеньне колькасьці чарапоў і параў сьцегнавых касьцей — вынік даўняй эксгумацыі.) Зрабіўшы абмеры і падсумаваўшы ўсе дадзеныя, можна прыпушчальна вылічыць пачатковую колькасьць пахаваных у дасьледаваных магілах. Яна вагаецца ад 150 у “зімовай” магіле № 1 да 260 у магіле № 5. Калі ўзяць сярэднюю лічбу 200 нябожчыкаў у магіле і зрабіць простае памнажэньне на колькасьць выяўленых сёньня пахаванняў (510), дык атрымаем 102 тысячы чалавек. Аднак сапраўдная лічба пахаваных, відаць, большая, бо існуе шмат магіл, большых памерамі за дасьледаваныя намі, а некаторыя пахаваньні ўяўляюць яміны даўжынёй да 10 м па большым баку. У такіх магілах маглі быць пахаваныя тысячы забітых. Акрамя таго, каля сотні (калі ня больш) магільных западзін было засыпана і потым зьнівэлявана бульдозэрам у час пракладкі газатрасы й высечкі лесу вакол яе ў сакавіку—траўні 1988 году. Мноства магіл зьнікла, калі пракладвалі кальцавую дарогу ў канцы 1950-х — пач. 1960-х і, магчыма, у 1940-х гадох падчас высечак, траляваньня й падсадак лесу на гэтым месцы; ня ўлічаны пахаваньні на поўдзень ад кальцавой дарогі, там, дзе была паўднёвая ўскраіна тэрыторыі расстрэлаў. Рэальная колькасьць пахаваньняў у Курапатах магла сягаць 900, а можа, і больш, прытым аб памерах зьнішчаных і засыпаных пахаваньняў мы можам меркаваць цяпер толькі па велічыні існуючых магіл.

Што мяне больш за ўсё ўразіла не як дасьледніка, а як чалавека ў час раскопак — гэта вялікая колькасьць пахаваных жанчын. Жаночыя чарапы і рэчы знойдзены ва ўсіх пахаваньнях. У рэштках пахавальнага пласта раскопу № 6, напрыклад, засталося ўсяго 15 чарапоў; 10 з іх, найбольш ацалелых, адабраныя для экспэртызы. З гэтых 10 — 8 жаночыя. Адкрыцьцё яшчэ раз сьведчыць аб тым, што тады, у 30-я гады, адбываўся масавы тэрор супраць народу.

Другое — суб’ектыўныя адчуваньні. Карціны дзяцінства,

40—50-я гады, яркія вобразы й прадметы, што адклаліся ў памяці колерна і выразна і ўспамінаюцца потым, як ружовыя сны. Рэзка, як цяпер, памятаю дэталі быту роднага дому — лыжачку, якой еў, белы фарфоравы сэрвіз з "залатымі карункамі" па краёх, кубачак з надпісам "Warszawa", ярка-сінюю эмаляваную місачку зь белым малюнкам чайніка на донцы і літарамі "20 см". Я нават "гісторыю" яе памятаю. "А дзе гэта сіняя місачка?" — чую голас бабулі...

Раскоп № 8. Асьцярожна выбіраю пясок вакол эмаляванай місачкі, што ляжыць на тазавых касьцях шкілета. Зараз перавярну, зірну, якая маркіроўка, і пастаўлю назад... Яркая, сіняя эмаль і белы чайнік на донцы... і літары — "20 см"... І тут я пачуў, як ціха навокал стала, як сосны шумяць над магілай...

Аналізуючы вынікі раскопак у Курапатах, я зьвярнуў увагу на дакладнае супадзеньне шмат якіх зьвестак з апавяданьняў людзей, сьведкаў расстрэлаў, і фактаў, выяўленых у час эксгумацыі. Такое супадзеньне якраз і характэрнае для непасрэднага прамога сьведчаньня, дзе яшчэ няма фальклярызацыі падзеяў у народнай сьвядомасьці. Раскопкі пацьвердзілі такім чынам ня толькі праўдзівасьць саміх сьведчаньняў, але і правільнасьць мэтодыкі нашага, зробленага зь Я. Шмыгалёвым, апытаньня відавочцаў. З амаль 170* вядомых цяпер сьведак мы апыталі некалькі дзясяткаў. Клясыфікацыя адказаў і падсумаваньне высноваў прыводзяць у такім выпадку да таго ж вываду, што і пры апытаньні сотняў сьведак (паколькі ў аснове іх назіраньняў адназначная, храналягічна расьцягнутая і шматпаўтаральная зьява). Аднак крымінальнае сьледзтва ставіць больш канкрэтныя задачы. Таму будуць апытаныя ўсе сьведкі й відавочцы.

Аналіз зьвестак прыводзіць яшчэ і да думкі, што ў Курапатах забівалі спэцыяльныя каманды, сфармаваныя загадам, але былі, магчыма, і добраахвотнікі, што імкнуліся зарабіць ці проста "разьвеяцца" ў прыемным для іх занятку. Карціну забойства можна часткова ўявіць ужо на падставе раскопак. Але дамо слова відавочцу.

**Вольга Цімафееўна Бароўская** з Цны (1927 году на-

* *Сьледзтва выявіла больш за 220 сьведак. — З. П.*

раджэньня) расказвае, што калі ёй было 11 гадоў, суседзкі старэйшы за яе хлопчык узяўся завесьці меншых дзяцей у "вялікія ягады". Сабралася іх шмат — 10—11 дзяўчатак — і пайшлі на Брод. Пералезьлі ў нару пад плотам і давай зьбіраць. Праўда, ягад там было шмат. Дзеці цьмяна ўяўлялі, куды іх завёў старэйшы хлопчык. Было каля 4 гадзін дня, як загулі машыны. "Атас! Ратуйся! Дзеўкі, ходу!" — закрычаў дзявочы камандзір, і ўсе сыпанулі як гарох да нары пад плотам. Пакуль тоўпіліся і пералазілі, расчынілася брама і ўехала ў яе легкавая "эмка", а за ёю цугам тры "чорныя вораны" і з тарахценьнем і выцьцём пруць проста на дзяўчынку, якая засталася ля нары апошняй. Вось ужо побач. І такі страх апанаваў яе, што кінулася на зямлю і схавалася пад густую елачку. І тады ўбачыла, што тут нейкі пясок і яна блізка гэтага пяску. "Эмка" пад'ехала сюды і выйшлі зь яе чатырох мужчын.



*В.Ц.Бароўская.*
*Вёска Цна-Ёдкава.*

*Пытаньне:* "Як былі адзеты?" — "У ваеннае. Гімнасьцёркі і боты, галіфэ". — "Якога колеру галіфэ?" — "Добра ня памятаю. Гімнасцёрка зашчытная, здаецца, і галіфэ такія. І ўсе ў рамянёх, накрыж апяразаныя, як гэта называецца... партупея, ці што?" — "А пляншэткі, такія палявыя сумкі, на іх былі?" — "Былі на ўсіх. І пісталеты на поясе. На галаве круглыя фуражкі, падобныя, як цяпер". "Ваенныя з "эмкі" падышлі да ямы, — расказвае далей Вольга Цімафееўна, — (вось ад чаго пясок, думаю, тут жа яма выкапаная) і паглядзелі ў яе. У гэты час "вораны" разьвярнуліся і сталі ў рад. Адзін падышоў, адшчапіў будку і давай выводзіць

адтуль людзей са зьвязанымі рукамі. Я думаю, што гэта яны тут будуць рабіць? Аднаго як разьвязалі, дык ён адразу на калені ўпаў, рукі склаў і як залямантуе: "А людцы мае, а Божа ж мой, а за што ж мяне, скажэце!? А ў чым жа я вінаваты?!"

*Пытаньне:* "На якой мове крычаў, на беларускай ці на рускай?" — "Гаварыў так, як мы ў Цне, па-беларуску. Гляджу, аж яны іх да ямы падвялі і з наганаў у патыліцу "шпок-шпок-шпок"... І людзі ў яму падаюць, падаюць. Я ажно вочы заплюшчыла. Такі жах мяне апанаваў. Я ж ніколі ня думала, што людзей могуць забіваць. Так было страшна, што я проста губляла прытомнасьць, млела, мяне трэсла. А яны ўсё страляюць, выводзяць і страляюць. Засталіся два чалавекі. Вымаляюцца. Яны ім рыдлёўкі ў рукі — засыпайце. Пазасыпалі. А тады яны і гэтых... застрэлілі. Потым ужо самі ўзялі ў рукі рыдлёўкі і іх прысыпалі трохі".

*Пытаньне:* "Ці былі між людзей жанчыны?" — "Былі, бачыла, былі. І бацька мой казаў, а ён часта сюды зазіраў, што ў пяску на ямах жаночыя грабушкі валяліся". — "Як былі адзетыя гэтыя людзі, па-гарадзкому ці па-вясковаму?" — "Цяжка сказаць, неяк і не памятаю; проста адзетыя". — "Па колькі выводзілі чалавек з машыны?" — "Выводзілі партыямі па 6—8 чалавек. Рукі зьвязаныя назад. А перад ямай, перш чым забіць, — разьвязвалі". — "А колькі партыяў выводзілі з адной машыны?" — "Добра не памятаю: можа, па дзьве". — "Што яны адказвалі на лямант людзей, на іх пытаньні?" — "А нічога не адказвалі. Ніякіх размоў. Людзі крычалі, прасіліся, а яны сваю справу рабілі. Толькі: "Становись! Становись! Становись! Становись! — і ўсё". — "І ніхто не спрабаваў вырвацца, супраціўляцца, уцячы?" — "Не, ніхто. А куды ты ўцячэш? Наперадзе яма, а ззаду яны са зброяй. Куды ўцячэш? У яму? Яны і жывога цябе засыплюць. Так і было. Як вечарам настраляюць, то на раніцы зямля дыхае. Бацька ня раз бачыў, як зямля варушылася, настаяшча дыхала. Ён надта гэта ўсё браў да сэрца і пераажываў. Казаў: "Божа, што творыцца — зямля дыша. Бывала, прыйдзе вечарам і кажа маме: маці, устань. Ты ж выйдзі, паслухай, як людзі плачуць. Паслухай, як крычаць. Мама выйдзе — і мы, дзеці, бяжым за ёй, і мы чуем тыя крыкі. Просяцца людзі: спасіце, за што, я не павінна — калі жанчына; мужчына — за што мяне, я ні ў чым не вінаваты, за што мяне, скажэце, хоць бы я ведаў віну, за што мяне? Дык, ведаеце, і

мы наплачамся разам. Мы думалі, што там мучылі іх". (Дарэчы, тое, што людзі дапытваліся сваёй віны, сьведчыць, што іх забівалі без суда. — **З. П.**)

*Пытаньне:* "Расстрэльвалі ўсе ўчатырох ці як?" — "Не, удвух. Двое з наганамі стаялі па бакох ямы "на чаку", а двое падводзілі і стралялі". — "Скончылі страляць — што потым? Пра што яны гаварылі?" — "Нічога не гаварылі. Пазачынялі гэтыя "крумкачы", адправілі, селі ў "эмку" і сьледам паехалі. Выскачыла я адтуль, паляцела ў жыта, заблудзілася, наплакалася, дахаты не магла трапіць, нешта са мной сталася. Потым па начах усхоплівалася, крычала. Колькі мяне мама пацягала па тых бабках, знахарках. Я і цяпер, як успомню тое, мяне агортвае жах, дзікі жах..."

Зазваніў тэлефон. Жаночы голас прасіў аб спатканьні і душыўся ад плачу. Забілі бацькоў... тату і маму... у тым лесе...

Успамінае мянчанка **Галіна Сьцяпанаўна Жукоўская** (па мужу Сідзякіна, 1924 году нараджэньня). Бацька яе, Сьцяпан Іванавіч, нарадзіўся і жыў да 1932 году ў Цне. Потым пабудаваў хату на вуліцы Цнянскай у Менску і пераехаў зь сям'ёй у горад. Меў эканамічную адукацыю, працаваў плянавіком па сацыяльным забесьпячэньні ў Доме ўраду. Маці — Соф'я Адамаўна Саковіч — хатняя гаспадыня, абсалютна непісьменная, не магла расьпісацца. 31 кастрычніка 1937 году ў тры гадзіны ночы загула машына, спынілася, і ў дом увaліліся энкавэдзісты. "Тады людзей забіралі па начах, — кажа Галіна Сьцяпанаўна, — і ўсе слухалі, ці не гудзе машына, былі нагатове". І вось загула... Перапаролі хату, без панятых, без прад'яўленьня абвінавачаньняў ці якіх-небудзь дакумантаў, нічога не тлумачачы. Забралі пашпарты, усе фатаграфіі і сказалі зьбірацца. "Мама пайшла ў тапачках, хоць была ўжо халодная восень", — успамінае Галіна Сьцяпанаўна. Ёй было тады 13 гадоў. У тую ноч яна асірацела. Прыйшлі, забралі і павялі навек. Ніякіх тлумачэньняў і ніякіх зьвестак, толькі пракляцьце члена сям'і ворага народу ўпала на галаву.

Назаўтра кінулася ў НКУС. Масы людзей. Доўгія чэргі да сьледчых стаяць па некалькі сутак. Начавала ў калідорах у чарзе, каб потым пачуць дзяжурны адказ: высланы на 10 гадоў бяз права перапіскі. Хадзіла і выстойвала тройчы. Апаратчык нават у сьпіскі не глядзеў, адказваў як заведзены ўсім адно і тое ж. Яны

спадзяваліся, ня ведаючы, што іхных блізкіх і родных ужо расстралялі.

Па зьвестках, атрыманых мною ад сьведкаў, расстрэльвалі ў Курапатах спэцыяльныя каманды. У іх складзе былі, па словах Галіны Сьцяпанаўны, і свае, мясцовыя. Адзін зь іх нарадзіўся і жыў у Цне. (Паколькі вядзецца сьледзтва, прозьвішча не называю. Пазначым яго крыптанімам “Н”.) Працаваў ахоўнікам у НКУС у Менску. Заўсёды хадзіў на працу па Цнянскай, паскрыпваючы партупеяй. Спатыкаючы маленькую Галю, глядзеў на яе зь лютай злосьцю. Сваіх, цнянскіх, ён ведаў. У вёсцы ня раз выхваляўся, што Жукоўскіх ён “сам стрелял” на Бродзе. Пахваляцца забойствамі “ворагаў народа” (хоць гэта было і забойства ў патыліцу) лічылася за гонар. Некаторыя дзяўчаты імкнуліся выйсьці замуж за энкавэдзістаў... “Рожа, грубая рожа, — успамінае пра “героя” Галіна Сьцяпанаўна, — ня твар, а нейкая доўгая, нялюдзкая фізіяномія. У 1960-х гадох я яго хацела знайсьці, думала, што ён жыве яшчэ. Здаецца, я яго б разарвала за маіх бацькоў”.

*Пытаньне:* “Ён жыве ці памёр?” — “Памёр у 1954 годзе... А колькі нацярпелася прыніжэньняў, голаду. На працу нідзе не магла ўладкавацца. У 1947 годзе прынялі машыністкай у ваенную часьць. Напісала, што бацькі памерлі. Выклікаюць у контр-разьведку. Сядзіць такі рыжы хам, фізіяномія чырвоная: Где твои родители, ё. т. м.? — і пісталет на стол. — Гэта вы мне скажыце, дзе мае бацькі, — адказваю. — Што вы мяне пытаеце? Дзе вы іх падзелі? — Иди! Тут жа мяне выгналі з работы”.

*Пытаньне:* “Ці быў яшчэ хто-небудзь у НКУС зь мясцовых, акрамя “Н”? — “Называюць яшчэ нейкага зь Зеляноўкі (вёска ўжо не існуе — З. П.) Казалі, што той нават адзежу з забітых здымаў і прадаваў за гарэлку”.

Вядомыя прозьвішчы яшчэ двух забойцаў. Абодва ўжо памерлі. Адзін у Расіі, другі быў жанаты з тутэйшай і пахаваны ў нас. Думаю, пайду хоць на жонку яго пагляджу. Мяккая мэбля, дываны і да т. п. мяшчанскія радасьці. На фатаграфіі клясычная фізіяномія забойцы-сталініста. Што чакаў, тое і ўбачыў. Аж ня верыцца. “Муж работал в НКВД”, — паведамлена было мне. З размовы адчуў, што ўсё яна ведала, чым ён займаўся, а вось жа выйшла замуж. Што ж, на тых матрацах з чалавечых валасоў,

што гітлераўцы рабілі, павінен быў таксама нехта спаць.

Ва ўсе часы не абыходзіцца бяз вырадкаў. Што ўжо казаць пра грамадзтва 30-х? Дзеля справядлівасьці трэба адзначыць, што сярод цнянцаў было шмат добрых, прыстойных людзей. Пра аднаго зь іх — старшыню сельсавета, а потым калгаса Цімоха Васілевіча Бацяна — ужо ўспаміналася. Ён ня выдаў, не прадаў ніводнага земляка. Хоць ад яго патрабавалі. Цімох Васілевіч быў чалавек мужны і нетыповы для таго подлага часу. Былая цнянская настаўніца Надзея Апанасаўна Мікуліч (1926 году нараджэньня) расказвае, што калі забралі настаўніка Арсеня Паўлавіча Грушу, перад яго жонкай Вольгай Іванаўнай некаторыя напалоханыя цнянцы зачынялі дзьверы, каб не ўгнявіць сталіністаў. Толькі Цімох Бацян не зачыняў дзьвярэй і дапамог няшчаснай, забітай кабеце ў яе жыцьцёвых патрэбах і бядзе. Тады энкавэдзісты схапілі ноччу Цімоха Васілевіча і тут жа павезьлі за плот. Паставілі на край ямы, наган у горла — “будешь давать врагов народа, али нет?” “У мяне няма ворагаў”, — адказвае Бацян. “Давай врагов или убьем!” “У мяне няма ворагаў! — закрычаў на іх Цімох Васілевіч. І... дзіва — яны не застрэлілі яго. Пэўна, не хапіла фармальнасьцяў.

Затое хапала фармальнасьцяў, каб забіваць сотні тысяч бясправуных. Сталіністы адправілі на той сьвет бацькоў Надзеі Апанасаўны. Яна ўспамінае, як у яе роднай вёсцы Малышэвічах пад Слуцкам забіралі сялян. Сярод іншых схапілі шасьцідзесяцігадовую адзінокую жанчыну Марылю Шмак. Яна была зусім глухая й непісьменная, жыла ў пограбе ў страшэннай беднасьці (нават хаты сваёй ня мела). Яе катавалі “з выдумкай”, сыпалі ў горла пясок, дабіваліся нейкіх прызнаньняў. Потым, назьдзекаваўшыся, стукнулі па галаве — яна тут жа і сканала...

У 1986 годзе мне давялося рабіць самыя цяжкія археалягічныя дасьледаваньні ў маім жыцьці — раскопкі падмуркаў касьцёла й кляштара Дамініканцаў у Менску. Цяжкія ня ў тым сэнсе, што было ўскрыта 1000 кв. м плошчы за сэзон і прыйшлося працаваць часам па 18 гадзін у суткі, цяжкія тым, што помнік быў нібы “ўтоплены” ў чалавечых касьцях, пахаваньнях і брацкіх магілах сярэдзіны XVII стагодзьдзя. Вось велізарная магіла, 11 мэтраў удаўжыню. Завал касьцей. Шкілеты ў тры штабелі. Мушкетныя пастрэлы ў чарапох, праломы. Гэта быў час страшнай вайны,

час жахлівага вынішчэньня, калі было забіта, загінула, вымерла ад эпідэміяў больш за палову (51 працэнт) насельніцтва Беларусі. Тады наш народ перамог, адстаяў сваю незалежнасьць, але сілы яго ўжо былі падарваныя. Больш жахлівай пары ня ведала наша гісторыя аж да першай паловы XX ст., да часоў сталіншчыны, і, о няшчасьце, яно прыйшло якраз тады, калі мы толькі-толькі пачалі станавіцца на ногі, калі перад нашай нацыянальнай будучыняй яшчэ толькі трымцела сьвітаньне...

Вось яно, наша сьвітаньне, у раскапаных магілах у Курапатах глядзіць на мяне пустымі вачніцамі, зь якіх, нібы сьлёзы, высыпаецца, сыплецца жоўты пясок. Выбіраем рэшткі... Доўгія валасы жанчыны, сьветлыя, нібы лён, выцягваем з-пад прастрэленых чарапоў, асьцярожна, каб не парваць. Адна пасма, другая, трэцяя... гузікі з-пад бялізны... Мінае працоўны дзень, і ноччу прадаўжаецца ўсё ў сьвядомасьці — цягну, бясконца выцягваю з-пад касьцей кужэльныя валасы, сьветлыя, нібы лён, і няма ім канца...

Калісьці, расчышчаючы косьці забітых продкаў у брацкай магіле ля Дамініканца, я думаў: "Госпадзе, хоць бы апошні раз мне такія раскопкі, хоць бы гэтая чаша мінула мяне!" Не мінула. Мы нікуды ня дзенемся ад нашай гісторыі. І жывыя і мёртвыя — мы адно. Мы — народ. І калі мы ўжо мёртвых нічым не ўспаможам, то мёртвыя нас успамогуць. Яны могуць асьвяціць нам шлях, асьвяціць нашы душы сваімі пакутамі, ускалыхнуць нашы розумы, сэрцы і дух, калі толькі таго мы захочам... Чуеце, як шалеюць цемрашалы, як яны імкнуцца "забіць" нашых мёртвых, схаваць, абылгаць, апляваць, затаптаць. Гэй, хто там? Гэта вы, ледзі Макбэт? — Не змываецца ж кроў! О, гэтая глыбокая таемнасьць сьмерці! О, сіла продкаў, калі ў Дзень Задушны адбываецца яднаньне! І калі мы згубім, страцім гэтую сілу, нас — няма.

Кожны чалавек, братове, кожны сумленны чалавек павінен змагацца з сталінізмам — гэтай самай подлай, самай ілжывай, самай антыгуманнай зьявай, якая існавала калі-небудзь на сьвеце.

***Упершыню надрукавна ў газ. "Літаратура і мастацтва". 1988. 16 верасьня.***

*3-Д. Адбітак артыкула „Шумяць над магілай сосны" з кнігі: З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Мн.: НВК „Тэхналёгія", 1994. – 180 с.: іл. ISBN 5-85700-149-8*

З. Пазьняк, М. Крывальцэвіч, А. Іоў

# СПРАВАЗДАЧА

## аб археалягічных раскопках (эксгумацыі) пахаваньняў ва ўрочышчы Курапаты (Брод) Менскага раёну Бараўлянскага сельсавету



*5-Д. Найбольш ацалелыя чарапы (жаночыя) з пахаваньня (раскопу) №8*

Інстытут гісторыі АН БССР

**Аб"яднанне аддзелаў археалогіі**

З.С.Пазняк, М.М.Крывальцэвіч, А.В.Іоў

# СПРАВАЗДАЧА

аб археалагічных раскопках /эксгумацыі/
пахаванняў ва ўрочышчы Курапаты /Брод/
Мінскага раёна Бараўлянскага сельсавета

Выканаўцы: старшы навуковы супрацоўнік Пазняк З.С., навуковы супрацоўнік Крывальцэвіч М.М., аспірант Іоў А.В.

Справаздача абмеркавана на пасяджэнні
аддзела археалагічных даследванняў зон
новабудоўляў Інстытута гісторыі АН БССР,
прынята і зацверджана І.08.І988 г.
Пратакол № І4



Загадчык аддзела Г.В.Штыхаў

Мінск, І988г.

Копія

ПРОКУРАТУРА СОЮЗА ССР

ПРАКУРАТУРА
БЕЛАРУСКАЙ ССР

ПРОКУРАТУРА
БЕЛОРУССКОЙ ССР

220849, г.Мінск,
вул.Інтэрнацыянальная, 24

220849, г.Минск,
ул.Интернациональная, 24

30.06.88 №19-462сл.

И.о.директора института
истории АН БССР
доктору исторических наук
профессору
Костюку М.П.

Резалюцыя: З.С.Позняку
Необходимо принять
участие.
Г.В.Штыхову
К сведению.

Подпіс: М.Костюк
01.07.88.

Прокуратурой БССР расследуется уголовное дело, возбужденное по факту обнаружения захоронения в лесном массиве на территории Боровлянского сельского совета Минского района.

В целях установления обстоятельств захоронения по делу необходимо произвести эксгумацию останков. В связи с этим, руководствуясь ст.44 Уголовно-Процессуального Кодекса БССР, просим оказать содействие. Для участия в выборочной эксгумации выделить сотрудника института — специалиста в области археологии.

Эксгумация будет проводиться с 6 по 15 июля с.г. Участники выедут на место раскопок 6.07.88 в 9 ч.30 мин. от прокуратуры БССР /Интернациональная, 24/.

Следователь по особо важным
делам при Прокуроре БССР
советник юстиции — подпіс — Я.Я.Бролишс

тел.26-43-54.



Копія верна:

Штамп:
Академия наук БССР
Институт истории
ВХОД.№ 232-32/137
30 июня 1988 г.

# АГУЛЬНЫЯ ЗЬВЕСТКІ

Археалягічныя раскопкі (эксгумацыя) магіл на тэрыторыі Бараўлянскага сельсавету Менскага раёну праводзіліся ў сувязі з расьсьледаваньнем крымінальнай справы, узбуджанай Пракуратураю БССР па факце выяўленьня пахаваньняў у лясным масіве Курапаты (ліст Пракуратуры БССР у Інстытут гісторыі № 19—462 сл. ад 30.06.88). Рашэньне аб эксгумацыі прынята Пракуратураю БССР пасьля публікацыі ў газэце "Літаратура і мастацтва" артыкула "Курапаты — дарога сьмерці". Працы праводзіла сьледчая група Пракуратуры з удзелам іншых спэцыялістаў. Навуковае ажыцьцяўленне археалягічных працаў па эксгумацыі праводзіла група археолягаў Аб'яднаньня аддзелаў археалёгіі Інстытуту гісторыі АН БССР у складзе старэйшага навуковага супрацоўніка Пазьняка Зянона Станіслававіча (кіраўнік групы), навуковага супрацоўніка Крывальцэвіча Мікалая Мікалаевіча, асьпіранта Іова Алега Вільгельмавіча.

Раскопкі праводзіліся з 6 да 15 ліпеня 1988 г. За гэты час былі распрацаваныя 1 шурф і 7 раскопаў на максімальную глыбіню да 2,75 м агульнай плошчай 44 кв. м. Акрамя таго, распрацаваныя ручным спосабам 4 разьведвальныя траншэі глыбінёй ад 0,30 да 1,50 м агульнай плошчай 43 кв. м і 4 траншэі мэханічным спосабам на глыбіню да 2 м агульнай плошчай 12 кв. м. (Агульная плошча ўсёй раскапанай тэрыторыі — 99 кв. м).

У 6 раскопах на дне магільных ямаў былі знойдзеныя рэшткі пахаваньняў людзей. У раскопе № 7 рэшткаў люзей ня выяўлена. Шурф № 4 быў выкапаны на поўдзень ад лініі рову, за былой агароджай Курапатаў, з мэтай высьвятленьня магчымасьці існаваньня агульных магілаў па-за межамі тэрыторыі расстрэлаў.

Археалягічныя дасьледаваньні праводзіліся ў трох частках тэрыторыі пахаваньняў (мал. 1—2). Ва ўсходняй частцы на паўночным схіле ўзгорку (грады), парослага рэдкім яловым лесам, былі распрацаваныя раскопы №№ 1—3. Раскопы № 5 і 6 зробленыя ў паўднёвай частцы Курапатаў прыблізна на



*Рэшткі расстраляных.*

адлегласьці 200 мэтраў на паўднёвы захад ад раскопаў №№ 1—3, на поўдзень ад газатрасы, што ў красавіку 1988 г. пракладзена па вяршыні ўзгорыстай грады і бліжэй да кальцавой дарогі. Раскоп № 8 закладзены на адлегласьці прыблізна 75 і 160 м на паўночны захад ад раскопаў №№ 1—3 на паўночным краі ўзвышанага месца, пасьля якога пачынаецца паніжэньне тэрыторыі й лагчына.

Акрамя таго, былі дасьледаваныя і гэтае паніжэньне мясцовасьці, і гэтая лагчына на паўночна-ўсходняй ускраіне Курапатаў, што бліжэй да дарогі Калодзішчы—Заслаўе.

Раскопкі праведзены рыдлёўкамі па пластох з ручной пераборкай грунту і дасьледаваньнем яго мэталашукальнікам, з фіксаваньнем глыбіняў, характару й колеру запаўненьня магілаў, назіраньнем за стратыграфіяй. З гэтаю мэтаю пахаваньні спачатку дасьледаваліся скрыжаванымі траншэямі шырынёй 1,00 м уздоўж і ўпоперак западзін. Траншэі раскопваліся да зьяўленьня першых рэштак пласта пахаваных. Адначасна ў профілях траншэяў выяўляліся пачатковыя контуры пахавальных ямаў і межы перакопаў, вывучаліся напластаваньні. Па лініі траншэяў пасьля распрацоўкі раскопаў былі потым зробленыя падоўжныя і папярочныя профілі (разрэзы) пахаваньняў у маштабе 1:20.

Выбарка й пераборка грунту запаўненьня магілаў працягвалася да зьяўленьня пласта пахаваных па ўсёй плошчы раскопаў. Потым адбывалася зачыстка гэтага пласта ад пяску, якую рабілі садовымі шуфлікамі, нажамі й шчоткамі. Зачыстка касьцей выяўляла сытуацыю верхняга пласта пахаваньняў. Пасьля гэтага рабілася фіксацыя глыбіняў, індывідуальных знаходак, чарапоў, абутку й касьцей, здымаўся плян (схема разьмяшчэньня асноўных знаходак і рэштак нябожчыкаў) у сумеры 1:20, раскоп фатаграфаваўся на фотастужку (а крыміналістамі яшчэ і на магнітную відэастужку).

Пасьля заканчэньня гэтай работы пачыналася разборка пласта пахаваных сумесна з мэдыкамі-экспэртамі. Пры гэтым фіксаваліся ўсе індывідуальныя знаходкі, чарапы, абутак і рэшткі адзеньня, адзначаліся месцы й глыбіні іх знаходжаньня. Усе знаходкі з пласта і неабходныя рэшткі пахаваных пасьля апісаньня іх ды фіксаваньня на пляне і ў запісах археолягамі

забраныя мэдыцынскімі экспэртамі й крыміналістамі для экспэртызы.

У канцы адбывалася зачыстка дна пахаваньняў і фіксаваньне мацерыка. Упоперак усіх раскопаў у мацерыку рабілася кантрольная траншэя глыбінёй ад 0,4 да 1,00 м і шырынёй 0,5—0,6 м. Потым у гэтую траншэю складваліся абутак і рэшткі пахаваных, не забраныя для экспэртызы, і засыпаліся. Усе працэсы раскопак фіксаваліся на фотастужку археолягамі й крыміналістамі.

Пасьля археалягічных дасьледаваньняў і эксгумацыі ўсе раскопы былі акуратна закапаныя рыдлёўкамі, а тэрыторыя працаў прыведзена ў належны парадак.

## РАСКОП (ПАХАВАНЬНЕ) № 1

### I

Пахаваньне вызначана па западзіне (глыбіня 0,45 м). Яма зарыентаваная на паўночны ўсход. Па ўскрайку западзіны расьлі дрэвы. Відаць было сьмецьце (паперкі, бляшанка ад кансэрваў). Паверхня пакрытая ігліцай ад хвояў і елак.

### II

Пачаткова закладзены шурф упоперак магільнай ямы. Памеры шурфа 1 х 3 м. Арыентацыя: паўночны захад — паўднёвы ўсход. У разрэзе праглядалася верхняя стратыграфія пахавальнай ямы: насыпаны пясок (0,10—0,15 м), які зьверху пакрыты тонкім пластом ляснога шыльніку (да 0,05 м). У шурфе былі відаць вэртыкальныя межы пахавальнай ямы (запаўненьне больш рыхлае, перамяшанае, трапляюцца рэшткі глебы). На глыбіні 1,65 — 1,68 м у паўднёва-ўсходнім і паўночна-заходнім канцах шурфа выяўлены рэшткі скуры (боты), косьці чэрапа. Паглыбленьне шурфа спынена. Вызначаны памеры раскопу (3,40 х 2,40 м), у межы якога ўключана пахавальная яма. Пасьля выбаркі насыпнога грунту пачалася зачыстка рэштак пахаваных. Памеры пахавальнай ямы на ўзроўні зачысткі 3,20 х 2,30 м. Зачыстка вялася нажамі, садовымі лапаткамі й шчоткамі. Пасьля зачысткі праводзілася фіксацыя, абмеры.

Рэшткі пахаваных разьбіраліся. Глыбей разборка вялася бяз пэўнай зачысткі да мацерыковага ўзроўню, у гэтым выпадку — да глыбіні 2,75 м. Пахавальная яма звужалася. Памеры ў прымацерыковай частцы 2,85 х 1,67 м. Магутнасьць пласта пахаваных у цэнтральнай частцы 0,70 м. Пасьля поўнай выбаркі ўпоперак дна капалася кантрольная траншэя шырынёй 0,50 м, глыбінёй да 1 м.

## III

Рэшткі адзеньня, косьці разьмяшчаліся з глыбіні 1.65 м па краёх і 2,00 м у цэнтральнай частцы ямы да глыбіні 2,75 м уключна.

Па краёх ямы — рэшткі скуранога адзеньня (курткі, паліто). Некаторыя ў складзеным выглядзе. Пласты скуранога адзеньня выяўлены і ў цэнтральнай частцы ямы. Рэшткі скураной вопраткі сустракаліся да мацерыка. У паўночным куце на глыбіні 1,20 м выяўлены тры чарапы; два зь іх ляжалі тварамі ўверх, 1 — уніз. У заходнім куце на глыбіні 1,35 — 1,38 м — пустая бутэлька, рыльца павернута ў цэнтральную частку ямы, заткнута гумавым коркам. Бутэлька ляжала на белым пяску. Ніжэй і побач пад пяском чарапы, іншыя рэшткі людзей (з глыбіні 1,40 — 1,45 м). (Бутэльку кінулі, магчыма, пасьля засыпкі чарапоў і іншых рэштках у час папярэдняй эксгумацыі). Знойдзена вялікая колькасьць ботаў (многія ў галёшах), рэшткі валёнак. Некаторыя галёшы самаробныя, зробленыя з аўтамабільнай гумы. Выяўлена 47 чарапоў. Падлік колькасьці асобін у час раскопак не праводзіўся. (Косьці забраныя на мэдэкспэртызу, фота 1). Усе чарапы разьмяшчаліся пераважна па краі ямы. На цэлых чарапох відаць скразныя адтуліны ад куляў. Стралялі пераважна ў патыліцу.

Знойдзены таксама:

*1.* Кашалькі, партманэты і іх фрагмэнты — 9 штук, у 4, магчыма, ёсьць манэты. (У час раскопак кашалькі не адкрывалі, каб не пашкодзіць).

*2.* 6 манэт — 2 трохкапеечныя (1933 і 1935 гг.) і 4 — 20-цікапеечныя (1931, 1932, 1933 і ? гг.).

*3.* 10 куляў, некаторыя дэфармаваныя, 1 — усярэдзіне чэрапа.

*4.* 2 вырабы з каляровага моцна акісьленага мэталу з рэшткамі скуры (нагрудны знак?).

*5.* Выраб жалезны. Брусок выгнуты (25 х 3 см).

*6.* 2 кубкі (1 у кішэні скуранога паліто). На адным, на дне, напісана "Ростов-на-Дону".

*7.* Устаўная сківіца.

*8.* Грабянец плястмасавы, чорны.

*9.* Гільзы ад савецкага нагана.

Знойдзена шмат гумовых галёшаў і ботаў. Некаторыя маркіраваныя: "Красный Богатырь" (2), "Красный треугольник" (2), "Резинтрест" (2). На падэшве апошняга лічба "36" і літары "ВСНХ". Знойдзены клееныя самаробныя гумовыя бахілы.

## IV. Высновы

На падставе раскопак можна зрабіць наступныя высновы:
— пахаваньне праведзена ў халодную пару году;
— пахаваныя загінулі ў выніку стрэлаў у галаву (кулі, гільзы, дзіркі ў чарапох);
— пахаваньне да гэтага парушалася эксгумацыяй (заляганьне рэштак расстраляных па краі ямы, выбарка сярэдняй часткі магілы да глыбіні 2,00 м). (Гл. мал. 3—5. Розьніца паміж краямі і цэнтрам пахавальнага пласта 0,40 — 0,34 м);
— мяркуючы па агледжаных знаходках (манэты, галёшы), пахаваньне зроблена не раней за 1936 г. (манэты ў кашалькох не дасьледаваліся);
— мяркуючы па абутку і адзежы, сярод забітых, выяўленых у магіле, было шмат простых людзей, хутчэй за ўсё сялян. Пэўная колькасьць належала да інтэлігенцыі. Тут жа пахаваныя і жанчыны;
— у пахавальным пласьце магілы № 1 выяўлена 47 чарапоў. Калі дапусьціць (паводле аналёгіі зь іншымі магіламі і паводле сьведчаньняў некаторых відавочцаў), што пахаваньне было запоўнена да ўзроўню ня менш як на 40—45 см ад верху, дык аб'ём верхняй выбранай часткі магілы (гл. мал. 4—5) больш чым у тры разы перавышае аб'ём ніжняга пласта. У магіле № 1 магло быць пахавана ня менш за 150 нябожчыкаў.

Пасьля распрацоўкі раскопу рэшткі касьцей і абутку пахаваных, не забраныя на экспэртызу, пакладзены ў траншэю на дне пахавальнай ямы і засыпаны.

Раскопкі пахаваньня № 1 праводзілі археолягі М. Крывальцэвіч і А. Іоў.

## РАСКОП (ПАХАВАНЬНЕ) № 2

### I

Пахаваньне вылучана па западзіне глыбінёю 0,40 м. Падоўжаная яма зарыентавана па лініі поўдзень— поўнач. На паверхні паўднёва-ўсходняга сэктару ямы расьлі 2 дрэвы. З гэтай прычыны адпаведная частка пахаваньня спачатку не распрацоўвалася. У западзіне на паверхні сустракалася сьмецьце, некалькі кволых кусьцікаў маліны. Паверхня пакрыта ігліцай ад хваін і елак. Назіраўся нахіл паверхні ямы ў паўночны бок.

### II

Пачаткова закладзены шурф упоперак пахавальнай ямы (2,50 х 1 м). Пахаваньні знойдзены на глыбіні 0,84 м каля заходняй сьценкі раскопу. Дзеля выяўленьня верхняй мяжы пласта заляганьня рэшткаў пахаваных па ўсім раскопе (4,00 х 2,70 м) праведзена расчыстка насыпнога пяску. З глыбіні 0,84 — 0,90 м, калі зьявіліся па краёх рэшткі пахаваных, пачалася зачыстка, якая вялася нажамі, шуфлікамі, шчоткамі. У цэнтральнай частцы рэшткі людзей зьявіліся на глыбіні каля 1,30 м (ад дзённай паверхні). Потым праводзілася агульная фіксацыя, абмеры. Памеры пахавальнай ямы 3,40 х 2,40 м. Рэшткі пахаваных разьбіраліся да мацерыковага ўзроўню, у гэтым выпадку да глыбіні 2,00 — 2,70 м (паўднёвая сьценка — паўночная сьценка). Магутнасьць пахавальнага пласта ў цэнтральнай частцы 0,60 м. Пахавальная яма звужалася. Прымацерыковыя памеры яе 2,85 х 1,67 м.

Пасьля поўнай выбаркі ўпоперак дна (лінія захад-усход) капалася кантрольная траншэя шырынёй 0,50 м, глыбінёй 0,60 м.

## III

На глыбіні 0,84—0,90 м у паўднёва-заходнім куце выяўленыя рэшткі касьцяка (фота 3). Чэрап ляжаў на баку, твар павернуты на паўночны ўсход, рот раскрыты, рукі падвернутыя пад цела, ногі раскінутыя. Косьці левай галёнкі адсутнічаюць (выкінутыя пры папярэдняй эксгумацыі). У паўночна-ўсходнім куце — 2 чарапы (глыбіня 1,0 м; 0,98 м). Раты прыадкрытыя. Паміж чарапамі знойдзена куля. У адным з чарапоў 2 скразныя кулявыя адтуліны. У адной адтуліне (у лобнай частцы) засела куля. За 40 см на поўнач — чэрап (глыбіня 1,10 м). Галава задраная ўверх. Кулі трапляліся ў ніжняй частцы магілы.

Сустракаюцца рэшткі скуранога адзеньня (паліто, курткі). Выяўлена шмат галёшаў. Маркіроўка савецкая. Пераважна з трыкутнікамі й датамі "37". Боты й чаравікі скураныя. Адшуканы жаночы абутак (абцас высокі, халявы вузкія, памер 36—37). Сустракаўся абутак складзены, які не абувалі, а ўзялі з сабою. Пападаліся чаравікі самаробныя, гумовыя (некалькі параў). Сустракаліся самаробныя гумовыя галёшы (бахілы, фота 2).

Знойдзены:

— 3 кашалькі. У адным (глыбіня 1,54 м) 4 манэты (даты не чытаюцца), у другім — манэта і рэшткі папяровых грошай. 2 слупкі манэт ляжалі ў карабку ад запалак (глыбіня 2,10 м; даты ня вызначаны);
— два кубкі белыя фарфоравыя на глыбіні 2,05 м (адзін разьбіты);
— акуляры ў скураным футарале, зубныя шчоткі;
— некалькі чарапоў мелі на зубох каронкі з жоўтага й белага мэталу.

З глыбіні 2,00—2,30 м рэшткі пахаваных уяўлялі сабой суцэльны зьляжалы пласт. Амаль усе чарапы дэфармаваныя ад ціску верхніх пластоў. Прасочваюцца гарызантальныя праслойкі сьветлага пяску, якія ў двух выпадках чаргаваліся праз 0,3—0,4 м (паслойная прысыпка пахаваных).

Знойдзены 62 чарапы ў межах пахаваньня.

## IV. Высновы

На падставе раскопак пахаваньня можна казаць, што:

— раней, задоўга да нашых раскопак, праводзілася эксгумацыя магілы (выбрана сярэдняя частка пахаваньня);
— магчыма, рабілася пачарговая перасыпка пяском партыяў расстраляных (праслойкі белага пяску);
— частка людзей, магчыма, мела пэўную сямейную, кроўную ці тэрытарыяльную сувязь (2 аднолькавыя фарфоравыя кубкі з фігурнай ручкай, некалькі параў аднолькавых самаробных гумовых чаравікаў);
— сацыяльны статус пахаваных даволі нізкі, ніжэйшы, чым у пахаваньні № 1 (абутак ніжэйшай якасьці, менш кашалькоў, шмат самаробнага абутку, менш прадметаў туалету, менш залатых каронак, скуранога адзеньня і г. д.);
— пахаваныя расстраляны (кулі, дзіркі ад куляў у патыліцы);
— сярод расстраляных былі жанчыны;
— частку рэчаў, безумоўна, бралі з сабою (складзеныя боты, прадметы туалету, кубкі). Людзі рыхтаваліся ў далёкую дарогу.

У межах пахаваньня знойдзены 62 чарапы. Аб'ём раней выбранай часткі магілы (пры першай эксгумацыі) ад верхніх крайніх пунктаў зьяўленьня знаходак прыблізна такі ж, як і аб'ём распрацаванага намі пахавальнага пласта, гэта значыць там таксама магло ляжаць больш за 60 касьцякоў. Хутчэй за ўсё, забітых засыпалі зьверху пяском таўшчынёй да 40 см. Да гэтага ўзроўню магло зьмясьціцца яшчэ каля 60 трупаў. Такім чынам, у магіле № 2 магло быць пахавана прыблізна каля 180 чалавек. Памеры прымацерыковай часткі магілы 2,85 x 1,67 м (мал. 6—8).

Пасьля выбаркі магілы ўпоперак яе пракапана на дне кантрольная траншэя шырынёй 0,50 м, да глыбіні 0,60 м. Рэшткі касьцякоў і адзеньня, не забраныя на экспэртызу, закладзены ў траншэю і засыпаны.

Раскопкі пахаваньня № 2 праводзілі археолягі М. Крывальцэвіч і А. Іоў.

# РАСКОП (ПАХАВАНЬНЕ) № 3

## I

Пахаваньне вызначана па характэрнай прастакутнай западзіне глыбінёй да 18 см. Паверхня была пакрыта невысокаю рэдкаю травой і яловым шыльнікам; у цэнтры відаць вугольле ад былога вогнішча. У тонкім пласце дзірвану таўшчынёй 5 см таксама знойдзена вугольле й рознае сьмецьце. Паверхня была дасьледавана мэталашукальнікам. У траве і ў дзірване выяўлены ржавыя, перагарэлыя ў вогнішчы цьвікі, абрыўкі дроту, абломкі нейкіх жалезных вырабаў, паржавелыя кансэрвавыя бляшанкі, накрыўкі, доўгая й лёгкая куля ад вінтоўкі з круглай адтулінай у тыльнай частцы (хутчэй за ўсё запальная), дробныя асколкі шкла, абрыўкі поліэтылену. Арыентацыя пахаваньня па частках сьвету даўжынёй па лініі захад—усход.

## II

З мэтай выяўленьня контураў магільнай ямы й глыбіні заляганьня рэшткаў людзей упоперак западзіны была пракапана траншэя (шурф) 1 х 2,3 м. Грунт — жоўты перакапаны пясок з украпінамі іншароднай засыпкі чорнага й шэрага колераў. На глыбіні 1,30 м ад дзённай паверхні выяўлены кавалак арганічнага рэчыва, падобны на струхнелую скуру ці адзеньне; тут жа выяўлена тазавая косьць чалавека, крыху ніжэй — косьці пальцаў рук, а на глыбіні 1,40 м — вялікія косьці чалавека, разьмеркаваныя ўздоўж паўночнай сьценкі шурфа па самым краі магільнай ямы. Вэртыкальны контур яе выразна чытаецца на профілі траншэі. На гэтай жа глыбіні (1,40 м) ў цэнтры магілы ў пяшчаным грунце знойдзены бязь ніякай сувязі з касьцямі гумовы галёш з маркіроўкай савецкай фабрыкі і надпісам “СССР”. У цэнтры шурфа рэшткі людзей паказаліся на глыбіні 2,03 м. На гэтым узроўні распрацоўка шурфа спынена. Быў распрацаваны раскоп памерам 2,87 х 2,28 м. Выбарка пяску працягвалася да зьяўленьня верхніх фрагмэнтаў пахаваных. Па краёх да глыбіні 1,40 м і ў цэнтры — да 2,00-2,10 м. У паўночна-заходнім куце раскопу на глыбіні 1,43 м выяўлены чалавечы

чэрап (замерана да сярэдзіны чэрапа). Чэрап нахілены тварам на ўсход прыкладна пад кут 45°. Побач на гэтым жа ўзроўні амаль у сьценцы раскопу знойдзеныя яшчэ два чарапы: адзін ляжаў на баку, другі — павернуты ўніз. У патылічнай частцы ўсіх чарапоў круглыя адтуліны ад куляў. У адным — тры адтуліны. У самым паўночна-ўсходнім куце раскопу на гэтай жа глыбіні выяўлены чэрап, які ляжаў на цемені з задранай уверх сківіцай. На верхнім радзе зубоў некалькі каронак з жоўтага мэталу. Зьлева разьмешчаны яшчэ адзін чэрап, косьці пазванкоў, рэбры й некалькі локцевых касьцей. Арыентацыя па самым краі магільнай ямы з усходу на захад.

У паўднёва-ўсходнім куце раскопу на глыбіні 1,45 — 1,50 м адкрыты вялікі кавалак скуры — фрагмэнт верхняй адзежы. У цэнтры магілы на глыбіні 1,8 і 1,9 м выяўлена некалькі экзэмпляраў абутку (галёшы, туфлі), якія разьмешчаны ў пяску без пасьлядоўнай сувязі з касьцямі. Абутак нібы "павіс" у пяшчаным запаўненьні ямы. Такая сытуацыя разьмеркаваньня фрагмэнтаў абутку, адзежы й касьцей (пальцы) у пласьце запаўненьня ямы магла скласьціся пры ўмове, калі магіла раней раскопвалася, рэшткі людзей былі паварушаныя ці выбраныя і пахаваньне зноў засыпана тым жа грунтам.

Пасьля выбаркі грунту рыдлёўкамі пачата зачыстка пахавальнага пласта шуфлікамі й шчоткамі. Зачыстка выявіла наступную сытуацыю: чарапы пераважна разьмешчаны па краёх магільнай ямы на глыбіні 1,40 — 1,43 м (5 шт.), астатнія (4 шт.) — на глыбіні 1,90 — 2,10 м. Тут жа косьці і абутак. У цэнтры ямы пласт пахаваньня пераважна на глыбіні 2,10 м (ад 2,00 да 2,10 м). Чарапы ў цэнтры пласта на паверхні адсутнічаюць. Некаторыя экзэмпляры абутку, што былі ў запаўненьні ямы, пры зачыстцы пакінуты на пяшчаным грунце для фіксацыі. Розьніца заляганьня чалавечых рэшткаў па краёх ямы і ў цэнтры яе складае 70 см (паўночны, заходні і часткова ўсходні бок пахаваньня). Уздоўж паўднёвай сьценкі раскопу рэшткі пахаваных узвышаюцца над цэнтрам магілы на 30 см, прытым фрагмэнтарна, суцэльнай лініі няма. Па краёх магілы на ўзроўні 1,40 — 1,50 м захаваліся больш-менш поўна толькі касьцякі, зарыентаваныя ўздоўж сьценак ямы. Адзін касьцяк у паўночна-заходнім куце (чэрап якога разьмешчаны на глыбіні 1,43 м ад

дзённай паверхні) таксама захаваўся больш-менш поўна дзякуючы падоўжанай арыентацыі ўздоўж сьценкі і як бы "паўсядзячаму" разьмяшчэньню (чэрап на 0,43 м вышэй за ўзровень тазавай часткі). Рэшткі забітых у верхнім пласьце ляжаць бессыстэмна, многія экзэмпляры абутку не зьвязаныя з касьцямі (фота 5).

Пасьля зачысткі, абмераў і фіксацыі верхняй часткі пласта пахаваных зроблена выбарка чалавечых рэшткаў магілы супольна з мэдыкамі-экспэртамі. У ніжняй частцы пахаваньне звужалася. Памеры яго на ўзроўні ніжняга пласта пахаваных 2,74 х 2,02 м. Пры выбарцы пласта запаўненьня й пахаваньня ўвесь грунт уважліва перабіраўся рукамі і дасьледаваўся мэталашукальнікам. На глыбіні 2,35 м (месцамі 2,38 м) ад дзённай паверхні зробленая зачыстка мацерыка (жоўта-белы пясок). Упоперак дна раскопу пракапана кантрольная траншэя шырынёй і глыбінёй 0,6 м. Тут былі складзеныя і потым засыпаныя рэшткі пахаваных ды іхнага адзеньня, не забраныя на экспэртызу.

Такім чынам, магутнасьць (таўшчыня) пласта пахаваньня ў цэнтры магілы складае 0,25 — 0,28 м, па краёх — 0,95 — 0,98 м. Форма пласта пахаваньня, выгляд яго паверхні, аналіз разьмяшчэньня касьцей і абутку паказвае на тое, што рэшткі пахаваных былі раней паварушаныя і выбраныя, асабліва ў цэнтральнай і паўднёвай частках магільнай ямы (мал. 9—11).

## III

У працэсе выбаркі пласта пахаваных выяўленая вялікая колькасьць скуранога й гумовага абутку (боты, туфлі, галёшы). Увесь абутак даволі прымітыўна зроблены. Ёсьць самаробныя боты з выцяжкай суцэльнай халявы, туфлі са стаптанымі абцасамі, галёшы з маркіроўкай савецкіх фабрык "Красный богатырь", "Красный треугольник". На большасьці галёшаў пазначана дата — "1937".

З паўднёва-ўсходняга кута пахаваньня вынялі скураное паліто. Яно было складзена, а ўнутры яго знойдзены загорнутыя туфлі. Гэта рэчы, якія чалавек узяў з сабой у дарогу. Побач з гэтым паліто́м на глыбіні 1,45 — 1,50 м знойдзены карычневы плястмасавы грабеньчык з маркіроўкай "Мосластмасс ф-ка 4".

За 20 см убок ад грабеньчыка выяўлена зубная шчотка ў круглым зялёным плястмасавым футарале. Маркіроўка зубной шчоткі — "Арт. "Щеткагреб".

Каля ўсходняй сьценкі пахаваньня на глыбіні 2,10 — 2,15 м знойдзеныя чарапы з прыліплым жаночым грэбенем на патыліцы, тут жа на глыбіні 2,20 м — яшчэ адзін жаночы грэбень, а непадалёк на глыбіні 2,25 — 2,30 м выяўлены доўгія пасмы жаночых валасоў — сьветлыя і цёмныя. Тут жа былі дзьве палавінкі разламанага мужчынскага грабеньчыка. Маркіроўка яго: "НКЛП — БССР". Зь іншых прадметаў у пласьце пахаваных знойдзена яшчэ мыльніца, мэталічны выраб, падобны на гузік, і куля ад нагана. Сярод чалавечых рэштказў знойдзеныя косьці птушкі (грудзінка), хутчэй за ўсё курыцы. Пэўна, рэшткі харчовых прыпасаў, узятых у дарогу. У пахавальным пласьце выяўлены 31 чалавечы чэрап. Колькасьць пахаваных па касьцёх на месцы не падлічвалася.

## IV. Высновы

На падставе археалягічных дасьледаваньняў пахаваньня № 3, назіраньняў за грунтам, аналізу пахавальнага пласта й знаходак у ім можна зрабіць наступныя высновы:

— пахаваныя памерлі гвалтоўнай сьмерцю ад стрэлаў у галаву;
— да правядзеньня нашых археалягічных раскопак пахаваньне раней ужо раскопвалася, і верхнія пласты касьцякоў былі выбраныя з магілы;
— папярэдняя эксгумацыя была праведзеная неахайна, рэшткі нябожчыкаў засталіся па краёх і на дне пахаваньня;
— тыя, хто непасрэдна рабіў эксгумацыю (раскопкі), відаць, не былі зацікаўленыя ў гэтай працы;
— мяркуючы па маркіроўцы і датах на галёшах, пахаваньне ўзьнікла не раней 1937 году;
— паколькі рэшткі адзеньня, абутак і знойдзеныя прадметы індывідуальнага карыстаньня ўсе савецкай вытворчасьці (у тым ліку БССР), можна зрабіць заключэньне, што ў магіле пахаваныя мясцовыя людзі;
— пахаваныя належалі да цывільнага насельніцтва;
— мяркуючы па невялікай колькасьці індывідуальных знаходак, прадметаў туалету, адсутнасьці кашалькоў, невысокай

якасьці й катэгорыі абутку (шмат самаробных ботаў), сацыяльны ўзровень большасьці пахаваных быў невысокі (рабочыя, сяляне, вясковая інтэлігенцыя, магчыма, некаторыя — службоўцы);

— сярод расстраляных былі жанчыны.

Улічваючы, што ніжні пласт пахаваных меў магутнасьць (таўшчыню) у сярэднім 0,25 м і мяркуючы*, што магіла засыпалася зьверху пластом пяску таўшчынёй да 40 см, можна падлічыць верагодную колькасьць пластоў у пахаваньні — 7 і адзін няпоўны (20 см). Адсюль вынікае, што ў магіле № 3 магло быць пахавана ў сярэднім ад 217 да 240 нябожчыкаў (калі лічыць колькасьць пахаваных па чарапох, якіх знойдзена 31). Але звычайна лік чарапоў, як правіла, меншы за колькасьць пахаваных у пласьце, калі меркаваць па наяўнасьці вялікіх (сьцегнавых) касьцей. (Гэтае парушэньне суадносінаў — вынік папярэдняй эксгумацыі). Такім чынам, лічба пахаваных у магіле № 3 магла дасягаць 250 расстраляных.

Раскопкі пахаваньня № 3 праводзіў археоляг З. Пазьняк.

## ШУРФ № 4

Шурф № 4 (нумарацыя агульная з раскопамі) быў распрацаваны па-за паўднёвай мяжой тэрыторыі пахаваньняў за канавай (ровам), уздоўж якой, паводле сьведчаньняў відавочцаў, з 1937 да чэрвеня 1941 г. стаяў дашчаны плот. Было раскапана паглыбленьне няпэўнага характару (западзіна глыбінёй 0,40 м) з мэтай высьвятленьня яго ўтварэньня, а таксама магчымасьці існаваньня магілаў за межамі раней абгароджанай тэрыторыі. Шурф памерам 2,6 х 1 м зарыентаваны па лініі захад—усход. Прарэзка паглыбленьня выявіла, што да глыбіні 0,6 — 0,8 м (замеры ад двух краёў ямы) назіраецца запаўненьне грунтам шэрага й чорнага колеру з украпінамі вугольчыкаў. Яма падсьцілаецца вугольлем, попелам і чорным гумусам (мал. 12). Ніжэй гэтай праслойкі — мацерыковы шчыльны грунт (жоўта-чырвоны буйназярністы пясок). Ніякіх адносінаў да пахаваньня дасьледаванае паглыбленьне ня мае. Хутчэй за ўсё яно штучнага

** (паводле аналягаў, сьведчаньняў і зыходзячы з аналізу іншых пахаваньняў).*

паходжаньня. Магчыма, зроблена пад вогнішча (мал. 12).

Такім чынам распрацоўка шурфа № 4 не пацьвердзіла меркаваньне аб існаваньні магіл за межамі тэрыторыі расстрэлаў, (г.зн. за межамі таго ўчастка, які быў абгароджаны плотам).

## РАСКОП (ПАХАВАНЬНЕ) № 5

### I

Пахаваньне вызначана па западзіне (глыбіня 0,65 м); зарыентавана па лініі поўнач—поўдзень. Па краёх западзіны расло некалькі дрэваў і кусты маліны. Дрэвы й кусты высякаліся. Паверхня пакрытаігліцаю хвоі і елкі.

### II

Пачаткова распрацаваныя дзьве траншэі ўздоўж і ўпоперак пахаваньня (5,65 х 1 м; 4,40 х 1 м; фота 6). Траншэі закладзеныя, як і ўсюды, з мэтай высьвятленьня межаў магільнай ямы, стратыграфіі напластаваньняў і глыбіні заляганьня касьцей. У выніку распрацоўкі папярочнай траншэі выяўлена выразная карціна напластаваньняў і перакопак (мал. 14, профіль DE). Стратыграфія зоны, непасрэдна прылеглай да магільнай ямы (DF; GE), разьмяркоўваецца наступным чынам:

1. Жоўты насыпны пясок — 0,20 м.
2. Шэры лясны падзол — прыблізна 0,20 м (DF) і 0,25 м (GE), які паступова пераходзіць у падглебавы мацерыковы пласт (жоўты пясок).

Насыпны пясок (1) быў выкінуты на край падчас выбаркі катлавану магілы. Лясны падзол шэрага колеру й мацерыковы пласт — некранутыя грунты прыроднага ўтварэньня.

Непасрэдна па краёх магільнай западзіны (FH; JG) зафіксавана наступная стратыграфія:

1. Двухпластовы насыпны пясок (FH), разьмежаваны тоненькай цёмнай праслойкай.

Верхні пласт пяску утвораны ў выніку паўторнай раскопкі ямы (пры ранейшай эксгумацыі) і наступнай яе засыпкі.

Ніжні пласт пяску — запаўненьне першапачатковай магільнай

ямы.
2. Ніжэй ідзе пласт пахаваньня з рэшткамі людзей.

Аналягічная сытуацыя на ўсходнім канцы траншэі (JG) з той толькі розьніцай, што двухпластовы насыпны пясок разьдзелены тут больш выразнай праслойкай шэрага колеру таўшчынёй 3—4 см (месцамі да 7 см).

У выніку стратыграфічнага аналізу вылучаныя вонкавая і ўнутраная ямы. Шырыня вонкавай па лініі $D_1$-$E_1$ — 3,40 м, унутранай — 2,85 м.

Пасьля праходкі траншэямі ў заходнім баку раскопу ў сэктары FH на глыбіні 0,70 м выяўлены чалавечы чэрап, ніжэй — рэшткі пахаваных. Ля ўсходняй сьценкі раскопу ў сэктары JG рэшткі нябожчыкаў выяўленыя на глыбіні 1,10 м. Пасьля гэтага пачалася агульная выбарка грунту ў межах раскопу памерамі 4,95 x 3,60 м. На ўзроўні верхніх пунктаў пласта пахаваных выявіліся памеры магільнай ямы — 4,00 x 3,10 м. Яна мела ў пляне авальную форму і звужалася да мацерыка. Памеры ніжняй часткі магілы 3,40 м (уздоўж па цэнтральным сечыве пахавальнага пласта) на 2,30 м (упоперак за 20 см ад дна).

У цэнтральнай частцы пахаваньня знаходкі прадметаў і рэшткі людзей зьявіліся на глыбіні 1,80 м ад гарызанталі дзённай паверхні DE. Такім чынам, розьніца ў глыбіні заляганьня касьцей паміж цэнтральнай часткай магілы і яе краямі складае 1,10 м.

Верхні пласт пахаваных (фота 7, 9) быў зачышчаны садовымі шуфлікамі, нажамі й шчоткамі. Пасьля зачысткі выразна стала відаць лейкападобная форма пахавальнага пласта (выбарка касьцей у цэнтры, фота 8). Гэты пласт быў намі зафіксаваны, абмераны й паступова разабраны да глыбіні 2,30 м. Магутнасьць (таўшчыня) пахавальнага пласта ў цэнтры магілы складала 0,50 м. Пасьля поўнай выбаркі магілы й зачысткі мацерыка ўпоперак дна раскопу была выкапаная кантрольная траншэя шырынёй 0,5 м і глыбінёй 0,6 м.

Поўная распрацоўка й дасьледаваньне пахаваньня далі магчымасьць зрабіць падоўжаны й папярочны разрэз раскопу па лініі траншэяў. У папярочным найбольш выразным разрэзе (мал. 14) відаць межы й запаўненьні дзьвюх ямаў, нібы

“ўстаўленых” адна ў адну. Першая, большая яма з рэшткамі пахаваных абмежаваная вонкаваю лініяй $Z\text{-}K_3\text{-}Z_1$, другая, меншая, — унутранай лініяй $F\text{-}K_2\text{-}G$ і запоўненая пяском. У разрэзе выразна чытаецца неахайны характар папярэдняй эксгумацыі: унутраная яма меншая памерам за магілу, пракапана найбольш у цэнтры, пласт пахаваных выбраны не да канца (мал. 13—15).

Можна зрабіць дапушчэньне, што тыя, хто непасрэдна рабіў эксгумацыю (выбіраў касьцякі), ня быў зацікаўлены ў гэтай працы. Акрамя таго, неахайная работа суправаджалася хутчэй за ўсё і неахайным мэтадам яе вядзеньня, без зачысткі касьцей ад грунту. У такім выпадку пясок пастаянна прысутнічае ў яме, абсыпаецца на ніз і намнажаецца, праца вядзецца нібы ўсьляпую. Працуючы такім чынам, выбраць чыста пласт пахаваных складана нават пры жаданьні.

## III

У паўднёва-ўсходнім куце раскопу ў межах пахаваньня адшукана больш за 80 аднатыповых гільзаў ад нагана. Гільзы зьявіліся на глыбіні 0,92 — 1,10 м і трапляліся да мацерыковага ўзроўню ямы (у гэтым месцы да 2,15 м). Большасьць іх знойдзена ў межах глыбіняў 1,45 — 1,60 м, адна — пры капаньні прыступак па-за межамі магілы ў насыпным пяску, што ляжаў пад іглiцай каля раскопу, глыбіня 0,15 м (згубленая падчас расстрэлу?).

У паўднёвай частцы пахаваньня прасочваецца цэлы касьцяк, які ляжаў уздоўж сьценкі на левым баку; чэрап таксама на баку. Адтуліна ад кулі — справа, выхад насупраць — зьлева.

Абутак пераважна аднатыповы: добра пашыты, халявы высокія, звужаныя, насок абшыты, падэшвы вузкія. Знойдзены высокія боты з адваротамі. На халявах некаторых ботаў дзіркі з мэталёвай акантоўкай пад матузкі. Радзей трапляліся галёшы. На ўсіх галёшах клеймы з лацінскімі літарамі. Выяўленыя 8 экзэмпляраў жаночага абутку. Гэта туфлі на высокім абцасе з клеймамі, дзе праглядаюцца лацінскія літары. Трапілася пара скуранога абутку накшталт шкарпэтак, якія ляжалі складзенымі і ў нешта загортваліся (відаць, бралі з сабой). Грабеньчыкі плястмасавыя, пераважна мужчынскія (адзін жаночы). Клеймы зь літарамі лацінскага альфабэту (“KING HALI FAX GA-

RANTIE", "DURABIT — GARANTIE", "PATRIA"). Некалькі грабеньчыкаў у плястмасавых футаралах. Знойдзена параўнаўча вялікая колькасьць зубных шчотак, некаторыя зь іх у футаралах, на дзьвюх — савецкае кляймо, на астатніх — надпісы літарамі лацінскага альфабэту. Трапляліся мыльніцы, круглая плястмасавая каробка для зубнога парашку (?), кубкі. На адным эмаляваным кубку чытаецца кляймо "Made in Poland". Пры засыпцы пахаваньня знойдзена лязовая частка брытвы.

Часта трапляліся рэшткі скураной вопраткі. Сярод кавалкаў скуранога паліта (?) адшуканыя зубная шчотка й акуляры. Вельмі шмат знаходак можна клясыфікаваць як рэшткі штучных тканін, што не сустракаліся ў іншых магілах.

Вельмі часта знаходзілі акуляры. Некаторыя зь іх разьмяшчаліся ў раскопе непасрэдна на чарапох ці каля чарапоў (фота 10). Пэўная частка такой катэгорыі знаходак была ў футаралах. Разам знойдзены акуляры і манокль (у футарале?). Вылучаецца адно пэнснэ, акуляры зь цёмнымі шкельцамі.

Асноўная частка кашалькоў, партманэтаў знойдзена пустымі (астатнія не раскрываліся). У адным партманэце відаць рэшткі папяровых грошай, у другім — папярос. Акрамя таго, заўважаецца адно кляймо з надпісам лацінскімі літарамі ("...MAN").

Знойдзены пластмасавыя муштукі, шкляная ўпакоўка (ампула) з рэшткамі лекаў (?), закаркаваная закруткай, карабкі з рэшткамі запалак, гузікі. Сярод апошніх шмат фігурных, з рэльефнымі выявамі, надпісамі. Знойдзены 2 пары скураных пальчатак. Яны хутчэй за ўсё ляжалі ў кішэні, бо складзены і парныя.

Вялікую цікавасьць уяўляюць мэдальёны. Адзін мэдальён з ланцужком. На двух праглядаецца выява Маці Боскай (?), на трэцім — фігура сьвятога ў промнях, манаграма зь літарай "M" і крыжам, надпісам лацінскімі літарамі.

Адшуканыя рэшткі двух караценькіх завостраных алоўкаў, 3 шлюбныя пярсьцёнкі з жоўтага мэталу. Адзін зь іх, магчыма, жаночы (малых памераў, знойдзены ў паўночна-заходнім куце, дзе часьцей сустракаліся рэшткі жаночага абутку). На адным такім пярсьцёнку кляймо "7?? M" і гравіроўка "R. O. 1935" (дата ўзяцьця шлюбу?).

Паводле папярэдняга заключэньня мэдыкаў, у межах пахаваньня знойдзеныя рэшткі сьцегнавых касьцей ад 107 чалавечых асобін. Акрамя таго, знойдзена 87 чарапоў (несупадзеньне гэтых лічбаў — сьведчаньне праведзенай раней эксгумацыі, фота 14). На цэлых чарапох відаць скразныя кулявыя адтуліны (збоку й на патыліцы, фота 11—13). Вызначана некалькі жаночых чарапоў. Пераўнальна вялікая колькасьць чарапоў знойдзена з мэталёвымі каронкамі (жоўты й белы мэтал). Пападаліся зубныя пратэзы. Прасочваецца паслойнае заляганне рэшткаў людзей, дзе ад верхняга ўзроўню зачысткі да 1,80 м сабраныя косьці ад 37—39 асобін, на глыбіні 1,80 — 2,00 м — ад 50 — 52 асобін і ў межах ніжняга пласта 2,00 — 2,30 м — ад 16 чалавек (падлікі па сьцегнавых касьцях). У прыдоннай частцы магілы назіраецца моцная спрасаванасьць рэшткаў.

Маючы на ўвазе вышэйпрыведзеныя назіраньні, а таксама ўлічваючы дадзеныя магіл № 2,3,6,8*, можна меркаваць, што на пласт у 0,20 м прыходзілася прыблізна каля 30 пахаваных. Адсюль вынікае, што ў межах магілы № 5 было пахавана каля 250—260 чалавек.

## IV. Высновы

На падставе праведзеных раскопак пахаваньня № 5 можна зрабіць наступныя высновы:

— пахаваныя расстраляны ў галаву;

— сярод пахаваных былі жанчыны;

— згодна з назіраньнямі за стратыграфіяй раскопу, характарам, формай і заляганьнем верхняга зачышчанага пласта пахаваных, несупадзеньнем колькасьці сьцегнавых касьцей і чарапоў, у межах магілы рабілася раней эксгумацыя; эксгумацыя была праведзена неахайна і не да канца;

— пахаваныя, безумоўна, — выхадцы з заходніх раёнаў СССР. Магчыма, гэта прадстаўнікі інтэлігенцыі з Заходняй Беларусі ці Прыбалтыкі. Пра гэта сьведчыць наступнае: замежныя клеймы на абутку ды іншых рэчах (у тым ліку польскія),

---

** У магіле № 1 шмат аб'ёму займала скуранае адзеньне. Пахаваньне № 1 вызначана як "зімовае".*

вялікая колькасьць акуляраў (у тым ліку пэнснэ, манокль, акуляры зь цёмнымі шкельцамі), алоўкі, каталіцкія мэдальёны з выявай Маці Боскай, высакаякасны фабрычны абутак, параўнаўча вялікая колькасьць мэталёвых каронак, зубныя пратэзы, скуранае адзеньне, адзеньне са штучных тканін, вялікая колькасьць туалетных прыналежнасьцяў, муштукоў і г. д.;

— расстрэл праводзіўся не раней за 1935 г. (дата на пярсьцёнку). Але, улічваючы тое, што знойдзеныя рэчы маглі належаць выхадцам з Заходняй Беларусі ці Прыбалтыкі, дык больш верагодная дата пахаваньня — 1939—1940 гг., гэта значыць час пасьля вяртаньня Заходняй Беларусі і далучэньня прыбалтыйскіх краін да СССР;

— людзям давалася магчымасьць сабрацца ў дарогу. Частка рэчаў бралася з сабою ў разьліку на працяглы час жыцьця па-за домам (прыналежнасьці туалету, у тым ліку мыльніцы, зубныя шчоткі, грабеньчыкі, зубны парашок, брытва, складзеныя шкарпэткі й пальчаткі, кубкі ды інш.);

— у магіле № 5 магло быць пахавана ў сярэднім 250—260 чалавек.

Пасьля дасьледаваньня рэшткі пахаваных, не забраныя для экспэртызы, закладзены ў кантрольную траншэю на дне магілы і засыпаны.

Раскопкі пахаваньня № 5 праведзены археолягамі М. Крывальцэвічам і З. Пазьняком.

## РАСКОП (ПАХАВАНЬНЕ) № 6

### I

Месца пахаваньня вызначана на мясцовасьці па западзіне глыбінёй да 0,2 м, паверхня якой пакрыта ігліцаю, сухім лісьцем, рэдкай травою. Бліжэйшыя дрэвы разьмешчаны за 1—3 м ад западзіны. Пахаваньне зарыентаванае на ўсход—паўднёвы ўсход.

## II

Для вызначэньня парамэтраў пахаваньня закладзеныя 2 траншэі (шурфы; уздоўж і ўпоперак) — 1 х 3 м і 1 х 3,90 м. Стратыграфія верхняй часткі шурфоў:

1. Тонкі пласт апалай ігліцы і лістоў (да 0,05 м).
2. Жоўты буйназярністы пясок з галькаю — пласт, які ўтварыўся ў выніку выкідаў мацерыковага пяску (выбарка катлавану магільнай ямы) — 0,10 — 0,15 м.
3. Падзол шэрага колеру (верхняя мяжа дзённай паверхні да пачатковага капаньня магілы) — 0,10 — 0,15 м. Падзол прасочваецца па краёх шурфоў на працягласьці 0,2 — 0,4 м, пад ім — мацерыковы цьвёрды шчыльны галечны пясок.

Запаўненьне ямы — аднастайны рыхлы жоўты галечны пясок. Розьніца ў шчыльнасьці паміж гэтымі грунтамі вельмі адчувальная. Такім чынам, межы разарванага пласта шэрага падзолу акрэсьліваюць катлаван магільнай ямы. Яе контуры вызначаны ў выніку аналізу стратыграфіі верхніх пластоў траншэяў, а таксама па адрозьненьні ў шчыльнасьці грунту запаўненьня й грунту бакавых сьценак пахаваньня. Памеры магілы ў верхняй частцы 3,50 х 2,30 м.

На глыбіні 1,40 — 1,60 м ад дзённай паверхні па краёх пахавальнай ямы ў траншэях зьявіліся рэшткі пахаваных — косьці, фрагмэнты адзеньня й абутку. Па выяўленых контурах магілы быў закладзены раскоп 2,30 х 3,50 м, пласт выбраны да ўзроўню рэшткаў пахаваных. Праведзена зачыстка. Узровень пласта пахаваных па краёх ямы вышэйшы на 0,15 — 0,20 м за цэнтральную частку (мал. 16—18).

Пры зачыстцы пласта пахаваных выяўлена 7 чарапоў, некалькі параў абутку (боты, галёшы), косьці, фрагмэнты тканіны й скуранога адзеньня. У сківіцах некаторых чарапоў былі каронкі з жоўтага мэталу.

Сярод рэчавых знаходак на паверхні пласта пахаваных былі тры зубныя шчоткі, грабеньчык, кубак (глыбіня 1,59 — 1,64 м). У заходнім куце раскопу пры зачыстцы знойдзена 6 гільзаў, 2 зь іх добра захаваліся, выкарыстоўваліся ў рэвальвэры сыстэмы “Наган”. Астатнія гільзы моцна каразаваныя.

Пасьля зачысткі пачалася выбарка пласта пахаваных да мацерыка. Магутнасьць пласта па краёх ямы да 0,4 м, у нутраной частцы — 0,2 м. Пасьля выбаркі праведзена зачыстка мацерыка. Яго глыбіня — 1,85 — 2,00 м ад дзённай паверхні (замеры рабіліся з розных канцоў раскопу). Мацярык уяўляе сабою цьвёрды, шчыльны, зьляжалы галечны пясок з уключэньнямі вельмі шчыльнага суглінку шэрага колеру. У ніжняй частцы пахавальная яма звужалася. Памеры дна 1,90 х 3,10 м.

Пасьля зачысткі мацерыка ўпоперак ямы закладзена кантрольная траншэя (шырыня 0,8 м, глыбіня 0,4 м). У ёй пасьля агляду, рэгістрацыі й адбору для экспэртызы найбольш характэрнага матэрыялу былі закапаныя косьці, рэшткі адзеньня й абутку пахаваных.

## III

Пры выбарцы пласта пахаваных выяўлена вялікая колькасьць касьцявых рэшткаў, скуранога й тканіннага адзеньня, абутку (боты, чаравікі, галёшы). Колькасны ўлік праведзены толькі па асобных катэгорыях знаходак (чарапы, буйныя косьці, індывідуальныя знаходкі, кулі, гільзы і г. д.).

Усяго ў магіле знойдзена 35 чарапоў, большая частка якіх захавалася дрэнна і прадстаўлена фрагмэнтамі. Ва ўсіх цэлых чарапох і некаторых пашкоджаных былі кулявыя адтуліны ў цемі, патыліцы і ў скроневай частцы. У 2 чарапох — па 2 кулявыя адтуліны.

Падлічана колькасьць сьцегнавых костак. Усяго было 36 параў, г. зн. колькасьць, вызначаная па сьцегнавых костках, перавышае колькасьць, вызначаную па чарапох, на 1. Трэба адзначыць, што многія чарапы ў пахаваньні прадстаўлены толькі невялікімі фрагмэнтамі, у той час як захаванасьць сьцегнавых костак добрая. Адсюль несупадзеньне колькасьці чарапоў і параў сьцегнавых костак папраўдзе больш значнае. Усё гэта сьведчыць, што пахаваньне было эксгумавана яшчэ да нашых раскопак.

Сярод абутку фіксаваліся пераважна экзэмпляры з чытэльнаю маркіроўкай. Такіх знаходак больш за 10. Сярод іх галёшы з надпісамі на падэшве: “RYGAWAR”, “GENTLMAN” “Made in Poland”, “PEFE...”.

Знойдзена 8 гільзаў у раскопе, 2 у адвалах грунту. Добра захаваліся 5 гільзаў (4 ад рэвальвэра "Наган", 1 ад пісталета "ТТ").

У раскопе адшуканыя таксама: 4 зубныя шчоткі, 4 грабеньчыкі, 3 кубкі, 1 акуляры, 2 муштукі, 1 кашалёк, 1 мыльніца. На зубных шчотках надпісы: "ВИТЩЕ ...ОМБИНА...", "MARQUE PEPOSEE BO-BO", "FKC", "NON-PLUS-ULTRA"; на грабеньчыках: "DURABIT", "DURABIT — GARANTIE", "KING HALIFAX—GARANTIE"; на кубках: "WARSZAWA WU...", "BING 17".

## IV. Высновы

На падставе раскопак можна зрабіць наступныя папярэднія высновы:

— пахаваныя памерлі ў выніку стрэлаў у галаву з рэвальвэра сыстэмы "Наган" і пісталета "ТТ";
— да правядзеньня археалягічных раскопак пахаваньне было часткова эксгумавана;
— на падставе знаходак можна зрабіць выснову, што сярод пахаваных былі выхадцы з раёнаў Прыбалтыкі і з Заходняй Беларусі. Значыць, пахаваньне зьявілася не раней верасьня 1939 — 1940 гг.;
— з 35 чарапоў было выбрана 10 адносна цэлых, добрай захаванасьці. Сярод іх мэдыкам-экспэртам было вызначана 8 жаночых. Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць заключэньне, што ў магіле № 6 было пахавана шмат жанчын;
— той факт, што рэшткі людзей выяўлены на глыбіні 2,00 м у надзвычай цьвёрдым грунце, і тое, што пры зачыстцы пласта пахаваных не было вялікіх перападаў глыбіняў у цэнтры і па краёх, сьведчыць, што пахаваньне раней эксгумавалася ў памерах пачатковай магільнай ямы. Супадзеньню межаў магілы і першай эксгумацыі спрыяла вялікая розьніца па шчыльнасьці паміж пяском запаўненьня й мацерыковым грунтам у сьценках пахаваньня. Контуры яе лёгка вызначаліся ў працэсе раскопкі;
— у межах выбранага пласта пахаваных (магутнасьць 0,2 м) зафіксаваныя рэшткі ад 36 асобін. Калі ўлічыць, што забітых засыпалі зьверху пяском магутнасьцю да 40—45 см, то на

астатняй глыбіні магло зьмясьціцца 7 пластоў па 0,2 м. Такім чынам, у межах 7 пластоў, верагодна, ляжала каля 250 забітых.

Распрацоўку й дасьледаваньне раскопу (пахаваньня) № 6 зрабілі археолягі А. Іоў і З. Пазьняк.

# РАСКОП (ПАХАВАНЬНЕ) № 8

## I

Пахаваньне вызначана па западзіне, характэрнай для ўсіх магіл у Курапатах. Западзіна № 8 глыбінёй 0,52 м. Паверхня правалу пакрытая хваёвым і яловым шыльнікам, парослая рэдкімі сьцяблямі малін. У западзіне валялася некалькі ржавых кансэрвавых бляшанак, абрыўкі поліэтылену, іншае сьмецьце. Вакол растуць дрэвы — хвоі і елкі. Пахаваньне зарыентавана доўгім бокам па лініі поўдзень — поўнач зь невялікім зьмяшчэньнем ад восі на ўсход — захад.

## II

Раскопкі магілы пачаліся з распрацоўкі перакрыжаваных траншэяў упоперак і ўздоўж пахаваньня. Памеры траншэяў: 1 м х 4,30 м і 1 м х 3,60 м. Адразу пасьля зьняцьця верхняй праслойкі з шыльнікам пайшоў жоўты пясок. Траншэі былі пракапаныя на глыбіню 1,00 — 1,10 м. На гэтым узроўні ў пласьце пяску выяўлены дробныя рэшткі арганічнага рэчыва. На глыбіні 1,12 м паказаліся падэшвы ботаў. Ва ўсходнім канцы папярочнай траншэі на профілях выразна відаць стратыграфія пластоў і вэртыкальны контур (мяжа) магільнай ямы (мал. 20). Спачатку ад паверхні да глыбіні 0,10 м ідзе пласт насыпнога пяску, які быў выкінуты наверх пры капаньні магілы. Потым ідзе 10-сантымэтровы пласт шэрага ляснога падзолу — гэта дзённая паверхня зямлі да ўзьнікненьня пахаваньня. Пад ім з глыбіні 0,20 м пачынаецца жоўты мацерыковы пясок. Контур магілы — шэрая выразная лінія — пачынаецца ад верхняй мяжы падзолу і апускаецца ўніз. На іншых профілях лінія перакопу вельмі невыразная, амаль нябачная. Розьніца грунтоў на-

зіраецца толькі пры надзвычай уважлівым разглядзе. Таму, каб пазьбегнуць верагодных памылак, вырашана было распрацаваць раскоп, большы памерам за пахаваньне, асабліва ў паўднёвым кірунку, дзе розьніца ў грунтох ледзь праглядалася па пахілай лініі. Відаць, тут контур пахаваньня быў зьнішчаны ў час даўняй эксгумацыі магілы вельмі неахайным капаньнем бяз рэзкай мяжы ямы. Тады пры засыпцы тым самым грунтам рэзкі контур (асабліва пры блізкай шчыльнасьці грунтоў) не ўзьнікае, хоць і выяўляецца розьніца ў профілі паміж засыпкай і некранутым пяском. Падоўжны разрэз раскопу (мал. 21) ілюструе гэтае меркаваньне. Несупадзеньне ямы папярэдняй эксгумацыі і катлавану магілы адбылося ў гэтым месцы толькі на глыбіні каля 1,70 м, калі раскопка магілы завяршалася і яму пачалі звужаць, пакінуўшы па краёх рэшткі пахаваных. На процілеглым паўночным канцы звужэньне ямы папярэдняй эксгумацыі пачалося з глыбіні 1,20 м.

Аналягічная, яшчэ выразьнейшая сітуацыя відаць у папярочным разрэзе раскопу (мал. 20). Звужэньне ямы эксгумацыі пачалося тут з узроўню 1,00 м ад цяперашняй дзённай паверхні. Тымчасам карціна ў заходнім баку раскопу такая самая, як і ў паўднёвым: звужэньне другой ямы пачалося амаль на той жа глыбіні, бліжэй да дна.

Раскоп быў распрацаваны рыдлёўкамі ў межах 4,30 х 3,20 м (верхні ўзровень). Памеры ніжняга ўзроўню 4,00 м х 2,80 м. Пачынаючы з глыбіні 0,90 м у пяску пачалі трапляцца страляныя гільзы ад савецкага нагана. Па ўсёй глыбіні паўночна-заходняй паловы пахаваньня амаль да самага мацерыка знойдзена больш за 50 гільзаў, прычым чатыры зь іх знойдзены сярод рэштак пласта пахаваных на глыбіні каля 2,20 м.

Рэшткі пласта пахаваных (абутак, сатлелае адзеньне, косьці, чарапы) выяўлены па краёх магілы на глыбіні 1,12 м (фрагмэнты спарахнелага арганічнага рэчыва — з адзнакі 1,00 м). У цэнтры пахаваньня — пласт нябожчыкаў на ўзроўні 2,10 м. Такім чынам, розьніца ўзроўняў у цэнтры і па краёх (глыбіня выбаркі касьцей пры ранейшай эксгумацыі) складае ў сярэднім 1 м.

Пасьля выбаркі грунту запаўненьня, які быў уважліва перабраны рукамі, пачалася зачыстка рэштак пласта пахаваньня шуфлікамі й шчоткамі. Павялічаныя памеры раскопу № 8 далі

магчымасьць больш наглядна назіраць разьмяшчэньне рэшткаў пласта пахаваных у магіле, яе арыентацыю, контуры пахаваньня, паніжэньне ў цэнтры, узвышэньні па краёх (мал. 19). Пасьля абмераў і фіксацыі рэшткі пласта пахаваных былі разабраны. Таўшчыня пласта нябожчыкаў у цэнтры складала ў сярэднім 0,20 м — 0,25 м. Пасьля зачысткі дна быў аголены мацерыковы грунт — жоўты з чырвонымі пражылкамі пясок у паўночнай частцы; у паўднёвым баку пахаваньня — праслойка сіняватага пяску з галькай.

Пасьля заканчэньня дасьледаваньняў упоперак дна магільнай ямы была выкапана траншэя шырынёй 0,6 м і глыбінёй 0,7 м. У яе былі складзены і засыпаны косьці, чарапы, абутак — рэшткі, не забраныя на экспэртызу.

## III

Пры зачыстцы рэшткаў пласта пахаваных у розных частках магілы былі выяўленыя рэчы індывідуальнага карыстаньня, фрагмэнты адзеньня, абутак. Прадметы пасьля зачысткі пакінутыя на месцах, зафіксаваныя й нанесеныя на плян (мал. 19). Толькі разьмяшчэньне наганных гільзаў дадзена ў праекцыі (г. зн. спраектавана на плян з усяго запаўненьня магільнай ямы). На паверхні пласта пахаваных знойдзеныя два эмаляваныя кубачкі (ёмістасьцю прыблізна 0,4 і 0,2 літра). На донцах кубкаў эмблема — чайнік. На адным — маркіроўка “9 с/м”, на другім надпіс “Warszawa”. У паўночным канцы пахаваньня выяўлена мэталёвая эмаляваная місачка, звонку пакрытая яркай сіняй эмаллю. На донцы такая ж эмблема — чайнік і надпіс: “20 см” (фота 16—17).

У пласьце знойдзена больш за два дзясяткі гузікаў ад мужчынскага й жаночага адзеньня, вопраткі, кашуляў, бялізны. Выяўлены два мужчынскія грабеньчыкі і адзін скураны футарал ад грабеньчыка. Пры разборцы пласта пахаваных знойдзены чатыры кашалькі, у некаторых ёсьць манэты (кашалькі на месцы не адкрывалі, каб не пашкодзіць; яны перададзены экспэртам-крыміналістам).

Выяўлена некалькі фрагмэнтаў скуранога верхняга адзеньня. У паўночна-ўсходнім куце пахаваньня знойдзена скураная куртка, падобная ці то на паўпаліто, ці то на доўгі

пінжак. Адзежа адносна добра захавалася. Крыміналістамі забраная на экспэртызу бакавая кішэнь ад гэтай вопраткі.

Як і ў астатніх магілах, у пахаваньні № 8 знойдзена шмат скуранога й гумовага абутку (боты, чаравікі, туфлі, галёшы). Ёсьць некалькі экзэмпляраў жаночага абутку (гумовік на туфлі ды інш.). Маркіроўка на галёшах пераважна лацінскімі літарамі: “Rygawar”, “Rekord” і інш.; тут жа надпісы: “Poland”, “Made in Poland”. Побач з гэтымі галёшамі ёсьць экзэмпляры з маркіроўкай фабрыкі “Красный треугольник” і датай “1939”. Побач з ботамі й чаравікамі знойдзены экзэмпляр скуранога лапця (так званыя “пасталы”, пашыраныя да вайны сярод бяднейшых сялян у Заходняй Беларусі).

Косьці ў рэштках гэтага пахаваньня перамяшаныя, пласт нябожчыкаў шчыльны (фота 15). Чарапы разьмешчаныя, як і ў іншых раскопах, пераважна па краёх пласта магільнай ямы і на больш высокім узроўні. Такая сытуацыя з разьмяшчэньнем чарапоў склалася ў выніку неахайнай выбаркі касьцей пры першай эксгумацыі. У сківіцах некаторых чарапоў выяўленыя каронкі з жоўтага мэталу і адзін зубны пратэз. Пасьля падлікаў у рэштках пахавальнага пласта выяўленыя 52 нябожчыкі па сьцегнавых касьцях і 50 чарапоў (фота 23). Несупадзеньне касьцей — вынік даўняй эксгумацыі. Аналіз цэлых, найлепш захаваных чарапоў дазволіў мэдыкам зрабіць папярэдняе заключэньне аб прыналежнасьці 7 зь іх да жаночага полу (фота 24). Большасьць чарапоў захавалася кепска, некаторыя здэфармаваныя пад ціскам пласта. У чарапох скразныя адтуліны ад куляў пераважна ў патылічнай частцы.

## IV. Высновы

Археалягічны аналіз раскопак пахаваньня № 8, стратыграфіі, пласта пахаваных, характару, разьмяшчэньня і намэнклятуры знаходак дазваляе зрабіць наступныя высновы:
— пахаваныя памерлі гвалтоўнай сьмерцю ад стрэлаў у галаву;
— наяўнасьць, як і ў іншых раскапаных магілах, вялікай колькасьці наганных гільзаў, супадзеньне дыямэтру гільзаў з адтулінамі на чарапох дазваляе меркаваць, што пахаваныя былі застрэлены з савецкага рэвальвэра сістэмы “Наган”;
— пахаваньне ўзьнікла не раней за 1939 год (дата на галёшы);

— мяркуючы па рэштках адзеньня, па абутку й прадметах індывідуальнага карыстаньня, пахаваныя — выхадцы зь вернутых абшараў Заходняй Беларусі;
— сацыяльны ўзровень большасьці пахаваных быў невысокі (адсутнасьць сярод знаходак прадметаў туалету, сьціплы посуд, адсутнасьць акуляраў, даволі просты абутак, сярод якога пасталы й галёшы);
— сярод забітых былі жанчыны;
— пахаваньне раней раскопвалася, косьці нябожчыкаў выбраныя да глыбіні 2,10 м у цэнтры магілы;
— эксгумацыя была праведзена неахайна. Тыя, хто непасрэдна рабіў даўнюю эксгумацыю (раскопкі й выбарку касьцей), ня быў асабіста зацікаўлены ў рабоце.

Археалягічнае дасьледаваньне пахаваньня № 8 праведзена археолягам З. Пазьняком.

## ПОШУКІ НЕЭКСГУМАВАНЫХ ПАХАВАНЬНЯЎ

Пошукі некранутых магілаў зыходзілі з адвольнага дапушчэньня пра іх існаваньне. Была сумнеўная верагоднасьць, што пры ранейшай эксгумацыі некаторыя пахаваньні маглі застацца некранутыя. Расшуканьне такіх верагодных магілаў — занятак практычна беспэрспэктыўны, паколькі няма аніякіх прыкметаў, якія б пазначалі іх на паверхні. Тым ня менш была дасьледавана лагчына ў паўночна-ўсходняй зоне Курапатаў, разьмешчаная за 33 м ад дарогі Калодзішчы — Заслаўе. Пошукі ў гэтым месцы грунтаваліся на зьвестках жыхара вёскі Цна-Ёдкава Карповіча М. В. (69 гадоў), які паведаміў, што ў 1937 г. бачыў на гэтай тэрыторыі агульнае пахаваньне расстраляных (яшчэ не засыпаную, напоўненую трупамі магілу). Дакладнага знаходжаньня магілы М. В. Карповіч ня памятае.

Мясьціна, паказаная М. В. Карповічам, была перакапаная (фота 26) уручную перакрыжаванымі траншэямі 1 х 20 м і 1 х 15 м (мал. 1) на глыбіню ад 0,30 да 1,50 м. Характар грунту й стратыграфія верхняга пласта (суцэльны лясны чарназём, характэрны для паніжанай мясьціны), адсутнасьць нават

мінімальных сьлядоў перакопаў — усё сьведчыць, што пахаваньне тут не рабілася. Тым ня менш ва ўсіх чатырох сэктарах перакрыжаванай траншэямі зоны (мал. 1) былі зробленыя дадатковыя пракопкі на глыбіню ад 1,80 м да 2,00 м і даўжынёй 3 — 4 м. На поўнач ад лясной сьцяжынкі, што агінае лагчыну з паўночнага боку, былі пракапаныя ручным спосабам яшчэ дзьве траншэі 1 х 4 м, глыбінёй ад 0,7 да 1,5 м. Аднак пахаваньня выявіць не ўдалося.

Верагодна, М. В. Карповіч праз 51 год пасьля падзеяў не зарыентаваўся ў новай сытуацыі на мясцовасьці. (На гэтым месцы ўжо вырас новы лес, падвышана і расшырана былая гравійная дарога Калодзішчы—Заслаўе ды інш.).

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Падсумоўка зьвестак, здабытых у час археалягічнага дасьледаваньня й эксгумацыі пахаваньняў ва ўрочышчы Курапаты, дазваляе высьветліць агульныя факты й заканамернасьці:

— пахаваньні ўзьніклі ў другой палавіне 1930-х гадоў. Канкрэтна — не раней за 1937 г. (магілы №№ 1 — 3), не раней за 1939 г. (магіла № 8). Мяркуючы па знаходках, не раней за 1939 г. зьявіліся таксама пахаваньні №№ 5—6;

— удалося прасачыць дынаміку й храналёгію зьяўленьня пахаваньняў. Тэрыторыя расстрэлаў запаўнялася магіламі з усходу на захад. Магіла № 3, якая ўзьнікла не раней за 1937 г., зьяўляецца крайнім пахаваньнем з усходняга боку Курапатаў. За 90 м ад яе на захад разьмешчаныя магілы №№ 1 — 2, а таксама пахаваньне, раскапанае археолягамі (З. Пазьняк) 5 траўня 1988 г. Усе гэтыя пахаваньні датуюцца тым самым часам, што і пахаваньне № 3, вылучаюцца той жа намэнклятурай і характарам знаходак (усе савецкай вытворчасьці; даты на галёшах “1937”, “1938” — раскоп 5 траўня. Далей, за 75 м на паўночны захад, дасьледавана пахаваньне № 8 з рэчамі савецкай і польскай вытворчасьці, якое ўзьнікла не раней за 1939 г. (дата на галёшы), хутчэй за ўсё, пасьля вяртаньня Заходняй Беларусі. Яшчэ далей, прыблізна за 150—170 м на захад ад пахаваньняў №№ 1 — 2,

у час пракопкі газавай траншэі (красавік 1988 г.) выяўленая магіла з датамі на абутку — “1939”. Тут акрамя галёшаў з маркіроўкай савецкіх фабрык выяўленыя два экзэмпляры абутку з надпісамі па-латыску: “Riga” “1939” (гумовы галёш) і “KVADRATS” “Riga” “41” (скураны туфель). На паўднёвы захад ад гэтага месца прыблізна за 50 і 70 м ад газавай траншэі разьмешчаны дасьледаваныя намі пахаваньні №№ 5 — 6, дзе большасьць абутку з маркіроўкай, як у магіле № 8.

Такім чынам, ва ўсходняй частцы тэрыторыі расстрэлаў разьмешчаны пахаваньні, што ўзьніклі не раней за 1937 г., у заходняй і паўднёва-заходняй частках — тыя, што зьявіліся не раней за 1939 г,;

— людзі ва ўсіх пахаваньнях былі забітыя стрэламі ў галаву (у асноўным у патыліцу) з савецкага рэвальвэра сыстэмы “Наган”;
— усе пахаваныя належалі да цывільнага насельніцтва;
— характар і намэнклятура знойдзеных рэчаў сьведчыць, што пахаваныя зьбіраліся ў далёкую дарогу і родны дом яны пакінулі незадоўга да сьмерці. Гэта наводзіць на думку, што людзі былі расстраляныя без суда, яны не адбывалі працяглага зьняволеньня;
— пахаваныя ў розных магілах характарызуюцца розным бытавым узроўнем, паходзяць з розных мясьцін Беларусі (магчыма, ёсьць выхадцы з краін Прыбалтыкі);
— мяркуючы па абутку, рэштках адзеньня й прадметах індывідуальнага карыстаньня, большасьць пахаваных (акрамя магілы № 5) належалі да ніжэйшых дэмакратычных пластоў насельніцтва (рабочыя, сяляне, дробныя службоўцы, вясковая інтэлігенцыя);
— сярод расстраляных былі жанчыны;
— усе раскапаныя намі магілы, у якіх выяўлены рэшткі нябожчыкаў, раней паддаваліся эксгумацыі й выбарцы пласта пахаваных;
— ва ўсіх дасьледаваных пахаваньнях ранейшая эксгумацыя была праведзена неахайна; косьці выбраныя пераважна ў цэнтры да глыбіні 1,80 м — 2,10 м ад гарызанталі дзённай паверхні. Тымчасам сапраўдная глыбіня магільных ямаў ад 2,00 да 2,75 м. Таўшчыня пахавальнага пласта, пакінутая ў магільных ямах, у цэнтры ад 0,20 да 0,70 м. Можна меркаваць,

што людзі, якія непасрэдна рабілі папярэднюю эксгумацыю (выбарку касьцей), не былі зацікаўленыя ў сваёй працы;

— усе археалягічна дасьледаваныя намі пахаваньні, у якіх выяўлены сьляды папярэдняй эксгумацыі, мелі западзіны глыбінёй ад 0,18 да 0,65 м ад лініі краёў магілы. Тымчасам усе існуючыя на сёньня пахаваньні ў Курапатах (510 магіл) характарызуюцца аналягічнымі западзінамі. Адсюль вынікае, што западзіны на магілах утварыліся пасьля папярэдняй эксгумацыі і недастатковай іх засыпкі малой колькасьцю грунту (паколькі зь ямаў быў выбраны значны аб'ём пахавальнага пласта нябожчыкаў). Такім чынам, усе выяўленыя на сёньня пахаваньні ў Курапатах паддаваліся раней раскопцы й эксгумацыі;

— раскапаныя намі пахаваньні памерам адносяцца да малых і сярэдніх. Колькасьць нябожчыкаў, якая згодна з разьлікамі магла быць пахаваная ў такіх магілах, — ад 150 да 260 забітых у кожным пахаваньні. Калі ўзяць сярэднюю лічбу 200 нябожчыкаў у магіле і зрабіць простае памнажэньне на колькасьць выяўленых сёньня пахаваньняў, дык атрымаем 102000 чалавек. Аднак сапраўдная лічба пахаваных павінна быць у 2 — 2,5 разоў большай і дасягаць, пэўна, 220 — 250 тысяч. Па-першае, існуе шмат магіл, большых памерам за дасьледаваныя намі, а некаторыя пахаваньні ўяўляюць сабой яміны даўжынёй да 10 м па большым баку. У такіх магілах могуць быць пахаваныя тысячы забітых. Акрамя таго, каля сотні (калі ня больш) магільных западзін было засыпана і потым зьнівэлявана бульдозэрам у час пракладкі газатрасы й высечкі лесу вакол яе ў сакавіку — траўні 1988 г. Мноства магіл зьнікла, калі пракладалі кальцавую дарогу ў канцы 1950 — пач. 1960-х гг., і, магчыма, у 1940-х гг. у час высечак, траляваньня й падсадак лесу на гэтым месцы. Рэальная колькасьць пахаваньняў у Курапатах магла сягаць да 900 магіл, а можа і больш, прычым аб памерах зьнішчаных і засыпаных пахаваньняў мы можам меркаваць толькі па велічыні існуючых цяпер магіл.

*4-Д. Адбітак справаздачы аб археалагічных раскопках (эксгумацыі) пахаваньняў ва ўрочышчы Курапаты (Брод). 1988 г. З кнігі: З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Мн.: НВК „Тэхналёгія", 1994. – 180 с.: іл. ISBN 5-85700-149-8*




*6-Д. Крыжовае шэсьце ў Курапаты*



*7-Д. Крыжовае шэсьце дасягнула Курапатаў. Мітынг перад усталяваньнем крыжоў. 2000 год.*



(Фота Ю. Беленькага).

*8-Д. Крыжовая алея зімой.*



*9-Д. Усталяваньне вялікага памятнага крыжа ў Курапатах 29 кастрычніка 1989 г.*




*10-Д. Крыжовае шэсьце на Дзяды ўступае ў Курапаты.*

# Малюнкі і схемы

## да справаздачы

ЛІСТ 1а

УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

- — МЕРТВАЯ ГАЛАВА (ЧЭРАП)
- — АБУТАК
- — ЗУБНАЯ ШЧОТКА
- — ЗУБНАЯ ШЧОТКА У ФУТЛЯРЫ
- — КАШАЛЕК, ПАРТМАНЭ
- — КУЛЯ
- — ГІЛЬЗА
- — АКУЛЯРЫ У ФУТЛЯРЫ
- — АКУЛЯРЫ
- — КУБАК
- — МІСКА
- — РАСЧОСКА МУЖЧЫНСКАЯ
- — ЖАНОЧЫ ГРЭБЕНЬ
- — МЫЛЬНІЦА
- — ЗАПАЛКІ Ў КАРАБКУ
- — БУТЭЛЬКА
- — ВЫРАБ З МЕДЗІ (НАГРУДНЫ ЗНАК)
- — МАНЕТЫ
- — УСТАЎНАЯ СКІВІЦА
- — ФРАГМЕНТ ВЫРАБУ З ЖАЛЕЗА
- — ФУТЛЯР АД РАСЧОСКІ
- — МУНДШТУК
- — ГУЗІК
- — КАВАЛКІ СКУРЫ АД АДЗЕЖЫ (паліто і т.д.)
- ×.210 — ГЛЫБІНЯ АД ДЗЁННАЙ ПАВЕРХНІ Ў СМ
- — ДРЭВА
- — ЛЕС
- — КОНТУР (МЯЖА) МАГІЛЬНАЙ ЯМЫ
- — КОНТУР РАСКОПА
- №3. №5 — ПАХАВАННІ
- — СЦЕЖКА
- — ТРАНШЭІ, ШУРФЫ
- — РОЎ
- — ПЯСОК, ЗАПАЎНЕННЕ ЯМЫ
- — КОСЦІ, ПЛАСТ ПАХАВАННЯ
- — ШЭРАЯ ПРАСЛОЙКА ГРУНТА АРГАНІЧНАГА ПАХОДЖАННЯ (ГУМУСАВАНЫ ПЯСОК)
- — ДЗІРВАН І ЛЯСНЫ ПАДЗОЛ
- — ВУГЛІ, ПОПЕЛ
- — МАЦЕРЫКОВЫ ПЯСОК.


КУРАПАТЫ-88. СІТУАЦЫЙНАЯ СХЕМА ПЛАНА ПАХАВАННЯЎ №№1-3,8, ШУРФА №7 І РАСКОПАК ТРАНШЭЙ.
МАЛ. 1
Заслаўе
(ДАРОГА)
Калодзішчы
33м
4м
1м
20м
27м
8м
лясная сцежка
4м
13м
№7
№8
75м
90 м
№3
5м
№1
24м
№2
24м
60м
роў
№4
55м
просека газатрасы
Умоўныя абазначэнні
№3 — пахаванні
— роў
— сцежка
— траншэі, шурфы
— лес

Мал. 2.

Курапаты-88. Сітуацыйная схема плана пахаванняў NN 5-6.

(Археолаг З. Пазняк)



МАЛ.3

Курапаты-88. Раскоп (пяхаванне) №1.
План. М 1:20. (Археолагі М. Крывальцэвіч, А. Іоў).




Умоўныя абазначэнні:

- ◯ – чэрап
- ◇ – абутак (нанесены не ўвесь)
- бутэлька
- кубак
- гільза
- скіўіца ўстаўная
- кашалёк, партманэ.
- ( – фрагмент вырабу з жалеза.
- + – выраб з медзі (нагрудны знак?)
- куля
- расчоска мужч.
- манеты


МАЛ. 4.
КУРАПАТЫ-88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №1.
ПАПЯРЭЧНЫ РАЗРЭЗ. М 1:20.
(Археолагі М. Крывальцэвіч, А. Іоў)
В.
Г.


МАЛ. 5.
КУРАПАТЫ-88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №1. РАЗРЭЗ ПА ДАЎЖЫНІ. М 1:20. (Археолагі М. Крывальцэвіч, А. Іоў).
А
В
УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ.
– ЦЁМНА-ШЭРЫ ГУМУСАВАНЫ ПЯСОК.
– ПЯСОК ЖОЎТЫ
– КОСЦІ, РЭШТКІ ПАХАВАННЯ
– МАЦЯРЫК
– ЛЯСНЫ ПАДЗОЛ (ГРУНТ ШЭРАГА КОЛЕРУ)



КУРАПАТЫ-88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №2
ПЛАН. М 1:20. (Археолагі М. Крывальцэвіч, А. Іоў).
МАЛ. 6.
А
Б
В
Г
ПЛАСТ ПАД ДРЭВАМ ВЫБРАНЫ Ў ЧАС РАСПРАЦОЎКІ
– ЧЭРАП
– КУЛЯ
– АБУТАК (нанесены не ўвесь)
– ЗУБНАЯ ШЧОТКА
– КАШАЛЁК, ПАРТМАНЭ
– АКУЛЯРЫ Ў ФУТЛЯРЫ
– КУБАК
– ДРЭВА
– КОНТУР ПАХАВАННЯ


МАЛ. 7.
КУРАПАТЫ–88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №2.
ПАПЯРЭЧНЫ РАЗРЭЗ. М 1:20.
(Археолагі М. Крывальцэвіч, А. Іоў)
В
Г


МАЛ. 8.
КУРАПАТЫ-88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №2.
РАЗРЭЗ ПА ДАЎЖЫНІ. М 1:20.
(Археолагі М. Крывальцэвіч, А. Іоў).
Б
А

МАЛ.10

КУРАПАТЫ-88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №3.
РАЗРЭЗ ПА ШЫРЫНІ. М 1:20
(Археолаг З. Пазняк).




УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

- ◆ – АБУТАК, ЗНОЙДЗЕНЫ Ў ЗАПАЎНЕННІ ЯМЫ
- ◇ – АБУТАК У ПРАЕКЦЫІ РАЗРЭЗУ
- – ПЯСОК, ЗАПАЎНЕННЕ ЯМЫ
- – КОСЦІ, ПЛАСТ ПАХАВАННЯ
- – ШЭРАЯ ПРАСЛОЙКА АРГАНІЧНАГА ПАХОДЖ.
- – ДЗІРВАН
- – ВУГЛІ, ПОПЕЛ
- //=V= – МАЦЯРЫК


Курапаты-88 Раскоп (пахаванне) N3.
Разрэз па даўжыні. М 1:20. (Археолаг З. Пазняк)
Д
Е
0
0

мал. 11


Шурф N4. (Профіль А–В). М 1:20
(Археолаг М. Крывальцэвіч).
А
В


Шурф N4. План. М 1:40
А
В
Б
Г

мал. 12.


МАЛ. 13.
Курапаты-88. Раскоп (пахаванне) №5.
План м 1:20. Схема асноўнай сітуацыі
і фіксацыі знаходак. (Археолаг М. Крывальцэвіч).
А
Д
Е
В
0,15
(абутак не ўвесь)

МАЛ.14

КУРАПАТЫ-88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №5. ПАПЯРЭЧНЫ РАЗРЭЗ. (Д–Є). М 1:20 (Археалагі М. Крывальцэвіч, З. Пазняк).




МАЛ.15

КУРАПАТЫ-88 РАСКОП(ПАХАВАННЕ)№5 РАЗРЭЗ ПА ДАЎЖЫНІ (А–В). М 1:20 (Археалагі М. Крывальцэвіч, З. Пазняк)



**Курапаты-88**

Раскоп (пахаванне) №6
План. М1:20
(Археолаг А. Joў)

Мал. 16




**Умоўныя абазначэнні:**

- чэрап
- гільза
- расчоска
- кубак
- кашалёк, партманэ
- зубная шчотка
- акуляры
- мыльніца
- мундштук
- абутак (не ўвесь)
- межы магільнае ямы

Мал. 18

Курапаты-88. Раскоп (пахаванне) №6.
Разрэз упоперак (ВГ) М1:20
(Археолаг А. Іоў)




Мал. 17

Курапаты-88. Раскоп (пахаванне) №6.
Разрэз уздоўж (АБ) М1:20
(Археолаг А. Іоў)



КУРАПАТЫ-88. РАСКОП (ПАХАВАННЕ) №8
ПЛАН. М1:20
(АРХЕОЛАГ З. ПАЗНЯК)

МАЛ.19




УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ:

x210 – ГЛЫБІНЯ АД ДЗЁННАЙ ПАВЕРХНІ Ў СМ
① – ДНО РАСКОПА
② – ПЛАСТ ПАХАВАННЯ І НІЗ МАГІЛЫ
– КОНТУР РАСКОПА







*11-Д. Малюнкі і схемы да справаздачы аб археалагічных раскопках (эксгумацыі) у Курапатах. Адбітак з кнігі: З. Пазьняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў. Курапаты, – Мн.: НВК „Тэхналёгія”, 1994. – 180 с.: іл. ISBN 5-85700-149-8*

# ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ ТАМУ, 3-ГА ЧЭРВЕНЯ 1988 ГОДА, БЕЛАРУСЬ ПРАЧНУЛАСЯ ІНШАЙ

***Яна пакуль яшчэ абудзілася пад гімн СССР і БССР па «радыёкропцы», як і дзесяцігоддзі, кіравалася з Масквы рашэньнямі ЦК КПСС і яго Палітбюро, што педантычна выконваліся ў ЦК КПБ, і зьнешне і ў Менску, і ў іншых гарадах, і ў вёсках ўсё заставалася па-ранейшаму, але з гэтага дня Беларусі было наканавана зьмяніцца.***

У той дзень штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», які рэдагаваў Анатоль Вярцінскі, надрукаваў артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты – дарога сьмерці». (Пісаў артыкул ад першага да апошняга слова Пазьняк, але ён палічыў тактоўным узяць у сааўтары калегу, зь якім праводзіў дасьледаваньне.) З дзвюх назваў гэтай мясцовасьці – агульнапрынятай «Брод» і малавядомай лакальнай «Курапаты»– Пазьняк выбраў апошнюю, палічыўшы, што яна дае больш поўнае адлюстраваньне зьявы. Тое, як удалося надрукаваць артыкул, – асобная тэма, якая, бясспрэчна, павінна быць зафіксавана для гісторыі. Але сёньня – пра вынік.

У тыя часы гарбачоўскай «перабудовы» пра рэпрэсіі ў афіцыйнай прэсе пісалася шмат. Чаму ж менавіта адкрыцьцё Курапатаў мела такі моцны эмацыйны і пазьней – палітычны эфэкт?

Тагачаснае камуністычнае кіраўніцтва БССР калі і не адмаўляла наяўнасьць рэпрэсій, дык сцьвярджала, што гэта – «скажэньне ленінскай палітыкі». Абвергнуць факт расстрэлаў і катаваньняў ім было немагчыма, але лёгка стваралася ўражаньне, што ўсё гэта было не на беларускай зямлі, а недзе далёка – у Магадане, Сібіры, Казахстане ці на маскоўскай Лубянцы. Газэты пісалі пра трагічныя лёсы Бухарына, Рыкава, Каменева – прадстаўнікоў партыйнай эліты (ня менш вінаватых у прыходзе да ўлады бальшавікоў на чале з Леніным, чым сам Сталін).

Пазьняк сказаў упершыню, што забівалі вось тут, побач, дзе ты ці твой знаёмы ў мінулую суботу з кампаніяй смажылі шашлыкі. Пазьняк цытаваў расповяды жыхароў навакольных вёсак, і нешта жахлівае было ў тым спалучэньні будзённасьці і трагедыі, якая ажывала ў словах сьведкаў. Пазьняк даказаў, што зьнішчалі ня толькі вышэйшую намэнклятуру, ня толькі інтэлектуальную эліту (хаця, канешне, вынішчаць імкнуліся найперш эліту, ды і нацыянальна арыентаванае кіраўніцтва таксама), – забівалі тысячы простых сялян, тысячы звычайных рабочых.

Пазьняк даў прыблізную лічбу забітых у Курапатах – ня менш за 102 тысячы чалавек (у кожным пахаваньні ў сярэднім 200 нябожчыкаў). Але рэальная лічба, пісаў ён, большая, бо колькасць пахаваньняў магла дасягнуць 900 – значыць, колькасьць забітых сягае за 200 тысяч. Гэта больш, чым колькасьць жыхароў у сёньняшнім Полацку і Наваполацку разам узятых. (Прыкметна, што нават энцыкляпэдычны слоўнік «Беларусь», выдадзены ўжо пры Лукашэнку, падае лічбу 50 тысяч чалавек.)

Больш як 200 тысяч чалавек – гэта ўсё ж не «асобныя прадстаўнікі» народа і нават не «шырокае кола прадстаўнікоў». Гэта ўжо – сам народ.

І, нарэшце, ён сказаў, што зьнішчалі – менавіта беларускі народ. У апошніх радках артыкула прагучала слова «генацыд». Ужо пазьней дасьледчыкамі было даказана, што сярод тых, хто расстрэльваў, адзінкі паходзілі зь Беларусі – у канцы 30-х гадоў НКВД было сфармавана пераважна з выхадцаў з расейскіх вобласьцяў.

Было ўпершыню сказана пра мэтанакіраванае зьнішчэньне нацыі – і нацыя ўспрыняла, адгукнулася яднаньнем, самаарганізацыяй. Мне ўжо даводзілася пісаць, што пэрыяд апошняга нацыянальнага Адраджэньня вызначаны дзьвюма датамі – публікацыяй артыкула пра Курапаты 3-га чэрвеня 1988 года і «рэфэрэндумам» 14 мая 1995 г. аб лёсе (лёсе ў лукашэнкаўскай Беларусі, ка-

нешне, а ня ў вечнасці) Бел-Чырвона-Белага сьцяга, «Пагоні» і Беларускай мовы.

Менавіта артыкул у ЛіМе даў штуршок да стварэньня 19 кастрычніка 1988 года «Мартыралога Беларусі» і Аргкамітэта БНФ. Абапіраючыся на Народны Фронт і яго дэпутацкую групу ў Вярхоўным Савеце, Пазьняк здолеў ня толькі абвясьціць ідэю беларускай Незалежнасьці, але і рэалізаваць яе палітычна. 27 ліпеня 1990 года была прынята Дэклярацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, а 25 жніўня 1991 года ёй быў нададзены статус канстытуцыйнай сілы. Гэта быў рэальны палітычны вынік. Ён быў дасягнуты шмат якімі прагматычнымі, матэматычна вывеpанымі крокамі лідэра БНФ – і падтрымкай тысячаў актывістаў Народнага Фронту, прыхільнікаў дэмакратыі, якія выходзілі на плошчу перад Домам ураду. Але сымвалічна, што пачатак такога рэальнага палітычнага выніку бярэ пачынаньне ў духоўным – у вяртаньні нацыі памяці пра Курапаты, дзе палеглі і тыя, хто абвясьціў 25 сакавіка 1918 г. незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, ды так і не пабачыў ідэю беларускай дзяржаўнасьці рэалізаванай...

Ёсьць яшчэ адзін аспэкт, у той час не заўважаны грамадзтвам, але, пэўна ж, дакладна пралічаны тымі, хто ўспрыняў артыкул як удар па сваіх „ідэалах”. Адкрыцьцё Курапатаў – гэта і знаходкі матэрыяльных доказаў для магчымага судовага працэсу над камунізмам. Выступы і рэзалюцыі XX і XXII партыйных зьездаў з асуджэньнем «культу асобы» могуць быць сьпісаныя на палітычную барацьбу партыйных кланаў ці ўспрынятыя як ускосныя доказы. Прастрэленыя чарапы, косці, кулі ад наганаў – гэта ўжо непасрэдныя доказы. Магчыма, у гэтым і ёсьць адна з галоўных прычын нянавісьці, якую маюць да Пазьняка палітычныя спадкаемцы бальшавікоў.

Уступ да артыкула напісаў Васіль Быкаў, і пазьней, на Дзяды, Васіль Уладзімеравіч заўсёды прыходзіў на шэсьце ў Курапаты, якое ладзіў Беларускі Народны Фронт.

На тыя шэсьці зьбіраліся мы звычайна каля вядомага дома на пачатку галоўнага праспэкта сталіцы і ставілі шыльду: «Адсюль, з будынка НКВД, пачынаўся пакутны шлях у Курапаты. Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору!» Быкаў казаў кароткую прамову, выступалі Рыгор Барадулін, вязень ГУЛАГа Сяргей Грахоўскі, а потым рушылі па праспэкце – да самых Курапатаў.

Шыльда ля былога НКВД назаўтра, канешне, зьнікала. У гэтым доме (пасьля вайны ён разбудаваны ў квартал карпусоў) цяпер захоўваюцца ўсё яшчэ не рассакрэчаныя тысячы, дзясяткі тысяч спраў і забітых, і тых, хто забіваў.

Якія такія дзяржаўныя таямніцы ўтрымліваюць тыя паперы, што і праз семдзесят год яны маюць грыф «сакрэтна»? Якія таямніцы ахоўвае дзяржава? Мэтады вярбоўкі стукачоў, парадак афармленьня палітычных даносаў? Тэхналогію забойства двух чалавек адной куляй (гэтак часта рабілі ў Курапатах)? Спосабы пахаваньня трупаў у некалькі пластоў?

Гэта таму сакрэтна, таму важна, што – спатрэбіцца? І ці трэба разумець, што, калі КГБ перахоўвае таямніцы НКВД, то ён зьяўляецца спадкаемцам (духоўным і палітычным) гэтага самага НКВД?

Нядаўна новапрызначаны кіраўнік «ідэалагічнага ўпраўленьня» на пытаньне, чаму адкрыта «лінія Сталіна», адказаў, што існуюць людзі, для якіх з імем Сталіна зьвязаны іх маладыя, лепшыя гады і перамогі падчас вайны. І што іх пачуцьці трэба паважаць. Уявіце, што ў сучаснай Нямеччыне архівы СС – засакрэчаныя (бо нельга выдаваць прафэсійныя таямніцы спэцслужбаў). Што ёсць вуліцы Гітлера і Гімлера – бо, маўляў, жывуць яшчэ тыя, для каго вобраз фюрэра і яго ных паплечнікаў атаясамліваецца зь іх маладосьцю, з энтузіязмам будаўніцтва першых аўтабанаў, з перамогамі на Заходнім і Усходнім франтах...

Паважаючы пачуцьці прыхільнікаў Сталіна, улада ні словам, ні справай не прыгадвае пра пачуцьці былых вязьняў ГУЛАГа, родных і блізкіх тых, хто расстраляны ў Курапатах. Ужо пры Лукашэнку іх пазбавілі нешматлікіх ільгот (значна меншых за тыя, што ў ветэранаў НКВД-КДБ).

Пагаджуся з тымі (часткова), хто кажа, што нельга параўноўваць нацызм з камунізмам, СС з НКВД-КГБ. Нацызм праіснаваў толькі дванаццаць гадоў – камунізм больш як семдзесят, і колькасьць ахвяраў камунізму значна перавышае коль-

касьць тых, хто загінуў ад рук фашыстаў. І ўсё ж справа ня толькі ў лічбах. Калі тады, на мяжы 1980–1990 гадоў, Пазьняк казаў пра неабходнасьць суда над камунізмам па тыпу Нюрнбэргскага, ён падкрэсьліваў, што гаворка найперш пра асуджэньне ідэалогіі, без чаго ісьці далей будзе немагчыма.

Але тыя, хто здзекаваўся з той ідэі, жадалі рухацца не наперад, а назад.

Дайшлі да «лініі Сталіна». Цяпер туды, а не ў Курапаты, возяць экскурсіі.

За дваццаць гадоў у Курапатах былі прэзыдэнты, лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, замежныя дыпламаты – Лукашэнка ніводнага разу не прыехаў. Прыкметна і тое, што, знаходзячы і караючы аўтараў надпісу «Жыве Беларусь!», міліцыя і спэцслужбы ніколі не адшукалі тых, хто разьбіваў памятны знак прэзыдэнта ЗША Уільяма Клінтана, ламаў крыжы, апаганьваў магілы.

У пачатку 90-х гадоў адмысловая камісія павінна была прапанаваць праект мэмарыяла ў Курапатах. Ці то сутыкнуліся амбіцыі скульптараў і архітэктараў, ці то адмыслова справа была зацягнутая да моманту, калі рэпрэсіі зноў вярнуліся ў арсэнал улады – але ідэя афіцыйнага мэмарыяла не ажыцьцявілася. Аднак часам мне падаецца, што ў гэтым ёсьць пэўны глыбокі сэнс. І ня толькі таму, што нават самы лепшы праект ня можа быць адэкватны маштабу нацыянальнай трагедыі. Добра разумеючы сутнасьць цяперашняй улады, простыя людзі прыходзяць і ўсталёўваюць тут крыжы. Кожную суботу актывісты Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ ладзяць тут талаку, ставяць крыжы, расчышчаюць зямлю ад сьмецьця.

Ствараецца сапраўды Народны Мэмарыял. І, канечне, памяць – не ў мармуры, а ў сэрцах.

*29 траўня 2008 г.*

***Сяргей НАВУМЧЫК***

*Надрукавана: Народная Воля, – 2008, 29 траўня (№79-80)*

***13-Д. С. Навумчык. Дваццаць гадоў таму, 3 чэрвеня 1988 года, Беларусь прачнулася іншай.***

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ: „ПРАЎДА ПРА КУРАПАТЫ ВЫЙШЛА З ПАДЗЯМЕЛЬЛЯ”

***Улетку 1988 года ў газэце „Літаратура і мастацтва” зьявілася адна з самых значных публікацыяў беларускай гісторыі XX стагоддзя – артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты – дарога сьмерці”. З таго моманту, ужо 13 гадоў, ідзе барацьба за Курапаты. З аднаго боку – нашчадкі тых, хто расстрэльваў, з другога – нашчадкі тых, каго расстрэльвалі. У публікацыі, якую мужна зьмясьцілі ў сваім выданьні кіраўнікі рэдакцыі Мікола Гіль і Анатоль Вярцінскі, быў яшчэ адзін аўтар – Васіль Быкаў, які напісаў прадмову. Аўтарытэт і вядомасьць Быкава праломвалі сьцяну страху, баранілі аўтараў і газэту і адначасна надавалі публікацыі ўсясьветную значнасьць. Я пазваніў у Франкфурт-на-Майне і папрасіў аўтара прадмовы ўзгадаць, што яго тады ўразіла больш за ўсё ў старонках рукапісу, якія перадаў яму Зянон Пазьняк. Гаворыць Васіль Быкаў.***

Быкаў: – Канечне, уразіла ня тое, што ў той час – 30-я гады – адбываліся рэпрэсіі і вынішчэньне людзей, бо гэта было агульнавядома. Я якраз у той час на ўласную ініцыятыву займаўся рэабілітацыяй шмат якіх рэпрэсаваных пісьменьнікаў, дзеячоў культуры, меў справу зь Вярхоўным Саветам. Усё гэта было вядома. Не вядома было толькі тое – і гэта было адкрыцьцём Пазьняка і Шмыгалёва – што ў такіх маштабах рэпрэсіі, па сутнасьці – вынішчэньне, адбывалася ў ваколіцах Менску, што ўсё гэта пахавана зусім блізка, за кальцавой дарогай. Вось гэтага ніхто ня ведаў. І вось праз некалькі дзесяцігодзьдзяў тое ўпершыню адкрылася, стала вядома для грамадзкасьці.

Лукашук: – Васіль Уладзімеравіч, неўзабаве пасьля публікацыі была створаная так званая дзяржаўная камісія ў справе Курапатаў, і ў яе складзе былі прадстаўнікі тагачаснага кіраўніцтва Беларусі, у першую чаргу, партыйнага кіраўніцтва Беларусі, але таксама і ўрадавага. Былі ў яе складзе і Вы. Скажэце, як прадстаўнікі тагачаснай намэнклятуры ўспрымалі сваю працу ў камісіі?”

Быкаў: – Старшынёй камісіі, наколькі я памятаю, была спадарыня Мазанік. Яна тады была віцэ-старшынёй ураду. Адносіны былі ўвогуле насьцярожаныя, бо ўсё ж розныя людзі і па-рознаму да гэтага адносіліся. Я памятаю, што ў гэтую камісію ўваходзілі і Генпракурор Тарнаўскі, і таксама старшыня КГБ. Памятаю, аднойчы мы засядалі нават у памяшканьні КГБ, у кабінэце менавіта старшыні КГБ, які нам даказваў, што дакумэнтаў ніякіх няма, усё зьнішчана, і таму нічога, што прасьвятліла б тыя факты, знайсьці немагчыма. Тым ня менш, большасьць камісіі тады прыняла рашэньне пачаць раскопкі, якія і былі распачатыя пад кіраўніцтвам археолага (як тады гаварылі) Зянона Пазьняка.

Лукашук: – Васіль Уладзімеравіч, неўзабаве пасьля таго, як праўда пра Курапаты была пацьверджаная, была створаная камісія ў справе ўвекавечваньня памяці ахвяраў рэпрэсіяў, і Вы таксама бралі ўдзел у працы той камісіі. Маё пытаньне такое: чаму не ўдалося паставіць помнік у Курапатах?

Быкаў: – Вельмі проста. Па-першае, мяняўся час. Пасьля першага вялікага спалоху камуністы апамяталіся і зразумелі, што яны ня толькі могуць захавацца, але і ўзяць рэванш. Сапраўды тады была створаная камісія пераважна зь дзеячоў мастацтва. Яе ўзначальваў мастак Васіль Шаранговіч. У якасьці прапановы было прадстаўлена ці не 15 праектаў помніка, якія разглядаліся, абмяркоўваліся. Яны былі розныя па мастацкіх якасьцях, але нешта там адабраць можна было. Аднак жа я вельмі хутка зразумеў, што гэты помнік з удзелам прынамсі гэтай камісіі пастаўлены ня будзе. Таму што сама камісія, і асабліва яе старшыня – хоць ён аб гэтым не гаварыў – адчулі на сабе прэсінг

партыйнага кіраўніцтва, якое сабатавала гэтае ўвекавечаньне. Для гэтага выкарыстоўваліся розныя сродкі. Найперш сьцьвярджалася, што мастацкія якасьці праектаў недасканалыя, што трэба ўдасканальваць, перарабляць, трэба, маўляў, адкласьці на наступны раз, прычым гэтыя адкладаньні рабіліся ўсё больш доўгімі. І ўрэшце ўсё і пайшло, як вада ў пясок.

Лукашук: – Апроч камісіяў, пра якія расказвае Васіль Быкаў, існавала яшчэ адна – камісія Вярхоўнага Савету, куды таксама быў абраны і я, як прадстаўнік „Мартыралёгу Беларусі”. У асноўным мы займаліся справамі рэабілітацыі, кампэнсацыяў, ініцыявалі перагляд справаў. Але аднойчы зайшла гаворка пра Курапаты. Напярэдадні я быў у Курапацкім лесе і бачыў сьвежыя кастрышчы, пустыя бутэлькі, бляшанкі і выступіў з прапановай як найхутчэй паставіць агароджу вакол Курапатаў, як гэта звычайна робіцца на вясковых могілках. Ніхто ня быў супраць, пачалі абмяркоўваць дэталі, вырашылі даручыць гэтую справу Васілю Шаранговічу, які таксама быў у той камісіі Вярхоўнага Савету. Тады ён выступіў і сказаў, што спатрэбіцца недзе паўгода – як мінімум месяцы тры, каб распрацаваць праект агароджы. Для мяне гэта быў сапраўдны шок – тры месяцы на тое, што любы вясковы дзядзька зробіць за паўдня!.. Тыя тры месяцы цягнуцца ўжо дзясятак гадоў. Як сёньня Васілю Быкаву бачыцца адказ на пытаньне – хто вінаваты ў тым, што сёньня робіцца з Курапатамі?

Быкаў: – Найперш, канечне, вінаватая ўлада. Таму што ўлада па сутнасьці сваёй была камуністычная з самага пачатку адкрыцьця Курапатаў і працягвае цяпер быць – яна ня можа пайсьці на прызнаньне злачынстваў камуністычнай улады ў 30-я гады. І гэта нягледзячы на тое, што прадстаўнікі той улады, якія былі ў камісіі афіцыйна, пацьвердзілі факт гэтага камуністычнага ўдзелу ў вынішчэньні людзей. Вядома, напрыклад, што Генэральны пракурор Беларусі Тарнаўскі са сьледчымі выдаў у Маскве кніжку пра Курапаты, дзе вельмі дакладна, выкарыстоўваючы вялізны фактычны матэрыял, у тым ліку і вынікі раскопак, і сьведчаньні сьведкаў (нават тых сьведкаў, якія ўдзельнічалі ў расстрэлах – былі і такія!)… гэта ўсё там прыводзілася, – паказаў праўду пра Курапаты. Ну і пасьля ўлады зрабілі выгляд, што нічога гэтага няма, пачалі аспрэчваць сам факт адкрыцьця гэтага злачынства. Тады стала зразумела, што яны ня хочуць прызнаць, прынамсі ўзяць на сябе адказнасьць, бо прыйшлося б адказваць, калі не пэрсанальна, дык Камуністычнай партыі, якая тады кіравала, а таксама ворганам дзяржаўнай бясьпекі – яны адчувалі адказнасьць за свой удзел у гэтым генацыдзе. Таму яны не маглі пагадзіцца, каб прызнаць гэта ўсё. Я ведаю, што тады некаторыя зь сяброў гэтай камісіі выйшлі афіцыйна са складу камісіі, надрукавалі свае асобныя меркаваньні, як напрыклад „гераіня” беларускага народу Осіпава, якая першая пачала так бы мовіць гуляць у інтарэсах ворганаў бясьпекі 30-х гадоў і цяперашніх. Ну і некаторыя іншыя… І вось пачалі ствараць новыя камісіі, ініцыяваць новыя раскопкі… Гэта было зроблена для таго, каб праўду пра Курапаты схаваць назаўсёды. Ну а цяпер, як бачым, яе канчаткова закопваюць пад асфальт.

Лукашук: – Васіль Уладзімеравіч, хіба нас ня можа зьдзівіць пазыцыя беларускіх уладаў – ні мінулых, камуністычных, ні цяперашніх іх спадкаемцаў… Але вось пазыцыя грамадзкасьці – ці ёсьць падставы для папрокаў на адрас беларускай грамадзкасьці?

Быкаў: – Ну, грамадзкасьць можна папракаць, канечне. Але гэтыя папрокі, як заўсёды, будуць павісаць у паветры. Бо што такое грамадзкасьць? Гэта нешта вельмі няпэўнае… Апроч таго, тут справа яшчэ ў адным моманце, а менавіта ў справе адносінаў грамадзкасьці да Беларускага Народнага Фронту і, у прыватнасьці, да яго лідэра Зянона Пазьняка. Паколькі менавіта ён быў ініцыятарам адкрыцьця Курапатаў, то яго праціўнікі і палітычныя апанэнты не маглі пагадзіцца на яго авангардную ролю ў гэтай справе. Магчыма, яны хацелі самі ўдзельнічаць у гэтым, або наадварот замаўчаць. Вось яшчэ і гэта далучылася да высьвятленьня гэтай праўды.

Лукашук: – Што можа азначаць для беларускай нацыі страта Курапатаў?

Быкаў: – У маральным сэнсе страты ня будзе. Таму што незалежна ад таго, ці будзе ў Курапатах пампэзны ці шыкоўны мэмарыял, ці яны будуць закатаныя пад асфальт, усё-ткі праўда ўжо выйш-

ла з падзямельля, яна жыве і ў гісторыі Беларусі яна ўжо прапісаная навек. Ну але было б вельмі добра, каб гэтая праўда знайшла нейкае матэрыяльнае ўвасабленьне, каб людзі бачылі нейкі знак, сымвал таго, што там адбывалася ў 30-я гады, і задавалі сабе пытаньне – хто вінаваты? Але, відаць, гэтага ня будзе, і ў тым страта для грамадзтва. Але для гісторыі Беларусі яны знойдзеныя і ўпісаныя ў яе, я думаю, навек.

Кожны сам стварае сабе помнік – будаўніцтва дарогі праз Курапаты стане помнікам і ўладам Беларусі на мяжы стагодзьдзяў. Чым лепшую дарогу яны пабудуюць, тым даўжэй яна будзе нагадваць пра вечную спрэчку ахвяраў і катаў.

*(Інтэрв'ю Аляксандра Лукашука, Радыё Свабода 16 кастрычніка 2001 г.)*

***14-Д. А. Лукашук. Васіль Быкаў: „Праўда пра Курапаты выйшла з падзямельля”.***



***15-Д. Мітынг-рэквіем у Курапатах 29 кастрычніка 1988 года.***

*18-Д. Дзяды ў Курапатах. 2003 год. Выступае Сяргей Папкоў.*
*19-Д. Дзяды ў Лошыцы. 2010 год.*




*20-Д. Юры Беленькі прамаўляе на мітынгу ў Курапатах.*




*21-Д. Дзяды ў Курапатах. 2006 год. Прамаўляе Валеры Буйвал.*




*22-Д. Восеньскія Дзяды ў Курапатах.*



*23-Д. Талака КХП – БНФ ў Курапатах (ачыстка ад хмызьняку).*



(Фота Андрэя Аляхновіча).

*24-Д. Ускраіна Курапатаў.*

*Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя--БНФ*

**Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь**
Мінск-10, Дом Ураду

Адкрыты ліст

Каля урочышча Курапаты, якому ў адпаведнасці з Законам “Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны”, як месцу згубы ахвяр палітычных рэпрэсій, нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі, распачата рэканструкцыя Мінскай кальцавой дарогі. Вядуцца праектныя работы па варыянце пашырэння існуючай дарогі, пракладзенай праз урочышча Курапаты.

Усяму свету вядома, што ў Курапатах камуністычнымі ўладамі ў 1930-х, 1940-х гадах растраляныя і закапаныя сотні тысячаў бязвінных людзей. Савецка-камуністычны рэжым хаваў свае злачынствы, так было і з урочышчам Курапаты. Дарога праз Курапаты ёсьць злачынства, здзейсненае савецкімі ўладамі. Сёньня пашыраць дарогу праз урочышча Курапаты, будаваць на касцях бязвінных ахвяраў, гэта значыць пашыраць злачынства.

Недапушчальна абгрунтоўваць мэтазгоднасць пракладкі кальцавой дарогі праз Курапаты эканамічнымі інтарэсамі, а фактычна пераступаць праз жыцці, душы і памяць людзей.

У сувязі з рэканструкцыяй кальцавой дарогі, нельга паўтараць злачынствы якія былі ўчыненыя пры яе будаўніцтве. Новая дарога павінна прайсці ў абыход урочышча Курапаты.

Мы зробім усё магчымае, каб данесці да беларускага грамадства і сусветнай супольнасці новае запланаванае ўладамі злачынства супраць беларускага народу і будзем супроцьстаяць яго здзяйсненню.

Адказ просім надрукаваць ў афіцыйнай прэсе і выслаць на адрас: 220114, Мінск, пр.Скарыны, 133-147.

7.08.2001 Управа Сойму
Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ

***Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя--БНФ***

**Савету Міністраў**
**Рэспублікі Беларусь**
Мінск-10, Дом Ураду

Управа Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ 7.08.2001 г. звярталася да Вас з адкрытым лістом з патрабаваньнем улічыць грамадзкую думку і рэканструкцыю Мінскай кальцавой дарогі правесьці па праекту ў абыход урочышча Курапаты.

Нагадваем, што ўрочышчу Курапаты ў адпаведнасці з Законам "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", як месцу згубы ахвяр палітычных рэпрэсій, нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі.

Усяму свету вядома, што ў Курапатах камуністычнымі ўладамі ў 1930-х, 1940-х гадах растраляныя і закапаныя сотні тысячаў бязвінных людзей. Савецка-камуністычны рэжым хаваў свае злачынствы, так было і з урочышчам Курапаты. Дарога праз Курапаты ёсьць злачынства, здзейсненае савецкімі ўладамі. Сёньня пашыраць дарогу праз урочышча Курапаты, будаваць на касцях бязвінных ахвяраў, гэта значыць пашыраць злачынства.

Недапушчальна абгрунтоўваць мэтазгоднасць пракладкі кальцавой дарогі праз Курапаты эканамічнымі інтарэсамі, а фактычна пераступаць праз жыцці, душы і памяць людзей.

Сёння паскоранымі тэмпамі пачаліся дарожныя работы праз Курапаты. Бульдозеры рыюць зямлю, дзе нкавэдзістамі закапаныя бязвінныя ахвяры.

Каб спыніць злачынства, абараніць святое для беларусаў месца, жыхары Мінска ідуць у Курапаты, ставяць крыжы, развешваюць на дрэвах іконы. Ствараецца канфлікт паміж жыхарамі Мінска і дарожнымі рабочымі, якія дзейнічаюць па загаду начальства. Так 22 верасьня 2001 г. адзін з рабочых (было відаць, што ён быў пад уздзеяньнем алкаголю) на бульдозеры пачаў адмыслова наязжаць на жанчын, якія развешвалі іконы на дрэвах. Трагедыі ня здарылася дзякуючы таму, што жанчынам удалося ўвярнуцца і схавацца за дрэвы.

Паўторна патрабуем спыніць злачынную працу ва ўрочышчы Курапаты, а будаўніцтва новай кальцавой дарогі весці па праекту ў абыход урочышча.

Адказ просім накіраваць па адрасе: 220114, Мінск, пр. Ф.Скарыны, 133-147.

25.09.2001

Управа Сойму
Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ

Выконваючы абавязкі старшыні
Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ
Юры Беленькі

*Кансерватыўна-Хрысціянская*
*Партыя--БНФ*

**Савету Міністраў**
**Рэспублікі Беларусь**
Мінск-10, Дом Ураду

Яшчэ раз звяртаемся з нагоды будаўніцтва Мінскай кальцавой дарогі і патрабуем не весці работы па яе пашырэнні праз урочышча Курапаты. Ёсць розныя варыянты пракладкі дарогі ў абход Курапатаў. Эканамічныя выкладкі не могуць быць апраўданнем пракладкі шырокай дарогі праз адзіны ў Беларусі помнік ахвярам расейска-камуністычнага тэрору 1937-1941 г.г.

Па вашаму загаду ўчыняецца акт вандалізму, нішчыцца зялёная ахоўная зона мікрараёну Зялёны Луг – 7. Людзі ўвекавечылі памяць ахвяраў, усталяваўшы ў Курапатах хрысціянскія крыжы, сімвал ахвяры і Жыцця вечнага. Той, хто рушыць крыжы, здзяйсняе вялікі грэх і невыбачальнае злачынства. Аднак вы паслалі бульдозеры ламаць крыжы, рыць і ганьбіць курапацкую зямлю, палітую крывёю ахвяраў, па-блюзнерску абражаючы людскую памяць і святыя пачуцці. Вы ламаеце душы рабочых і спецыялістаў, якім па вашаму загаду і пад прымусам, насуперак свайму сумленьню, прыходзіцца здзяйсняць гэтае злачынства. Пры размовах з дарожнымі рабочымі высветлілася, што ў многіх з іх продкі падчас сталінскіх рэпрэсіяў былі забітыя ў Беларусі альбо загінулі ў ГУЛАГу. Падумайце пра сябе, у многіх чыноўнікаў продкі таксама былі альбо знішчаныя, альбо пацярпелі ад камуністычнага тэрору.

Ёсьць нармальнае выйсце – павесьці дарогу ў абход. Калі пытаньне ў фінансах і вы яго вырашыць не здольныя, то прапануем наступнае:

1. Паколькі пабудавана толькі трэць ад усёй кальцавой дарогі, рабочых і тэхніку перавесьці на іншыя ўчасткі. Часова дарога праз Курапаты эксплуатуецца ў нязменным выглядзе.
2. Участку кальцавой дарогі, які трэба пабудаваць у абход Курапатаў, надаць статус “Народнай дарогі”.
3. Пры вашым спрыянні грамадскасцю ствараецца фонд “Народная дарога”.
4. Вы прадстаўляеце ў неабходнай калькасьці эфір на тэлебачанні і радыё, месца ў дзяржаўных газэтах для інфармавання шырокай беларускай і міжнароднай грамадскасці пра сутнасць праекту “Народная дарога” з мэтаю збору сродкаў.
   З улікам таго, што ад камуністычнага рэжыму ва ўсім свеце пацярпелі мільёны людзей, сродкі будуць сабраныя ў хуткім часе.
5. Пасля будаўніцтва абходнага ўчастка старая дарога праз Курапаты зачыняецца для эксплуатацыі.

Адмова будаваць кальцавую дарогу ў абход Курапатаў будзе азначаць, што выконваецца палітычны заказ нашчадкаў той арганізацыі, якая рабіла злачынства ў Курапатах. У гэтым выпадку на вас кладзецца адказнасць за ўдзел у злачынным тэроры. Адказнасць за масавыя тэрарыстычныя забойствы ў 30-я, 40-я гады мінулага стагоддзя ў СССР ня маюць даўніны.

У святле сёняшніх адносінаў цывілізаванага свету да тэрарызму набываюць адпаведны сэнс спробы працягнуць злачынства, здзейсненае падчас сталінскага масавага тэрору.

Адказ просім накіраваць па адрасе: 220114, Мінск, пр. Ф.Скарыны, 133-147.

22.10.2001

Выконваючы абавязкі старшыні
Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ
Юры Беленькі

Для даведак тэл/факс 285-34-70, Папкоў С.

**КАМІТЭТ ПА АЎТАМАБІЛЬНЫХ ДАРОГАХ**

ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ ТРАНСПАРТУ І КАМУНІКАЦЫЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



**КОМИТЕТ ПО АВТОМОБИЛЬНЫМ ДОРОГАМ**

ПРИ МИНИСТЕРСТВЕ ТРАНСПОРТА И КОММУНИКАЦИЙ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

«17» 09 2001 г. № 01-19/Кол-51

на № ______ от ______

Трамбицкой Е. В.
220131, Минск,
ул. Мирошниченко,
д.49, кв. 83

*О реконструкции МКАД в районе ул. Мирошниченко*

Комитет по автомобильным дорогам рассмотрел Ваше письмо о реконструкции кольцевой дороги вокруг г. Минска в районе ул. Мирошниченко и сообщает следующее.

Выбор трассы дороги в районе ур. Куропаты – ул. Мирошниченко (км 51 – км 52,5) с прохождением по существующему направлению дороги произведен на основании вариантного анализа проектных решений и принят как наиболее оптимальный и экономически обоснованный.

Уширение земляного полотна в сторону жилых домов составляет от 12 до 15 метров. При этом все существующие площадки, проезды, пешеходные дорожки, расположенные в районе прилегающей застройки, сохранятся. Также будет сохранен крайний от застройки ряд декоративных деревьев и кустарников. Взамен вырубаемых деревьев проектом предусматриваются равноценные компенсационные посадки зеленых насаждений.

Проектные решения реконструкции МКАД в районе ур. Куропаты с прохождением по существующему направлению не нарушают целостность ни одного из установленных мест захоронений и предусматривают благоустройство и архитектурно-художественное оформление прилегающей территории.

Таким образом, реконструкция МКАД в районе ур. Куропаты и ул. Мирошниченко не окажет отрицательного воздействия на это урочище и прилегающий жилой массив микрорайона Зеленый Луг.

Первый заместитель
председателя Комитета — Г. В. Чепцов

Гронская 252 79 26



003718

220079, г. Минск, ул. Кальварийская, 37. Тел. (017) 254-61-25, факс (017) 286-09-52

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220004, г. Мінск, праспект Машэрава, 11
Тэлефон (017) 223 75 74, 223 71 76
Тэлефакс (017) 223 58 25, 223 85 15

220004, г. Минск, проспект Машерова, 11
Телефон (017) 223 75 74, 223 71 76
Телефакс (017) 223 58 25, 223 85 15

11.10.2001 № 01-06/5100

На № ________ ад ____________

Управа Сойму
Кансерватыўна-Хрысціянскай
Партыі БНФ

220114 г.Мінск
пр.Ф.Скарыны 133-147

Адказ на ліст

Па даручэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у адказ на Ваш ліст ад 25.09.2001 паведамляем, што стаўленне Міністэрства культуры да праблем пашырэння Мінскай кальцавой аўтадарогі ў межах тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці I катэгорыі – «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій "Курапаты"» выпрацавана на падставе заключэння, падрыхтаванага Інстытутам гісторыі НАН Беларусі па запыту Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны (копія дадаецца).

Распачатыя без афіцыйнага дазволу і без археалагічнага нагляду дарожна-будаўнічыя работы на тэрыторыі ўрочышча "Курапаты" прыпынены прадпісаннем Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ад 28.09.2001 № 324, якое дзейнічае да гэтага часу.

Зважаючы на тое, што на сённяшні дзень усе патрабаванні названага камітэта (якія з'явіліся прычынай выдачы прадпісання) выкананы, Міністэрства культуры не бачыць падстаў надалей затрымліваць пашырэнне Мінскай кальцавой аўтадарогі. Дазвол на прадаўжэнне работ можа быць выдадзены ў бліжэйшы час пасля вызначэння ўмоў іх правядзення па выніках археалагічных даследаванняў і вывучэння праектнай дакументацыі навуковым кіраўніком аб'екта.

Дадатак: памянёны на 1 арк.

Міністр Л.П. Гуляка

Бубноўскі Д.С.
213 37 90

До подшивки

**Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ**

**Conservative Christian Party — BPF**

**Tel/fax (+375 17) 285 34 70; 285 99 90 Minsk (Belarus)**

## АБАРОНІМ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СЬВЯТЫНЮ – КУРАПАТЫ!

## ЗВАРОТ

Акупацыйны бальшавіцка расейскі рэжым на працягу дзесяцігодзьдзяў праводзіў палітыку генацыду беларускага народу, вынішчаючы мільёны людзкіх жыцьцяў, нявечачы лёсы цэлых пакаленьняў. У 1920-40-я гады антычалавечыя злачынствы набылі нечуваныя маштабы. У адным толькі ўрочышчы Курапаты пад Менскам бальшавікі расстралялі да 250 тысячаў бязьвінных людзей. Месцы пакутніцкай сьмерці беларусаў ёсьць каля кожнага беларускага мястэчка ці горада. Але менавіта Курапаты пад Менскам, праўду аб якіх першым адкрыў усяму сьвету Зянон Пазьняк, сталіся сымбалем мартыралёгу беларускага народу ў крываным XX стагодзьдзі. Яшчэ ў 1960-я гады камуністычныя ўлады паспрабавалі сьцерці сьляды сваех злачынстваў, набудаваўшы на касьцях ахвяраў кальцавую дарогу сталіцы. Тады былі разбураныя многія магілы і чалавечыя рэшткі ў Курапацкім лесе. Але ў канцы 1980-х гадоў, калі беларускае грамадзтва пачало абуджацца ад доўгага ачмурэньня, у Курапаты прыйшлі людзі, усталявалі на магілах праведнікаў крыжы, паставілі сьвечкі, маліліся.

Нянавісьць узурпатарскага антыбеларускага рэжыму да Курапатаў цалкам вытлумачальная. Рэжым аддае нашую Беларусь у жабрацкую і агрэсіўную Расею, вядзе вайну супраць беларускай культуры і мовы, імкнецца зьнішчыць беларускія сьвятыні. Для апраўданьня злачынства ўлады выйшлі "рацыянальныя" аргументы: неабходнасьць пашырэньня і рэканструкцыі кальцавой дарогі, эканомія фінансавых сродкаў і г.д. Гэта ёсьць сатанінскі падман і хітрыкі, за якімі крыецца сапраўдная сутнасьць антычалавечага рэжыму. Нельга верыць хлусьлівай дэмагогіі, нельга саступіць дзікунству!

Госпад пасылае нам выпрабаваньне. Калі мы ня здолеем абараніць ад вандалаў нашую сьвятыню – Курапаты, то ўвесь сьвет скажа, што мы не народ, не хрысьціянская супольнасьць. Рэжым, прайшоўшы па касьцях памерлых, будзе нішчыць і забіваць жывых. Пра гэта сьведчыць уся гісторыя расейска-бальшавіцкай акупацыі Беларусі: рэвалюцыйны тэрор, войны, калектывізацыя, сталіншчына, хрушчоўшчына і брэжнеўшчына, гарбачоўшчына і Чарнобыль.

Існуе распрацаваны і прыняты менскай гарадзкой адміністрацыяй яшчэ ў 1993 г. праект пабудовы ўчастка кальцавой дарогі ў абход урочышча Курапаты. Ён і павінен быць рэалізаваны. Мы заклікаем усё беларускае грамадзтва стаць на абарону Курапатаў. Не дапусьцім на магілы нашых продкаў трактары і бульдозеры! Будзьма зьбірацца ў гэтым сьвятым месцы кожны дзень, каб ставіць хрысьціянскія крыжы! Не пакінем нашых памерлых, абаронім нашу памяць!

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ
1 кастрычніка 2001 г.

## РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ СПРАБУЕ ЗЬНІШЧЫЦЬ КУРАПАТЫ

На першы погляд дзеяньні рэжыму Лукашэнкі на тэрыторыі Курапатаў зьяўляюцца алагічнымі і несвочасовымі, супярэчаць лёгіцы разьвіцьця падзеяў у Беларусі. Дыктатар зусім нядаўна дасягнуў сваёй мэты. У выніку маштабных фальсіфікацыяў абвесьціў сябе "прэзыдэнтам" краіны, забясьпечыў далейшую падтрымку свайго курсу з боку Крамля. З дапамогай КНГ АБСЭ пад кіраўніцтвам нямецкага дыплямата Ганса-Георга Віка пачаўся паступовы працэс легітымізацыі незаконнага ўзурпатарскага рэжыму Лукашэнкі. Большая частка грамадзтва публічна не прарэагавала на нахабныя дзеяньні рэжыму на выбарах (хаця і галасавала супраць Лукашэнкі), намэнклятурная "аб'яднаная" псэўдаапазыцыя развалілася і не ўяўляе цяпер сур'ёзнай палітычнай сілы. Як казаў Сталін, "усе ворагі пераможаныя". Развал эканомікі і сельскай гаспадаркі, катастрафічнае зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўню, міжнародная ізаляцыя краіны не хвалююць Лукашэнку і ягонае атачэньне. Таму што варварская эксплуатацыя натуральных рэсурсаў краіны, гандаль зброяй і расейская шматплянавая падтрымка забясьпечваюць пакуль існаваньне кіруючай эліты. Навошта спатрэбілася такая маштабная правакацыя, дзікі акт блюзьнерства на вачах усяго сьвету? Чаму рэжым парушае status quo, пэўную стабільнасьць, выклікаючы грамадзкую рэакцыю, нібыта мала было ўсяго колькі тыдняў таму нахабнага прыніжэньня грамадзтва падчас выбарчага фарсу (калі беларусы ўпершыню за 10 гадоў незалежнасьці зразумелі, што іх ашукалі)? Чаму разбурэньне Курапатаў пачалося 20 верасьня сёлета, у дзень "інаўгурацыі" узурпатара Лукашэнкі?

Зразумела, што праблема Курапатаў і кальцавой дарогі сталіцы мае не фінансавы або транспартны, а палітычны характар. У 1993 г. распрацаваны і зацьверджаны афіцыйны праект правядзеньня ўчастка дарогі ў абход урочышча Курапаты. Аднак рэжым пачаў наступ і разбурэньне тэрыторыі мэмарыяла нават не маючы ня тое што праекту правядзеньня працы, але нават будаўнічых чарцяжоў і плянаў ( а ў гэтым месцы праходзяць падземныя камунікацыі, побач жылыя кварталы). На ўчастак кінутыя значныя сродкі і сілы. Рэжым сьпяшаецца, ідзе на рызыку, марнуе грошы, прывозячы будаўнічыя брыгады з іншых рэгіёнаў краіны, плоцячы будаўнікам дадатковыя заробкі за камандыроўкі і працу ў выходныя дні. Мабілізаваныя, як у савецкія часы, навуковыя і інтэлектуальныя "аўтарытэты" дзеля апраўданьня злачынства, разгорнутая прапагандысцкая кампанія ў СМІ. Лукашэнка публічна дэманструе асабістую заангажаванасьць у рэалізацыі гэтага праекту, прыпадносячы яго як "дзеяньне на карысьць народу". Разбурэньне Курапатаў стала адным з палітычных прыярытэтаў рэжыму.

На наш погляд, прычыны гэтых дзеяньняў наступныя:

1. Палітычная дэскрыдытацыя сп. Зянона Пазьняка, старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ. Тут ёсьць элемэнт пэрсанальнага страху псіхічна неўраўнаважанага Лукашэнкі перад сваім галоўным праціўнікам. А галоўным чынам палітычная мэтазгоднасьць. Нават палітычныя канкурэнты сп. Пазьняка ня могуць запярэчыць, што менавіта сп. Пазьняк першым адкрыў праўду аб трагедыі ў Курапатах, правёў там раскопкі і здолеў абудзіць пратэст беларускага народу супраць камуністычнага рэжыму. Калі Курапаты будуць прыніжаныя да статусу "праезжага месца", дзе паводле выказваньня Лукашэнкі "нічога няма, і невядома, хто каго расстраляў", велічны ўчынак сп. Пазьняка згубіць сэнс і гэбельсаўскай прапагандзе прасьцей будзе дэфамаваць "Пазьняка, які прыдумаў Курапаты".
2. Маштабы камуна-расейскага злачынства ў Курапатах (да 250 тысячаў ахвяраў) можна параўнаць толькі з вядомымі ўсяму сьвету мартырыюмамі, напрыклад Асьвенцымам і турмой чырвоных кхмэраў у Пнампене. Не выпадкова

лукашысцкая прапаганда ўвесь час імкнулася даказаць грамадзтву, што ў Курапатах ляжаць забітыя ў 1941-42 гг. немцамі габрэі з Нямеччыны. Але ўсе дасьледваньні і паведамленьні сьведкаў сьведчаць пра сапраўднае аўтарства – Курапаты ёсьць акт генацыду беларусаў, зьдзейсьнены расейскімі акупантамі. Антыбеларускі, прамаскоўскі марыянэткавы рэжым Лукашэнкі выконвае сваю натуральную функцыю і загад сваіх крамлёўскіх гаспадароў, зьнішчаючы месца расейскага злачынства і нявечачы памяць аб ім. Ва ўмовах памкненьня да інкарпарацыі і новай акупацыі Беларусі Расеяй такія дзеяньні набываюць надзвычайную актуальнасьць. Нішто не павінна псаваць “вечнай дружбы двух народаў і іхняга спрадвечнага жаданьня жыць разам”.

3. Курапаты даўно сталіся аб’ектам увагі міжнароднай грамадзкасьці. Прадстаўнікі цывілізаваных краінаў наведалі мэмарыял і ўшанавалі памяць ахвяраў. Прэзыдэнт ЗША сп. Біл Клінтан пакінуў у Курапатах памятны дар беларускаму народу ад амэрыканскага народу – адзіны ў нашай краіне помнік амэрыканскай культуры. Ужо ў жніўні сёлета амэрыканскі помнік быў варварскі зьнішчаны і гэта невыпадкова. Гэта ёсьць адзін з актаў антыамэрыканскай палітыкі рэжыму Лукашэнкі, вандальская “дэманстрацыя сілы”, якая на фоне амэрыканскай трагедыі 11 верасьня набывае адмысловы сэнс. Разбураныя Курапаты не павінныя быць аб’ектам пакланеньня цывілізаваных людзей з усяго сьвету.
4. Рэжым Лукашэнкі сьпяшаецца завяршыць зьнішчэньне Курапатаў на фоне правядзеньня антытэрарыстычных дзеяньняў цывілізаваных краінаў супраць міжнароднага тэрарызму, пакуль міжнародная грамадзкасьць занятая гэтай галоўнай падзеяй. Ён дзейнічае, як дробны злачынец, які падчас вялікай бяды задавольвае свой подлы інтэрэс упэўнены, што яго не заўважаюць.
5. Зьнішчэньне Курапатаў праводзіццаадначасова з незаконнай перадачай беларускай маёмасьці ( даведзеных да банкруцтва прадпрыемстваў) расейскім алігархам, што ёсьць плата за падтрымку Лукашэнкі на апошніх выбарах. Гэта ёсьць канчатковая фаза антыбеларускай дэструкцыйнай палітыкі рэжыму на працягу ягонага існаваньня: ліквідацыя беларускага школьніцтва, палітыка русіфікацыі ўсіх сфэраў грамадзкага жыцьця і падаўленьне беларускай мовы. Важным элемэнтам гэтай палітыкі ёсьць канчатковае зьнішчэньне нацыянальнай сьвятыні беларускага народу, помніка генацыду беларусаў, учыненага расейскімі акупантамі. Посьпех расейскай экспансіі ў Беларусі немагчымы, пакуль існуюць Курапаты і народ ведае праўду аб іх.
6. Лукашэнка заявіў, што нават калі пры рэканструкцыі кальцавой дарогі будуць знойдзеныя “нейкія косьці”, іх перазахаваюць **у іншым месцы.** Рэжым рыхтуе ня толькі зьнішчэньне пэўнай часткі Курапатаў, пашыраючы дарогу. Гэта ёсьць першых крок да перазахаваньня ў іншае месца ўсіх парэшткаў і ліквідацыі ўрочышча як мэмарыяльнай і нават геаграфічнай зоны. Курапаты проста ня будуць існаваць. Зьнішчэньне сьвятыні беларускага народу выкліча шок у сьвядомай часткі грамадзтва. Ужо цяпер многія сьвядомыя людзі наракаюць, што “мы ня здолеем абараніць Курапаты, у рэжыма столькі сілаў”. Народ будзе пазбаўлены апірышча (кожная сьятыня – гэта духоўнае апірышча). Будзе распачаты наступны акт дэмаралізацыі беларускага грамадзтва. Нашаму эўрапейскаму народу будзе навязвацца чужая нам усходняя расейская сістэма каштоўнасьцяў, у якой цана чалавечага жыцьця роўная нулю. Як прыклад дастаткова ўспомніць, што крамлёўскае кіраўніцтва ня толькі вяло вайну супраць нямецкіх фашыстаў, па-азіяцку ня лічачыся з велізарнымі і бессэнсоўнымі ахвярамі, але і дагэтуль не паклапацілася дастойна пахаваць больш за палову парэшткаў загінуўшых жаўнераў. Гэта толькі адзін з яркіх прыкладаў “расейскага гуманізму”.

3

7. Зьнішчаючы Курапаты, рэжым Лукашэнкі дэманструе сваю "усемагутнасьць". Дыктатару "усё можна", "яму няма каму супрацьстаяць". І тут трэба прыгадаць, што ранейшыя злачынствы абышліся яму беспакарана, міжнародная грамадзкасьць неадэкватна прарэагавала на агрэсіўныя дзеяньні Лукашэнкі і тым самым заахвоціла яго працягваць ганебную практыку: продаж зброі тэрарыстычным рэжымам, зьнішчэньне турысцкіх паветраных балёнаў разам з людзьмі, зьдзек з заходніх дыпляматаў. Няма гарантыі, што зьнішчэньне Курапатаў будзе апошнім злачынствам рэжыму.
8. Так званая "аб'яднаная" намэнклятурная апазыцыя ( Лябедзька, Вячорка, Саннікаў і г.д.) утварылі "камітэт па выратаваньні Курапатаў", пачалі праводзіць прэс-канфэрэнцыі, прыймаць заявы, даваць інтэрв'ю. Дэманструючы саміх сябе, палітычныя банкруты спрыяюць рэжыму. Так, яны заклікаюць да правядзеньня новых раскопак у Курапатах (раскопкі ўжо праведзеныя ў мінулым і ўсё ўжо шмат разоў даказана), да "круглага стала" і перамоваў з рэжымам пра мэтазгоднасьць пашырэньня дарогі (супраціў замяняецца перамовамі са злачынцамі). Улады парушаюць закон аб ахове культурнай спадчыны, вядуць работы без праекту. А "аб'яднаная" апазыцыя, замест каб зьвярнуцца ў пракуратуру, пайшла на перамовы са злачынцамі. Рэжым прыкрываецца палітычнымі банкрутамі, заяўляючы аб "узгадненьні праблемы са спэцыялістамі і апазыцыяй". Такім чынам падрываецца вера народу ў магчымасьць якога-небудзь супрацьстаяньня рэжыму Лукашэнкі. Гэта шлях да апатыі і поўнага расчараваньня – што ёсьць мэта рэжыму.

Трэба канстатаваць, што адзінай арганізаванай палітычнай сілай, якая сапраўды бароніць Курапаты і мабілізуе народ на абарону нашай нацыянальнай сьвятыні, -- гэта Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ, якія дзейнічаюць пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка. Нашы актывісты першымі далі інфармацыю грамадзтву і журналістам пра пачатак разбуральнай акцыі рэжыму. Штодня нашы сябры прыходзяць у Курапаты і ставяць крыжы на магілах, каб абараніць іх ад сатанінскага рэжыму, добраўпарадкваюць тэрыторыю мэмарыяла. Мы будзем бараніць Курапаты, не аддамо нашу сьвятыню і памяць на зьдзек і зьнішчэньне. Але нам патрэбная маральная падтрымка ўсіх цывілізаваных грамадзтваў.

Палітычны камітэт Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
15 кастрычніка 2001 г.

Спадарам: Уладзіміру Арлову, Рыгору Барадуліну,
Васілю Быкаву, Артуру Вольскаму,
Радзіму Гарэцкаму, Нілу Гілевічу,
Сяргею Грахоўскаму, Жанне Ліцвіной,
Леаніду Лычу, Аляксею Марачкіну,
Алегу Трусаву, Карласу Шэрману,
Станіславу Шушкевічу.

Вельмі паважанае спадарства!

Лукашэнка падрыхтаваў армаду дарожнай тэхнікі , каб у бліжэйшыя дні з двух бакоў абрушыцца на Курапаты. Бульдозерамі будуць гвалтоўна згарнутыя крыжы, зрэзаная Курапацкая зямля разам з пахавальнымі ямамі, ў якіх энкавэдзісты забівалі і закопвалі людзей з усёй Беларусі. Дзеля прэцыдэнту можа быць зроблена перазахаваньне некаторых чалавечых костак дзе-небудзь у чыстым полі, каб абапіраючыся на гэты факт у делейшым "перазахаваць" усе Курапаты.

Рэжым ня толькі пераступіў праз нормы чалавечай маралі і этыкі, але і груба парушыў закон "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны". Тое, што работы вядуцца паскорана, без завершанага праекту менавіта ў раёне Курапатаў (пры тым пабудавана толькі трэць кальцавой дарогі), гаворыць што існуе палітычны заказ на злачынства.

У такой сітуацыі небходна спыніць гэтае злачынства. Аднак шэраг асобаў, так званых прагматыкаў з "дэмакратычнай апазыцыі", хуценька абвясьцілі ініцыятыву "За ўратаваньне мемарыялу Курапаты" і выдалі на гару заяву.
Замест таго, каб ісці ў Курапаты, ставіць крыжы кожны дзень, клікаць людзей на абарону Курапатаў з усёй Беларусі, выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі для інфармаваньня беларускай і міжнароднай грамадзкасьці па сутнасьці рыхтуемага злачынства, яны заклікалі праводзіць "круглыя сталы", "перамовы", "дыскусіі", "даследваньні".

Рэжым задаволены. Вы патрабуеце правесьці дадатковыя археалягічныя даследваньні? Калі ласка, знойдзены "герастраты ад навукі" і яны ўжо капаюць. Ведаюць дзе капаць, каб дагадзіць рэжыму. Вы жадаеце "публічнага дыялёгу адказных дзяржаўных структур з прадстаўнікамі грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мемарыялу ў Курапатах"? Калі ласка, сядайце і дыскутуйце, няма праблемаў. Вы жадаеце каб ў праекце была агарожа ўрочышча Курапаты? Калі ласка, і агарожу намалюем і ахову абяцаем.

Разумеем, што некаторыя "паліттэхнолагі" пачалі без вашага ведама ставіць вашыя прозьвішчы пад рознымі "ініцыятывамі". Нават у такой справе, як абарона нацыянальнага мемарыяльнага помніка "Курапаты" пачалі гуляць у палітыку, і ў справу абароны Курапатаў уплялі вікаўскую тэхналёгію "перамоваў і дыялёгаў". (Вядома колькі зла для Беларусі нарабіў Г. Вік, пра гэта ў прэсе было напісана шмат разоў.)

Вельмі паважаныя спадары, просім узняць Ваш аўтарытэтны голас ў абарону Курапатаў. Не давярайце сваё імя розным "прагматыкам ад палітыкі".

16.10.2001г.

Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай
Партыі — БНФ

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Штодня ў Курапаты прыходзяць сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, каб абараніць месца пакутніцтва беларускага народу ад разбурэньня. Людзі ставяць крыжы, добраўпарадкваюць тэрыторыю мэмарыялу. **18 кастрычніка сёлета а 16.00** ў Курапатах адбудзецца асьвячэньне крыжоў на магілах ахвяраў камуна-расейскай акупацыі сьвятарамі хрысьціянскіх канфэсіяў. 20 і 21 кастрычніка (у суботу і нядзелю) у Курапатах адбудзецца талака з 12 да 17 гадзінаў.

Прэс-служба Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
16.10.2001 г.

---

Пасьля сатанінскага бальшавіцкага "праздніка" угодкаў кастрычніцкага перавароту рэжым Лукашэнкі пачаў канчатковае разбурэньне мэмарыялу ахвяраў расейска-бальшавіцкага тэрору ў Курапатах. 8 лістапада ўвечары на тэрыторыю пахаваньняў уварваліся бульдозэры і трактары, групы міліцыянтаў, амонаўцаў і агентаў КГБ. Яны пачалі зьнішчаць магілы, ламаць крыжы, што людзі паставілі на магілах закатаваных. Вандальская акцыя лукашыстаў пад выглядам "рэканструкцыі кальцавой дарогі сталіцы" працягваецца ўжо другія суткі. Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ разам з іншымі абаронцамі Курапатаў (гэта перш за ўсё Малады Фронт) супрацьпаставіліся вандалам: ратавалі крыжы, ставалі жывой сьцяной на шляху тэхнікі. 8 лістапада былі арыштаваныя АМОНам сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі -- БНФ Уладзімер Юхо і Рыгор Кійко. Іх жорстка зьбілі пры затрыманьні. 9 лістапада сябры нашай Партыі працягвалі ставіць у Курапатах крыжы. У выніку нападу амонаўцаў былі затрыманыя зноў Уладзімер Юхо, Сяргей Папкоў, Віктар Кавешнікаў, Аляксандр Плотнікаў, Уладзімер Раманцоў, Валеры Буйвал. Суд Менскага раёну прысудзіў Уладзімеру Юхо штраф у 5 мінімальных заробкаў. Абарона Курапатаў працягваецца.

Прэс-служба Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
9.11.2001 г.

---

12-14 лістапада сёлета ў судзе Менскага раёну разглядаліся адміністрацыйныя справы людзей, якія былі затрыманыя міліцыянтамі (з нашыўкамі па-расейску "ОМОН" на ўніформах) падчас пратэстаў у Курапатах 9 лістапада. Як заўсёды ў такіх выпадках, у якасьці сьведкаў выступалі міліцыянты, якія блыталіся ў сваех паказаньнях, хлусілі і паклёпнічалі. Суд праглядзеў "апэратыўныя здымкі" (відэастужку, якую здымала міліцыя на месцы падзеяў), складзеную з розных фрагмэнтаў. Ніводзін з іх не дэманстраваў моманту затрыманьня. Нягледзячы на бяздоказнасьць абвінавачваньняў, суддзя А. Тачкар прысудзіў штрафы сябрам Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі -- БНФ Рыгору Кійко і Віктару Кавешнікаву – па 20 мінімальных заробкаў, сакратару Партыі Валерыю Буйвалу – 30 мінімальных заробкаў. Відушчая лукашэнкаўская Фэміда правіць сваё "правасуддзе". На наступным тыдні адбудуцца суды яшчэ над некалькімі сябрамі нашай Партыі.

Прэс-служба Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
14 лістапада 2001 г.

**Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ**
**Tel/fax (+375 17) 285 34 70; 285 99 90**
**Conservative Christian Party — BPF**
**Minsk (Belarus)**

АБАРОНІМ КУРАПАТЫ
Заява

8 лістапада ўвечары на тэрыторыю мэмарыялу ахвяраў расейска-бальшавіцкага тэрору ў Курапатах уварваліся бульдозэры і трактары, групы амонаўцаў і агентаў КГБ. Адразу пасьля сатанінскага бальшавіцкага "праздніка" угодкаў кастрычніцкага перавароту антыбеларускі рэжым узурпатара Лукашэнкі пачаў канчатковае разбурэньне нацыянальнай сьвятыні. Дзяржаўныя бандыты пачалі зьнішчаць магілы, ламаць крыжы, што людзі паставілі на магілах закатаваных, а каталіцкія і праваслаўныя сьвятары асьвяцілі паводле абраду. Вандальская акцыя лукашыстаў пад выглядам "рэканструкцыі кальцавой дарогі сталіцы" працягваецца ўжо трэція суткі. Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ разам з іншымі абаронцамі Курапатаў супрацьпаставіліся вандалам: ратавалі крыжы, уставалі жывой сьцяной на шляху тэхнікі. Шэраг нашых сяброў былі арыштаваныя і цяжка зьбітыя прыслужнікамі рэжыму. Днямі адбудуцца суды над затрыманымі. Крывавы шабас, арганізаваны рэжымам Лукашэнкі на тэрыторыі нацыянальнай сьвятыні, сьведчыць пра канчатковае маральнае падзеньне дзяржаўнай "эліты", якая на вачах усяго сьвету абрабоўвае, зьневажае народ нашай краіны і нішчыць нацыянальныя сьвятыні. Нідзе ў Эўропе, нават у дзікай і варварскай Расеі, не падзьвяргаюцца зьнішчэньню нацыянальныя сьвятыні і сімвал Хрысьціянства – Крыж. Зьвесткі пра дзяржаўнае злачынства, якое творыць Лукашэнка і ягонае атачэньне, шакіруюць грамадзтвы цывілізаваных краінаў. Таму зразумела, што рэжым імкнецца хутчэй завяршыць зьнішчэньне Курапацкага мэмарыялу. А дзеля гэтага спрабуе ня толькі прысьпешыць разбуральную дзейнасьць, але і запалохаць беларускае грамадзтва. Менавіта гэтай подлай мэце служыць апошняя заява міністэрства ўнутранных справаў, у якой жандармы Лукашэнкі пагражаюць рэпрэсіямі абаронцам курапацкіх магілаў і крыжоў. Дарэчы, сваё злачынства яны пакрываюць "згодай навуковых спэцыялістаў і грамадзкасьці". Увесь сьвет павінен ведаць, што архэолягі, якія падпісалі дазвол на правядзеньне разбуральнай дзейнасьці ў Курапатах – гэта здраднікі народнай памяці і навукі. А што да "грамадзтва", то рэжым прыкрываецца палітычнымі банкрутамі з намэнклятурнай "аб'яднанай" псэўдаапазыцыі, якая пасьля правалу на псэўдавыбарах разсыпалася, а цяпер шукае новы спосаб палітычнага выжываньня. Банкруты арганізавалі "камітэт" пад лёзунгам выратаваньня Курапатаў. На самой справе зь першага дня існаваньня "камітэт" заяўляў пра "неабходнасьць кампрамісу з уладай", "перамоваў", "правядзеньня раскопак у Курапатах" ды іншай лухты. Ініцыятары "камітэту" некалькі разоў наведалі мэмарыял, каб імітаваць супрацў ды пазіраваць перад журналістамі і публікай. Большую частку часу яны праводзяць на прэс-канфэрэнцыях ды ў пустых разважаньнях, якімі імкнуцца заблытаць беларускую і міжнародную грамадзкасьць ды зарабіць неабгрунтаваны палітычны капітал. Менавіта на іх абапіраецца рэжым у сваёй злачыннай акцыі.

Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ будзе бараніць нацыянальную сьвятыню ў любых умовах. Мы заклікаем людзей добрай волі ў Беларусі і ва ўсім сьвеце далучацца да абароны Курапатаў.

Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ
10.11.2001 г.

## Кальцавая дарога не павінна будавацца на касьцях бязвінных ахвяраў бальшавіцкага тэрору.

Мы просім будаўнікоў не прымаць удзелу ў будаўніцтве кальцавой дарогі ва ўрочышчы Курапаты. Пры рэканструкцыі кальцавой дарогі павінна быць улічана, што ў Курапатах закапаныя сотні тысячаў ахвяраў камуністычнага тэрору, што старая дарога ляжыць на касцях бязвінна забітых людзей. Пры рэканструкцыі якраз і павінна быць выпраўлена злачынства савецкіх уладаў, новая дарога павінна быць пабудаваная ў абыход святога месца, якім зьяўляецца ўрочышча Курапаты.

Недапушчальна абгрунтоўваць мэтазгоднасць пракладкі кальцавой дарогі праз Курапаты эканамічнымі інтарэсамі, а фактычна пераступаць праз жыцці, душы і памяць людзей. Рэжым А.Лукашэнкі непараўнальна большыя сродкі траціць на сваё ўтрыманьне, прапагандысцкія шоу, ваенныя гульні ды іншыя марныя справы.

У 1987-1988 г.г. былі праведзены навуковыя даследаванні, якія ўстанавілі памеры злачынства камуністычнага рэжыму і НКВД. Усё гэта было задакументавана, дакументы захоўваюцца ў архівах. Следчымі камісіямі Генеральнай Пракуратуры двойчы было пацверджана, што ў Курапатах зарытыя ахвяры сталінскага тэрору. У 1989 г. Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў пастанову пра ўсталяваньне ў Курапатах мемарыяльнага помніка.

А.Лукашэнка зьяўляецца стаўленнікам сістэмы НКВД-КГБ (што ён сам неаднаразова пацвярджаў), таму пракладка новай кальцавой дарогі праз Курапаты пад яго непасрэдным кіраўніцтвам ёсьць працяг злачынных метадаў гэтай сістэмы.

Мы просім будаўнікоў не далучацца да злачынства, якое імкнецца здзейсніць рэжым Лукашэнкі. Магчыма верагоднасць таго, што ў Курапатах забітыя Вашыя продакі альбо продакі Вашых суседзяў і Вы насуперак сваім перакананням можаце стаць вандалам (хаця б і па загаду) адносна сваіх суродзічаў.

Людзі, якія прыходзяць у Курапаты, ставяць крыжы, уздымаюць святыя абразы, спяваюць хрысціянскія гімны – гэта беларусы – такія ж як і вы. Яны не дапусцяць апаганьвання і знішчэння нашай святыні – Курапатаў.

КХП-БНФ Сябры Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”

верасень 2001. аддрукавана 1000 экз.
і распаўсюджана

***Курапаты – нацыянальная святыня***

Паважаныя жыхары мікрараёнаў "Зялёны Луг"!

У Курапаты штодзень прыходзяць людзі і ставяць крыжы, прыносяць абразы, кладуць кветкі, моладзь наладзіла дзяжурства. Гэтая акцыя скіравана на тое, каб не адбылося новае злачынства, каб кальцавую дарогу не будавалі на касьцях бязвінных ахвяраў бальшавіцкага тэрору.

Сярод жыхароў мікрараёна распаўсюджваюць чуткі, што абаронцы Курапатаў хочуць каб кальцавая дарога ішла бліжэй да дамоў. Гэта абсалютная хлусьня кагэбоўскага лукашэнкаўскага рэжыму. Яшчэ ў 1993 г. распрацаваны праект пашырэння дарогі ў абыход Курапатаў, з выхадам на бетонку, якая праходзіць якраз за Курапатамі. Такі варыянт будзе на карысць жыхароў мікрараёну, паколькі захоўваецца зялёная зона.

Не нішчыцца пры гэтым і народны мемарыяльны помнік КУРАПАТЫ.

Пры рэканструкцыі дарогі павінна хаця б часткова выпраўлена тое злачынства, якое зрабілі савецкія ўлады ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Планавалі зруйнаваць Курапаты, схаваць злачынствы адной з самых пачварных у свеце тэрарыстычных арганізацый – НКВД-КГБ. Таму праз Курапаты, па касьцях ахвяраў, прама па месцах растрэлаў і пахаванняў, была пабудавана кальцавая дарога і пракладзена траса газапровада, які не працуе.

А.Лукашэнка зьяўляецца стаўленнікам сістэмы НКВД-КГБ (што ён сам неаднаразова пацвярджаў), таму пракладка новай кальцавой дарогі праз Курапаты пад яго непасрэдным кіраўніцтвам ёсьць працяг злачынных метадаў гэтай сістэмы, працяг тэрору супраць беларусаў.

У 1987-1988 г.г. былі праведзены навуковыя даследаванні (кіраўнік Зянон Пазьняк), якія ўстанавілі памеры злачынства камуністычнага рэжыму і НКВД. У Курапатах зарыта больш за 200 тысяч ахвяраў. Усё гэта было задакументавана, дакументы захоўваюцца ў архівах. Следчымі камісіямі Генеральнай Пракуратуры двойчы было пацверджана, што ў Курапатах зарытыя ахвяры сталінскага тэрору. У 1989 г. Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў пастанову пра ўсталяваньне ў Курапатах мемарыяльнага помніка.

Паважаныя жыхары мікрараёнаў Зялёны Луг, падтрымайце абаронцаў Курапатаў, далучайцеся да іх. Разам мы абаронім наша права на ўшанаванне нашых продкаў, бязвінна забітых тэрарыстамі. Мы, грамадзяне Беларусі, зьяўляемся гаспадарамі нашай зямлі і нам вырашаць, як лепш ёю распарадзіцца.

*Сябры Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".*

КХПБНФ, кастрычнік 2001 г.

## *Улётка на Дзяды 2001*

***ДЗЯДЫ – шэсьце ў Курапаты***

***28 кастрычніка 2001 г. а 11.30***

ад гадзіньнікавага заводу (мэтро "Парк Чалюскінцаў), ёсьць дазвол.

***Мітынг у Курапатах а 15.00***

**ДЗЯДЫ** – гэта наша нацыянальная памяць пра ўсе папярэднія пакаленьні памерлых, палеглых у войнах, закатаваных антыбеларускімі акупацыйнымі рэжымамі.

**ДЗЯДЫ** – крыжовы шлях на **КУРАПАТЫ** да магілаў ахвяраў расейска-камуністычнага тэрору ў Беларусі.

**ДЗЯДЫ** – гэта наша грамадзкае рушэньне як супраціў расейска-імпэрскаму генацыду беларускага народу.

*Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"*

### *Курапаты клічуць да абароны!*

Лукашэнка падрыхтаваў армаду дарожнай тэхнікі, каб у бліжэйшыя дні з двух бакоў абрынуцца на сьвятое месца – урочышча Курапаты.

У 1946 г. першы раз энкавэдзісты салдацкімі рукамі спрабавалі перахаваць у іншыя месцы целы забітых імі ў Курапатах бязвінных людзей. Пасьля вайны НКВД баяўся зьмены ўлады і адказнасьці за свае зьверскія злачынствы.

У 60-я гады мінулага стагоддзя савецкія ўлады другі раз правялі злачынныя, зьнішчальныя работы ў Курапатах. Адмыслова, непасрэдна па людзкіх касьцях, праз пахавальныя ямы, ў якіх энкавэдзісты забівалі і закопвалі людзей з усёй Беларусі, былі пабудаваныя кальцавая дарога і газаправод.

Праўда пра масавыя забойствы ў 1937-1941 г.г. бязвінных людзей у Курапатах была адкрытая шырока беларускай і міжнароднай грамадзкасьці групай археолягаў пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка.

Гэтая праўда не дае спакою нашчадкам злачыннай арганізацыі, хто зараз захапіў уладу ў Беларусі і Расеі. Яны хочуць схаваць сваю "родословную", імкнуцца каб беларусы забыліся, хто тварыў тэрор у расейска-камуністычннай імпэрыі. Для гэтага ім трэба зьнішчыць урочышча Курапаты. Таму пашырэньне кальцавой дарогі вядуць зноў па магілах ахвяраў, а не па абхадным варыянце. Ім патрэбны прэцыдэнт перазахаваньня парэшткаў ахвяраў, каб абаперціся на гэты прэцыдэнт і "перазахаваць" усе Курапаты. Яны плянуюць чалавечыя косткі закапаць дзе-небудзь ў чыстым полі, а сьвятую зямлю Курапатаў, палітую крывёю сотняў тысячаў забітых людзей, -- зрыць, зруйнаваць і забудаваць.

Беларусы ня маюць права гэтага дапусьціць. Мы абавязаны абараніць сьвятое ўрочышча Курапаты, захаваць сьвятую памяць для будучых пакаленьняў, для будучыні беларускай нацыі.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне"

КХП-БНФ
зрабіла 120 тыс.
і распаўсюдзіла

**Паважаныя жыхары мікраараёнаў Зялёны Луг!**

На адваротнай старонцы прыведзена частка гарадцкой карты Менску, якая ўтрымлівае мікраараён Зялёны Луг – 6, урочышча Курапаты і кальцавую дарогу ад Лагойскай шашы да вёскі Цна. Відавочна, што невялікія выдаткі патрэбна будзе дадаць ( адносна ўсёй кальцавой дарогі вакол Менску), калі дарога пройдзе ў абход Курапатаў – ад лагойскай развязкі праз поле да "бетонкі" і па бетонцы да вёскі Цна. Пры такім варыянце застаецца ахоўная зялёная зона мікраараёну і не будзе працягнута злачынства 60-х гадоў мінулага стагоддзя, калі на касцях бязвінна забітых у Курапатах была была пабудавана дарога.

Будаўніцтва аўтастрады праз Курапаты стане прыступкай для далейшай непавагі і магчымасцяў для знішчэння рэшты магілаў у перспектыве. Аўтастрада іх зняважыць, прынізіць значэнне гэтага трагічнага і святога месца, бо такія адносіны да яго – хамскія, паказваюць на тое, што ў людзей, якія б зрабілі такую дарогу, няма прыярытэту духа, памяці, пашаны перад пакутніцкай смерцю часткі нацыі; сведчаць пра дробязнасць інтарэсаў дробных людзей, што не берагуць спакой мёртвых. Брыдка пляваць у мінулае, але недапушчальна і дзіка пляваць у будучыню.

Не павінна такога быць, каб па краю пакутных магілаў, з шумам і грукатам, імчалася рака машын! Аўтастрада мусіць ісці ў абход, далей ад Курапатаў і ад жылых дамоў. (Трэба шанаваць і жывых і мёртвых!) Гэта было б правільна, разумна і па-людзку.

Але Лукашэнка вырашыў знішчыць нацыянальную святыню беларусаў – Курапаты, месца пакутніцкай смерці ад рук камуна-расейскіх катаў тысячаў бязвінных беларусаў. Дыктатар паслаў на Курапаты бульдозары і трактары, інжынераў і рабочых, каб па людзкіх касцях "пашырыць кальцавую дарогу". Так, маўляў, таньней і лепш. Работы вядуцца па жывому, без праекту, не звяртаючы на тое, што Курапатам ў адпаведнасці з Законам "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", як месцу згубы ахвяр палітычных рэпрэсій, нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі.

Прыходзце ў Курапаты. Абараняючы Курапаты мы разам абаронім і экалогію прылягаючага жыльлёвага масіву.

За даведкамі звяртайцеся па тэл. 8-029 602-16-18 ад 10 да 20 гадзін.

Сябры Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

*кастрычнік 2001 г. КХП-БНФ*

*1000 экз.*



*25-Д. Курапаты – 2001. Лінія фронту.*

# ФАТАГРАФІІ

*На вокладцы фатаграфія Андрэя Кузьнечыка. Народны Мэмарыял Курапаты. Нахілены крыж.*

**1.** Шмуцтытул (фота №1). Абаронцы Курапатаў – сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ устанаўліваюць чарговы крыж. 2001 год. Зьлева направа: Валеры Буйвал, Алесь Чахольскі, Мікалай Крыварот, Сяргей Папкоў. *(Фота Яўгена Шатохіна).*

**2.** Зянон Пазьняк. 1995 г.

**3.** Дзяды ў Курапатах.

**4.** Народны Мэмарыял Курапаты. „Дарога на Галгофу” (да месца расстрэлу людзей). *(Фота Алеся Чахольскага).*

**5.** Дзяды 29 кастрычніка 1989 г. Шэсьце ў Курапаты. Нясеньне Крыжа (кінакадр).

**6.** Зянон Пазьняк 29 кастрычніка 1989 г. Рэквіем у Курапатах.

**6а.** Народны Мэмарыял Курапаты. *(Фота К. Шастоўскага).*

**7.** Францішак Аляхновіч.

**8.** Курапаты. Парэшткі расстралянага чалавека.

**9.** Парэшткі расстраляных у Курапатах. *(Фота З. Пазьняка).*

**10.** Зянон Пазьняк у час археалагічных раскопак магіл расстраляных у Курапатах. 1988 г. (Кінакадр).

**11.** Зянон Пазьняк у час мітынгу-рэквіему 29 кастрычніка 1989 г. у Курапатах. Справа ля мікрафона Вольга Бароўская, жыхарка Цны, навочны сьведка расстрэлаў людзей у Курапатах. *(Фота А. Кляшчука).*

**12.** 30 кастрычніка 1988 г. Дзяды. На фота фрагмэнт мітынгу ў полі, акружанага міліцыяй. У пэрспэктыве відаць, як у атаку на мірных людзей бягуць салдаты ўнутраных войскаў.

**13.** Мітынг у полі на Дзяды 30 кастрычніка 1988 г. У далечыні відаць выступовец.

**14.** Фрагмэнт мітынгу ў полі.

**15.** Студзень 1994 г. Візыт прэзыдэнта ЗША Уільяма Клінтана ў Курапаты. Зьлева У. Клінтан, справа З. Пазьняк.

**16.** 2009 год. „Рэжымны люмпен” на магілах у Курапатах смажыць мяса на вогнішчы. Характэрныя тыпажы.

**17.** Валеры Буйвал фатаграфуе суб’екта ля вогнішча ў Курапатах, які засланяецца ад аб’ектыва бутэлькай піва.

**18.** 19-га чэрвеня 1988 года. Масаве шэсьце на першы мітынг у Курапаты, арганізаваны „Талакой”. *(Фота з калекцыі Сяргея Абламейкі).*

**19.** Курапацкі крыж.

**20.** Дзяды 1991 г. Мэмарыяльная дошка, усталяваная Народным Фронтам на мурах будынку КГБ у Менску ў час мітынгу БНФ перад пачаткам шэсьця ў Курапаты. Шыльда вісела некалькі дзён, і людзі ўвесь час сьцераглі яе. *(Фота Ул. Кармілкіна)*

**21.** Верасень-кастрычнік 2001 года. Бульдозерны наступ на Курапаты.

**22.** Панарама змаганьня за Мэмарыял.

**23, 24.** Стыль рэжымнага наступу ў Курапатах: наперадзе „амон”, за „амонам” – бульдозеры.

**25.** Уладзімера Юхо з крыжам прывезьлі ў „хапуне” і вядуць у рэжымны суд. *(Фота Юры Беленькага).*

**26.** Сяргей Папкоў у Курапатах. Робіцца чарговы крыж. Кастрычнік 2001 г.

**27.** Тацьцяна Цяцёркіна зьбірае сродкі на курапацкія крыжы.

**28.** Карціна пасьля чарговага нашэсьця вандалаў.

**29.** Фронтаўцы КХП-БНФ аднаўляюць паламаныя крыжы ў Курапатах.

**30.** Аднаўленьне крыжоў у Курапатах. Зьлева направа: В. Буйвал, Ул. Юхо, А. Чахольскі.

**31.** Фронтаўцы на будаўніцтве Мэмарыялу Курапаты (на пярэднім пляне Георгі Туміловіч).

**32.** Кастрычнік 2001 г. у Курапатах. Пасьля працы. Зьлева направа: Уладзімер Юхо, Алесь Чахольскі, Сяргей Папкоў. *(Фота Яўгена Шатохіна).*

**33, 34.** Талакоўцы Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ пасьля працы ў Курапатах. 2004 і 2005 гг. *(Фота Алеся Чахольскага).*

**35.** Рыгор Кійка

**36.** Уладзімер Плотнікаў

**37.** Лёзунг абаронцаў

**38.** Зімой у Курапатах

**39.** Пад Крыжам
**40.** Зграя „амонаў" бяжыць біць людзей.
**41.** Валеры Буйвал прамаўляе каля Лошыцкага крыжа.
**42.** Алена Буйвал і Дзіяна Семяніхіна. Іхныя сем'і выратаваліся ад Галадамору на Ўкраіне, прарваўшыся праз кардоны ў Беларусь. Фота 1948 г. Гомель.
**43.** Яўген Буйвал з сынам. 1957 г. Гомель. У 1956 г. тысячы беларусаў вярталіся з расейскай ссылкі і расейскіх турмаў. Першым чынам адбудоўвалі дамы. Было бясконцае шчасьце вяртаньня на Радзіму.
**44.** „Зэкі" ў савецкім турэмным лягеры ў Расеі.
**45.** Мёртвыя дзеці – ахвяры савецкага Галадамору
**46.** Характэрны тыпаж расейскага забойцы-энкавэдзіста
**47.** Энкавэдзісцкі нелюдзь цэліцца з нагана. *(Фота: Музэй КГБ у Празе).*
**48.** Сьледчы НКВД вядзе допыт. *(Муляж. Музэй Карлага).*
**49.** Помнік рэпрэсаваным беларусам. *(Музэй Карлага)*
**50.** Курапаты. *(Фота Зьміцера Крываноса)*
**51.** Крыжовае шэсьце ў Курапаты. У цэнтры: Юры Беленькі, Пётра Шашкель, Майя Кляшторная.
**52**. Алесь Чахольскі
**53.** Уладзімер Юхо
**54.** Абарона Курапатаў. Зона недатыканьня.
**55.** Сяргей Папкоў
**56.** Мэмарыял Курапаты зімой. *(Фота Максіма Каплана).*
**57.** Валеры Буйвал
**58.** 3-га чэрвеня 2008 года – дваццацігоддзе адкрыцьця Курапатаў. Фронтаўцы КХП-БНФ акружылі лідэра партыі Ю. Беленькага (выконваючага абавязкі Старшыні БНФ) і не даюць міліцыі яго схапіць.
**59.** Фронтаўцы КХП-БНФ талакой выводзяць Юры Беленькага з Курапатаў і не даюць яго арыштаваць.
**60.** Курапацкія крыжы
**61.** „Магутны Божа" ў Курапатах. Сьпяваюць фронтаўцы КХП-БНФ у 20-годдзе адкрыцьця Курапатаў.
**62.** Шыльда пад Курапацкім Крыжом

# ДАДАТАК

**63.** **(2-Д).** Раскоп (пахаваньне) №8. Выяўленыя сьцегневыя косьці ад 52 чалавечых асобін і 50 чарапоў.
**64.** **(4-Д).** Найбольш ацалелыя чарапы (жаночыя) з пахаваньня (раскопу) №8
**65.** **(6-Д).** Крыжовае шэсьце ў Курапаты
**66.** **(7-Д).** Крыжовае шэсьце дасягнула Курапатаў. Мітынг перад усталяваньнем крыжоў. 2000 год.
**67.** **(8-Д).** Крыжовая алея зімой. *(Фота Ю. Беленькага).*
**68.** **(9-Д).** Усталяваньне вялікага памятнага крыжа ў Курапатах 29 кастрычніка 1989 г.
**69.** **(10-Д).** Крыжовае шэсьце на Дзяды ўступае ў Курапаты.
**70.** **(12-Д).** Курапацкія крыжы, асьветленыя ўспышкай.
**71.** **(15-Д).** Мітынг-рэквіем у Курапатах 29 кастрычніка 1988 года.
**72.** **(16-Д).** Дзяды ў Курапатах. 1993 год. Выступае Зянон Пазьняк.
**73.** **(17-Д).** Дзяды ў Курапатах. 2006 год. *(Фота Андрэя Аляхновіча).*
**74.** **(18-Д).** Дзяды ў Курапатах. 2003 год. Выступае Сяргей Папкоў.
**75.** **(19-Д).** Дзяды ў Лошыцы. 2010 год.
**76.** **(20-Д).** Юры Беленькі прамаўляе на мітынгу ў Курапатах.
**77.** **(21-Д).** Дзяды ў Курапатах. 2004 год. Прамаўляе Валеры Буйвал.
**78.** **(22-Д).** Восеньскія Дзяды ў Курапатах.
**79.** **(23-Д).** Талака КХП – БНФ ў Курапатах (ачыстка ад хмызьняку).
**80.** **(24-Д).** Ускраіна Курапатаў. *(Фота Андрэя Аляхновіча).*
**81.** **(25-Д).** *Курапаты – 2001. Лінія фронту.*
**82.** **(26-Д).** Ствараецца Мэмарыял Курапаты.

# ПАКАЗЬНІК ПРОЗЬВІШЧАЎ


**А**

Абламейка Сяргей 37
Адамовіч Алесь 18
Аляхновіч Андрэй 186, 190
Аляхновіч Францішак 13, 15
Арлоў Уладзімер 200
Арэшка В. 77, 78, 88
Аўдзеенка Кацярына Іванаўна 118
Афнагель Я. 89

**Б**

Бага Ігар 109
Багайчук Кацярына 98, 99, 102
Байкова 95, 96
Бандарэнка 79
Бандарэнка З. 86
Барадулін Рыгор 181, 200
Бароўская Вольга Цімафееўна 27, 120, 121
Басін Я. 88
Бацян Грышка 19, 20, 21
Бацян Раман 99, 100
Бацян Цімафей (Цімох) Васільевіч 105, 125
Бачкоў 22, 23
Белавусаў Алег 25
Беленькі Юры 45, 51, 77, 84, 85, 162, 188, 192, 193
Берыя Лаўрэнці 18, 23, 70, 108
Босх Геранім 72
Бролішс Язэп 24, 129
Брыль Янка 12, 31, 77
Бубноўскі Д. С. 195
Бузук 26, 27
Буйвал Алена 67
Буйвал Валеры 2, 4, 35, 47, 48, 65, 83, 188, 201
Буйвал Яўген 67, 68
Булак-Балаховіч Станіслаў 67
Булахаў Д. 32
Бухарын 180
Быкаў Васіль Уладзімеравіч 17, 18, 27, 93, 181, 183, 184, 185, 200

**В**

Ванькевіч Мар’ян 58
Вік Ганс 44, 197, 200
Владимиров Ю.И. 55
Вольскі Артур 200
Высоцкі С. 88, 89
Вярцінскі Анатоль 17, 180, 183
Вячорка Вінцук 77, 87, 89, 199

**Г**

Гаек 28
Ганчар В. 40
Гарбачоў 16
Гарэцкі Радзім 200
Геніюш Ларыса 15
Гетман Алесь 85, 88
Гілевіч Ніл 200
Гіль Мікола 17, 183
Гімлер 181
Гінэс 40
Гітлер 70, 181
Грамыка Сашык 66
Грахоўскі Сяргей 181, 200
Гронская 194
Груша Арсень 105, 125
Гуляка Л. П. 195
Гэмбіцкі Ібрагім 70

**Д**

Джугашвілі (Сталін) 18
Друзь 23
Дубавец С. 83
Дуброўская Аліна 48, 76
Дубянецкі Міхась 25, 27, 37
Дубянецкі Хведар 37

Дэголь Шарль 75

**Ж**

Ждяноўскі Міхаіл 12, 20, 21
Жукоўская (Сідзякіна) Галіна Сьцяпанаўна 19, 123
Жыхар Ірына 77, 78, 85, 86, 88

**З**

Завальнюк Уладзіслаў 12
Зубатаў 26

**І**

Ігнашоў Мікалай 105
Іоу Алег Вільгельмавіч 110, 126, 128, 130, 137, 139, 154, 161, 178

**К**

Кавешнікаў Віктар 201
Калантай А. 87
Кальцоў 15, 16
Калякін С. І. 55
Каменеў 180
Кананові Кароль 118
Каплан Максім 82
Карманаў 40
Кармілкін Ул. 39,60
Карповіч Мікалай 99, 100, 101, 158, 159
Касьпяровіч З. 89
Касьцюк М. П. 129
Кебіч 21, 32, 52
Кійко Рыгор 48, 51, 59, 76, 78, 201
Кішкурна Ул. 86, 87
Козловский С. А. 55
Клінтан Уільям 33, 53, 182, 198
Кляшторная Мая 43, 76, 77
Кляшторны Тодар 76
Кляшчук Сяргей 11
Кляшчук Анатоль 27
Козіч Соня 103
Колас Уладзімер 34
Краўчанка Пётр 26
Крывальцэвіч Мікалай Мікалаевіч 110, 126, 128, 130, 137, 139, 150, 161, 178
Крыванос Зьміцер 75
Крыварот Мікалай 2, 4
Крывіцкі Леў 28
Кузьнечык Андрэй 4
Кузьняцоў Ігар 80, 85, 88
Кулік Яўген 11
Купава Мікола 11, 25

**Л**

Ладуцька Сяргей 96
Ладуцька Хведар 11
Ласкателев Б. Е. 55
Ленін 7, 16, 180
Ліцын А. 84
Ліцьвін 36
Ліцьвіна Жанна 200
Лукашук Аляксандар 5, 25, 183, 184, 185
Лукашэнка 15, 41, 42, 52, 61, 76, 77, 78, 180, 181, 182, 197, 198, 199, 202, 203, 204, 206
Лыч Леанід 200
Лябедзька 79, 199
Ляўковіч А. 89

**М**

Мазай Ніна Мікалаеўна 183 (названа – Мазанік)
Мазанік 183 (маецца на ўвазе – Мазай)
Макрушын Аляксандар 109
Маленкоў 108
Мантасава Матруна 104
Марачкін Аляксей 11, 31, 200
Маркавец Віктар 11
Масюта Ангеліна 48, 76
Матусевіч Тацьцяна Вікенцьеўна 104, 118
Матусевіч Ян 12
Мацуура Коіціра 42
Машэраў 15, 19
Мікуліч Надзея Апанасаўна 125
Міхноў С. 86, 87
Молатаў 106
Мэйлер Норман 32

Мусаліні 72

Н
Навумчык Сяргей 5, 12, 182
Надзь Імрэ 74
Невяроўскі А. 63
Нікіфараў Вячаслаў 27
Няхайчык Мікалай 99

О
Освальд Лі Харві 32
Осіпава 184

П
Пазьняк Зянон 5, 6, 10, 18, 21, 22, 26, 27, 33, 34, 56, 58, 73, 76, 79, 81, 83, 88, 110, 126, 128, 129, 130, 144, 150, 154, 158, 161, 178, 180, 181, 182, 183, 184, 186, 197, 199, 205
Палах Ян 75
Папа Рымскі Ян-Павел II 79
Папкоў Сяргей 2, 4, 45, 48, 49, 78, 79, 81, 83, 84, 88, 187, 193, 201
Пацяршук Марыя Іванаўна 103, 105, 115
Пацяршук Марыя Рыгораўна 101, 105
Плотнікаў Уладзімер 48, 51, 201
Пурецкий Ю. П. 55
Пэн Лі 23
Пятлюра Сэмэн 67
Пятровіч Віктар 109
Пячэньнікаў Валеры 29

Р
Раеўскі Валеры 31
Раманцоў Уладзімер 48, 79, 201
Рыкаў 180
Рэйтан Т. 56

С
Сабіла Эрнэст 12
Сакалоў Яфрэм 26, 29
Саковіч Соф’я Адамаўна 123
Саньнікаў 199
Сасім М. 89
Севярынец Павел 79, 84, 86
Семяніхіна Дзіяна 67
Сіўчык В. 80, 86, 89
Скварчэўскі Васіль 101, 105
Смаль Іван 95, 96
Соусь Ганна 85
Сталін 7, 68, 106, 180, 181, 182, 197
Станкевіч Адам 15
Стукач Уладзімер 63

Т
Тарала Алесь 63
Тарнаўскі 183, 184
Тачкар А. 201
Тоўсьцік Вера 103, 104
Тоўсьцік Дар’я 99, 105
Трусаў Алег 200
Трыгубовіч В. 88
Туміловіч Георгі 47

У
Увараў Пётр 96

Ф
Філіповіч Андрэй 105
Філіповіч Міхаіл 70
Фрыдман 28

Х
Хадыка Ю. 88
Хоміч Надзея 102
Хрушчоў 73
Хрыстос 72

Ц
Цанава 18
Цярлюк Сьцяпан 105
Цяцёркіна Тацьцяна 45, 48, 76

Ч
Чапцоў Г. В. 194

